# ЗА МОРАМ ХВАЛЫНСКІМ

Аповесць

Каваль Таміла перастаў спаць па начах. Не дзіва — працаваў дзень за днём: атраду Брачыслава і яго воям патрэбна было новае ўзбраенне. Да домніц — Таміла паставіў яшчэ дзве непадалёку ад кузні — бесперапынна падвозілі руду цёмна-чырвонага ці бурага колеру, што капалі на Чортавым балоце і на задзвінскім лузе.

Гліняныя домніцы, яшчэ цёплыя пасля плаўкі, таропка загружаліся — драўляны вугаль уперамешку з кавалкамі руды. Перапэцканыя вугалем хлопцы скуранымі мяхамі ўдзьмувалі ў гліняныя соплы — трубкі ў нізе печы — сырое паветра. Гарэў вугаль, плавілася руда. Пасля памагатыя ламалі печ, грузілі на жалезныя лісты з драўлянымі ручкамі кавалкі крыцы і цягнулі іх у кузню. Там Таміла з памочнікамі награвалі крыцу ў горне і да знямогі білі яе цяжкімі молатамі — выціскалі жалеза.

Жалеза! Рудая, мяккая зямля набывала новую якасць. Яна рабілася калючай дзідай, што ўп'ецца ў варожае цела, бліскучай сякерай, што калісьці стане чырвонай ад крыві, кальчугай, што зберажэ магутнае цела воіна, і Таміла, помнячы гэта, ніколі не браўся за работу, не памаліўшыся задымлёнаму Перуну, што нерухомымі, шырока расстаўленымі вачыма сачыў з кута за кожным ягоным рухам. Таміла не крычаў на памочнікаў, якія не маглі так доўга, як ён, плюшчыць гарачую порыстую крыцу. Калі яны браліся адпачываць, адпачываў і ён, маўкліва гледзячы навокал. Чорны, з маршчынамі, як бы выведзенымі сажай, твар яго быў пахмурны: з атрадам ішоў ягоны старэйшы сын. Думалася яму раней — ладны каваль выйдзе з Пуцяты, з дзяцінства любіў той круціцца ў кузні, спрабуючы

слабымі яшчэ, дзіцячымі рукамі паднімаць над гарачаю крыцаю молат. Ажно цяпер малайца да горна абцугамі не падцягнуць. На што ўжо меч – ды і той рабіў бацька. Зрабіў, праўда, на славу — з двух бакоў завостранае лязо — сячы з якой хочаш рукі! А ножны было пачала рабіць маці, ды так і не закончыла — прынесла ўпотай дачка суседа-гарбяра, Любава — і калі толькі меч вымерыла? — і вохнулі яны з жонкай, дзівуючыся: такія былі логны, што толькі князю ўпору: па скуры чырвонымі ваўнянымі нітамі арол вышываны, па баках кветкі сінія і жоўтыя, зялёнае цяўе. Не вытрымала гарачае сэрца дзявочае — упала Любава ў ногі жонцы каваля, плакала: ідзе ў далёкі шлях Пуцята, забыўся на яе і на свае шчадротлівыя абяцанні, пакідае без слоўца ласкавага! А дзе ўломіш бутрыма гэткага: логвы ўзяў, усміхнуўся задаволена — і прэч з хаты, зноў да войска свайго!

Сціскаецца нешта ў грудзях старога каваля: а што, калі?.. Годная дзеўка Любава, здаровых унукаў дала б ім з жонкаю — усё ўцеха! Бірулькі рабіў бы для іх з ліпы, канькі пасля выкаваў бы... Вось і малодшы, Алекса, прыстае: зрабі канькі, тата!

Схамянуўшыся, ён загукаў памочнікаў: не зробяць у час, адна гаворка ў князя — порты сцягнуць маладыя нахабныя грыдні, і... Свяці старымі касцямі, сраміся перад усім светам, а пасля колькі дзён вохкай і прыкладвай да пісягоў распараныя зёлкі!

Грукаюць адзін за адным молаты: гах-гах-гах! — а перад вачыма Тамілы ўсё стаяць невядомыя сцежкі, па якіх пойдзе ягоны сын, і не-не ды перапаліцца пад молатам гатовая ўжо жалезіна, а памочнікі моўчкі выкінуць яе з кузні, і ні гу-гу: мабыць, чуюць, што робіцца ў душы паважанага ўсімі майстра...

Дзесяцкі Ірвідуб жаніў малодшага сына, васемнаццацігадовага Рэдзьку. У прасторным драўляным доме Ірвідуба ўсё было гатова для вяселля. На дубовых сталах дыміліся агромністыя, спецыяльнага заказу, гліняныя місы з вялікімі кавалкамі мядзведжыны і зубрыны, безліч дробнай смажаніны — зайцоў, гусей і качак у латушках — тулілася паміж жбанамі з талакном, глякамі з ліпецам і сытою. Ліпец быў звараны яшчэ ўлетку, настаяўся, і ад яго ў святліцы пахла квеценню, хаця за вокнамі стаяла марозная, з шэранню на дрэвах раніца. У сенніцы жрэц, прывезены

са старажытнага капішча пад сяльцом, надзяваў барвовы, упрыгожаны сінімі шаўковымі шнурамі, плашч, які толькі што падарыў яму Ірвідуб. Жрэц, доўгі, маўклівы мужчына, апрануты ў чыстую палатняную кашулю і зрэбныя порткі, рухаўся лёгка і нячутна, чорныя валасы яго, раздзеленыя пасярэдзіне і прыхопленыя чырвонай стужкай, былі намазаныя алеем, ногі напачатку былі ў скураных пастолах, лёгкіх і зручных пры хадзе. Але Ірвідуб настояў, каб госць абуў чырвоныя саф'янавыя боты, і жрэц грэбліва глядзеў на дарагія падарункі, думаючы, што ні дзед, ні бацька ніколі б не пайшлі на тое, каб змяніць сваё звычайнае ўбранне. Ды даводзілася лічыцца з абставінамі: жрэц ведаў, якую душэўную барацьбу вытрымаў Ірвідуб, каб дагадзіць і Брачыславу, што ахрысціў сына, і захаваць звычай продкаў, якія жанілі сваіх дзяцей, не ведаючы ні пра якую царкву. Таму гаспадары чакалі Брачыслава трапятліва — што-та скажа князь?

— Едзе, едзе! — раздаліся тым часам крыкі з высокай святліцы, дзе сядзеў дазорны, і ўсе — дворныя, чэлядзь — замітусіліся, рассцілаючы ад ганка па снезе сувой пафарбаванага ў чырвань палатна, і гаспадар, спатнелы, пабег насустрач князю, абмінаючы вытаптаную сцяжынку з пасцеленым сувоем і правальваючыся ў снезе.

Брачыслаў увайшоў у святліцу павольна, з цяжкасцю перастаўляючы распухлыя ногі, і, сапучы, доўга ўсаджваўся на покуці. Магутная, апошнім часам моцна атлусцелая ад невядомай хваробы постаць яго навісла над сталом. Галавою ён ледзь не даставаў да бажніцы, дзе побач з каменнаю паставай Іллі-Угодніка мірна суседнічала постаць Дажбога. Поруч з князем сеў хлопчык — даўгалыгі отрак з цёмнымі жвавымі вачыма на хударлявым твары. Высокі, крыху пукаты лоб, досыць вялікі, але прыгожа выразаны нос, тонкія вусны, уладны, смелы позірк рабілі яго падобным на арляня, якое яшчэ не аперылася, але гатова ўдзяўбсці кожнага, хто працягне па яго руку. Галава ў хлопчыка была перавязана залатой шырокаю стужкай. Гэта быў княжыч Усяслаў. Отрак запытальна глянуў на бацьку, і, злавіўшы гэты позірк, Ірвідуб узмахнуў рукою.

Пасярэдзіне пакоя, унутры сталоў, размешчаных ля сцен у выглядзе прамавугольніка, халопы паставілі разьбяны стол, накрылі яго белым настольнікам, сатканым рукамі нявесты. Жрэц, апрануты ў плашч, падышоў да стала і паставіў на яго драўляную фігуру Воласа. Чалядніца падала яму вялікую свечку жоўтага воску, у той час

як другая клала на стол круглы бохан белага хлеба і берасцяную саланіцу, напоўненую соллю. Запаліўшы свечку, жрэц прымацаваў яе да бохана.

Падвялі да стала маладых. Жрэц, паморшчыўшыся (яго ўкалола булаўка-фібула, якою быў зашпілены на плячы плашч), звярнуўся да маладога:

— Ці жадаеш ты ўзяць у жоны дзяўчыну Маліну, што стаіць перад табою?

Рэдзька, каржакаваты, светлавалосы, збянтэжаны агульнай увагай, хацеў пакруціць вуха, як заўжды, калі разважаў, але, спахапіўшыся, апусціў руку і прабасіў:

— Жадаю.

Нявеста, кругленькая, зграбная, на пытанне жраца ўспыхнула макавым цветам і адказала ледзь чутна:

— Жадаю.

Пасля рытуальнай клятвы ў вернасці адно аднаму жрэц перавязаў рукі маладых чырвонай хусцінкай і павёў іх, узяўшыся за хусцінку, вакол стала. Тры разы абышлі маладыя вакол Воласа, і кожны раз кланяліся яму і цалавалі хлеб і соль, а пасля нізка, да зямлі, пакланіліся жрацу і ўсім прысутным.

Высокім, крыху хрыплым голасам жрэц абвясціў:

— Я, служка магутнага Перуна, слаўнага Воласа і яснага Купалы, аддаю дзяўчыну Маліну ў жонкі маладзёну Рэдзьку. Ад гэтага часу і ў векі вякоў хай будуць яны мужам і жонкай!

Расчырванелы служка Перуна адышоўся ад маладых, і ледзь толькі выйшаў за дзверы, вытрымка пакінула яго. Ён са злосцю вылаяўся і, адшпіліўшы праклятую булаўку, што скрывавіла яму ўсё плячо, шпурнуў яе ў кут і накіраваўся ў сенніцу, дзе яму быў прыгатаваны асобны стол.

Маладыя ж стаялі, чакаючы другой часткі абраду. Ірвідуб, з палёгкай уздыхнуўшы (на князевым твары не было гневу), узяў пададзеную яму ікону святога Міколы-Угодніка і блаславіў ёю сына і нявесту, а пасля павёў іх, пасадзіў на покуці побач з Брачыславам і яго сынам, і першы падняў гліняную, з зялёным полівам, кварту з духмянай моцнай сытою.

Вяселле патроху набірала сілу. Брачыслаў расшпіліў каптан, твар яго пачырванеў, заільсніўся. Міса перад ім напоўнілася касцямі, чаляднiца змяла іх у андарак. Усяслаў ляніва тыцкаў драўлянаю спіцай у цвёрды гарохавы кісель, пададзены на заедкі. Прыжмурыўшы вока, ён паглядзеў на Рэдзьку. Той неахвотна піў квас і касавурыўся

на гляк з ліпецам, сінія вочы яго памутнелі ад сытасці. Сват, мітуслівы дружыннік Заранка, пільнаваў маладога, каб той не піў моцнага, і хаця браў кварту за квартай, не п'янеў.

Дзень хіліўся на вечар, Усяслаў думаў аб тым, што хлапечая ватага даўно чакае яго на Палаце, на звонкім лёдзе якой так добра зараз гойсаць на каньках. Канькі былі амаль ва ўсіх хлапцоў, але ягоныя выклікалі агульную зайздрасць: яны былі зроблены з жалеза, а не з дрэва, як астатнія, і, навостраныя на тачыле, неслі так хутка, што нікому не ўдавалася апярэдзіць Усяслава.

Хлопцу нарэшце ўдалося выйсці з-за стала, і ён, размінаючыся, выскачыў на ганак і амаль подбегам накіраваўся да Палаты. Двое маладых грыдняў, узятых з сямей вятшых людзей Полацака, якіх прыставілі ахоўваць княжыча, пашыбавалі за ім.

Падлеткі сустрэлі іх радаснымі крыкамі. Яны дабудоўвалі снежную крэпасць, але рабілі гэта без асаблівага натхнення — не было Усяслава, а значыць, няма ваяводы для той раці, якая будзе абараняць крэпасць. Нападаючыя ўжо абралі ў ваяводы Алексу, малодшага сына каваля, які адзіны мог супернічаць з княжычам. Не раз, счапіўшыся, качаліся яны па зямлі, спрабуючы кожны сцвердзіць перавагу над супернікам, але перамога выпадала то аднаму, то другому. Высокі для сваіх дзесяці гадоў, сын каваля быў шырэйшы ў плячах, але княжыч быў больш вёрткі. Не раз сёк стары каваль дзягай сына, які непачціва лупіў княжага сына, не раз плакала маці над разбітым у кроў Алексам. Дапытвалася ў чада і Усяславава маці, хто размаляваў яго пісягамі, але княжыч вырываўся з яе рук і моўчкі прыкладваў да твару мокрыя ручнікі. Брачыслаў жа толькі пасміхаўся: «Хай, хай расце воін!»

Усяслаў і цяпер не падышоў да суперніка, але сам азваўся да яго:

— То што, пакатаемся?

— Пашто? — зняважліва адмовіўся Алекса.

— Усё роўна табе не дагнаці. Нос разаб'еш.

— Мне сваю галаву блюсці, а не табе,— усміхнуўся Алекса і дастаў з-пад залатанай сярмягі пару новенькіх канькоў, якія выбліснулі жалезнымі бакамі.

Усе дружна войкнулі. Вядома было, што княжычу прывезлі канькі з далёкай паўночнай краіны, тавар гэты,

нябачаны ў Полаччыне, спачатку выклікаў у горадзе здзіўленне, але, убачыўшы, як спрытна коўзаецца па лёдзе княжы сын, шмат хто з вятшых, ды і са старай чадзі, заказаў сваім дзецям такія ж, але зрабіць іх браліся толькі з драўніны. Адкуль жа ўзяліся жалезныя канькі ў Алексы?

— Я сам зрабіў,— горда заявіў Алекса.— Сам прыдумаў адліўку, крыцу выбіраў. А бацька дапамагаў кляпаць.

Хлопцы абступілі яго, дзіваваліся. Усяслаў адчуў сябе пакрыўджаным.

— Ну, пачнём?

Ён дастаў з кішэняў кажушка, аблямаванага белымі ўзорамі, свае канькі і хутка прывязаў іх да ног. Алекса зрабіў тое ж, і яны разам пачалі спускацца да Палаты.

Сонца села, але наліўся святлом ветах, і Палата была бачна далёка, аж да павароту.

Хлопцы сталі наводдаль, але на адной лініі, праведзенай грыднем. Ён жа ўзмахнуў рукой, і абое яны сарваліся з месца і панесліся па рацэ.

Ж-ж-ж! — у лад шоргалі па лёдзе канькі, і гукі гэтыя цішэлі і цішэлі. Супернікі схаваліся за паваротам. Стала ціха.

Крапчэў мароз. Зоры высыпалі на небе, яны былі ясныя, вялікія, а над чырвонай палоскай зары дрыжала, пералівалася самая большая — зеленаватая Чагір. Падлеткі хукалі на адубелыя рукі, валтузіліся, каб не скарчанець.

Першымі затрывожыліся грыдні. Яны пераглянуліся, і абое, як па камандзе, кінуліся бегчы да павароту. За імі моўчкі затупалі астатнія.

...Усяслаў сутаргава глытаў паветра. Алекса не адставаў ад яго ні на крок, наадварот, ён некалькі разоў апярэджваў княжыча і вось нарэшце-такі вырваўся наперад. Усяслаў зразумеў, што сын каваля перамог яго канчаткова. Можа, таму, як асеплены бяссільнай злосцю, хлопец не заўважыў на сваім шляху пельку, ледзь зацягнутую свежым лядком. Ён толькі адчуў, як ногі яго з трэскам праваліліся ў бездань, а цела апякло нібы варам, і тут жа нейкая сіла пацягнула яго ўніз, а пасля ўверх. Стукнуўшыся галавой аб лёд, ён не розумам, а нейкім звярыным пачуццём зразумеў, што недзе блізка павінна ж быць выйсце з ледзянога палону, і, ужо задыхаючыся, растапыранымі рукамі мацаў уверсе, а вада цягнула яго далей, далей пад лёд...

Алекса, пачуўшы трэск, азірнуўся — і жах як скаваў яму ногі. Доўгае імгненне ён стаяў нібы скамянелы, а пасля рынуўся да палонкі. Ён падбег у тую хвіліну, калі тонкая хлапечая рука мільганула ў паветры, схапілася за край ледзянога кола, але тут жа слізганула і знікла ў цёмнай вадзе. Алекса не раздумваў: ён кінуўся на лёд, нахіліўся над палонкай. Зноў паказалася рука: Усяслаў адчайна змагаўся са смерцю. Сын каваля паспеў: ён ухапіўся за Усяслававу руку якраз тады, калі яна гэтак жа бездапаможна, як і ў першы раз, слізганула па гладкім лёдзе. Тапелец, адчуўшы дапамогу, адчайна рвануўся, галава яго выскачыла на паверхню, і ён, нарэшце, глытнуў паветра. Але ад гэтага штуршка не ўтрымаўся Алекса: як і Усяслаў, апынуўся ў вадзе.

— Ратуйце! — закрычаў.— Ратуйце!

Адзіны паратунак, на які ён спадзяваўся, былі хлопцы, што павінны чакаць іх. Ён крычаў колькі ставала сіл, таму што адчуваў, іх хопіць ненадоўга: Усяслаў учапіўся ў ягоную руку ■ дзікай, непрытомнай сілай, а тая, якою сам ён трымаўся за шурпаты аскабалак, што вытыркаўся з гладка вырубленай ледзяной сцяны, нямела ўсё болей.

— Трымайцеся! а-а! — пачулася ў адказ. Грыдні, а за імі хлапчукі беглі да палонкі. Але Алекса ўжо не бачыў іх, не чуў, як аддзіралі ягоную руку ад ледзянога аскабалка, цягнулі абаіх хлопцаў з палонкі, а пасля неслі ў бліжэйшую хату, і гаспадары расціралі іх гусіным тлушчам.

Усяслаў ачуняў раней. Ён здзіўлена ўзіраўся ў людзей, аглядаў незнаёмую хату, смалякі, запытаў слабым голасам:

— Пашто тут?

Яму расказалі. Калі дайшлі да таго, што ніяк не маглі расшчапіць яго і Алексы рукі, ён з цяжкасцю ўсміхнуўся пабялелымі вуснамі:

— Значыць, быць па таму.

Праз кароткі час хлапчукі ляжалі поруч на лаве, накрытыя цёплымі кажухамі: светла-русы, каржакаваты сын каваля і цёмнавалосы танклявы Усяслаў. Упершыню княжыч не адчуваў да суперніка злосці, наадварот, нейкую палёгку. Ён мякка штурхнуў Алексу:

— Пойдзеш у дружыну да мяне, калі вырасту?

Той уважліва паглядзеў у вочы Усяславу. Вочы глядзелі ўсмешліва, але прыязна, і хлопец зразумеў — не жартуе княжыч. Ён аблізнуў перасохлыя вусны і таксама штурхнуў пад бок Усяслава:

— Згода!

Гаспадар радасна і трохі зайздросна шапнуў жонцы:

— Пашанцавала чорнай косці, стане яна белаю...

На што жонка азвалася, хутаючы Алексу:

— Ой, панская ласка цяжкая!

І дадала:

— Будзь, дзіця, высокі, як дуб, моцны, як зуб!

Усяслаў ляжаў супакоена, сон паволі, як атрутнае зелле, уліваўся ў ягонае цела. Было цёпла і ўтульна, нязвыкла ўтульна сярод незнаёмых людзей, у смердавай хаце, дзе сцены наскрозь прапахлі пахучым бярозавым дымам, як у лазні, бэлькі над галавой былі чорныя, аброслыя, нібы мохам, сажаю, падлогі ж не было зусім. Замест светлых, жоўтых дошак тут гэтак, як і столь, чарнела моцна ўтаптаная зямля. Отрак павярнуўся да сцяны і заснуў. Спакойна спаў і Алекса. А тым часам, пакуль ганцы ехалі за княжычам, і каваль, і жонка яго былі схоплены, прыведзены ў княжацкія харомы, і там гнеўны Брачыслаў загадаў грыдням, каб, зняўшы з віноўных порты і сподняе, далі кожнаму па дваццаць лазін за «дзёрзкасць чада васпітуемага»...

Пайшлі за годам год...

...Вечарам у трапезнай, даядаючы кавалак смажанага шчупака, княгіня сказала як бы мімаходзь, звяртаючыся болей да тысяцкага Ірвідуба:

— Што ж, вернецца — біць яе, баярскую дачку?

Усе прымоўклі. Старэйшы сын, Давыд, глянуў на бацьку, меншыя княжычы навастрылі вушы: было цікава, што станецца з Нялюбай, унучкай паважанага Ірвідуба, якую той нядаўна прывёў да княгіні і якая ўцякла з княжага двара гэтак жа, як запар тры гады ўцякае з бацькоўскага.

Ірвідуб заільсніўся потам, пачырванелыя абвіслыя шчокі яго задрыжалі, ссунуліся рэдкія пасівелыя бровы.

— Самога епіскапа прасіў выгнаць з яе беса, але, яко крэпасць, моцная нячыстая сіла — самой княгіні не ўбаялася! Сорамна мне, валадарка такі гонар нам аказала, да сябе нечасцівую наблізіла, а яна... авохці мне!

Малыя грызлі пернікі і з асалодай назіралі за Ірвідубам. Брачыслаў заўважыў іх вострыя цікаўныя вочы і глянуў на баярына-агнішчаніна. Той падняўся і з паклонам звярнуўся да княжычаў:

— Час у апачывальню...

— Табе таксама час,— рэзка сказаў Брачыслаў жон-

цы, і тая, апусціўшы вочы, тут жа ўзнялася з-за стала і выйшла, як выплыла, услед за дзецьмі.

— Маёй бы так упраўляць,— пра сябе ўздыхнуў Ірвідуб, праводзіўшы поглядам яе тонкую, высокую постаць, услед якой усе, хто быў у трапезнай, схіліліся ў паклоне.

— Пытаўся і ў валхвоў — ці не на іхнія капішчы бегае,— з адчаем сказаў Ірвідуб.

— Не, няма яе там. Дзе беса цешыць, няславіць мяне і род наш?

Брачыслаў слухаў яго, запіваючы шчупака вострым кіслым квасам. Яшчэ раніцай, калі даведаўся пра ўцёкі Нялюбы, мільганула ў яго думка-здагадка.

Па ўсім Полацаку ішлі перасуды, як унучка Ірвідуба насмяялася над сватамі. Сватаўся да Нялюбы не абы-хто: малады Васілёк вёў свой род ад тых, хто прыйшоў у Полацак з-за мора яшчэ з Рагвалодам, бацькам Рагнеды, і ўсе ведалі, што будзе ён з часам ледзь не самым багатым у горадзе. Праўда, адно не давалася Васільку — навука, і чарнарызец Міхаіл з манастыра пры кафедральнай царкве на Верхнім замку сыходзіў стогнамі, вяртаючыся з агромністых харомін валачаніна Крываරога, бацькі Васілька. Аднойчы, калі ён, вохкаючы, спускаўся па вузкай сцяжынцы, на яе, як мячык, з кустоў дзікай шыпшыны ўпала сямігадовая дачка баярына Рэдзькі. Бойкая дзяўчынка ў дарагой вышыванай кашульцы, падранай на баках, была без памяці: яна сарвалася з камянёў старога замчышча, куды ўскараскалася без нічыёй дапамогі. Міхаіл прынёс дзяўчо ў манастыр, абмыў яе і напаіў зёлкамі, і з таго часу прыдбаў сабе новую вучаніцу. Нялюба прыносіла яму радасць у той жа ступені, у якой прыносіў прыкрасць Васілёк, і, каб прыахвоціць хлопца да навукі, не раз ён паказваў таму роўненькія шнурочкі святарных тэкстаў, што без адной памылкі выводзіла на васковых дошчачках Нялюба.

Васілёк упершыню ўбачыў унучку полацкага ваяводы ў царкве. Малітоўна склаўшы рукі, чарнавалосая, чырванашчокая дзяўчына шаптала ўслед за епіскапам псалом Давіда, але і ў руках яе, і ў жвавых вачах было нешта вольнае, дзікаватае, і аблічча яе кідалася ў вочы, абуджаючы зусім не малітоўныя думкі. «Сатанінскае нешта ў ёй»,— гледзячы на чырвоныя, як вішні, вусны, падумаў хлопец — і выйшаў з царквы, не бачачы вакол свету.

Але бацькі, што з вялікай пашанай сустрэлі сватоў ад Крывароrа, прынялі вялікі сорам: Нялюба разрагаталася,

пачуўшы пра замужжа. Яна рагатала доўга, помсліва, а выскачыўшы назад, у сваю святліцу, расплакалася так, што не маглі яе суцешыць ні нянькі, ні карміліца, ні сама спалоханая маці.

З таго часу яна пачала знікаць з дому. Прыходзіла праз некалькі дзён, у бруднай, запэцканай кашулі, з садранымі пазногцямі, выходзіла да стала і прагна ела, не зважаючы на папрокі сям'і. Бацька паспрабаваў пабіць яе і замкнуць у клець — выгнулася, вылезла праз акно, і не было яе ажно дзве седміцы, так што маці з нянькаю тайна ад гаспадара спусцілі ў Палоту свежы бохан хлеба і на ім дзве запаленыя свечкі — калі ўцягнуў дачку Вадзяны, хай будзе ёй, рачніцы, лёгка! Але яна прыйшла — і тут узяўся за адступніцу дзед. Ірвідуб павёў яе да княгіні, і маладая дзяўчына, на зайздрасць усім баярскім сем'ям, стала жыць у княжым двары. Але прайшоў месяц — і ўцякачка зноў не ўтрымалася.

— Забіць яе, ці што? — скардзіўся Ірвідуб.— Але ж ці яна вінавата, ці злая доля яе такая? Помніш, гаспадзіне, у які дзень нарадзілася?

Брачыслаў помніў — у той самы дзень, калі судзілі валхвоў, і падзея гэтая таямніча звязвалася з жыццём унучкі Ірвідуба. Ён падбадзёрыў старога:

— Дай толькі Пярун удачы, і памаліся заўтра ў царкве, каб не было за гэтыя дні дажджу!

Ірвідуб здзіўлена паглядзеў на князя; у ягоных вачах засвяцілася надзея і разам з тым нібыта боязь. Ён павольна выйшаў з-за стала, пакланіўся і знік у дзвярах. Князь, забраўшы лучыну, пайшоў да сябе. Отрак памкнуўся быў за ім, але князь павёў брывом, і той палахліва адступіў.

Прайшоўшы сенцы, Брачыслаў пачуў голас. Ён прыслухаўся: гаварыла карміліца Няжата. Яна, відаць, толькі што паклала спаць ягоных дачок і расказвала ім нешта. Усяслаў нячутна падышоў да дзвярэй. Голас Няжаты, ціхі, глыбокі, дрымотна расцякаўся па апачывальні:

— Дняпро — то брат нашай Дзвіне. І яшчэ адна сястра ёсць у яго — Волгай прызываецца. Сіроты яны ўтраіх былі, хадзілі-хадзілі па зямлі і ўсё шукалі, дзе б можна было разліцца вялікімі рэкамі. Што вы думаеце? Знайшлі! Знайшлі і начаваць ляглі ў балотах. Але сястрыцы былі хітрэйшыя за брата: як Дняпро заснуў, яны паціху ўсталі, занялі лепшыя мясціны і пацяклі сабе. Устае раніцай брат, зірнуў навокал — як кінецца наўздагон! Злаваўся-злаваўся, курожыў берагі, а пасля супакоіўся, дайшоў

сабе да мора. Праўда, шмат затое ў яго віроў ды вытокаў.

— А як жа сястрыцы? — падала сонны голас адна князёўнаў.

— А сястрыцы разбегліся ў розныя бакі, ратуючыся ад пагоні, і больш ужо не сустракаюцца,— адказала Няжата і хацела ўскочыць, убачыўшы ў дзвярах Брачыслава, але ён кіўнуў галавой і, перадаўшы ёй лучыну, стаў над шырокай спальнай лаваю, дзе, утуліўшыся ў пярыны, засыпалі ягоныя дочкі. Яны расплюшчылі вочы і, пазнаўшы бацьку, пацягнуліся да яго. Брачыслаў абедзвюма рукамі абхапіў дзяўчынак, удыхнуў іх цёплы, духмяны пах і ўсміхнуўся сваёй нечаканай пяшчоце.

— А мы давайце зробім, каб брат і сястра сустрэліся,— паўжартам прапанаваў ён дочкам.

— Давайце! Давайце! — запляскала ў ладкі малодшая.

— А як, татачка?

Але Брачыслаў ужо вярнуўся ў свой заўсёдашні стан занепакою,— потым падумаем! Ціха апусціў дачок, пацалаваўшы іх на развітанне, і, забраўшы лучыну, пайшоў.

Думкі яго вярнуліся да Нялюбы, і ён успомніў, як здзівіла яго ў мінулым годзе адна знаходка. У вярхоўі Палоты, за паўдня хадзьбы ад Полацака, убачыў аднойчы князь дзіўныя ямiны, а падышоўшы, пазнаў у ямінах фарбы, якімі малююць іконы — жоўтую вохру, чырванаватую умбру. Гэта не здзівіла б, калі б у маленькім жаночым слядочку, што выразна ўпячатаўся ў гліну, не ўбачыў ён кавалак залатога шнура. Тады ён доўга думаў, што за жанчына была тут, удалечыні ад людзей, і чаму яна займалася такою нежаночай справай, але, калі прыйшла да іх Нялюба, ён аднойчы заўважыў у яе на руцэ нейкую жаўтаватую пляму, падобную да той, якімі пакрыты быў бераг Палоты. І вось сёння, слухаючы жонку, ён імгненна звязаў у адно ўсе гэтыя разрозненыя падзеі.

— Назаўтра конь каб быў,— буркнуў ён халопу, які падскочыў, каб распрануць князя, і, кінуўшыся на цвёрдую сваю лаву, імгненна заснуў.

Назаўтра ён загадаў сыну:

— Возьмеш аружаносца — і ўдвух дзяўчыну каб прывезлі!

— Чаму я, бацька? — запярэчыў семнаццацігадовы Усяслаў.— Не мая справа з вар'яткамі важдацца!

— Вучыся ўладарыць! Вучыся, гледзячы ў вочы людзей, адгадваць іх самыя патаемныя думкі! Сам вырашы, што з ёю рабіць, а я — пагляджу!

Малады княжыч паклікаў з сабою Алексу і грыдняў Алекса быў незадаволены.

— Пашто не княжацкімі справамі займаешся? — спадылба зіркаў ён і са злосцю торгаў каня, бо ў гэты дзень спадзяваўся ўволю пастраляць з лука. Усяслаў даваў яму пабурчаць, бо Алекса — адзіны, каго ён лічыў за роўню, а часам і вышэй сябе, па-добраму зайздросцячы воінскаму яго ўмельству. Высокі, прысадзісты, сын каваля нібыта ўрос у сядло і здаваўся Усяславу падобным да магутнага кентаўра, якога ён бачыў у кнігах, праўда, кентаўра маладога і прыгожага. Доўгія русыя валасы пушыліся ў Алексы на плячах, цёмныя бровы былі густыя і надавалі яму выгляд хмурны і дзёрзкі.

— Не адна па табе будзе сохнуць, маладзец, ды нешта ты свае стрэлы любіш болей,— не раз дражніліся жанчыны, але Алекса толькі зняважліва хмыкаў і пераводзіў размову на іншае. І цяпер ён дзяліўся з князем:

— Як зловім дзеўку, за касу яе і на плошчу, і пугу побач. Хто хоча, хай перацягне...

— Баярскую дачку? — пасміхаўся Усяслаў.

— Хай сабе і баярскую...

— На плошчу — і пугу побач?

— А што ж — заслужыла!

— Не,— пасур'ёзнеў Усяслаў.— Баярскі сорам хаваць ад простай чадзі трэба за сямю пячаткамі, так, каб ніхто і думаць не адважваўся, нібыта людзей сатварыў бог роўнымі. І біць іх, баярскіх дачок, не на плошчы, а ў цёмным порубе, і так, каб на твары слядоў не было, каб людзі бачылі іх недаступнымі і ў золаце — на тым і княжацкая ўлада трымаецца...

— Ну так, так! — падняў галаву Алекса.— Калі нехта заб'е маю маці, то заплаціць не віру, а так — слёзы. А калі гэтую... дзеўку, то вунь колькі золата з яго возьмуць — ажно дзесяць грыўнаў!

Твар Усяслава пасуровеў.

— Ты мне не пярэч! Сам ведаю, што рабіць. Яе бацька тысячамі такіх, як твая маці, валодае, і калі ён стане мне насуперак... Адзін ён! А колькі такіх яшчэ ёсць! Абапіраючыся на іх 'жа, іх і разумець трэба.

— Супраць цябе не пойдуць. Ты — з Рагнедавага племені! Веча за цябе будзе. І бацька твой магутны.

— Ведаю. Але і ты ведаеш, што ён не вечны. А тады — тады без Ірвідуба, ды Крыварога, ды іншых людзей імянітых як адзін супраць Кіева пайду?

— Крываруг паможа! Калі ўсе шляхі водныя па Дняпры полацкімі будуць, ён у дзесяць разоў багацейшым стане!

— Што ж! Жывот аддаваць ёсць за што, не тое што іменне... Смаленск і Пскоў — старадаўнія землі крывічоў. Калі іх звесці ў адно княства — не слабейшае будзе за Кіеў, што нас за вотчыннікаў сваіх лічыць...

Коннікі ехалі ўжо па лесе, што рос па абодвух берагах ракі. Яснае неба цёплай, ранняй восені свяцілася ля ног чыстай сінявой Палоты, навакольныя дрэвы былі яшчэ зялёныя, але лёгкая жаўцізна ўжо кранула іх вяршаліны. Плыло па ветры павуцінне, няўлоўным дотыкам час ад часу мільгануўшы па расчырванелых тварах субяседнікаў.

— Баравік! — зарадаваўся, як падлетак, Алекса, угледзеўшы каля магутнай, стромкай сасны цёмна-карычневую, як аксамітную галоўку баравіка. Ён жвава саскочыў з каня, дастаў з торбы, прымацаванай да сядла, сцізорык і праз хвіліну паклаў у торбу тры моцных крамяных грыбы.

— Нашто? — скрывіў вусны Усяслаў.— Накормяць жа цябе, як прыедзеш.

Алекса нічога не адказаў: мусіць, і сам не ведаў, нашто яму баравікі. Але і далей ён не пераставаў абмацваць вачыма кожны куст, кожны пагорак, які ім трапляўся па дарозе.

Непадалёку ад аблюбаванай ім мясціны Усяслаў загадаў прывязаць коней да тоўстай алешыны, і яны пайшлі пехатой, стараючыся не вельмі вытыркацца з-за дрэў.

Малады князь усміхнуўся па-хлапечы задаволена, убачыўшы над высокім, абрывістым берагам невысокую жаночую постаць у белай, але ўжо запэцканай кашулі і чорным аксамітавым кабаце. Жанчына корпалася ў глебе, час ад часу кладучы нешта ў бліскучыя гліняныя гаршэчкі, што стаялі побач.

Убачыўшы хлопцаў, што выйшлі з лесу, яна ўскрыкнула і, пазнаўшы Усяслава, кінулася бегчы. Алекса, імгненна ўскалыхнуты паляўнічым азартам, рынуўся ўперад. Ён зваліўся зверху прама перад ёю і, не даючы апамятацца, схапіў за доўгую касу, што выбілася з-пад ручнічка, пасля ўсцягнуў наверх. Дзяўчына спрабавала вырвацца, але дружыннік другою рукою зацісНуў, як у абцугі, абедзве яе далонькі, якімі яна хацела закрыць твар. Убачыўшы, што ўсё прапала, уцякачка горда выпрасталася і амаль загадала князю:

— Скажы халопу, каб адпусціў мяне!

Усяслаў некаторы час, прыжмурыўшы вочы, стаяў перад ёю, пагойдваючыся. Пасля сказаў уладна:

— Вядзі, дзе твая бярлога. Сам найду — усё разнясу!

Яна, падумаўшы, пакарылася. Гнеўна бліснула на Алексу чорнымі вачыма (ён, глянуўшы на князя, выпусціў яе) і пайшла ўперад, з балючай грымасай расціраючы рукі.

Зямлянка, дах якой быў пакрыты чаротам, хавалася сярод елак. На лаве, выразанай з зямлі, былі насцелены яловыя галіны; паверх ляжала аўчына. Скрозь дзіркі ў даху бачны былі загрунтаваныя дошкі, што ляжалі на падлозе, гаршкі, шалупінне ад яек. Пахла фарбамі і дрэвам. На лаве, прыслоненая да сцяны, стаяла дошка. Усяслаў узяў яе ў рукі, паднёс да святла, што падала з адчыненых дзвярэй. Алекса падышоў бліжэй.

Отрак трымаў меч. Суровы, нахмураны ягоны твар быў светлым і адначасова нейкім задуменным. Цёмна-сіні хітон з залатымі ўзорамі атуляў шырокія плечы. Асляпляльна чысты чырвоны ўсход палыхаў за ім, водсветам кладучыся на светла-шэрае жалеза, на цёмныя валасы, што віліся над ілбом, на доўгія магутныя крылы, якія, здавалася, вось-вось паднімуць отрака ў бязмежную нябесную вышыню.

— О-о-о! — як выдыхнуў нарэшце Усяслаў. Твар яго разгарэўся, шэрыя вочы глядзелі на дошку з захапленнем.— Хто гэта?

— Архангел Міхаіл,— склаўшы рукі на грудзях, Нялюба стаяла ля ўвахода.

Усяслаў раздумваў. Гордае сямейства Ірвідуба нізавошта не дапусціць такой ганьбы: дзяўчына — а малюе нібыта які рамеснік! Самім богам ёй назначана нараджаць дзяцей ды хадзіць за мужам! Нялюба добра разумела гэта, таму і рашылася жыць, як звер, у глушы. Але відаць, што і яна ад свайго не адступіцца. Дзве сілы сутыкнуцца — і загіне слабейшая... Яна і цяпер зблажэлая, зямлістая, ці вытрымае далей уласнае раздваенне?

— Збірайся,— сказаў ён нарэшце.— Будзем чорта з цябе выганяць...

Яна глянула на яго. З прытоеным шкадаваннем і сумам глядзеў Усяслаў: адкуль падае на плечы такім вось маладым неспадзяваны і, можа, непатрэбны ім дар?

— Прыгожа! — сказаў нарэшце.

Алекса дзівіўся — чаму княжыч не карае непакорную?

Чаму стаіць перад іконай моўчкі, думаючы пра нешта светлае?

Ён, Алекса, не такі. Ён не будзе ўкленчваць перад дошкай, няхай нават на ёй намаляваны сам архангел! Усім сваё месца. Гэтай, распешчанай баярыні — замуж ісці, дзяцей нараджаць. Хаця хто яе, сапсаваную бесам, возьме?!

Па Полацаку папаўзлі чуткі, што Усяслаў — князь мацнейшы за епіскапа: іменна ён выгнаў быццам бы чорта з унучкі славутага Ірвідуба. Праўда, дзяўчына калінекалі з'язджае ад княгіні, але кіруе заўсёды ў сялецкі манастыр. Там ёсць для яе келля, ключ ад якой у яе адной. Кажуць яшчэ, што, ратуючы душу сваю, адкупіла Нялюба ў візантыйскіх купцоў некалькі іконаў, роўных якім няма нават у кафедральнай царкве, і падарыла манастыру.

Падслухаў нехта з чалядзінцаў, як шчыравала перад сынам княгіня, дапытваючыся, якімі чарамі ён вылечыў дзяўчыну, і як рагатаў стары князь, дазнаўшыся ісціну. Куплены ў Іерусаліме кавалак дрэва — нібыта з самой труны гасподняй — ён наказаў аддаць Нялюбе, а ўсцешаная княгіня аж да раніцы любавалася іконай, прывезенай з манастыра. Сыну ж і яго аружаносцу падарыў Брачыслаў па хітоне, толькі ў Алексы быў плашч той не з аксаміту, а з валянай воўны, дый каўнер з лісіцы, а не ■ собаля.

І так і не зразумеў Алекса, чаму і навошта дазволілі дзеўцы-вар'ятцы маляваць іконы? І шкадаваў яе, і пагарджаў. Ды ў кожнага свой лёс — чакаў ён і Алексу, пільнаваў, не спускаючы вачэй...

Восенню быў паход, а ў тым паходзе загінуў яго старэйшы брат, Пуцята. Пасівела маці. Сагнуўся каваль Таміла.

Радаваўся бацька, калі прыходзіў дадому Алекса.

— Адзіны сын ты цяпер у мяне...— сказаў аднойчы, і вочы заслязіліся. Паўтарыў раздумліва:

— Адзіны... І той у воях. Хай бы зямлю абрабляў. Ці жалеза. Ці гліну. Чаму ж мне такое?

І ўпаў на калені перад Сварогам:

— За што?! Божа, за што ты караеш гэтую зямлю? Ёсць жа, відаць, месца, дзе няма вайны — дзе шукаць яго?

— Бацька, без вайны мужчыны парахнеюць і робяцца рыхлымі, як порхаўкі! — трохі зняважліва пачаў супакойваць яго Алекса. Але, калі перад ім на калені ўпала маці, пасур'ёзнеў:

— Што гэта вы?

Пачаў паднімаць маці, а тая, абдымаючы яго ногі, прасіла:

— Ты ж хоць беражы сябе... Прападзе наш род... Дзеўкі замуж пырснуць — і ўсё, лаві іх.

І дадала з нечаканай сілай:

— Жанісяты, ці што?!

І зноў паблажліва выгаварыў Алекса:

— Паход будзе восенню, вось што!

І паспяшаўся да выхада. Бо толькі зрэдзь, калі-нікалі, удавалася Алексу ўпотай ад княжацкіх чалядзінаў пабываць на сваёй Вадзяной вуліцы, у бацькоў. Кожны раз, калі бачыў сваю хату, нібы ўрослую ў зямлю, бярозу, што цягнулася ўвысь ля невысокага ганка, бачыў ля бажніцы счарнелых ад дыму Рода і парадзіх — шчымела сэрца.

— Бацька, ты б падлогу наслаў ці плот новы ўсчаў,— не раз казаў ён, аддаючы старому сярэбраныя і медныя куны, што назапашваў на службе. Шчодры быў княжыч, нічога не шкадаваў для малодшых отракаў; і ўсё аддаваў Алекса ў сям'ю. Але за гэты час амаль нічога не змянілася ў хаце, адно замест жоўтых бычыных пузыроў блішчалі ў вузенькіх акенцах слюдзяныя пласцінкі ды стаяла ля палацяў вялікая распісная скрыня, дзе штогод прыбаўлялася дзявочых убораў, упрыгожванняў ды ручнікоў — што ладзілі сёстры ды куплялі бацькі. Стары Таміла цяшпер меўся выдаць дачок не за простых смердаў — як-ніяк, сын отрак у княжацкай дружыне! А сёстры, Радасць і Ручаіна, апошнім часам выцягнуліся, як маладыя гонкія дрэўцы, і, нібы дрэўцы, наліліся сакавітай сілай. «Па чатырнаццаць вёснаў — хаця б не заседзеліся ў дзеўках!» — бедавала маці. «Не заседзяцца! — суцяшаў бацька.— Не знойдзем багатага, знойдзем хоць беднага, свайго. Як ёсць грошы, то і крывую, і сляпую возьмуць. А нашы ж гладкія, што цялушкі, а вачмі ажно стрыгуць. Толькі б на якім ігрышчы не ўмыкнулі куды далёка».

Маці ўздыхала. Яна заўсёды як баялася чаго, нават хадзіла бліжэй да сцяны і рэдка пярэчыла ў чым гаспадару і дзецям. Яна верыла, што дочкам пашчасціць у жыцці — нездарма ж калі гадалі на жыта Радасці, то кінуўся певень не да вады, а да зерня, значыць, будзе ў яе гаспадар добры, не п'яніца. А ў Ручаіны будзе муж багаты, бо, калі гадалі на яе, падышоў певень да залатога пярсцёнка — а як яна баялася, што падыдзе да меднага — к жабраку-мужу было б тое!

Але ў пяты дзень пасля Вялікадня ўдалося Алексу выбрацца дадому з самай раніцы. Прыехалі сваты да Брачыслававай дачкі, і вялікая мітусня ўсчалася ў княжым двары. Старэйшая дружына рыхтавалася да гасціны, але спачатку наладзяць спаборніцтвы — хто лепей валодае лукам і стрэламі, хто дужэйшы з вояў. Хай глядзяць заморскія госці, дзівуюцца, што за асілкі жывуць тут на Полаччыне. Ганьба, ганьба будзе ім, калі не знойдзецца хто падужацца з Гастамыслам, любімым воем Брачыслава! А малодшыя дружыннікі будуць глядзець на ўсё гэта здаля. І таму, сунуўшы старшаму отраку вавёрчыну шкурку, каб не казаў нічога сотніку, падаўся Алекса дадому, дзе малады Ярыла, святкуючы пачатак сяўбы, будзе ездзіць па палях на белым кані і ў белай кашулі. Пазалетась меліся выбраць Ярылам яго сястру, ды пабаяўся Алекса — дазнаюцца ў двары, не пашкадуюць лазін! А хацелася ж Ручаіне адчуць сябе маладой багіняй, што ў вянку з вясенніх палявых кветак, са жменяй жытняга калосся ў руцэ святкуе вясну, прымаючы песні Ярыліны, вянкі і карагоды. Але асуджае царква бесаўскія ігрышчы, блудам называе і карагоды, і частаванне брагаю, і вясёлыя гульні. І ўсё роўна цягне Алексу на Ярыліна свята пад Дзівіну горку, асабліва ў такі дзень, калі маладая нясмелая зеляніна густа апушыла дрэвы, неба сіняе-сіняе і высокае, аж звініць яго крыштальная цвердзь, а вецярок ласкава студзіць твар, разгарачаны чаканнем і хадзьбою! Скінуў Алекса каптан і боты, босы пайшоў па сыраватай яшчэ дарозе — пакуль ніхто не бачыць, хаця трохі адчуць нагамі зямлю. Эх, лапцікі б сюды — мяккія, з лазовай кары, што, здаецца, самі імчаць наперад, ды дзе там — пальцамі пачнуць паказваць людзі: маўляў, дружыннік княжыча, а абуты, як простая чадзь! А боты нешта цеснаватыя сталі, мазолі націраюць, папрасіць жа новыя саромеецца Алекса, а купіць — як да бацькі без кунаў прыйдзеш?

На Дзівінай горцы, рэдка парослай цёмна-зялёнымі хвойкамі, густа, як проса, насыпана народу. Белыя вышываныя сарочкі, порты, вянкі — усё стракатае, каляровае, і ўсё гэта рухаецца вакол нечага, што цяжка Алексу разгледзець здалёку. Але падышоў бліжэй і разгледзеў: стаіць на палянцы белы конь, а побач тонкая дзявочая постаць — відаць, тая, каму выпала сёлета быць за Ярылу, таксама ўся ў белым, а на галаве вяночак з першых вясновых красак. Стаіць дзяўчына, прымерваецца — відаць, нязвыкла ёй з канём упраўляцца, і тады высокі русявы

юнак падхапіў яе і мігам пасадзіў на каня. І тут жа зайгралі гуслі, загулі валынкі, і ўслед за белым канём, якога вёў за аброць русявы юнак, усе рушылі вакол гары,— прыпяваючы, хто-ніхто ўжо і скачучы. І Алекса пайшоў за імі — трэба ж паглядзець на Ярылу, разам з усімі павесяліцца ў карагодзе. Дагнаў ён каня, што вёз Ярылу, зірнуў на яе. Беленькая галоўка з распушчанымі валасамі, сінія вочы... Тварык бледны, амаль дзіцячы. Відаць, і пайшоў бы сабе далей Алекса, але азірнулася ў той момант дзяўчына і ўсміхнулася — можа, і не яму зусім, а людзям навакольным. Але ўсмешка як асвятліла яе — бліснулі белыя зубкі, мілым, бездапаможна дзявочым павеяла на хлопца, і ён спыніўся, як ударыла нешта яго ў грудзі, а пасля... пасля ўжо не зводзіў позірку з дзяўчыны, лавіў кожны рух яе, і вянкам, якія кідалі пад ногі беламу каню травы, зайздросціў. А пасля, калі, аб'ехаўшы гару, вярнулася шэсце на старое месца, пад вялізны дуб, і пачала дзяўчына-Ярыла ўсім брагу хмельную падаваць — ён сярод першых праціснуўся да яе, адведаў брагі, але не адчуў смаку. Затое адчуў, беручы чару, дотык тонкіх яе пальцаў — і спалымнеў увесь. Калі адышоўся, хрыплавата запытаўся ў нейкай кабеты:

— Скуль дзяўчына гэтая, чыйго роду-племені?

— Удавы Катуніхі дачка Бяроза,— ахвотна адказала тая, хітра паглядаючы на маладога дружынніка.— Што, прысушыла ўжо? Не цябе першага, добры маладзец!

І зарагатала.

Удава Катуніха? Напружваючы памяць, успомніў удаву і малое, што бегала за ёю. Няўжо гэта яна, закецаная, хваравітая дзяўчынка?

— Сватай, пакуль не позна! — не сунімалася кабета.— А то нашы хлопцы такія ўдальцы, што... не спахопішся — умыкнуць у цёмныя лясы, у пушчы глухія!

А народ, тоўпячыся вакол Ярылы-Бярозы, спяваў:

Вясна-красна,
Што ж ты нам прынесла?
З пунькі сянцо
Вынесла, вынесла.
З клеці зярно
Вымела, вымела...

Белымі празрыстымі сувоямі туману засцяліла навакольныя лагчыны цёплая ноч. Уверсе, скрозь мроіва лёгкіх воблакаў, ледзь улоўна пераліваліся зоркі, зрэдку зрываючыся з нябесных сваіх цвічкоў, якімі моцна прыбіў іх не-

калі сам Пярун. Але старым станавіўся Пярун, перамагалі яго новыя багі, і, можа, хутка будзе канец свету, бо як жа будзе тады з наладжаным здаўна парадкам? Але так гаварылі старыя людзі, а малады грыдзь Алекса, што стаяў каля вялізнага, складзенага са стогадовых дубоў гумна, пра гэта не думаў. Сягоннечы выпадала яму дзяжурыць каля самага галоўнага склада, дзе беражліва было схавана ўсё, што можа спатрэбіцца для войска — шлемы, шчыты, мячы, коп'і, шаблі, стрэлы, нажы, сякеры і мноства іншага жалеззя, што прагна ўпіваецца ў слабое чалавечае цела. Ляжалі там на вялізных паліцах тонкія кальчужныя сеткі, якімі закрываюць твар лучнікі; ляжалі кальчугі, дзе-нідзе пасечаныя варожымі шаблямі; асобна мясціліся харугвы, сцягі, ▪ таксама бубны і трубы — яны падымаюць дух стомленага бітваю войска, уліваюць у жылы новыя сілы і адвагу. Часта расчыняліся пры князю Брачыславу вароты гэтага гумна, не вельмі адпачывалі ад крывавых сечаў броні ды кальчугі і ўсё іншае, што ляжала тут. І коні, што ціха ржалі ў суседняй канюшні, таксама не надта аб'ядаліся ў цішыні адборным аўсом. Ведалі і коні — і паводныя, на якіх ехалі капейшчыкі — коннікі, і таварныя, абозныя, што цягнулі цяжкія вазы, і сумныя, на якіх грузілі сумы з прыпасамі і здабычай,— усе яны ведалі бездарожжа, і лютую пагоню, і пах паходных кастрышчаў... І прыпасы, што грувасціліся ў кладовых-скотніцах, і віны, што таміліся ў склепах — брэцьяніцах,— многа ўсяго было на вялікім Брачыслававым двары! — усе яны былі нядаўнія, прывезеныя сёлета і, відаць, сёлета ж пойдуць на патрэбу нястомнаму войску.

Многа скарбаў на княжацкім падвор'і! Ёсць пад клеццю асобны пакой, туды неяк завёў маладога аружаносца трохі падпіты казначэй. Асляпіла Алексу ўбачанае,— калі прыўзняў той край сундука: паціры — чашы царкоўныя, на якіх ззяюць узоры з залатога і сярэбранага дроту, карцы і браціны з гравіроўкамі, чаркі — з горнага крышталю, яшмы, сердаліку, чашы з эмалевымі клеймамі, лыжкі, складні — і ўсюды зелянеюць, пунсавеюць каштоўныя каменні, і ззянне ад усяго гэтага ажно шыбае ў вочы, як моцны дух ад брагі. Але захапляліся вочы, а сэрца было халодным, загарэлася яно толькі ад мячоў і дзідаў, што віселі на сценах. Асабліва ўразіў меч ▪ бронзавай рукаяццю — тонкі, сіняваты, ён аж спяваў, здаецца, і нейкая пыхлівасць былі ў ім, і нецярпенне, і жорсткасць, нібы пакутаваў ён тут, у цесным пакоі, побач з грудамі золата і срэбра.

— Эх, мне б яго! — не вытрымаў Алекса.

— Захацеў! Гэта дамаскі, і цана яму вялікая. Ніхто не ведае, як зрабіць такі, ад усяго свету сакрэт хаваюць. Расказвалі толькі, што халодзяць яго не ў вадзе, а, ці паверыш? — у крыві чалавечай. Дзеля таго ў жывога чалавека ўторкваюць зброю!

— Ды ну! — не паверыў спачатку Алекса, а пасля прыгледзеўся,— і моўчкі ўзіраўся на меч, аж пакуль сілай не выпхнуў яго са скарбніцы ацверазелы казначэй.

Цяпер Алекса, папраўляючы на плячах цёплае касмыллё аўчыны, думаў пра той меч, пра сечу, калі чырвоная кроў шалёна шугае ў галаву і вочы, і нешта клякоча ў грудзях — кіпучае і неўтаймоўнае, і цела рвецца наперад, а рука наліваецца сілай, і цяжка ўгрызаецца ў ворага вострая зброя.

Воінам ён быў, і ў любы момант гатовы несціся наперад, у рызыку, у невядомасць, шукаючы сабе і князю славы. У апошніх бітвах ужо прыкмецілі яго старыя воі і адабральна глядзелі, калі ішоў па двары,— малады, лёгкі, вясёлы. Сам князь Брачыслаў падараваў яму нядаўна, як лепшаму стралку, цэлую сярэбраную грыўню! Алекса аддаў яе бацьку, адно прасіў — не траціць без патрэбы.

Пра многае думаў малады воін, успамінаючы бітвы, дарогі, дзе прайшоў ці праехаў на кані. Ваяўнічы князь Брачыслаў, шукаў ён сабе подзвігаў, а ўсяму княству — славы і выгоды, хацеў, каб не ізгоямі адчувалі сябе князі полацкія, а магутнымі ўладарамі. Але праз усё тое, што бачылася зараз Алексу, уладна прабівалася маладое дзявочае аблічча са светлымі, як адбелены лён, валасамі, і тонкай шаўкавістай скурай, пад якой гарыць, пераліваецца румянак, з вуснамі пругкімі і сакаўнымі, як спелыя вішні. І дзіўна Алексу — такое худое, нязграбнае дзяўчо прыходзіла да іх з зёлкамі, такі нясмелы галасок пералічваў: «гэтая вось ад трасцы, ад весніцы, ад свярбежы, камчуга...», а зараз... Ці не сама княгіня сядзела перад усімі на белым кані! Доўгая шыя, постаць стройная, гордая, вочы вялікія, ззяюць, нібы сіняе «тавусінае» каменне — прывезеныя з далёкага Кіева, каменьчыкі гэтыя ўпрыгожваюць мазаіку ў драўлянай Сафійскай царкве, што над Дзвіною... І не скажаш, што яна дачка беднай удавы Катуніхі — беднай, бо не бярэ яна нічога за свае лекі, кажа, што гэта вялікі грэх, а людзі — яны і рады. Пакуль баліць, гатовы порты з сябе зняць. А прайшло — і бывай, Катуніха, мы цябе знаць не знаем і ведаць не ведаем! Нічога! Яшчэ трохі

збярэ ён грыўняў ды пасватаецца да прыгажуні. Як-ніяк, не зломак ён, а княжацкі дружыннік, не адмовіць яму ўдава. Абы толькі па сэрцы прыйшоўся ён дзяўчыне, бо нельга, каб спакусілася яна толькі багаццем — хаця і няма ў яго вялікага багацця, але ж жывуць яны цяпер, у параўнанні з Катуніхай, заможна. Нельга, каб пайшла за яго дзяўчына без сэрца, бо жыць, ведаючы, што не адгукнецца яна душою на тваю ласку, не заззяе ў яе вачах святло ад твайго пацалунка — цяжка. Грэх гэта — жыць без кахання. Так гаварылі і жрацы, тое ж казалі і ў царкве,— а хлопец стаў слухаць усіх, хто кажа пра сямейнае жыццё, пра дваіх. І як гэта сталася — сам не ведае Алекса. Таму хутка праляцела дзяжурства для Алексы, што ўпершыню зведаў ён слодыч мары, калі з маладою ахвотай складае і цешыцца душа дзівоснымі ўзорамі, сама звязвае і развязвае іх, не лічачыся ні з жыццём, ні з абставінамі, а проста перамагаючы іх ці зусім не думаючы ні пра лёс, ні пра дарогі, якія наканавана прайсці чалавеку і якія далёка ўводзяць яго ад светлых юнацкіх жаданняў...

Раніцай, калі дзед Бялун* толькі прагнаў з неба цёмныя хмары і з-пад рухавага мроіва яшчэ не паказаўся краёчак чырвонага сонца, Алексу прыйшлі правяраць. Муж добраімяніты Векша нячутна краўся між будынкаў, пунь і гуменцаў, але востры, як у рысі, позірк Алексы заўважыў — не чалавека, а толькі краёчак цені,— і азваўся малады дружыннік суровым голасам, хаця, здаецца, зусім закружылі яго нязвыклыя мроі. І зноў хваліў яго перад князем Векша, і жыццё рассцілалася перад Алексам белым, радасным сувоем, і думаў ён пра тое, што трэба рыхтаваць вена, ці воцкае — выкуп за нявесту. Ці ў паход ісці, ці ўслед за князем ехаць на палюддзе — добра, калі ёсць каму чакаць дома, і кідаць дровы ў цяпельца, і карміць добрага дзеда Дамавіка, які за гэта будзе зберагаць скаціну ад гневу Воласа, скотняга бога, а дом — ад Агневіка, а багацце — ад цмока. Праўда, кажуць, што, калі хто спадабаўся цмоку, ён прыносіць у хату і куны, і хлеб, жытнія нівы прымушае радзіць шмат збожжа, а кароў — даваць многа малака. «Але хай ахоўвае нас Род і парадзіхі,— думаў Алекса,— не хацеў бы я дружыць са цмокам, лепей падняць яго на кап'ё, як Георгій-Перамаганосец. Яшчэ славы б мне здабыць у бітве — і ўсё, чаго болей трэба ад жыцця?»

---

* Пад гэтым знакам у каментарыях даюцца тлумачэнні сэнсу асобных паняццяў і гістарычных звестак.

У княжацкай горніцы было светла: па сценах шчодра развешаныя смалякі ў сярэбраных зажымах, на стале — свечкі з жоўтага воску, доўгія, вітыя. І ўсё гэта гарыць з ціхім шыпеннем, смалякі — час ад часу як бы ўзрываючыся, і тады ўсе, хто сядзіць у горніцы — князь у высокім крэсле з касцяной спінкай, астатнія — на лавах, пакрытых чырвоным аксамітам,— азіраюцца, нейкі момант няўцямна глядзяць, як трашчыць і круціцца вогненнымі іскрынкамі лучына, а пасля зноў пераводзяць свае вочы на казачніка, дзеда Мокшу.

Дзед, у доўгай пасконнай кашулі з чырвоным узорам ля шыі, з чырвонай суконнай павязкай на белых валасах, баіць свае казкі, у самых драматычных момантах дапамагаючы сабе доўгімі кашчавымі рукамі, і ягоныя выцвілыя, пабляклыя вочы ўспыхваюць маладымі агеньчыкамі:

«Рассек добры малойчык скуру ссохлую, старую, і выйшла адтуль каралевічна, ды такая прыўкрасная, што і слоў няма. І абняў яе тут добры малойчык, а яна яму кажа: «Любіць цябе, Падвей-княжыч, буду да самай смерці». Абняў тут яе Падвей-княжыч моцна-моцна...»

Княгіня Марфа і дочкі слухаюць, не прапускаючы ніводнага слова. Шчокі іх разгарэліся, вочы поўныя замілавання. Але Брачыслаў, толькі скончыў дзед Мокша казку, незадаволена прагудзеў:

— Ты лепей пра бітву нам старое паданне раскажы, пра продкаў нашых, а то гэта — як пернікі салодкія, імі толькі маладзіцы частуюцца! Бач, разабрала іх!

Княгіня і дочкі — ні слова, толькі вочы ў зямлю апусцілі. А дзед Мокша другія казкі завёў. Пра Рагвалода і Уладзіміра, якія тры дні, тры ночы тут, ля сцен Полацака, біліся, і ніхто не мог перамагчы, аж пакуль княгіня Вольга не пайшла да старога капішча, і там, разам з дружыннікамі сваімі вернымі і валхвамі, не прынесла ў дар Перуну хлопца дый дзяўчыну, а для таго схапілі іх уначы, і аднаго, і другую, каб крыку не было і каб бацькі сваімі ахвярамі іншым багам не адвялі ўдачу ад унука Вользінага, Уладзіміра. І толькі тады перамог Уладзімір Рагвалода...

— Ты што гэта вярзеш? Не магла Вольга такое рабіць, святая яна і веры праваслаўнай! — зноў загудзеў Брачыслаў, і ручкі ягонага крэсла жалобна заскрыпелі пад магутным целам. Баяры і стольнікі пераглянуліся: Брачыслаў — патомак і Вольгі, і Рагвалода, не хоча ён аддаваць перавагу нікому з іх. Свечнік нячутна падышоў да стала, пераняніў свечку.

— Добра, тады я раскажу пра вялікага воіна, Аляксандра, ці Іскандэра Двухрогага, як называлі яго ў далёкіх краінах, якія ён пакарыў сваім мячом,— дзед смірэнна схіліў сівую галаву, нізка, ажно кашчавыя рукі яго дакрануліся да свежых ліповых лапцяў, пакланіўся, пачаў новы сказ. Княгіня і дочкі сядзелі нерухома. Зірнуць на іх — нібы вясновы луг убачыш. Сукенкі з заморскіх тканін, вышытыя жэмчугам і абвешаныя жоўтым празрыстым каменнем. На галаве ў княгіні — вянец, поніз з залатымі вісюлькамі, што спускаюцца па скронях, а каснік ззаду ўплецены ў касу шаўковы. Старыя жанчыны па кутах шапталіся, што надта вялікая шчыгаліха княгіня, любіць насіць сукні з тафты чэраўчатай, з атласу. Але князь дазваляў жонцы многае — любіў яе за прыгажосць і розум.

Ціхі вясновы вечар глядзеўся ў вокны горніцы. Не часта выпадала князю і яго сям'і вось так ціха, па-сямейнаму, правесці вечар. Часцей вяртаўся ён позна, стомлены і грозны, з палюддзя ці палявання, з далёкага ж паходу не бывала яго ў Полацаку месяцамі. А часцей па вечарах грымелі ў грыдніцы піры, прымаў ён то гасцей заморскіх, то баяр імянітых, то з дружынай гульбу наладжваў, бо дружына — гэта тое, што бліжай дзяцей і жонкі, таму што толькі на іх, адданых воінаў, уся надзея ў цяжкі час бітвы, яны і жыццё ратуюць, і тое, што даражэй жыцця — князеву славу. Але не толькі падчас піроў, калі ніводнай з жанчын няма ў грыдніцы і віно зеляное і медавуха ўволю туманяць буйныя галовы, бываюць у князевым доме вешчыя старцы, што ўмеюць спяваць пра славу Баянаву і на тонкіх струнах гусляў выводзіць старадаўнія песні пра подзвігі маладзецкія; прыходзяць у церам і смірэнныя манахі, якія чытаюць у вялізных, акаваных жалезам і серабром кнігах пра подзвігі Сімяона-столпніка, Настассі Блажэннай і іншых святых угоднікаў. Моцна задумаюцца мужы імянітыя, прымоўкнуць... але таму толькі, што краве іх адна дума — пра душу, пра мукі яе вечныя пасля смерці, пра загадкі, якія нікому са смяротных не разгадаць... Але адыходзіць манах, ціха адчытаўшы бажэсцвеннае, а назаўтра ізноў да самай поўначы гараць лучыны ў грыдніцы, і толькі паспяваюць насіць маладыя стольнікі з брэцьяніц чашы ды бочкі, глякі ды кумганы з квасам наліваюць, і грыміць слова застольнае, і пра бітвы былыя і будучыя гавораць дружыннікі, грыдні і іншыя людзі імянітыя. Расказваюць сівыя воіны пра паходы, пра замовы, якія шэпчуць над імі вядунні, калі адпраўляецца мужчына

ў далёкую дарогу, а маладыя слухаюць, і гарачыя іх рукі ўслед за старшымі нібы сціскаюць баявыя мячы. Справа воіна — паход і бітва, і няма яму мілейшай песні, як завыванне ветру ў шаломах ворагаў, што раскіданыя на крывавым полі сечы...

«Пакарыў Аляксандр пад сваю ўладу зямныя царствы,— голас дзеда Мокшы напаўняе ўсе куткі горніцы,— і пасля зайшоў на край свету і пабачыў там такія народы, што сам жахнуўся: свірэпыя болей за лютых звяроў і ядуць жывых людзей. У іншага толькі адно вока, і тое на лобе, а ў іншага і па тры вокі. У аднаго толькі адна нага, а ў іншага тры, і бегаюць яны так хутка, як ляціць з лука страла. Імёны гэтых народаў былі Гогі і Магогі. Пачаў ваяваць з імі Аляксандр: дзівія тыя народы не ўстоялі і кінуліся ад яго бегчы. Ён за імі, гнаць-гнаць, і загнаў іх у такія глухія мясціны, горы і пустэчы, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць. Звёў над імі адну гару з другою зводам, паставіў на той звод трубы і пайшоў назад. Падуюць буйныя вятры ў тыя трубы, паднімецца страшнае выццё, а дзівія народы крычаць: «О, гэта ж, відаць, сам Аляксандр! Жывы ён, жывы!» Гэтыя Гогі і Магогі і дасюль жывыя, і баяцца цара, а выйдуць з гор перад самым канцом свету...»

— Ох, няшчасце якое! — уздыхнуў стары ключнік Лоб Вязавы. — Нам яшчэ тых Гогаў і Магогаў не хапае!

Алекса і другія отракі з малодшай дружыны сабраліся пад дзвярыма горніцы, каб паслухаць казкі і песні старога дзеда Мокшы. Слаўна расказвае ён — ніколі не забудзе ўспомніць пра славу продкаў, што засялялі балоцістую, нялёгкую гэтую зямлю, баранілі яе ад ворагаў, не шкадуючы жыццяў, палівалі яе чырвонай рудой — крывёю. І колькі волатаў магутных падчас бітвы, колькі красунь і дзядоў старых прыняла яна ў сябе — тады, калі гналі іх па дарогах захопнікі, каб прадаць у далёкіх краях як нявольнікаў! А цяпер вось пра Гогаў і Магогаў расказаў — а колькі яшчэ дзівос ёсць на свеце, неспазнаных, нязведаных!

Стаяў Алекса пад дзвярыма, і сэрца ягонае білася. Эх, убачыць бы іх сапраўды, дзівосных людзей з трыма вачамі, паспрабаваць на іх меч востры! Праўда, не загавораны яшчэ ў яго меч, але, перш чым ісці супраць тых далёкіх чараўнікоў, няхай бы паляжаў ён у адвары плакун-травы. Сабраная на Іванаў дзень, скарае яна нячыстую сілу, ратуе ад д'ябальскай спакусы. А яшчэ трэба ўзяць з сабой адалень-траву — без яе ніхто не адпраўляецца ў чужую зям-

лю. І памаліцца трэба Перуну і багіне-Грамоўніцы. Канешне, лепей бы меч-кладзенец, ды толькі пастрабуй знайдзі тое месца на акіян-моры, дзе на Латыр-камні ляжыць, закаваны сямю ланцугамі, той чароўны меч...

— Эй, хлапчына! Заснуў ты, ці што? — гукнуў Алексу Лоб Вязавы. Ачомаўся хлопец — адзін стаіць ён непадалёк ад дзвярэй, усе выйшлі з пакоя, толькі ў горніцы князь і княгіня і чалядзінцы не разыходзяцца: у малодшай княжны пачаліся колікі ў грудзях, уздыхнуць не можа. Можа, сурочыў хто яе, можа, падумаў нядобрае, гледзячы на прыгажосць дзявочую. Паслалі за вучоным грэкам — многа ён ведаў, бывала, таксама чытаў з вялікай кнігі пра подзвігі багатыроў, і кнігу тую неслі за ім два малайцы, таму што была яна заключана ў дзве дубовыя дошкі, а па дошках ішло сярэбранае ліццё, па ліццю ж гэтаму яшчэ ззялі каштоўныя каменні. Але не надта слухаў тое чытанне Алекса, хаця і гаварылі ў горніцы, што напісаў кнігу вучоны грэк, Георгій Амартол: невыразна, суха чытаў лекар, і на твары ягоным была напісана нудота, нібыта рабіў ён вялікую ласку тым, што ўвогуле згаджаўся нешта тлумачыць навакольным варварам. Неўзлюбілі яго ўсе ў двары, але быў ён пад абаронай самога князя, і таму пры сустрэчы нізка кланяліся Лісістрату, а за вочы клікалі яго Лісіцай і Тхаром.

І цяпер, хутка ідучы ў князеву горніцу, надменна штурхануў ён, нават не гледзячы, Алексу, які не паспеў пастараніцца. Штурхануў — і пайшоў сабе далей, толькі прашалясцеў па жоўтых палавіцах яго белы шарсцяны з карычневай каймой плашч дзіўнага пакрою, і пасля Лісістрата застаўся пах нязвыклы, не падобны ні на што знаёмае — нібыта прагрэтая кара дуба, толькі гарчэйшая і больш духмяная.

Адышоўся Алекса пад нязлосны смех Лба Вязавага, пацёр плячо, яшчэ раз глянуў услед грэку, які ўжо зачыняў дзверы горніцы, пачуў плач малодшай княжны — і нешта пацяла яго, нядобрае, балючае, як быццам па сэрцы таксама штурхануў, ударыў высакамерны грэк. А можа, проста стала шкада, што нельга адплаціць яму ні выклікам біцца на мячах, ні кулаком добрым — так, каб ляцеў ён, збіты з ног адным ударам, і белы плашч з гэтай звілістай каймой за ім услед!

А праз нейкі час прыйшоў аднойчы ў дом князя арабскі купец Абдурахманбек. Два тыдні пражыў ён у Полацаку, і ўжо нямала дабра з прывезенага ім перайшло ў двор

самога князя і баяр імянітых — і парчы, і аксаміту, і кісяі, і тонкага кітайскага посуду — белага і зеленаватага, і серабрыстых падносаў з зіхоткімі ўзорамі. Апроч таго, прывозіў купец Абдурахманбек у Полацкае княства і зусім дзівосныя тавары — зялёную гліну, якая імгненна здымала і цела валасы, і пахкую зямлю, якою мыюцца ў лазнях, і ружовае масла, ад якога лягчэе дыханне і паляпшаецца работа страўніка, і вараныя ў мёдзе арэхі, і многае іншае, што так любяць жанчыны. Здаўна ведаў Брачыслаў вясёлага таўстуна, ахвочага да медавухі, невялікага росту, што заўсёды коціцца, як шар. Парчовы халат на ім каляровай хусткай перавязаны, на галаве доўгая белая хуста, завязаная канцамі ўверх і на галаву накручаная, на нагах — пантофлі з насамі, што ўверх загінаюцца. Заўсёды ля сябе талмача трымае, але і сам можа тавар паказаць. Толькі вось цэны за свае тавары просіць ён надта высокія. Моршчацца купцы імянітыя, баяры ды і сам казначэй княжацкі — але як жа жанчынам адмовіць, так і разгараюцца ў іх вочы на тавары невядомыя. Дый на салодкія гаворкі гандляра надта яны падкія. Гатовы днямі слухаць ягоныя расказы: як ён па магутным Дняпры свой карабель вядзе, як з разбойнікамі змагаецца. Расказвае часам Адбурахманбек і зусім неверагоднае: быццам там, дзе ён жыве, жанчына ніколі на вочы мужчыне не паказваецца іначай, як твар чорнай сеткай прыкрыўшы, а знатныя жанчыны і ўвогуле з двара не выходзяць, і жывуць свой век, толькі мужа бачачы. А жонак у мужа бывае памногу, столькі, колькі ён утрымаць можа.

— Ну дык і колькі ж ён пракорміць? — вохкаюць, слухаючы гэта, якая баярская дачка і яе нянькі.

— У вялікага шаха Харэзма болей за шэсцьсот жонак і наложніц,— адкажа весела таўстун, прагна гледзячы на тварык, што, як ружа, выглядае з-пад сярэбранага абрусчыка.— Ёсць старэйшыя, ёсць маладзейшыя жонкі, такія, як ты, ханум.

— Дык ён жа, відаць, стары? — наіўна раскрывае вочкі ханум...

— Які ж ён стары? Пяць дзесяткаў усяго налічыў. Якраз той узрост, калі мужчына па-сапраўднаму прыгажосць цэніць, вось такую, як у цябе, ханум...

Пачырванее дзяўчына ці маладая жанчына, але тварык так і свеціцца: надта любіць кожная з іх салодкія як мёд словы! Толькі мужчыны незадаволена моршчацца: ведаюць, што купец цяпер сем скур пачне драць.

Даўно не быў у княстве Полацкім Абдурахманбек, але за гэтыя гады нібы і не змяніўся, толькі патаўсцеў яшчэ болей. І калі прыйшоў ён у двор, адразу прывялі яго да Брачыслава.

— Салям алейкум! — пакланіўся купец ва ўсе бакі, і адказаў яму Брачыслаў, не чакаючы, пакуль перакладзе талмач:

— Дзень добры, дзень добры, Абдурахманбек!

І — пачакаў крыху. Ведаў — зараз пачне купец пытацца, ці здаровы ён, ці добра сябе адчувае, якія навіны ў хаце. Хаця, канешне, усё ведаў хітры Абдурахманбек, але так рабіць патрабуе ягоны звычай. Толькі самы апошні невук адразу пачне са справы, не распытаўшы гаспадара, як справы, не паказаўшы яму, што цікавяць госця ўсе ягоныя клопаты. Таму князь цярпліва адказаў на ўсе роспыты і тут жа сам пацікавіўся:

— Няўжо ты не баішся такіх далёкіх шляхоў?

— Гаспадзін мой,— схіліўся ў паклоне Абдурахманбек,— канешне, баюся. Але...

— Шмат прыбытку, праўда?

— Не, не так многа. Мы гандлюем ледзь не ва ўбытак сабе, павер...

— Не кажы! — махнуў рукою Брачыслаў.— Каб не было прыбытку, не загнаць бы вас так далёка!

— Ну, хай сабе ёсць, але ж самы маленькі...

— Я не хачу падлічваць, колькі ты маеш, павер! — Брачыслаў зняважліва скрывіўся.— Мяне цікавіць, што ты прывёз нам цяпер.

«Ну, што за варвар,— думаў, схіляючыся ў нізкім паклоне, Абдурахманбек.— Ён не разумее асалоды доўгай, няспешнай бяседы, калі словы служаць, каб песціць слых і захіляць нас у джалабу мудрасці, каб мы, бедныя людзі, не адчувалі дыханне бархута, куды, у рэшце рэшт, адпраўляцца душы многіх з нас... Але ж ён затое сапраўды Джалут — Галіаф... Нічога, трэба пацярпець. Можа, гэта дапаможа мне ў справе...»

А назаўтра княгіня і дочкі адправіліся на купецкі струг, каб паглядзець тавары, а заадно і дзівосы, якімі поўны той струг — іншаземны посуд, тканіны, якімі абцягнутыя маленькія, ледзь над зямлёю, канапкі, тоўстыя коўдры, на якіх сядзяць гэтыя людзі, замест таго, як гэта вядзецца ва ўсіх іншых народаў, сядзець на крэслах, каб не прадзьмула...

А вяртаючыся са струга, аступілася княгіня на лесвіцы,

што пралажылі паміж стругам і прыстанню, аступілася і цяжка ўпала ў ваду. І амаль тут жа вялікая хваля — не іначай, падаслаў яе нячысцік! — скалыхнула струг, і ён бы, раздавіў княгіню, каб не кінуўся ўслед за ёю купэўна, раздавіў княгіню, каб не кінуўся ўслед за ёю купец — у тым, чым стаяў, і, не ўпёршыся тоўстымі, жылістымі рукамі — адною ў прыстань, а другою у струг, не ўтрымаў яго на тыя некалькі хвілін, праз якія сыпанулі ў ваду дружыннікі і варта...

Белую, як мука, у непрытомнасці, княгіню выцягнулі і тут жа, паклаўшы на насілкі, подбегам панеслі ў церам, а наперадзе бег отрак, каб папярэдзіць лекара. Купец жа сам вылез на бераг, цяжка крэхчучы, а акрываўленыя яго рукі слугі тут жа памазалі жоўтаю маззю, якую купец, як і зброю, заўсёды вазіў з сабою.

Назаўтра Абдурахманбек быў званы на ўрачысты прыём да полацкага князя.

Нізка пакланіўся яму князь Брачыслаў, пасадзіў побач з сабою. Распытваў пра дом і жыццё, пра незнаёмыя землі, адкуль прыехаў купец. Дзякаваў за дапамогу і дзівіўся, адкуль у яго ўзялася такая сіла, каб спыніць струг?

— На дапамогу мне, я мяркую, прыйшоў мудры Джырджыс,— кланяючыся, адказваў Абдурахман і пачаў ціха мармытаць нешта.

Талмач растлумачыў:

— Джырджыс — гэта Георгій-Перамаганосец. І яшчэ слаўны бек моліцца, каб прыйшлі на дапамогу мудры Георгій і Джыбрыл, ці, як кажуць арабы, Рух-ал-Кудс, бо яны вельмі часта дапамагаюць яму... Епіскап, які стаяў каля Брачыслава, насцярожыўся:

— Каб не было якой бяды... Добра, што кліча купец на дапамогу святога Георгія, але другі, як там яго... Джыбрыл? Ці не злы гэта дух?

— У вас Руха-ал-Кудса называюць святым Гаўрыілам,— талмач позіркам пашукаў іконы.

— Што ж гэта — у іх тыя ж святыя, што і ў нас? А мы ж іх нячыстымі лічым? — звярнуўся Брачыслаў да епіскапа.

— Затое ў нас гаворадь пра вас — няверныя,— не вытрымаў талмач.— А я так думаю, што ўсе людзі пайшлі ад Кабіла і Хабіла, ці Каіна і Авеля па-вашаму, і розніца толькі ў тым, што жывуць яны ў розных мясцінах, ад таго і звычаі сталі розныя...

— Я папрашу аб дапамозе яшчэ і Бібі-фаціму і Амбар-

ону — абедзве яны дапамагаюць жанчынам. Хай жонка хакана хутчэй выздараўлівае.

І сядзеў Абдурахманбек на піры, і многа еў, адно толькі не мог узяць — марынаваных грыбоў, якія назваў, захмялеўшы, слізкімі, як піяўкі. Дзівіліся людзі полацкія таму, але жахнуліся, калі сказаў купец, што ў сябе дома пачастуе ён гасцей вачамі барана, варанымі ў малацэ.

— У кожнай зямлі свае звычкі,— сказаў князь сурова; усе змоўклі. І доўга яшчэ — праз талмача — расказваў араб пра далёкія землі, адкуль прыехаў.

Маленькая Гардзіслава глядзела вялікімі спалоханымі вачыма на смуглявы шырокі твар з чорнай барадой, на пульхны палец і на дзівосны камень. Не ведала яна, а пра гэта таксама расказаў пасля Абдурахман, што рабіў пярсцёнак вялікі майстра, думаючы пра недаступную яму дзяўчыну, і закляў камень-гранат словамі паэта Абу Ахмеда Мансура ібн Мухамеда, суддзі горада Герата, што памёр ад кахання: «Як ты прыцягнула маё сэрца, так не змог бы прыцягнуць гранат саломіну». Валодае гранат таямнічай сілай прыцягваць да сябе прадметы і гэтак жа прыцягваць сэрца каханай. Але не хапіла ў ювеліра грошай на калым, і жаніўся ён толькі ў сталыя гады — на другой. А пярсцёнак, які ён зрабіў для каханай, пайшоў гуляць па свеце, і вось ён на руцэ Абдурахмана, а дасюль ззяў сваім таямнічым святлом пад іншым сонцам, перад іншымі вачыма...

А ў канцы піру сказаў Брачыслаў:

— Аддару цябе шчодра за маю княгіню!

І прынеслі ў палаты багацці вялікія: мядзведжыя, воўчыя і вавёрчыны шкуркі, і сабалёў, і вострую зброю. Але Абдурахманбек адмовіўся і папрасіў аднаго — маладую дзяўчыну, што нядаўна прадстаўляла на свяце маладога славянскага бога — Ярылу.

— Хто гэта? — зашапталіся вакол.

— Дачка ўдавы Катуніхі,— адказаў Абдурахман. Не адкрыў ён князю, што быў на паганскім свяце, дзе ўгледзеў прыгожую славянку з празрыстым тварам і сінімі вачыма — сінімі, як бадахшанскі лазурыт. Узгарэлася ў ім сэрца. Ведаў купец толк у жанчынах, а перад ім была жамчужына, вартая гарэма самога султана! Дорага можна было і прадаць яе, калі падакучыць. Але не ўдалося яму купіць дзяўчыну.

Хаця і бедная была ўдава, прадаць дачку адмовілася і яшчэ ў дадатак абняславіла гасцей — брудным венікам

выганяла з хаты Абдурахманбека і ягонага талмача, бо былі яны настойлівыя і нізавошта не хацелі адыходзіць проста так, не дамовіўшыся, не купіўшы. А як іначай узяць прыгажуню? Абвянчацца з ёю не мог купец, бо, калі б стала вядома, што хаця на момант аддаў ён душу няверным, пайшоў у царкву, адмовіўся ад волі алаха і прарока яго — Мухамеда, не жыць бы яму ў сваім утульным, вялізным доме з садзікам, дзе вясною так казачна прыгожа цвітуць персікі і абрыкосы, а шматлікая гайня абслужніц гатовая выканаць кожны ягоны рух... Гандляваць з няверными можна, але кожны раз, прыехаўшы ад іх, трэба ісці да мулы, каб наклаў ён ачышчальныя абрады і добра адмаліў грахі. А тут мулы — няма. Дый ёсць у яго ўжо чатыры жонкі і колькі наложніц. Прасіў ён, нізка кланяючыся, аддаць яму тую дзяўчыну.

Брачыслаў павагаўся крыху, але згадзіўся пасласць да Катунісі людзей [redacted] наказам — купіць дзяўчыну для яго, князя Брачыслава.

Павагаўся — таму што хаця і цяпер яшчэ ездзілі і ў Кіеў, і ў Ноўгарад, і ў Полацак «дзеўкі купіці»,— і свейскія купцы, і купцы з Доні (Даніі), з зямель мусульманскіх, і самі купцы полацкія адвозілі яшчэ, разам з мехам сабалёў і куніц, у булгарскую сталіцу на Іцілі (Волзе) дзяўчат з навакольных зямель, рабілі гэта ўжо патаемна: епіскап кіеўскі і полацкі і свяшчэннікі ў сваіх казанях гнеўна супраціўляліся паганскаму звычаю, вучылі, што ёсць ва ўсякай істоты жывая душа і нікому не дазволена распараджацца ёю, апроч гаспадзіна зямнога — князя ды ўладара нябеснага. Наўрад ці ўдалося б цяпер Абдурахману ўзяць якую дзяўчыну баярскую ці дачок людзей імянітых ці старцаў градскіх — не стаў бы Брачыслаў крыўдзіць так сваіх людзей, хаця ўладарыў у Полацаку шмат гадоў самаўладна. Але як адмовіць госцю, што выратаваў жонку, калі хочацца яму простую дзяўчыну, дачку беднай удавы? А між тым удава гэтая, хаця і была беднаю, не мела нідзе пазыкі, не пазычала ні кун, ні іншай маёмасці, і нельга было прадаць яе ў рабства за доўг, як рабілі гэта паўсюдна са сваімі непакорнымі людзьмі баяры і тысяцкія. Затое за ганьбу павінна будзе заплаціць Катуніха госцю заморскаму грыўню серабром. І з тым наказам памчаўся на Вадзяную вуліцу пасаднік Лось, а праз нейкі час ён прывёз дзяўчыну, але ў падранай сарочцы і з распушчанымі валасамі, таму што ўдава Катуніха не толькі не аддала пасадніку грыўню, але абазвала яго ўсялякімі слова-

мі і плюнула ў твар, а дзяўчына вырывалася ад яго і не жадала слухаць ніякіх загадаў, хаця і паслаў за ёю сам вялікі князь. Моцна разгневаўся Брачыслаў, загадаў, каб высеклі добра ўдаву, але адказаў яму пасаднік, што ўсё гэта ўжо зроблена і цяпер сядзіць яна ў пограбе княжацкім, як рабыня, а маёмасць яе скудная ўся забраная ў казну як плата за ганьбу купцу іншаземнаму. Хацеў князь учыніць добрую навуку і дачцэ ўдавы, але чакаў узрадаваны Абдурахманбек, і таму было загадана толькі як след адмыць яе і апрануць у добрае адзенне, і калі зайшла прыгажуня ў горніцу, усе застылі і пазайздросцілі-такі купцу, які выглядзеў яе — і дзе, на Дзвінай горцы, куды ходзяць людзі чорныя, простыя!

Позна вярнуўся з палюддзя малады князь Усяслаў з малодшаю сваёй дружынаю. Пакуль мыліся ў лазні, пакінуўшы Лазніку мятлу, ваду ды чорную курыцу ў ахвяру, каб не палохаў пасля слабых духам, пакуль пілі квас ды садзіліся ў сенніцы вячэраць — адна за адной згаслі жоўтыя, цьмяныя агеньчыкі ў полацкіх хатах і дварах. Смеючыся, жартуючы, садзіліся потныя, расчырванелыя грыдні за вячэру, з маладою прагнасцю аглядалі стол, дзе ляжалі на вялікіх драўляных талерах кавалкі свежаніны і рыбы, пасмажанай, пакуль дружыннікі мыліся ў лазні, белыя трохкутнікі сыру, мочаны гарох, карычневыя боханы хлеба, булкі, памазаныя перад выпечкай яйкам — так блішчалі іх жоўтыя бакі. А між талерамі стаялі каляровыя, распісаныя кінаварам, шафранам ці сажай драўляныя сасуды з квасам, пенілася брага, востра пахнучы мёдам і духмянымі зёлкамі, і пустыя жоўтыя брацiны з разьбянымі ручкамі стаялі ўздоўж сталоў.

Тады і нахіліўся над Алексам стольнік Мікіта і сказаў ціха:

— Ці не тваю гэта красуню ўчора купцу басурманскаму аддалі?

— Што? — не зразумеў адразу Алекса, але ўсё схаладнела ў яго ўнутры і як чорная маланка ў вачах успыхнула.

— Кажу табе — тваю, відаць, дзеўку аддаў учора князь як адплату за вратаванне жонкі. Няўжо нічога не ведаеш?

А калі Алекса адмоўна хітнуў галавою, ціха дадаў:

— Пасля раскажу, а то вунь, бачыш, ужо няўсцерп ім!

Сапраўды, некалькі грыдняў ужо крычалі, патрабуючы піва, і стольнік хуценька паставіў на стол бочак, пабег за другім.

Алекса ж усю вячэру праседзеў, не кранаючы нічога з ежы, толькі піў і піў адну за адной бражніцы прахалоднага квасу. А пасля вячэры, калі пачуў, як усё адбылося, пахіснуўся, сеў на лаву, ашчаперыўшы галаву рукамі.

— Дзе яна? — глуха спытаў у стольніка, моцна сціснуўшы ягоную руку. Той, стоячы насупраць, паправіў рукаў сіняга суконнага каптана, страсянуў доўгімі русымі кудзерамі:

— Браце ты мой, нашто табе тое ведаць? Для цябе ўсё роўна што той купец, што Карачун забраў яе.

— Дзе яна, кажу! — закрычаў хлопец і, ускочыўшы, аберуч схапіў стольніка за плечы.— Кажы, а то адразу дух вон!

— Не раві, бык ты,— злосна ашчэрыўся Мікіта.— Дабра чалавеку хочаш, а ён вунь табе — новы каптан ледзь не парваў. Ну, скажу я, дык што з гэтага? На тым падвор'і яна, што каля самага вымалу. Заўтра карабель ладзяць, заўтра той Абдурахман ад'язджае. Куды ты! — закрычаў ён ужо ў спіну Алексу.— Цябе ж усё роўна не выпусцяць ноччу, шаленец ты, бешанец!

Але Алекса ўжо выслізнуў за дзверы, пабег на двары, хапаючы ротам астуджанае к начы паветра. Але не паспеў ён прабегчы некалькіх соцен метраў, як пачуў голас начальніка каравула Адзінца:

— Гэй, хто там? Стой!

Алекса спыніўся, каравульныя наблізіліся да яго.

— Ты гэта, хлопец? — здзіўлена сказаў Адзінец.— Чаго і куды ляціш, як на злом галавы?

— Маці... маці ў мяне... захварэла...— ледзь выціснуў з сябе Алекса. Нешта душыла яго, не давала сказаць ні слова, але гаварыць трэба было, трэба было прасіць, каб выпусцілі яго адсюль, бо інакш... Інакш ён скочыць наперад і разаб'е сабе галаву аб вострыя канцы агароджы, акаваныя жалезам.

— Маці? — яшчэ болей здзівіўся Адзінец.— Хто ж табе сказаў пра гэта? Ніхто сюды не заходзіў з чужых, мы нічога не ведаем.

— Хто? — разгублена перапытаў Алекса, спрабуючы ўцяміць, што адказаць. Не быў гатовы ён да пытанняў, наогул не быў гатовы ■ кім-небудзь гаварыць. Адна думка нясцерпна калола яго, свідравала сэрца: «Хутчэй! Туды, пакуль не позна! Пакуль не позна!»

— Э-э, отрак, нешта ты блытаеш,— недаверліва працягнуў Адзінец, і другі каравульны згодна кіўнуў гала-

вой.— Нешта тут не так. А я вось зараз затрымаю цябе і назад адвяду. А то ты, можа, зладзейства якое ў двары ўчыніў. Вунь у цябе вочы як бегаюць і твар пабялеў...

Ён блізка паднёс смаляк да твару Алексы.

— Не! Я не рабіў... ніякага зладзейства... Мне трэба, трэба выйсці, разумееце? Трэба!

— Не, даражэнькі, нікуды ты не выйдзеш, а пойдзеш з намі назад. Калі ні ў чым не вінны — пасядзіш трохі, ахалонеш. Можа, задумаў што нядобрае. Пайшлі!

Ён паправіў меч у похвах, штурхануў Алексу.

— Пайшлі!

Усё было скончана. Яго не выпусцілі, адводзяць назад, а заўтра з самага ранку карабель распусціць белыя ветразі і панясе некуды ў невядомую далеч, на здзек, можа, на смерць — Яе... Ён неяк бачыў купца, і думка, што сёння яна там, можа, у абдымках гэтага ільснянага, чорнабародага таўстуна, выклікала ў ім пякучы боль. І шаленства. Ён, воін, які ўмее валодаць зброяй лепей за многіх, ён, хто не раз біўся ў крывавых сечах, не можа абараніць тое, што яму стала — цяпер ён зразумеў гэта! — даражэй за жыццё! Які ж ён воін? Які ж ён мужчына? Так, сапраўды, отрак, усяго толькі слабы отрак ён, калі не зможа вызваліць яе, узабрацца па тоўстых сценах, абхітрыць альбо перамагчы варту.

І, ужо падыходзячы да ганка, ён раптоўна вывернуўся, скочыў убок, затым са страшнай сілай нанёс удар Адзінцу — ён цэліў у самы ніз падбародка, туды, дзе ўдар такой сілы выклікае непрытомнасць і страту памяці на невялікі час, а пасля, калі Адзінец упаў, кінуўся на другога каравульнага. Той, ашаломлены нечаканасцю, усё ж змог падабрацца, адскочыць ад Алексы, а той, раз'ятраны і амаль сляпы ад ярасці, выхапіў у каравульнага дзіду і з такой сілай уваткнуў яе ў нагу, што нібы вялізным цвіком прыбіў свайго ворага да зямлі. Той заенчыў, схапіўшыся абедзвюч за дзіду, а Алекса некалькімі агромністымі скачкамі дабег да агароджы, перамахнуў праз яе, падцягнуўшыся да самага верху спрытна, як вялізная кошка, і начная цемра схавала яго. Дарэмна наскакалі амаль услед па вуліцах дзядзінца коннікі з дзідамі наперавес, нібы гонячыся за небяспечным злачынцам — збраяносца не было нідзе.

Але глыбокай ноччу пасадніка полацкага разбудзілі нечаканым паведамленнем: дружыннік княжыча Усяслава напаў на гасцей полацкіх, немцаў з Доні, і задумаў, відаць,

нядобрае, бо заўтра збіраліся яны вяртацца дадому з вялікім набыткам серабра і золата, добра нагандляваўшы ў слаўным Полацаку. Але злачынец той Алекса ні ў чым не прызнаецца, чаму пасаджаны ў поруб і закаваны ў жалеза. Сказаў моцна разгневаны пасаднік прадстаўніку купцоў, што заўтра ж выплацяць ім за бясчэсце і страх палажаны штраф, а злопамысніка будзе судзіць князь, і судзіць строга, бо не бывала яшчэ такога, каб дружыннік займаўся разбоем.

На світанні, толькі расплюшчыў вочы княжыч, перадалі яму вестку аб учынку Алексы, і тады, не верачы ўсяму, што адбылося ноччу на Купецкім падвор'і, сабраў ён чаляднікаў і варту і ўчыніў ім допыт. Данеслі перапалоханыя чалядзінцы пра нядоўгую размову Алексы і стольніка Мікіты, і тады зразумеў Усяслаў, што не разбоем займаўся на Купецкім падвор'і яго збраяносец. Але віна яго ад таго не змяншалася: смерцю павінен быў пакараць Брачыслаў калі не за разбой на Купецкім двары, дык за тое, што запярэчыў Алекса ягонаму рашэнню. І ўсё ж наважыўся Усяслаў прасіць за свайго дружынніка, для чаго загадаў падаць яму разьбяны ларэц і задумаўся, гледзячы ў яго. Разумеў, што наўрад ці ўступіць арабскі купец дзяўчыну, якую ўпадабаў, але ж усё-ткі гандляр ён, прывык усяму ведаць і назначаць цану... Таму, не чакаючы, пакуль прачнецца бацька, паскакаў Усяслаў разам з трыма грыднямі на Купецкае падвор'е — прасіць Абдурахман-бека.

Сонны, нявыспаны купец, паспешліва папраўляючы наспех завязаную чалму, кланяўся да зямлі, паказваючы атлустую спіну ў бліскучым халаце, выказваў княжычу павагу і пашану, але аддаваць назад дзяўчыну адмовіўся наадрэз.

— Хай мудры і вялікі Усяслаў і яго бацька тут жа ахутаюць мяне покрывам смерці, але тады траплю я ў Джанна, рай,— таропка перакладаў талмач.— А калі аддам жанчыну, чые вусны могуць падарыць мне асалоду раю, чые вейкі пранізалі мне сэрца тысячай стрэлаў — паганым сабакам я стану, і душу маю адправяць прама ў Джаханнам — пекла.

— Ты ведаеш: мы, крывічы, упарты народ, і таму я прашу цябе яшчэ раз — вярні нам дзяўчыну. З-за яе чалавек, якому я абавязаны жыццём, зняславіў сябе, набыў кляймо злодзея. Мы заплацім вам за ганьбу, але ведай — ён не рабаваць сюды прыйшоў уначы, ён хацеў яе забраць і

біцца з табою як воін з воінам, бо ты, Абдурахман, як вядома мне, яшчэ і добры воін, добра валодаеш нажом,— гнуў сваё Усяслаў, спрабуючы гаварыць ветліва, але лоб яго ўсё моршчыла вялікая складка.— Лепей бы вы тут забілі яго, бо воіну набыць славу рабаўніка — усё роўна што памерці. Прадай яе мне! Мне, княжычу! Назначай любую цану! У нас многа дзяўчат, мы знойдзем яшчэ лепшую за яе!

Але Абдурахманбек адмоўна заківаў галавой, і княжыч упершыню ўбачыў у яго́ных зрэнках сталёвы бляск.

— Калі б ты прыйшоў да мяне там,— ён торкнуў галавой некуды назад,— і стаў прасіць аддаць жонку або любую жанчыну, якую люблю, я адплаціў бы за ганьбу толькі адным — тваёй крывёю. Але я тут, у цябе ў гасцях, і ты можаш паказаць сябе добрым гаспадаром толькі так — не патрабуй у госця таго, што ён не можа табе даць. Калі яна надакучыць мне — я аддам яе першаму, хто трапіць на дарозе. Калі яна страціць прыгажосць — яна стане мыць ногі ў маёй наступнай наложніцы. Але заўсёды мужчына распараджаецца жанчынай па сваёй ахвоце, па свайму жаданню. Да таго ж — ці не пакрыўджу я твайго бацьку,— хай надоўга зберажэ яго Алах! — тым, што адмоўлюся ад ягонага падарунка? Як ты думаеш, мудры княжыч Усяслаў?

На імгненне ў княжыча ўзнікла жаданне — выхапіць кароткі меч і... Але ён тут жа апусціў вочы, і гарачая чырвань заліла твар: нават падумаць недастойна, што можна пакрыўдзіць госця, які да таго ж дапамог ім, выратаваў маці. Адплаціць няўдзячнасцю за дабрыню, адабраць назад падараваную бацькам дзеўку-агнішчанку, нават проста прасіць яе назад — ганьба! Ах, гарачая кроў закіпела ў ім, забурліла, калі рашыўся сюды ехаць! Навошта? І так калі даведаецца бацька пра ягоны ўчынак, то не пахваліць, а сурова ссуне бровы, кіне: «Нягожа такое рабіць князям полацкім!» Але ж хацелася выручыць Алексу, адзінага са сваіх равеснікаў, якога бачыў роўным сабе. На кароткі момант уявіў невысокую каржакаватую постаць юнака, яго чыстыя сінія вочы, доўгія русыя пасмы — што за шаленства ахапіла яго, калі рашыўся на такое — сілай адбіваць падараваную самім князем дзяўчыну? Пярун, відаць, азмрочыў ягоны розум ці, можа, разгневаліся старыя багі, што не за сваёй справай, не за тым, што наканавана лёсам, пайшоў ён? Таму што кожны павінен рабіць тое, на што сама здатны — хто араць поле, хто разво-

дзіць фарбы і асцярожна малÿваць на сценах загадкавыя твары святых, хто сядзець дома і гандляваць... Алекса быў воем, яго можна было ўявіць толькі на полі сечы, толькі з дзідай ці мячом у руцэ, і нават кальчуга абвівала яго цела асабліва ладна і зграбна. Але Пярун пазбавіў хлопца розуму — і цяпер трэба было ратаваць яго, несці ахвяру багам, асабліва ёй — вечна зменлівай і нядобрай Мары, якая губіць людзей прывідам нязбытнага, якая насылае на іх морак зусім гэтак жа, як насылаюць зман і вабяць цяплом далёкага ачага страшныя балотныя агні, зацягваючы падарожнікаў у багну...

Ён узняўся з мяккага дывана, на якім сядзеў — каляровыя падушкі разляцеліся ва ўсе бакі, талмач кінуўся іх падбіраць — і сказаў, стараючыся, каб голас яго гучаў весела:

— Ну што ж, гандлёвы госць Абдурахманбек! Не хочаш — справа твая. Але ў знак сяброўства і як просьбу забыць мае словы [redacted] хачу падарыць табе тое, чаго ты не ўзяў за дзяўчыну. Вазьмі ж гэта проста ў знак пашаны!

Ён абярнуўся. Дружыннік пачціва нахіліўся, выбег за дзверы. Пасля вярнуўся з вялікім стосам пушыстых лісіных і сабалёвых шкурак, страсянуў, падаў князю. Мякка заззяў у аконным святле ільсняны мех, пераліваючыся чорным, шэрым, белым. Абдурахманбек не змог схаваць задаволенасці, ён нахіліўся ў паклоне, пагладзіў чорную бараду, [redacted] годнасцю прыняў падарунак. І тут жа шчоўкнуў пальцамі, а калі з суседняга пакоя выбег смуглявы слуга ў паласатым халаце і чорнай пляскатай шапачцы з вышыванымі ўзорамі, нешта сказаў яму, і той, спяшаючыся, таксама пабег назад і вярнуўся з сінявaтай чашай, на якой былі намаляваныя золатам прыхаматлівыя звяры і птушкі. У чашы ляжалі сярэбраныя, з чарнёнымі ўзорамі маністы.

— Гэта — фарфоравая чаша з далёкага Чына, дзе на палях расце жамчужнае зерне, што дае людзям сілу, і дзе ёсць многа іншых дзівосаў, якім не знаходзіць тлумачэння чалавечы розум,— пераклаў талмач.

Чаша была нечакана лёгкай. Тонкім рабром адной з манет, што былі ў маністах, гандлёвы госць стукнуў па ёй, і сінявaтая празрыстая паверхня нібы заспявала, тоненькі меладычны гук панёсся па пакоі, пасля, як дакнуўшыся да нечага, змоўк.

— А гэта вось,— дастаў купец маністы,— перадай свайму сябру ці слузе — хай не захлісне яго горла пятля тугі! — каб ён суцешыўся і выбраў сабе іншую перы, бо ён,

як ты казаў, малады і дужы, і ён сустрэне нямала прыгажунь. Я ж чалавек ужо немалады, і таму асабліва даражу ўсім, што хоць трохі саграе сэрца ці душу, усім, што дае асалоду. Таму пачціва прашу мяне даравань і за тое прыпадаю да тваіх ног, прашу, каб ты выцер мой твар крысом тваёй міласэрнасці, а іменна — не чакаючы суда князя, хачу выехаць у мой далёкі край. Зараз у вашай царкве Багародзіцы ў прысутнасці сведкаў — купцоў з Фрысландыі і Англіі, а таксама з Рыгі — я запэўню цябе, што не маю нічога да беднага маладога джыгіта, чые вочы затуманіла каханне. О, мы, арабы, умеем цаніць каханне, нездарма нашы паэты так многа пішуць пра яго!

Прахалодная чаша ў руках Усяслава цяплела, нібы кроў, што бушавала ў ім, перадавала сваё цяпло ў тонкую празрыстую паверхню. Дзе, у якіх краях рабілі яе, як маглі давезці гэтае дзіва, што здаецца, пульсавала і спявала ў ягоных руках, да далёкіх суровых берагоў Полаччыны? Не разбіўшы, не паламаўшы, не знішчыўшы тонкага сярэбранага спеву? На імгненне туга сціснула яму горла — туга па далёкіх, нязведаных землях, якія ён хутчэй за ўсё ніколі не ўбачыць, таму што лёс наканаваў яму жыць тут, абараняючы гэтую зямлю, аберагаючы яе, ён вучыцца гэтаму змалку і да скону будзе рабіць гэта. Можа, давядзецца калі паехаць ў Цар-горад, у Візантыю, але наўрад ці ўбачыць яму калі-небудзь той загадкавы Чын і той край, дзе дасюль сядзяць, зачыненыя Аляксандрам, страшныя Гогі і Магогі! Але апамятаўся, падзякаваў купцу, толькі не згадзіўся выслухаць разам з фрысландскімі і рыжскімі гандлёвымі людзьмі адмову ад судовага праследвання Алексы. Сказаў, што займаецца гэтым сам бацька, і можна зрабіць гэта зараз жа, паехаўшы ў княжацкі церам, дзе, напэўна, яшчэ снедае князь...

Раніца толькі ўставала, калі ён выйшаў з драўлянага дома Купецкага падвор'я, але насустрач ужо везлі і неслі тавары, кіруючыся на рынак, што знаходзіўся ля дзядзінца. Рыжскія і гатланскія купцы ў кароткіх шчыльных штанах і мехавых каптанах, апаясаныя ўзорнымі паясамі, наўгародцы і кіяўляне ў корзнах, з-пад якіх выглядаюць белыя сарочкі, у высокіх шапках, чорныя клабукі ў сініх халатах, ляхі ў кароткіх кальчугах спяшаліся наперад,— і ў кожнага за поясам тырчыць меч альбо ў похвах — кінжал. Нялёгкае жыццё купецкае, вечна трывожыцца гандлёвы чалавек за маёмасць сваю, адтаго і не расстаецца са зброяй, хаця паўсюдна ў славянскіх гарадах — Кіеве, Ноў-

гарадзе, Полацаку, Менеску, Віцьбеску — аберагаюць гасцей заморскіх суровыя законы і дагаворы. Ведаюць купцы: калі хто пакрыўдзіць іх словам — заплаціць грыўню серабром, калі ж дойдзе справа да рукабіцця — за кожны выбіты зуб тры грыўні, за пашкоджанае цела — ажно да пяці. Калі ж заб'е сам купец вольнага полацкага чалавека — заплаціць дзесяць і болей грыўняў, за халопа — усяго адну... Калі ж юр разбярэ купца іншаземнага і застане муж полацкі яго ў жонкі сваёй — возьме за крыўду і ганьбу таксама дзесяць грыўняў серабра, а калі той звяжа мужа разгневанага — заплаціць дванаццаць грыўняў старымі кунамі... Усё дамоўлена дагаворам, нават калі пад хмелем сарве купец іншаземны з галавы якой мілай дзяўчыны ці жанчыны хустку ці павойнік...

Кожную раніцу ажывае купецкае падвор'е — і вязуць мёд і палотны, дзёгаць і мяхі, воск і рыбу, а прывозяць таксама безліч тавараў. Таму ляжаць у княжацкай казне дэнарыі і пфенінгі, пенні і дырхемы, а яшчэ злiткі срэбра, пярсцёнкі, крыштальныя каралі — кожная з іх па цане адпавядае адной куне, альбо тром нагатам, альбо кіеўскаму меднаму срэбраніку.

Ехаў малады Усяслаў да поруба, дзе сядзеў Алекса, і бачыў, як паступова напаўняюцца полацкія вуліцы народам. І кожны ідзе ці едзе па справе, а каля паўзямлянак, якія выразае простая чадзь прама ў зямлі і дзе сцены абшытыя дрэвам ці абмазаныя глінай, туды-сюды бегаюць жанчыны, несучы ў хату то бярэмцы дроў, то вядро з сырадоем, то лучыну. Далей, дзе пачнецца дзядзінец, хаты большыя, багацейшыя — рубленыя з бярвення, з істопкамі, з клеццю, і вокны ў іх не валаковыя, што завалокваюцца ў халады дошкамі, а слюдзяныя, а то і шкляныя, а каля іх мітусяцца ўжо не самі гаспадыні, а тая ж простая чадзь — халопы, і калі мільгане ў аконцы, расчыненым насцеж, жаночая галоўка, то не-не ды і выбліснe на сонцы то залаты абручык, то сярэбраны бранзалет, а то шкляныя пацеркі на стройнай шыі. Едзе, не спяшаючыся, Усяслаў, і нібы ўпершыню бачыць свой горад, і глядзіць на дзяўчат, што выглядаюць у вокны, і дзівіцца ўсё болей смеласці маладога дружынніка, пачуццю, якое штурхнула на адчайны, незвычайны для яго ўчынак.

Калі вывелі з поруба Алексу, княжыч не адразу пазнаў яго — русыя валасы зліпліся на галаве ў крывавы камяк, адзенне парванае, з-пад карзна выглядае голае цела. Парваныя і порты, а на целе пісягі і сляды зубоў сабачых.

Перахапіў Алекса позірк, засаромеўся, паспрабаваў нацягнуць порты на барвовыя пісягі.

— Сабакі парвалі?

— Яны,— панура адказаў Алекса.

— Дурань! — ускіпеў Усяслаў.— Мне не мог сказаць хаця б слова адно!

— Позна ўжо было.

— А раней што? Раней не мог! Бабнік ты, дзярмо сабачае! А калі ўзяўся красці дзяўчыну, то трэба было з розумам рабіць тое! Гэта каб лепшы мой лучнік такім валацугам стаяў перад сваім князем? Ды цябе і сапраўды варта да смерці лазінамі засячы!

— Сячыце.

— І засёк бы, клянуся Перуном, засёк бы! Сам, сваімі рукамі! Але ж цябе і так вунь як парвалі. Ну, а ты?

— Трое кнехтаў я палажыў,— гэтак жа панура адказаў Алекса.— Ды там яшчэ чацвёра ганчакоў было. Я спачатку выгледзеў — адзін быў відзён, я яго і прышыў стралой, думаў — усё, цяпер прайду...

Ён ужо, відаць, падрыхтаваўся да смерці, таму што сінія яго вочы былі цьмяныя і голас быў адрачоны, нібыта гаварыў не сваім голасам, а голасам аднекуль здалёку. І Усяслаў, успомніўшы, як слаўна валодаў мячом хлопец пад Ноўгарадам, яшчэ раз падзівіўся магутнай сіле невядомага яму пачуцця...

Заступніцтва князевага сына і клятва не трымаць на Полацак крыўды, якую ў прысутнасці іншаземных гасцей усё-ткі даў купец Абдурахманбек, выратавалі Алексу. Яго секлі лазінамі на гарадской плошчы, але не засеклі да смерці, а пасля, як зажылі раны, зноў узялі на княжацкі двор у малодшую дружыну княжыча. Ён прыняў падарунак купца — сярэбраныя маністы, заўсёды насіў іх на шыі, і часам сярэбраныя дырхемы ціхенька пазвоньвалі, калі нёс яго па вуліцах разам з іншымі дружыннікамі магутны віхор маладосці.

Усяслаў неяк пажартаваў:

— Не знайшоў сабе ладу, на якую надзенеш маністы?

Алекса, адводзячы вочы ўбок, глуха сказаў:

— Я на купца сам яго надзену.

— А можа, ён ніколі болей не прыедзе ў Полацак?

— Прыедзе. Вятры яго сюды прынясуць...— загадкава, усё адводзячы позірк убок, прамармытаў Алекса і болей, як ні жартаваў Усяслаў, выведваючы, што ў яго на душы, не сказаў анічога.

Падыходзіла лета, гарачае, вогненнае. Прывозілі ў Полацак весткі, што, як некалькі дзесяцігоддзяў назад, засуха высушыла стэпы, што новыя ворагі з'явіліся на паўднёвых граніцах княстваў, ворагаў тых фрызцы і рыжане называюць каманамі, а кіяўляне завуць іх за светлы колер валасоў полаўцамі, і ідзе тое слова ад паловы — рублёнай саломы, да якой падобныя галовы тых полаўцаў. Ужо прыходзілі яны ў Прыдняпроўе, рубіліся моцна і воінамі паказалі сябе добрымі. Амяцежаныя тымі весткамі кіяўляне.

Спелі буйныя ягады суніцы ў навакольных лясах і кадоўбцамі неслі іх у горад; цёплы вецер уздымаў пыл на дальніх вуліцах Полацака, нёс яго на брукаванцы, варушыў косы дзяўчат. Па начах успыхвалі далёка над Дзвіною заранкі, цвіло жыта і вызвоньвала за сценамі горада, дзе-нідзе падступаючы пад бервяныя сцены, проса. Хадзілі па хатах, зрываючы з паліц паганскіх багоў і сякерамі рубячы іх у дварах, дружыннікі разам з соцкімі. Там-сям плакалі людзі пры гэтым, а мужчыны падчас лаяліся — дрэнныя, слабыя тыя багі, калі не могуць яны абараніць сябе — ні Пярун, ні ахоўнік свойскай жывёлы Волас, ні Макоша, ні Мара, ні сам Род з парадзіхамі... Але ўсё роўна заставаліся па хатах і дамавік — старэнькі дзядуля з чырвонымі вочкамі, якому штогод трэба было ахвяраваць чорную курыцу, і Анчутка — лятун-чарцяня, што любіць падражніць гаспадароў, паздзекавацца з іх, і таму ніколі не называюць яго прама, а клічуць «рагавым» і «бяспятым», а ў рэчцы ці возеры не пераводзіліся берагіні, а ў лесе жыў лесавік. І колькі ні свянцілі нячыстыя мясціны, колькі ні чытана было малітваў-закляццяў, усё роўна прыносілі палачане і на бераг, і на Валоўю гару пірагі, стужкі, сыр і мёд. Стужкі вешалі на галіны дубоў, што шырока раскінулі свае стогадовыя галіны над гарою, а ўнізе клалі падарункі і ахвяры.

У Ноўгарадзе прымяраліся будаваць каменную Сафію, купцы сварыліся з-за падрадаў, ва ўсіх цэрквах ішоў збор ахвяраванняў. У Кіеве Яраслаў раздумваў, як наладзіць адносіны з непакорным Брачыславам, і, аддаючы яму Віцьбеск і Усвят, утрымаў вярхоўе Дзвіны і Таропу, дзе пасля ўзнікла княства Тарапецкае, што прымыкала да Смаленскага. Полацак рос і пашыраўся, у прадмесці — Бельчыцах — толькі што адкрылі новы манастыр, і здзіўлена перадавалі з вуснаў у вусны, што драўляная царква манастыра прыўкрашана «вельмі пышна», і золатам свецяцца зусім новенькія, прывезеныя з Царграда кадзільніцы, і

вадаасвятная чаша, і панагія, і ладаніца; што князь Брачыслаў ахвяраваў манастыру перламутравы крыж з жамчугом і рознымі дарагімі каменнямі, а княгіня — ікону з каштоўным акладам.

Аднойчы, калі добра сцямнела на полацкіх вуліцах і пах начных кветак стаў асабліва адчувальным, у хату да ўдавы Катуніхі ціха пастукалі. Катуніха адклала ўбок лусту чорнага хлеба і цыбуліну, якімі вячэрала, нетаропка пабрыла да дзвярэй. Яна адкінула засаўку і прапусціла нечаканага госця ў хату, паднёсшы да ягонага твару лучыну, што выняла з зажыма ля бэлькі. Доўга ўглядалася ў яго.

— Чый ты, гаспадзіне? Не прызнаю.

У голасе яе не было ні страху, ні цікавасці. Алекса з болем глядзеў у некалі вясёлы, круглы, а цяпер змучаны і пастарэлы твар жанчыны, на яе цьмяныя вочы, дзе, здаецца, навек застыгла абыякавасць. Гаварылі, што перастараліся княжацкія цівуны, што памірала пад лазінамі ўдава, ды пасля, калі кінулі яе з поруба як мёртвую, падабралі жанчыну знаёмыя і адвезлі некуды ў лес — да жрацоў падземнага капішча Перуна. Але і там падлячылі ёй толькі цела, а нешта ўнутры зламалася ды так і не зажыло...

— Алекса я, Алекса. Ці помніш? Прыходзіў некалі да цябе, каб заручыны справіць. З дачкой тваёй. З Бярозай...

— Бярозай...— як рэха, паўтарыла Катуніха, і раптам ногі яе падкасіліся, яна ледзь не ўпала.— Няма яе. Забілі. Забралі. На смерць павезлі. Не ўбачу я болей дзіцятка роднага свайго ніколі. Ой-ёй, горачка!

Слёзы пацяклі па яе твары, але быў ён па-ранейшаму застыглы і невыразны.

— Я прывязу яе назад,— сціснуўшы зубы, прашаптаў Алекса.— Прывязу назад, і мы пойдзем жыць далёка адсюль, у Латгалію. А можа, у Кіеўскае княства. Я воін. Мне заўсёды знойдзецца гаспадзін. Воіны патрэбны заўсёды, бо, відаць, ніколі не перастануць знішчаць людзі адзін аднаго.

— Ты прывязеш назад Бярозу? Ты вернеш яе? Маю дачку, прыгажуню, адзіную надзею маю? — пільна ўглядаючыся ў яго, як вар'ятка, ускрыкнула кабета.— Тады едзь. Хутчэй едзь! Пакуль яна жывая, пакуль яе не заглынулі там басурманы-жываглоты. Едзь, чуеш? Зараз едзь!

Яна трэслася як у ліхаманцы. Ад абыякавасці не засталося і следу. Яна насілася па хаце, бязмэтна шукала нечага на паліцах, адчыніла скрыню. Але там было пуста,

толькі на самым дне адзінока ляжаў сувойчык палатна. Удава схапіла яго, разгарнула.

— Вазьмі яго. Прадасі. Табе ж трэба на дарогу. А болей нічога няма ў мяне. О гора, гора! Няма нічога. Усё забралі, забралі, а мяне, мяне...

Яна зноў захлынулася слязьмі. Пасля выпрасталася, задумалася. Вочы яе загарэліся ліхаманкавым агнём:

— Ты хто? Нашто прыйшоў сюды? Няма, няма Бярозы, няма... А ты... Цябе падаслалі да мяне, ага, падаслалі! Каб ты выведаў, ці ёсць што ў мяне, каб забраць апошняе.

Яна выхапіла з ягоных рук скрутак, паспешліва паклала яго ў скрыню, замкнула яе і села на скрыню, дрыжучы ўсім целам.

— Не, не! Нічога не дам табе! Няма ў мяне нічога. Прэч ідзі, ідзі адсюль! Хто ты? Я не ведаю цябе. Не мучай. О, няхай заб'е цябе Род і парадзіхі за тое, што ты мучыш бедную жанчыну. У мяне забралі ўсё. Усё, чуеш?

Ён успомніў, як аднойчы пад Ноўгарадам такая ж худая, змучаная жанчына цягнулася за ім, павісшы на кані, хапала скрутак палатна, які ён забраў з хаты. Яна гаварыла гэтак жа, тыя ж словы былі ў яе, таму, відаць, што і сапраўды забраў ён апошняе. Але ж тады была вайна, тады ўсё гарэла, палымнела, і відовішча агню толькі весяліла іх, маладых. Яны рагаталі, гледзячы на тую бедную жанчыну, іх смяшылі яе пустыя грудзі, што, насычаныя сінімі жыламі, выглядалі ў выразе сарочкі. «Як у старой сукі»,— насміхаючыся, крыкнуў дружыннік Мядзведзь, і яны, смеючыся, падхапілі. Нікога не закранула яе гора, яе слёзы. Можа, таму, што ведалі — прыйдуць наўгародцы, і гэтак жа будуць плакаць і цягнуцца за імі ў пыле дарог палачанкі, і тыя гэтак жа будуць рагатаць і паказваць на старыя грудзі, перавітыя сінімі жыламі... А летапісцы запішуць гэта проста: «прыйшоў Брачыслаў і павёў у Полацак мужоў і жонак без чысла мноства».

Яго ахапіў жаль да яе, і ён паспрабаваў растлумачыць:

— Я прывяду Бярозу, чуеш, маці? Я люблю яе. І мне нічога ад цябе не трэба.

— Тыя грошы... тыя грошы, што я атрымала, ад яе, ад яго, басурмана... іх забралі, так-так, забралі... Цівун і соцкі... Няма ў мяне нічога, хлопчык... І Бярозы няма...

Яна зноў заплакала, а ён апусціўся на калені:

— Блаславі мяне, маці... Ты блаславі, таму што пракліюць мяне свае, родныя. Прывыклі яны раскашавац на

мае грошы, прывыклі да цёплага жыцця. А ў мяне свой шлях. У мяне свая дарога, і яна ідзе ўбок. Можа, мяне смерць чакае там. Але, калі буду жывы, прывязу яе адтуль, надзену маністы на ягоную шыю!

Яна заміргала, відаць, не зразумеўшы сказанага, але нечакана паклала хлопцу на галаву далонь. Далонь была цяжкою, халоднаю, і ён з раптоўным страхам зразумеў, што не жылец яна на белым свеце, што станчылася недзе нітка, якую пралі для яе [redacted] кудзелі жыцця старыя парадзіхі.

— Дзякуй, маці... Дзякуй табе. Мне цяпер лягчэй будзе ісці. Туды, дзе канчаецца зямля. Куды Бярозу павезлі. Знайду яе там. Альбо памру, чуеш?

Яна заківала галавой, і ён пашукаў вачамі вакол. Убачыў маленькую постаць Сварога, што стаілася ў куце. Можа, не заўважылі яе дружыннікі, а можа, не было ім часу важдацца ў хаце ўдавы. Ён узяў Сварога.

— Хай ён дапаможа мне. Хай адшукае яе. У пыле дарог, у чэраве Хвалынскага мора, у бездані стэпаў, на вуліцах далёкіх гарадоў. Я цяпер ведаю, дзе яе шукаць. Я слухаў, пытаўся купцоў. Я знаю, дзе тая далёкая Бухара. Дзякуй табе яшчэ раз, маці!

Раніцай ён ужо плыў на гандлёвым судне булгар, што кіраваліся з Полацака дадому, нагружаныя карой дрэва халандж — бярозы. Тры дні перад тым захварэў і памёр ад агнявіцы адзін [redacted] весляроў, і начальнік каравана не надта пярэчыў, што замест яго сядзе за вёслы малады дужы палачанін, ды яшчэ воін. А што за віна гоніць яго з горада, пра тое начальнік не пытаўся — сярэбраная грыўня згасіла яго цікаўнасць, а людзі былі яму патрэбныя. Хай палачане шукаюць самі вінаватага, не ягоная справа сачыць, што ды як! Абы не злавілі перад адпраўкай, не пазналі, не затрымалі. Але ніхто не шукаў Алексу, таму што ўсе ў дружыне ведалі, што адпрасіўся ён на адзін дзень дадому па важнай справе.

Калі ж спахапіліся і пачалі яго шукаць, далёка ўжо плыў хлопец на булгарскім караблі, так далёка, што сінія хвалі Дзвіны ўжо не краналіся ягоных вёслаў. Там апошні раз ён азірнуўся назад. Вось яна, радзіма... Зялёныя сосны з мядзянымі ствaламі стройна цягнуцца ўвысь, гудуць у разгалістых кронах вятры. Пахне хвояй і жытам, бяжыць да ракі дзяўчынка ў белай сарочцы і з вянком на галаве, босая, махае весела рукамі, нібыта збіраецца паляцець. І белы бусел павольна кружыць над ракою, быццам

выглядае каго ці развітацца хоча... Сціснулася сэрца ў Алексы, ды так балюча, што думаў — задыхнецца. Захацелася выскачыць з карабля, пабегчы назад, да роднага Полацака. Але тут бізун агрэў плечы...

Насмешлівы голас наглядчыка прагучаў на ўвесь карабель:

— Што, вярнуцца хочаш назад, крывічанін? Як баба, заплачаш зараз, га?

Весляры захіхікалі. Алекса сцяў зубы і запрацаваў вяслом. І паплылі назад, незваротна паплылі родныя далягляды, і знікла з вачэй дзяўчынка ў белай сарочцы, а вакол — чужыя, насмешлівыя твары, і смуглявы наглядчык скаліць белыя, як у ваўка, клыкі ды ўсё пасміхаецца:

— Вы, крывічы, надта прывязаныя да бабскіх падалоў. У вас баба гаспадыня ў хаце. Ці не так? Яна ў вас хутка зброю ў рукі возьме, а вы за яе будзеце хавацца.

— У Полацаку ты не асмеліўся б так вякнуць, а тут, калі я адзін, скуголіш такое? Давай біцца чым хочаш — мячом, сякерай, кулакамі — я пакажу табе, подлы сабака, што такое палачанін! — крыкнуў Алекса і прыўзняўся, каб кінуцца на наглядчыка. Але ззаду яго крануў за плячо высокі русявы хлопец з рыжымі брывамі і белай, як малочнаю, скурай, шапнуў:

— Не задзірайся з ім. Ён і праўда подлы, і калі хочаш жывым адсюль пайсці, маўчы.

Назад сеў Алекса, схапіўся зноў за вясло. Наглядчык насмешліва зарагатаў, хацеў зноў агрэць яго бізуном, але сустрэў зацяты, шаленствам наліты позірк, стрымаўся, шчоўкнуў бізуном па палубе.

Калі грабцоў змянілі іншыя, і Алекса, пахістваючыся, разам са спрацаванымі за дзень людзьмі спусціўся ўніз, каб паесці і трохі паспаць, русявы хлопец зноў падышоў да яго, стукнуў па плячы:

— А ты разумны хлопец. Адразу паслухаўся. Другі кінуўся б усё роўна, і дабром бы гэта не скончылася. Але і так для цябе тут — капец.

— Чаму?

— Ты ж вольны чалавек, палачанін?

— Вольны. І я, і дзеды мае спрадвеку былі вольныя.

— То чаму ў рабы наняўся?

— Гэта пакуль. Пакуль не даеду да Понцкага мора. Адтуль мне трэба ехаць далей.

— Ты зрабіў у сваім Полацаку нешта такое, што табе трэба ўцякаць ажно за мора Русаў?

— Я нічога не зрабіў. Не забіваў, не рабаваў. У мяне свая патрэба.

— Якая б ні была ў цябе патрэба, далей Іціля ты сам не паедзеш. Хіба толькі павязуць.

Ім кінулі ў місы варанага проса і трохі тлушчу і павялі спаць — у цёмным куце былі рассцелены брудныя сеннікі. Алекса працягнуў размову, калі ўлягліся.

— Чаму гэта? Чаму я не паеду сам?

— Таму што цябе хочуць пакінуць тут за раба. Я сам чуў, як Хасан гаварыў начальніку каравана, што за цябе можна ўзяць нямала. Ты ж воін, да таго ж малады і здаровы.

— Я заплаціў ім за тое, каб яны ўзялі мяне на карабель. Я працую за харч, якога ў нас не стане есці і сабака. І яны, як ненаедныя ваўкі, хочуць забраць у мяне свабоду?

Алекса сціснуў кулакі, твар яго пацямнеў. Але беласкуры чалавек не адставаў:

— Калі ты думаеш, што заўтра ж ці нават зараз зможаш адсюль сысці, то памыляешся. За намі, веслярамі, устаноўлены добры нагляд. Думаеш, мы, рабы, не хочам адсюль збегчы ці вызваліцца?

— Але ж я воін!

— Думаеш, я пасвіў кароў на радзіме? Я з племя аланаў і таксама быў воем, але мяне захапілі ў палон, і вось чацвёрты год я не магу вызваліцца, хаця мару пра гэта з першай хвіліны. Я быў на радзіме не проста воем, а начальнікам атрада, ды толькі малодшы брат, які хацеў устаць на маё месца, тайна сказаў лазутчыку, як і куды пойдзе атрад, і мяне захапілі знянацку, аблыталі сеткай. Мне нават не змог памагчы меч, які дастаўся яшчэ ад прадзеда! За гэты меч я мог бы аддаць усё, чым валодаў, яшчэ тады, калі было чым валодаць. Яго забралі сабе пераможцы. А я стаў грабцом і сяджу з сапраўднымі рабамі, якія толькі і думаюць пра тое, каб пажэрці ды заваліцца спаць!

— Вы што там шэпчацеся? — падышоў да іх аднавокі каржакаваты стражнік, стукнуў дзідай аб падлогу.— Спаць, і каб болей ні слова не было чутно!

Усё змоўкла. Алекса ляжаў з заплюшчанымі вачыма, абдумваў тое, што пачуў ад хлопца. «Значыць, яго хочуць прадаць у рабства на рынку, прадаць, як скаціну, каб нейкі тоўсты гандляр мацаў яго плечы і заглядваў у рот, лічачы зубы! Не, гэтаму не бываць!» Ён прашаптаў ціха, павярнуўшыся да хлопца, які ляжаў побач:

— Як жа хоць завуць цябе?

— Бібо.

— Адкуль ты? Дзе гэтае племя — аланы?

— Я — горац. Там, дзе горы дакранаюцца да нябёс, мая радзіма. Але я даўно не бачыў гор, не бачыў радзімы. Спі, палачанін, заўтра пагаворым яшчэ, а то і так мне развярэдзіў душу...

У цесным труме пахла ванючай рыбай і прагорклым тлушчам, надсадна хрыпеў у куце нехта з грабцоў, нехта стагнаў, а адзін скуголіў у сне — відаць, таксама бачыў сны аб радзіме. І на момант Алексу стала страшна: што, як сапраўды не вырвецца ён з гэтага пекла? Што, калі на ўсё сваё жыццё застанецца весляром? Можа, і не варта было наймацца на карабель? Але ж плыць вольным чалавекам ён не мог: полацкая варта перад адплыццём правярае ўсе караблі, таму што бывае такое — захопяць тайна купцы вольных людзей ці халопаў, а пасля адвозяць іх і прадаюць у рабства. Жывы чалавек — самы выгадны тавар, бойка гандлююць рабамі ў сталіцы булгар! А то і чужы тавар могуць прыхапіць знянацку ад'язджаючыя — вялікія і доўгія гандлёвыя дарогі, ці давядзецца калі сустрэцца!

Ён намацаў нож, які насіў заўсёды з сабою, для чаго пашыў у портах патаемную кішэню. Не, з нажом супраць ахоўнікаў не пойдзеш.

Добра, што грабцоў мімаходзь аглядае варта. Яны — навідавоку. Запісалі колькасць іх на прыстані, прымаючы струг — столькі і адпусцілі, забыўшыся на памерлага. За магчымасць вырвацца з Полацака, паехаць, а не прабірацца ляснымі дарогамі, кіруючыся на далёкую, страшэнна далёкую сталіцу булгар, і заплаціў ён такую вялікую цану: згадзіўся стаць грабцом. Можна было купіць каня і паспрабаваць узабрацца на які карабель далёка ад Полацака, забрацца госцем, заплаціць за праезд... Але ж усё роўна ён адзін, усё роўна ўсюды могуць яго забраць у рабства! Трэба нешта рабіць, трэба добра пакумекаць, пакруціць галавой, каб усё-такі дабрацца да сталіцы булгар, але застацца вольным чалавекам. Можа, гэта Род і парадзіхі памагаюць яму, што так пацягнуўся да яго гэты невядомы чалавек, гэты Бібо з такой дзіўна белай скурай і вачамі, у якіх свяцяцца спагада і бясстрашша?

Міналі дні. Нямала валокаў адолеў карабель, нямала серабра перайшло ў рукі цівуноў, якія жывуць на валоках,

каб першымі адправілі на колах карабель. Цягнулі насустрач тавары ў Полацкую зямлю: персідскія тканіны, сірыйскія вазы, візантыйскую парчу, кіеўскае шкло. Лоўкі трапіўся на Алексавым струзе начальнік каравана: заўсёды жэрабя выпадала на ягоны карабель, і не было яму асаблівых затрымак ні на Эсе, ні на Друці.

Вось ужо і магутны Днепр, які нясе свае хвалі ў Понцкае мора, празванае Рускім таму, што шмат ездзіць па ім рускіх караблёў. Шырокі Днепр, страшныя яго хвалі ў непагадзь, таму і спяшаліся булгары, каб адолець яго да восені. Але яшчэ страшнейшыя дняпроўскія парогі. Даўно чуў пра іх Алекса: кажуць, што разбіваецца штогод на іх мноства караблёў, і нават самы вопытны лоцман бялее і моліцца сваім багам, калі набліжаецца да дняпроўскіх парогаў. Першы з іх называецца «Не спі», і іншаземцы ўслед за русамі гавораць: «Эс супі». Ён вузкі, але пасярэдзіне яго выступаюць абрывістыя і высокія скалы, што падобны да астраўкоў. А адтуль вада ліецца з шумам вялікім і вышыні, ад чаго сэрца сціскаецца страхам. Праз кожны парог трэба валачы судна, а падчас, кажуць, нават выцягваюць з ладдзі пакладзь і цягнуць усё па беразе. І тут, на Крарыйскай пераправе, усё яшчэ разбойнічаюць печанегі, і неаднойчы падчас піроў расказваюць гусляры аб гераічнай смерці кіеўскага Святаслава ад печанегаў, што заспелі князя тут, на дняпроўскіх парогах. І недзе ў скарбніцы печанежскага хана ляжыць акаваны золатам чэрап Святаслава, з якога семдзесят гадоў назад піў печанег, як з чашы... І ўсё яшчэ палююць разбойнікі на берагах супраць гасцей гандлёвых. Таму не спыняецца карабель ні ўдзень ні ўначы, толькі мяняюцца весляры, і ўсё болей наліваюцца цяжкім свінцом іх рукі, і хутчэй клоняцца на брудныя, затхлыя сеннікі іхнія галовы. За гэты час добра нагледзеўся Алекса на паднявольнае жыццё рабоў: білі іх за кожны ненавісны позірк, за кожнае слова супраць. Раны ад бізуна зажывалі не скора: у хвост яго была ўпраўлена свінчатка, і такое таксама бачыў хлопец упершыню. Іншая справа — баявы цэп: на яго канцы матляецца жалезны калючы шар. Але гэта — зброя. А бізун быў страшнейшым, таму што тыя, на каго ён уздымаўся, не мелі чым адказаць.

Алексу краталі пасля першай сутычкі з начальнікам стражы рэдка: відаць, зразумеў той, што не ўдасца іначай давезці да сталіцы непакорнага. Да таго ж насустрач увесь час плылі караблі з наўгародскімі, кіеўскімі, полац-

кімі купцамі, і, калі б дазналіся тыя, што вольнага чалавека ўзялі булгары за раба, то маглі б і кінуцца ў бойку — не, не каб Алексу бараніць, а меціь добры повад памацаць, што там ляжыць у купецкіх скрынях. Гандляр гандляром, але ж калі ў цябе нешта бясконца адбіраюць на гандлёвых дарогах, то ці такі грэх забраць нешта і сабе пры паходзе! Тым болей што кожны купец мае зброі ці не болей, як любы дружыннік, і бачыў ён многае такое, чаго не ўбачаць людзі аседлыя, таму падчас душа ў яго зачарсцвелая, як хлеб, што доўга ляжаў на складзе сярод тавараў.

Ішлі тыдні, і, хаця лета павінна было канчацца ў Полацаку, тут, бліжэй да стэпаў, яно па-ранейшаму раскашавала: густа ўздымалася трава на берагах, праўда, крыху паблякла яна ад гарачыні, выглядвалі з-за дрэў ці ішлі на вадапой, не зважаючы на карабель, дзіўныя, не бачаныя ніколі звяры, і на стаянках прыносілі мясцовыя людзі на абмен не бачаныя Алексам ягады і прыпасы. Кашуля на плячах палачаніна парвалася, і яму далі новую, але папярэдзілі, што грошы за яе трэба аддаць начальніку каравана. Бібо аднойчы выменяў за медны грош, дадзены яму Алексам, кавалак грубай тканіны, падобнай на лямец, толькі танчэйшай, і лоўка скроіў новаму сябру нешта падобнае на кабат. Цяпер, калі карабель насцігала непагадзь, Алекса не курчыўся так ад холаду, нібыта грэшнік, якога насцігае нячысцік,— так намалявана на карціне, што аднойчы бачыў у царкве Сарака пакутнікаў на Кажэвеннай вуліцы. Але болей ён не патраціў ні куны, ні веверыцы, і ніхто не ведаў, што ляжыць у невялікім скураным мяшэчку, якіх хаваўся, як і нож, у портах. А ляжалі там сярэбраныя маністы, і аднаго дырхема з іх было дастаткова, каб апрануць і абуць чалавека, а яшчэ ляжала некалькі медных грыўняў, якія Алекса бярог для пераезду за Хваліскае, або Хвалынскае мора, туды, адкуль ідзе дарога на старажытную Бухару. Можа, не спатрэбяцца там грабцы, там, на тых чужаземных караблях, тады трэба плыць госцем, бо не станеш пехатой пераходзіць мора. Што такое мора, Алекса не ведаў, але ўсе, расказваючы аб ім, уздымалі вочы ўгару і ўздыхалі, і пры гэтым не забывалі падзякаваць багам за тое, што жывымі выбраліся з ягонай бездані. Мора было загадкавае і страшнае, але Алекса верыў, што застанецца жывы, што не возьмуць яго ні хваробааганявіца, ні трасавіца, не захопяць людзі ліхія, таму што там, за морам, чакае збавення ад палону белявая дзяўчына

з сінімі, глыбокімі вачамі, апушанымі доўгімі цёмнымі вейкамі. Тонкі, чуць кірпаты нос, шэрыя бровы і нясмелая, захмельваючая галаву ўсмешка. Ці ведала Бяроза, што красуня яна? Мабыць, ведала, але сарамліва адпрэчвала ад сябе хлопцаў, не дамаўлялася ні з кім ісці ў лес у вірлівую купальскую ноч. А можа, проста чакала суджанага? Яго чакала, каб абудзіў ён у маладым сэрцы такое ж шчаслівае чаканне незвычайнага, прагу шчасця, няхай сабе кароткага, таму што кароткі чалавечы век, асабліва ў воіна. Ды кожнаму хочацца пражыць свой век без гора, без нядолі, паспытаць слодычы, што дае жыццё.

Вяла Алексу і помста. Заўсёды ведаў ён, што безліч дзяўчат прыгожых і паланёных маладзіц вывозяць з княства, але тое не тычыла яго. Не раз, збіраючы палюддзе, разам з маладой дружынай забіраў ён дачок у смердаў, што не мелі чым заплаціць даніну, разам з дружыннікамі прыводзіў на княжы двор, дзе іх рабілі халопкамі. Але ні разу, бадай што, не задумваўся над тым, ці маюць права адны людзі рабіць рабамі і халопамі другіх. Толькі цяпер, у тыя хвіліны, калі рукі яго прывычна і натруджана падніманіся і апускаліся разам з магутным вяслом, ён мог, забываючыся на ўсё, думаць аб тым, што на працягу дваццаці гадоў рабіў бяздумна і ахвотна, атрымліваючы за гэта пахвальбу і ўзнагароду.

Але ж і іншыя, сталыя дружыннікі, вірнікі, мечнікі — усе яны прывозілі, збіраючы даніну, мяхі і воск, лён і мёд. А магчыма, гэтыя карцы мёду ці сувоі палатна былі апошнімі ў беднай хаце? Хто думаў над гэтым?

Ноч і дзень цяпер бачыліся яму вочы ўдавы, асірацелай і як бы зламанай нечаканай крыўдай. За што, у чым яна вінаватая? Гаварылі ў царкве, што трэба быць пакорлівым і смірэнным. Але на княжым двары, калі ў вольны час вучылі іх трымаць меч і валодаць сякерай, настойліва ўбівалі ў галаву, што воін павінен быць бязлітасным і жорсткім, што адзіна патрэбная справа мужчыны — ваяваць, умець абараніць сябе і захапіць лепшае. Каго ж слухаць?

Ды, закрываючы сабой усе развагі, жыла ў ім крыўда: у яго, мужчыны, воя, забралі дзяўчыну! Хіба можна жыць далей з такой ганьбай? Хіба можа ён праглынуць гэта? Не, забраць яе, вырваць, кінуць у ненавісны твар купца падораныя маністы! І тады можна будзе лёгка дыхаць, хадзіць па зямлі.

— Раю табе, палачанін, не чакаць Понцкага мора, а пастарацца знікнуць у Кіеве,— аднойчы, калі яны з Бібо

ляжалі без сну побач, сказаў Алексу белатвары алан.— Ад Кіева лягчэй ісці альбо ехаць да Булгар. Я ведаю гэтыя пераходы. Там усяго 20 станцый, і калі скакаць ад адной станцыі да другой, кожны пераход займае дзень. А без каня ісці туды два месяцы. Затое там часта па рацэ Іціль да самай сталіцы ходзяць караваны. Адтуль, з Іціля, ты паедзеш па Хваліскім моры да Бухары, а я... там не так далёка да маіх зямель.

— Ты... Ты хочаш ісці са мной? — ціха запытаў Алекса.

— Хачу, і чым хутчэй мы прыедзем у Кіеў, тым лягчэй нам будзе ўцякаць. Блізіцца восень, а мы амаль голыя. Рабам не выдаюць добрага адзення, а калі мы працуем, мы і так мокрыя ад поту і вады.

— Удвух нам будзе ўцякаць цяжэй.

— Лягчэй! Я бачыў цябе, ты сапраўды храбры воін. А я... Паглядзіш на мяне, калі што якое... Ты толькі дапаможаш разагнуць ланцуг на назе і, калі ўзнікне такая патрэба, захіліш маю спіну.

— Чаму ж ты не ўцякаў раней?

— Я ўцякаў ужо два разы. І абодва разы мяне лавілі і збівалі так, што я не мог пасля нават рухацца. Апошні раз мне пераламалі дзве рабрыны. Трэці раз мне ўжо не ўстаць. Я і так амаль ашукаў наглядчыка, ён думае, што ўва мне не засталося ні іскрынкі жыцця,— толькі трымаць вясло. І сам я так думаў раней. Аж не — ачуняў. А тут ты...

Яны асцярожна шапталіся, ажно пакуль не абмеркавалі ўсё самае важнае, і тое, што наглядчык заснуў, дапамагло ім. Нідзе не схавацца рабу — то падслухае іх наглядчык, то данясе свой жа, той самы раб, які за данос атрымае хіба што лішнюю жменю варанага проса. Але нават і гэтая нікчэмная ўзнагарода спакушала некаторых. Былі і такія, каго штурхала на здраду зайздрасць,— звычайна яны з тых, чые сілы змарнелі ў шматгадовым рабстве, хто страціў надзею калі-небудзь убачыць родныя мясціны.

У цёплы, па-летняму ясны і пагодны дзень яны прыплылі ў Любеч.

Тут, на беразе дняпроўскага затона, каля прыстані, было шматлюдна — нібы так жа, як і ў іншых гарадах. Ды тут асабліва адчувалася блізкасць Кіева, стольнага горада вялікай дзяржавы русаў: непадалёк ад прыстані, ва ўрочышчы, звонка стукалі сякеры і з гулам падалі сосны. Там, было відно, будавалі ладдзі, ці, як іх называлі візантыйцы, што стаялі побач,— манаксілы, іх выдзёўбвалі з аднаго

ствала вялізнай сасны. За ўзгоркам, на гары, аддзеленай пад'ёмным мостам, будаваўся замак, далёка бачны адусюль. Ён быў яшчэ малы, толькі ўнізе моцна трымалі будучыя сцены вялізныя дубовыя бярвенні, імі ж была ўсцеленая дарога, якая вяла да галоўных варотаў будучай крэпасці. Вакол замка была ўжо пабудаваная сцяна і месцы для складаў — відаць, для гатавізны. Злева ад замка будавалася высокая вежа.

Ля прыстані выгружаліся тавары, і булгары хутка знайшлі знаёмых, завязалі з імі гаворку. Услед прыплылі візантыйцы, пыталіся, ці ўсё спакойна ў імперыі? Адказы былі добрыя: у імперыі спакойна. Бог літасцівы да базілеўса Канстанціна IX Манамаха, ураджай сабралі багаты. Гэта не тое, што пры папярэдніку, Раману III Аргіру. Тады адны звады жонкі базілеўса, парфірароднай Зоі, з яе малодшай сястрой, Феадорай, чаго каштавалі імперыі.

А ў Ітылі? Спакойна, толькі вось рабоў паменшала, яны падняліся ў цане. Патрэбныя набегі, патрэбная здабыча, бо царства небагатае на зямлю, многа ў ім стэпаў, дзе расце толькі кавыль...

Весляроў і воінаў адвялі на падвор'е і рабоў запёрлі ў вялікае драўлянае гумно, а каля дзвярэй паставілі стражнікаў. Саміх жа купцоў павялі далей, дзе на падвор'і стаяў вялікі дом з бярвення — там звычайна спыняюцца багатыя купцы. У візантыйцаў тут асобныя харомы, і абстаўлена ўнутры так, як прывычна для іх — пад іконамі гарыць кадзільніца са сціраксай — благавоннай смалой, абітыя аксамітам табурэты з візантыйскай залатой каймой, сцены абабіты таксама аксамітам. Гэтак жа, як у самім Цар-горадзе на рускім падвор'і ўсё звыклае для русаў, і нават стравы гатуюць іх любімыя, і дзічыну для таго спецыяльна прывозяць у Візантыю.

Булгарам такой раскошы не было — завялі, дзе было вольна. Рабам жа, дзеля таго каб сэрцы іх трохі ачысціліся ад злосці і роспачы, падчас вячэры далі віна — самага таннага, з астаткамі вінаградзін, трохі ўжо забрадзелага — таго, што сапсавалася ў любецкіх мядушах і што аддавалі амаль задарма. І ўсё ж нават такое віно было рэдкасцю, рабы прагна хапалі яго і, захмялелыя, пачыналі спяваць песні родных мясцін. Іншыя плакалі, а другія хутчэй кладліся спаць, каб хаця ў сне ўбачыць свой даўно пакінуты край.

Цёпла было на двары, і, калі сцямнела, вартаўнікі таксама прыклаліся да біклагі з віном, угодліва прынесе-

най ім хлопчыкам, што служыў тут на пасылках і зарабіў на гэтым цэлую куну. Пасля яны паслалі хлопчыка за новай біклагай і, зусім забыўшыся на сваю службу, яшчэ пілі за блізкую ўжо Булгар, за яе стэпы, пілі за здароўе кагана. Некалькі візантыйцаў з бяднейшых падселі да іх.

— Я ўспамінаю часы бажэсцвеннай Зоі,— захмялеўшы, пачаў спавядацца адзін са стражнікаў.— Яна ведала смак у жыцці! Ужо за пяць дзесяткаў, а яе яшчэ за маладую прымеш. Мужчын мяняла ледзь не штомесяц.

— Цьфу! — сплюнуў другі.— Што за цела можа быць у жанчыны, якой за паўвека?

— Але калі б табе прапанавалі быць фаварытам у парфірароднай, ты не глядзеў бы на яе цела. Улада — хаця б раз пакаштаваць яе! А то сцеражэш брудных рабоў!

— Мы! Мы з табой затое будзем мець маладых, стройных, са скурай мяккай і пяшчотнай, як шоўк, якая пахне ружай і лавандай!

Булгары ж глыталі мяса і марылі аб сакавітых кавунах, што прачышчаюць жывот. Пасля яны пілі за знаёмых блудніц, якія, мабыць, час ад часу ўспамінаюць іх у вясёлым квартале на Мядзянай вуліцы, куды яны пойдуць зараз жа, як толькі атрымаюць грошы за ўвесь гэты неймаверна доўгі шлях у краіну русаў. І яны заспявалі таксама, папярэдне добра грукнуўшы ў сцяну, дзе весяліліся рабы, ад чаго там усё змоўкла — але ж на кароткі час.

А пасля стражнікі разышліся, засталося ля пуні толькі двое.

— Цяпер ужо час! — шапнуў Бібо. Ён ціха падышоў да дзвярэй і пастукаў.

— Чаго табе? — раздаўся голас стражніка.

— У мяне завялася медная манета — намісма, і, калі ваша міласць дазволіць, я патрачу яе на тое, каб зрабіць лішні глыток віна за здароўе кагана. Але гэта пасля таго, як за яго здароўе вып'еце вы.

— Адкуль у яго намісма? Мабыць, кінуў нехта з ру-мійцаў? А мо ўкраў? Га-га-га,— зарагатаў адзін з вартаўнікоў, а другі п'яна загадаў:

— Добра, адчыні трохі дзверы, вазьмі ў яго манету. Але калі ён салгаў, сабака...

— Можа, не трэба? Адкуль у яго грошы? Украў? А раптам гаспадар заўтра запатрабуе іх назад? — асмеліўся запярэчыць другі, але першы стражнік зноў п'яна рассмяяўся:

— Калі ён зробіць лішні крок, сын блудніцы, я праткну яго паскрозь! Ідзі!

Дзверы адчыніліся. Стражнік працягнуў руку ў цемру, і ў той жа момант моцныя рукі Бібо схапілі яго за галаву і ўцягнулі ў хлеў. Не паспеў той узмахнуць рукой, як гібка і па-звярынаму імгненна схапіў ягоную руку Алекса і з размаху ўсадзіў у мяккае, сытае цела стражніка востры нож, ад чаго той абмяк і ціха, без крыку паваліўся ўніз.

Другі вартаўнік, схапіўшы дзіду, кінуўся да дзвярэй, але сілы яго забрала віно. Кароткая барацьба ў цемры — і ўсё змоўкла.

— Усё! — па-звярынаму ціха шапнуў Бібо.

— Іх возьмем? — Алекса ледзь прыкметна ў цемры кіўнуў у бок рабоў.

— Не! — адрэзаў Бібо.— Яны п'яныя, апроч таго, многія з іх згубілі сябе, страцілі волю, а бязвольны чалавек — усё роўна што труп. Куды яго пакладзеш, там ён будзе ляжаць. Не думай пра іх!

Алекса адмоўна хітнуў галавой, хутка, навобмацак, знайшоў на старым месцы лучыну, запаліў яе. Чырвоны нясмелы агеньчык асвятліў постаці рабоў, што, захмялеўшы, ляжалі навокал хто як мог — раскінуўшыся, паклаўшы галовы проста на брудную падлогу. Некаторыя глядзелі цьмянымі вачамі на сяброў, відаць, не разумеючы, што адбываецца навокал.

— Вы вольныя цяпер! — нягучна крыкнуў Алекса. Ён падышоў да аднаго з бліжэйшых рабоў.

— Ты вольны, чуеш? Уцякай!

Але той прыўзняўся і тут жа апусціў галаву зноў:

— Няма сіл. Я не дабягу. А пасля — мукі? О не! Не спакушай мяне.

— Няма ахвоты ні на што. А жыць можна і тут,— загаварыў другі.

— Я пайду з вамі! — раздаўся голас з цемры. Прыгледзеўшыся, Алекса і Бібо ўбачылі ля самых дзвярэй чорную постаць аднаго з грабцоў, маўклівага, панурага Мікалая, які трымаўся заўсёды асобна і рэдка гаварыў з іншымі грабцамі. Але было вядома, што Мікалай — візантыец, вырас ён у заможнай сям'і, і нават дзёрзкі і драпежны капітан ніколі не біў яго плёткай: было ў ім нешта такое, што стрымлівала гнеўную і бязлітасную руку начальніка.

— Ты не піў? — здзівіўся Алекса.

— Я ведаў усё,— Мікалай аддзяліўся ад сцяны і пра-

цягнуў руку, паказваючы. Пры слабым святле лучыны бліснуў кінжал.— Калі б вам не ўдалося самім справіцца, я б дапамог,— працягваў ён.— Я з вамі.

— Куды? — здзівіўся Бібо, падазрона гледзячы на высокага, з магутнай бычынай шыяй Мікалая.— У Царгорад?

— Не! — коратка адрэзаў Мікалай.— Навошта? Я там жыў і стаў рабом. Там няма мне жыцця і будучага. Я пайду з вамі. Пакуль. А там...

— Можа, пойдзеш адзін? — усё яшчэ падазрона прагаварыў Бібо.— Ты рамей. Ці можна вам давяраць?

— А што ён будзе мець з нас? — здзівіўся Алекса.— Няхай ідзе. Утрох лягчэй.

— Сапраўды, хутчэй адсюль! — сурова загадаў Мікалай.— Там разбірацца будзеце. А не хочаце мяне — ну што ж, абыдуся і без вас. Але вам будзе без мяне цяжэй.

Яны ціха дзьмухнулі на лучыну і нячутна растварыліся ў цемры...

Але выйсці да ракі было не так проста. Прайшло колькі хвілін, і калі на панылае «эгей!»,— якое рэгулярна даносілася ад вежы, стражнікі не адказалі, адтуль хутка данёсся тупат цяжкіх ботаў. У Любечы пільна сачылі за парадкам, з Любеча паходзіў сам дзед вялікага Уладзіміра Чырвонае Сонейка, бацька Дабрыні і Малушы, Малк Любечанін! А пасля ўзняўся вэрхал — шматлікія смалякі асвяцілі двор, тунель з дзвюма вежамі, што ля варотаў, мост і моставую вежу. Але троіца даўно сядзела ў адной з вялізных ямаў, прызначаных для захавання зерня. Яма мясцілася ля аднаго з падземных хадоў, якія вялі да ракі.

— Не паспелі! — прашаптаў Бібо, урываючыся ў груду мяккага, нядаўна сабранага зерня.

— Цішэй! — прашыпеў Мікалай.

І сапраўды — стражнікі дабеглі ўжо і да ямаў. Пільна аглядалі яны кожную, нават кінулі камень у адну з ям, ужо запоўненую вадой на выпадак асады. Падышлі і да той, дзе хавалі зерне. Але непадалёку стаяў ахоўнік, глядзеў аддаанымі вачыма на начальніка стражнікаў, і нельга было падумаць на яго, што ён задрамаў — можа, толькі на адну хвіліну, але на тую якраз хвіліну, што была патрэбна смельчакам, каб забрацца ў яму.

Грукнула покрыўка над галовамі Бібо, Мікалая і Алексы, і зноў стала цёмна і ціха. Алекса з цяжкасцю высунуў галаву з зерня, выцер пот, што праступіў на твары, страсянуў галавой.

Толькі пад ранак удалося ім выбрацца з ямы і дабрацца да ракі, а пасля, пераплыўшы яе на ўкрадзенай у разявакі-гаспадара лодцы, выйсці на дарогу, што ішла ўніз да Кіева. Трэба было абысці Кіеў, далей — Пераяслаў і выйсці на дарогу, якая напрамкі паварочвала на ўсход. Там, прайшоўшы праз стэпы, яна набліжалася да ракі Дон, а далей, дайшоўшы да Волгі, крута паварочвала на поўдзень, у самае-рэчышча Волгі. Можна было ісці на Тмутаракань — там бліжэй да ясаў і аланаў. Але самае галоўнае — абысці Кіеў і Пераяслаў. Там, далей, больш небяспечна, але і свабадней.

Толькі праз паўтара месяца яны выйшлі на вялікую дарогу. Дарога была добра наезджаная, ажыўленая, па якой першы час яны ішлі толькі ў цемры, баючыся пагоні.

Дарога і сапраўды была добра наезджанай — насустрач ім рухаліся бясконцыя караваны купцоў. Везлі ў сталіцу русаў — Кіеў — дарагія тканіны, шкляныя вырабы, віно арабскія, персідскія, індыйскія купцы. Ехалі і славянскія купцы. У іншаземных абновах, смуглявыя ад загару, нібы яшчэ пакрытыя пылам далёкіх краін, яны выглядалі як заморскія госці, але трое хлопцаў стараніліся ўсіх. Усё ж аднойчы яны заначавалі на адной са станцый разам з полацкім купцом Раждзенам, якога Алекса ведаў, бо той часта гандляваў на княжым двары. Раждзен быў адным з тых вясёлых, няўрымслівых малойчыкаў, які з аднолькавай лёгкасцю мог бы добра малаціць баявым цэпам у бітве і гандляваць усім, што толькі пашле яму Сварог. Высокі, мажны, круглатвары, ён выйшаў раніцай па патрэбе і сутыкнуўся з Алексам, які разам з Бібо выходзіў з будынка двухпавярховай, з гліны лепленай і пабеленай станцыі. Сам Раждзен начаваў наверсе — там масціліся на адпачынак багатыя людзі і важная чадзь, а таксама княжацкія пасланцы. Коні ж Раждзена, яго вартаўнікі і дружыннікі, а таксама вазы з дабром начавалі асобна, за высокай агароджай станцыі ў спецыяльна адведзеным для таго месцы. Раждзен быў у чырвонай вастраверхай шапачцы з кутасікам наверсе, у мяккіх саф'янавых пантофлях і нязвыклай, таксама чырвонага колеру бліскучай кашулі, і таму Алекса, пачуўшы сваё імя, спалохана і адразу імгненна падабраўшыся, утаропіўся ў купца, які весела смяяўся яму насустрач:

— Ты што гэта, зямляк, таксама ў купцы падаўся?

Некалькі імгненняў Алекса раздумваў, а пасля, азір-

нуўшыся і супакоіўшыся — не паспеюць дабегчы да іх Раждзенавы малайцы! — адказаў панура:

— Ды не. Якія там купцы. Па справе я.

— Па справе? — шырока раскрыў блакітныя, яшчэ заспаныя вочы Раждзен.— І куды ж гэта ты, малойча, і па якой справе? Ты прабач за цікаўнасць, але ж мы, купцы, столькі неверагоднага бачым навокал сябе, што сталі цікаўнымі, як тыя сарокі, што, убачыўшы яшчэ здалёку спадарожніка, лятуць за ім і крычаць на ўвесь стэп... Ды ты не бойся мяне, хлопча! — яшчэ шырэй заўсміхаўся ён, бачачы, як шыракаплечы Бібо асцярожна сунуў руку ў кішэню, бы незнарок мацаючы там.— Кім не быў Раждзен, але падлюкам — ніколі!

— Зямляк пачынае з таго, што прапануе паесці, асабліва ў дарозе,— прабурчаў сабе пад нос Бібо, але, нягледзячы на тое, што сказаў ён гэта на сваёй гаворцы, Раждзен пазразумеў яго — хутчэй, відаць, па выразу твару і па позірку.

— Дык пайшлі да мяне! — ён прыветна крануў Алексу за руку.— Княжацкаму дружынніку нягожа галадаць.

Яны падняліся на галерэю, і купец загадаў отраку, што нячутна падышоў да іх з-за калоны, падаць паесці, што знойдзецца лепшага ў гэты час у гасцініцы. Знайшлося шмат чаго — гаспадар, хітры хазарын Паўша, утрымліваў сваю гасцініцу як мае быць. Гаварылі, што грабе ён куны рыдлёўкай, што ўжо трэці клад схаваў і закапаў у патаемным, яму аднаму вядомым месцы, якое не змаглі заўважыць двое ягоных сыноў, хаця сочаць за ім дзень і ноч, што трымае ён іх у чорным целе. Прынёс отрак на металічным падносе, чаканеным мудрагелістымі накладнымі ўзорамі, дзічыны і часнаку, сыру і кавалкі пірага з зайчацінай. Раждзен сядзеў і нецярпліва чакаў, пакуль яго нечаканыя госці пад'ядуць. Калі ж у магутнай руцэ Бібо знік апошні кавалак, ён уздыхнуў і зноў перапытаў:

— Дык што за справы пагналі цябе, княжацкага дружынніка, у гэтыя мясціны і куды ты далей трымаеш кірунак?

— А ты сам адкажы, ці сустракаў ты па дарозе ці як-небудзь арабскага купца Абдурахманбека, што жыве ў далёкай Бухары? — пытаннем адказаў Алекса.

— Абдурахмана? Не прыпомню,— задумаўся Раждзен.— Звілістыя шляхі купецкія, многіх людзей ведаю я, але ж і ты ведаеш — гадамі падарожнічаю я па свеце,

столькі імёнаў і твараў перакручваецца ў памяці. А што ён зрабіў табе, гэты купец Абдурахман?

А калі выслухаў усю гісторыю, пасур'ёзнеў усмешлівым тварам, задумаўся.

— Купец атрымаў тваю дзяўчыну ў падарунак, ён невінаваты ні ў чым,— сказаў нарэшце.— І ты павядзеш сябе як рабаўнік і чалавек без гонару, калі паспрабуеш адабраць яе сілай. Іншая справа — адкупіць яе.

— Спрабавалі! — з горыччу ўскліснуў Алекса.— Сам княжыч Усяслаў — хай зберагуць яго Род і парадзіхі! — ездзіў да злыдня прасіць за Бярозу. Але...

— І ты не мог і не можаш у Полацаку знайсці сабе дзяўчыну лепшую за тваю Бярозу? — здзіўлена запытаўся Раждзен.— Ну, хаця б тут, на гэтых прасторах, дзе столькі дзяўчат у кожнай хаце?

Алекса апусціў вочы.

— Няйначай прычаравала яна цябе,— раздумваў далей Раждзен.— Такое чую ў першы раз. Праўда, у далёкай Хвалісе і Багдадзе расказваюць пра каханне хлопца-стэпняка і дзяўчыны, ад гэтага кахання хлапец стаў вар'ятам і пісаў вершы, якія пасля распявалі на кірмашах і пастаялых дварах старадаўніх Согда і Бактрыі. Але ж гэта казкі...

— Чаму ты дзівішся, палачанін? — Бібо гнеўна глядзеў на купца. Ён нават ускочыў.— У нас, у гарах, таксама ёсць казкі пра каханне. І людзі вучацца на іх, і плачуць ад тых казак, і шукаюць у сваіх сэрцах іскрынкі, якія высякалі словы песень.

— Дзіўлюся таму, што гэта вы, людзі поўдня, такія гарачыя сэрцам. Мы ж жывём на няласкавай зямлі, яна патрабуе ад нас столькі сіл, каб выжыць! Таму душы нашыя занятыя не каханнем, а барацьбой — за жыццё, за волю, за зямлю. Урэшце, гэта твая справа. Я ж было падумаў, што ты забіў каго і цяпер уцякаеш ад расплаты. Праўда, ты зрабіў большае — пакінуў свой край дзеля дзяўчыны, хай сабе самай прыгожай на свеце. Я гэтага не разумею. Але... мы ўсе любім слухаць чароўныя казкі. Асабліва іх любяць слухаць там, куды ты ідзеш. Але ж як ты ідзеш, не маючы грошай?

— У мяне моцныя рукі і шырокія грудзі, я зараблю сабе на жыццё, хаця на такое беднае, якое ты бачыш,— Алекса агледзеў свае палатняныя, шмат разоў латаныя порты, кашулю, амаль празрыстую ад старасці — толькі на гэтае рыззё хапіла ў яго манет!

— Калі ты ахвотна слухаеш казкі, купец, то падары свайму земляку некалькі манет,— уставіў сваё Бібо.— Яму яны вельмі спатрэбяцца.

— Грошы і нам, купцам, не дастаюцца задарма,— пачасаў патыліцу Раждзен.— Тым болей мы прывыклі даваць іх з аддачай. А тут... Не, грошай я не дам табе,— нарэшце сказаў ён.— Але я паспрыяю табе — як земляку. І другое — апантаным трэба дапамагаць, яны пад ахоўніцтвам... каго, толькі не ведаю? Сатаны, можа?

Ён прышчоўкнуў пальцамі, і знаёмы гасцям отрак наблізіўся да іх нячутнай хадой. Купец сказаў яму некалькі слоў, і отрак знік за дзвярыма.

Неўзабаве пачуліся цяжкія крокі, і на веранду зайшоў тоўсты чалядзін з кароткім кінжалам, заткнутым за шырокі жоўты пояс. Кінжал блішчэў на простай кашулі чалядзіна, як дарагая заплата на сярмязе.

— Як, Арслан? — ціха запытаўся ў яго Раждзен.

— Далей ён не пойдзе. А гаспадар адмаўляецца браць: дорага просіце, кажа, за гэтую падлу...

— Добра,— гэтак жа паўшэптам адказаў купец. Пагладзіўшы доўгую русую бараду, ён весела ўсклікнуў, гледзячы на Алексу:

— Царскі падарунак хачу я табе зрабіць, зямляк! Для князя і яго дружыны вязу я некалькі коней. Але адзін з іх трохі знямогся. Я дару табе Арслана. Вылечыш — цаны яму не будзе.

Алекса не ўсё пачуў, пра што шапталіся паміж сабой купец і яго чалядзін. Але горац з яго чуйным, як у ваўка, слыхам, усё зразумеў і сіхіліўся ў насмешлівым паклоне:

— Дзякуй табе, палачанін! Зямляк, бачыш, ашаломлены тваёй шчодрасцю. Кланяйся! — ён сілай прыгнуў Алексу да зямлі.

— Ну што ж,— Раждзен устаў.— Ідзіце, глядзіце каня. А нам таксама час збірацца. Забавіўся я з вамі... Ці падрыхтаваў ты зелле для ахвярніка? — строга запытаўся ён чалядзіна.

— Усё зроблена, гаспадзіне,— таропка загаварыў той.— Цім'ян, чабор, яшчэ на апошні раз яго засталося...

— Давай вось. Паснедаем, ахвяру прынясём багам і — у дарогу. А яна немалая! Калі яшчэ ў Полацаку будзем!

Алекса і Бібо выйшлі ўслед за чалядзінам, спусціліся па адшліфаваных да бляску прыступках уніз.

— Лоўка прыдумаў твой купец! — ціха зашаптаў горац.— Цяпер слава аб ягонай шчодрасці пакоціцца напера-

дзе яго! Нават калі тая здыхляціна, якую аддаў нам, праз гадзіну ўпадзе і не падніме́цца, гэта ўжо не будзе мець значэння. Галоўнае — каб яна была жывая, пакуль атрымаеш яе!

Да Алексы толькі цяпер пачаў даходзіць сэнс падарунка. Ён спыніўся:

— Калі конь не можа ісці, то навошта ён?

— Я і кажу — нашто такі падарунак? Жывы шакал лепей за мёртвага ільва. Няхай бы зямляк даў табе трохі кунаў ці хаця адзін сярэбраны дырхем. Пайшлі лепей, пакуль твой шчодры купец не шапнуў гаспадару, хто ты. І сапраўды — калі ён прывязе цябе ў Полацак, князь шчодра адорыць яго дзеля задавальнення пакараць цябе на вашай галоўнай плошчы.

Алекса ўздыхнуў — так, цяпер нават заступніцтва Усяслава не выратавала б яго!

Ён не ведаў, што Брачыслава якраз у гэты час хавалі на вялізным кургане, і, нягледзячы на пратэсты епіскапа, быў забіты і пакладзены ў магілу белы конь, на якім любіў вяртацца ў Полацак князь, перамогшы ў чарговай бітве...

Калі прывялі каня, нечакана да іх ззаду падышоў Мікалай. Ён заўсёды падыходзіў, як падкрадаўся — мякка і нячутна. Нават сухі апалы ліст, які шалясцеў пад лёгкім ветрам, не выдаваў крокаў візантыйца.

Ён доўга аглядаў каня — адкрываў храпу, мацаў белыя зубы, гладзіў, як прамацваючы, бакі.

— Яго трэба выхадзіць, а гэта амаль немагчыма,— сказаў нарэшце.

— Бачыш? Я ж казаў табе — падлюга твой зямляк! — штурхануў Бібо Алексу ў бок.

— Але я вазьму яго,— як ні ў чым не бывала, працягваў Мікалай.— Можа, мне дапаможа Марыя Аранта.

— Ты... умееш лячыць коней? — вырачыўся на яго Бібо.

— І коней... і яшчэ тое-сёе... Адпраўляць на той свет без крыку і шуму,— раўнадушна ўсміхнуўся Мікалай.

Ён аднекуль з лахманоў, што страшным рыззём віселі на стройным смуглявым целе, дастаў тры сярэбраныя намісмы.

— На, трымай! — перадаў Алексу.— Я бяру гэтую здыхлю недарма. Гэта добрая цана, спытай любога купца. Конь у вас усё роўна здохне. А мне ён прынясе добрыя грошы. Я застаюся тут.

Алекса павагаўся.

— Ён і праўда добры конь, толькі хворы. Можа, я і сам яго вылечу?

— Як хочаш,— гэтак жа раўнадушна працягнуў Мікалай.— Заставайся і ты. Я займуся іншым — буду дапамагаць гаспадару варыць ежу. Такога повара ён не знойдзе нідзе.

— Чаму ты хочаш тут застацца? — недаверліва перапытаў Бібо. Ён глядзеў на Мікалая з адкрытай непрыязнасцю, а той нібыта не заўважаў нічога, толькі падчас тонкія вусны яго на смуглявым худым твары складваліся ў насмешлівую грымасу.

— Буду чакаць. Буду збіраць грошы. Што ехаць на радзіму жабраком? А можа, і не паеду туды. Багатаму добра ўсюды. Я пабуду тут год — і пастаялы гэты двор стане маім. Не-не, без усякіх глупстваў! Я не атручу гаспадара — толькі перамагу яго.— Ён яшчэ больш насмешліва скрывіў вусны.— Ну дык як?

Алекса вагаўся. Конь глядзеў міма замучаным ліловым вокам, бакі яго, мокрыя і дрыжачыя, сутаргава падымаліся і апускаліся.

— Аддавай! — шапнуў Бібо.— Я падару табе лепшага, хаця і гэты — карабахскай пароды. Ну!

— Добра,— сказаў нарэшце Алекса.— Бяры яго. Нам і праўда трэба ісці. Да Хвалынскага мора...

Назаўтра рана яны з Бібо рушылі далей. Караванны шлях ішоў налева, яны ж пайшлі направа — туды, дзе чакалі Бібо горы і адкуль, як абяцаў ён, шлях да мора будзе карацейшым.

Дзень за днём ішлі і ішлі хлопцы па дарогах, што перапляталіся, разыходзіліся і зноў сыходзіліся то ў шырокі ўтаптаны шлях, то ў амаль непрыкметную сцяжынку скрозь зараснікі калючага кустоўя. Алекса быў паляўнічым, і гэта прыдалося ім: у сілкі, зробленыя ім, абавязкова трапляў то малады заяц, то перапёлка, і, згаладнелыя на былых харчах рабоў, хлопцы ад'ядаліся смажаным на гарачым вуголлі мясам, палітым кіслай поліўкай з ягад. Трохі мяса яны прадавалі па дарозе — і катомкі за іх плячыма павялічваліся. Да таго ж Бібо ў час аднаго з начлегаў наткнуўся на гняздоўе горнага крышталю, з якога робяць кубкі для піцва і каралі для жанчын. Яны прадалі яго, а ўзамен набылі медны кумган, у якім грэлі чай. З'явіліся

ў іх і абутак, і аўчыны, бо ночы рабіліся ўсё даўжэйшымі, яны цяпер былі часам з шэранню, што сярэбранымі ўзорамі клалася на чорную аўчыну, што сагравала іх ноччу. З адной скуры, пакуль яны мацавалі каменнем і глінай агароджу ў адным селішчы, пашыла ім маладая ўдава дзве папахі — каб не студзіла галовы.

Дарога мянялася — ішоў стэп, пасля сталі горбіцца вакол жоўтыя ўзгоркі, усё вышэйшыя і вышэйшыя, пасля камяністыя выспы... А ногі ўсё болей адчувалі вышыню. І вось аднойчы Бібо паказаў наперад, вочы яго ўспыхнулі, твар засвяціўся:

— Горы!

Алекса спачатку не ўбачыў нічога такога,— аблокі тоўпіліся над краем неба, аблокі з дзіўнымі вострымі абрысамі. Але Бібо, абхапіўшы яго за плечы, тыкаў рукой наперад, паказваў абрысы гор, называў іх,— і тады Алекса сапраўды ўбачыў, што гэта вяршыні не бачаных дасюль гор, а белае — снег, які ніколі не растае, бо так высока тыя вяршыні.

— Я думаў, што яны бліжэй да сонца і там цёпла, а тут, бач ты — наадварот! — прызнаўся ён, пачасаўшы патыліцу.

— Ты ж сам бачыш, што ў гарах халадней! — рассмяяўся Бібо. Ён быў сам не свой ад радасці — узбуджаны, ледзь не прытанцоўваў і ўсё парываўся абняць Алексу.

Але к вечару яго радасць нібыта згасла. Пераломваючы ў магутных руках хварасціны, ён падоўгу, застываючы, глядзеў на агонь і пра нешта думаў.

— Аб чым ты тут марыш? — неўзабаве запытаўся Алекса, з нецярпеннем выхапіўшы сухастоіну, бо вогнішча пачало трашчаць і паціху згасаць, не атрымаўшы чарговай порцыі паліва.— Дома ж ужо вось-вось будзеш!

— Таму і думаю,— глуха адказаў Бібо.

Ён моўчкі паеў варанай фасолі (тут, у гарах, ім прапаноўвалі востры сыр альбо скудныя прыпасы тутэйшай зямлі — фасолю, боб, гарох), захутаўшыся ў аўчыну, лёг непадалёку ад Алексы.

Палачанін не стаў турбаваць спадарожніка, памыў місы, зрабіў сабе ложак з галінак маладой хвойкі.

Цемра ахутала іх адразу, як толькі схавалася за ўзгоркі сонца, і амаль адразу пачало рэзка халаднець. Малінава-шэрым свяцілася вогнішча, шэры попел хутка зацягваў яго. Пранізліва пераклікаліся між сабой птушкі.

— Мне ж трэба забіць яго,— сказаў раптам Бібо.

Алекса не адгукнуўся, толькі павярнуўся на бок, гатовы слухаць. І Бібо зразумеў гэта, загаварыў глуха і перарывіста.

— Усе чатыры гады... жыў гэтым. Кінжал у грудзі здрадніку,— і ўсё! А толькі цяпер задумаўся — як жыць пасля? Брат жа гэта родны... меншы!

— Дык ён жа... ён прадаў цябе. Успомні, колькі перажыта ў рабстве. А мог бы там і застацца навечна! — Алекса не вытрымаў, сеў.

— А ты — забіў бы?

— Забіў бы! — цвёрда сказаў Алекса.— А што брат — гэта яшчэ горш. Такога першым, каб на зямлі не смуродзіў.

— Правільна...— уздыхнуў, кладучыся, Бібо.— І я так думаю. А вось горла нешта перацінае, не прадыхнуць...

А горы ўздымаліся ўсё вышэй і вышэй. Скуднела расліннасць, і больш каменнай рабілася зямля. Яна не ўбірала ў сябе чалавечы крок, і нібы выштурхоўвала, адштурхоўвала яго, і ён гулка адгукаўся ў нярадасных, таксама варожых вышынях. Прынамсі, так здавалася Алексу. Ішлі яны, стараючыся меней трапляць на вочы, хаваліся, калі ехалі насустрач то селянін на ішаку — маленькіх гэтых, трохі смешных, але вынослівых жывёлін Алекса ўбачыў упершыню, то воіны ў высокіх папахах, у чорных плашчах, перацягненых сярэбранымі паясамі і вялізнымі бляхамі, на холеных, любоўна дагледжаных конях.

Бібо глядзеў услед воінам пацямнелымі вачамі, гартанна прыцмокваў:

— На каня сяду! Пагладжу яго, вах! У добрага каня скура атласная, мяккая, як у жанчыны! Сядло закажу — горы скалануцца!

— Ты і праўда пра коней, як пра жанчын, гаворыш,— не вытрымаў Алекса.

— Жанчына — нічога, але ж яе дастаць лягчэй, чым добрага каня. Конь — сябар, ён не прадасць, не будзе хныкаць і піліць сэрца!

Алексу не крыўдзілі такія размовы. Кожнаму з іх — сваё. За гэтымі агромністымі, непрыветнымі, небяспечнымі гарамі — Хвалынскае мора, а за ім... Там усё пойдзе лягчэй, ён дабярэцца і да Джургеня, і да Бухары...

Дыхаць рабілася цяжэй, паветра, рэзкае, нібы з лядоўні, рэзала ў грудзях. Ламіла зубы ад рачной вады, што шалёна бегла па коўзкіх каменнях.

У харчэўнях падавалі кіслае густое малако, сотавы мёд,

кавалкі бараніны, густа пасыпанай пякучай чырвонай мукой — перцам. Бібо еў, хаваючы твар, зарослы густой рыжай барадою. Яны з Алексам набылі, як усе тут, шырокія плашчы з валянай воўны, шчыльныя і цёплыя, якія не прапускалі ні дажджу, ні сцюжы.

Аднойчы хлопцы непрыкметна сядзелі ў куце харчэўні. Дзверы шырока расчыніліся, у цесны, складзены з грубага камення дом уваліўся невялікі атрад. Наперадзе ішоў немалады ўжо, статны горац, у белым шарсцяным плашчы, у цёмна-сінім суконным каптане, густа расшытым серабрыстымі ўзорамі. Похвы, абсыпаныя бліскучымі, як тоўчанымі, каменьчыкамі, ярка заззялі пры святле факелаў, з якімі ішлі яго спадарожнікі.

Ён нешта выкрыкнуў хрыпла і загадна, і тут замітусіліся гаспадар і яго сын. На вуліцы таксама ўсчалася мітусня.

Прыезджыя расселіся вакол ачага, грэючыся, гучна гамонячы між сабой. Бібо, глянуўшы на іх, яшчэ больш сціснуўся, унурыўся ў плашч, хаваючыся за Алексу.

Праз кароткі час на шырокі стол, вынесены да ачага, пачалі стаўляць місы з варанай фасоляй, сыр, арэхавыя каўбаскі, вяленыя гронкі вінаграду. Запахла маладым віном, якое лілі ў невялікія шыракагорлыя збанкі са скуранога меха. Зноў нешта коратка сказаў старэйшы, і гаспадар пабег да двух падарожнікаў, паказаў на стол, запрашаючы.

Алекса глянуў на Бібо, той шапнуў яму:

— Я — хворы, скажы ім, растлумач!

Алекса, як мог, паспрабаваў тлумачыць, але старэйшы абурана ўсклікнуў нешта, і астатнія кінуліся ў кут, спрабуючы выгнаць адтуль невукаў, што асмеліліся адмовіцца ад запрашэння.

Але тут Бібо ўскочыў, выхапіў з-за пояса шырокі нож, аскаліўшы зубы, зароў абурана і дзіка. Алекса ўскочыў таксама, ліхаманкава рвучы нож з похваў. Загрымелі, падаючы і разбіваючыся, чорныя гліняныя місы...

Воіны таксама залязгалі кінжаламі і нажамі, але тут старэйшы даў ім знак — спыніцца.

Падышоў да двух спадарожнікаў, доўга ўглядаўся ў Бібо — той стаяў, не апускаючы пагляд.

— Біболат? — спытаў коратка. Бібо гэтак жа коратка кіўнуў. Нечакана для ўсіх абняліся, пасля загаварылі хутка-хутка, перабіваючы адзін аднаго. І здзіўлены Алекса ўбачыў, што светлыя вочы сябра наліліся слязьмі, ён схіліў галаву і доўга маўчаў, а пасля падняў яе і стаў

гучна чытаць невядомую Алексу малітву. Астатнія скінулі шапкі і пачалі паўтараць за Бібо незнаёмыя, але напоўненыя смуткам, болем і шчасцем словы...

Сустрэты імі ў харчэўні чалавек аказаўся родзічам Бібо — жанаты ён быў на адной з ягоных стрыечных сясцёр. Ён і расказаў хлопцу аб тым, што мінулай зімой, калі ў аул прыехаў начальнік князевай варты — той самы малодшы брат Бібо — здарыўся абвал. Каменнем засыпаны быў увесь край аула — і дом Бібо таксама. І пад тым каменным абвалам загінулі бацька і маці Біболата, як клікалі тут Бібо, а таксама сястра, самая малодшая, якую не паспелі выдаць замуж... «Боская кара на ім, але нашто загінулі іншыя?» — падумаў Алекса.

Цэлы тыдзень з аула ў аул вазілі Бібо і яго госця. Родзічаў — блізкіх і далёкіх — аказалася процьма, і ўсе яны адзін перад адным стараліся аказаць пашану цудам уцалеламу патомку паважанай тут, у гарах, сям'і.

— Я не сказаў ім праўду,— прызнаўся Бібо Алексу.— Раз загінуў Бекбулат, нашто яго бэсціць? Я сказаў, што зляцеў у бездань і разбіўся, а ратавалі мяне купцы і сілай, беспрытомнага, вывезлі адгэтуль...

У гарах ляжала зіма, калі Алекса выбіраўся з гасціннага аула. Трашчаў снег пад буркамі, блакітныя цені скакалі па асляпляльна белай дарозе, зеленаватыя шапкі гор нерухома і велічна высіліся навокал. Бібо стрымаў слова — падарыў сябру гнедага, у белых яблыках і з белай зорачкай на лбе скакуна.

Цяжкія пераметныя сумы віселі па яго баках. Ляжаў там доўгі і пляскаты хлеб, які пякуць у тутэйшых ачагах, цвёрдыя, як камень, сыры, мясціліся скураныя чобаты і падсцілка з воўны.

— А можа, застанешся тут? Красунь і ў нас хапае, Пілігрым Кахання! — апошні раз прагаварыў Бібо. І, як заўсёды на гэтае прозвішча і словы, адмоўна пахітаў галавою Алекса.

Ён павёз з сабою пласцінку з халцэдона, на якой быў выразаны грыф — як знак роду Бібо, каб тут, у гарах, абаранілі яго законы гасціннасці.

Бібо даў яму праважатага — хлопца-падлетка, які павінен быў правесці нязвыклага да гор палачаніна міма схаваных у снезе безданяў, лядовых трэшчын, уберагчы яго ад камення, што магло ў любую хвілю скаціцца на дарогу. Не, хутчэй гэта была сцяжына, пратаптаная ў снезе конямі і людзьмі, і колькі дзён трэба было ехаць па ёй,

пакуль яна выведзе ўніз, да цёплай і ўзімку даліны, дзе вечназялёныя дрэвы палошчуць у сінім тумане лістоту? Аб гэтай ласкавай, магутна пладаноснай зямлі Бібо расказваў з захапленнем юнака, калі той гаворыць аб каханай. Сам ён там, унізе, не бываў — адтуль прыходзілі адважныя купцы за золатам, якое тут, у гарах, лавілі на калматыя скуры баранаў, апускаючы іх у імкліва-празрыстыя рэчкі, багатыя залатымі россыпамі. У патайным вузельчыку ў хурджыне ляжала амаль жменя тусклых жоўтых драбінак — яшчэ адзін дарунак шчодрага алана Бібо.

Тут, у гарах, навіны перадаваліся з незвычайнай, неспасцігальнай хуткасцю. «Пілігрыма Кахання», як празваў яго Бібо, сустракалі гасцінна, як блізкага чалавека, а ў адной з харчэўняў малады паэт, падыгрываючы сабе на барабане, спяваў песню пра каханне, якое паклікала на край свету і за якім ідзе, як на смерць, русы юнак з блакітнымі вачамі.

Хлопец-праважаты пераклаў яго словы, і Алекса са здзіўленнем падумаў, што чалавечае ўяўленне шырэй, чым простае, звычайнае жыццё. Можа, Бяроза падалася б тут, між смуглявых цёмнавалосых жанчын з гарачымі чорнымі вачыма, занадта халоднай, бледнатварай, але фантазія спевака і паэта зрабіла яе асляпляльнай прыгажуняй, чые вочы прымушаюць згасаць на небе зоркі... Няпраўда гэта, зоркі халодныя і ледзяныя, як і горы вакол, і няма ім справы ні да чалавечага жыцця, ні да клопатаў людскіх! І ён, Алекса, ніякі не слаўны віцязь і не герой. Але... Ён пойдзе, а песня застанецца. Застанецца тут, у гэтых гарах, сярод людзей — як часціна ягонага жыцця, яго душы...

У той вечар ён як другімі вачыма зірнуў навокал. І белая, з мноствам барвовых, ружовых, сініх адценняў цясніна стала бліжэйшай, а гукі, што чуліся то справа, то злева — таксама раней чужыя, варожыя — набылі таямнічы сэнс. Гэта гаварылі горы. Аб чым гаварылі між сабой магутныя, вострыя, як шаблі, вяршыні? Што яны ведаюць пра людзей, пра вечнасць? Ён ніколі не дазнаецца. Але затое знаюць — яны. Знаюць і пра яго, пра ягоны лёс, яго дарогу...

Аднойчы, пасля таго як яны прайшлі перавал, праважаты развітаўся з Алексам. Далёка ўнізе ляжала даліна. Здавалася, горы нарэшце разамкнулі сваю каменную пашчу, набраўшыся золкага, непрыветна агромністага камення.

Даліна ўнізе ляжала сінявата-шэрая, абрысы яе размы-

валіся ўдалечыні. Вільготным, духмяным цяплом дыхала адтуль.

— Вось яна,— коратка сказаў праважатый і, не азіраючыся, паскакаў назад, у белы туман, што сцяліўся над сцяжынай.

Зіма была і ў даліне — там-сям на палях пад раніцу выпадаў снег і замярзалі лужыны, але бліжэй да палудня ўсё раставала, і звонкія ручаіны размывалі дарогу так, што даводзілася збіраць ламачча і рабіць гаць, каб перабрацца разам з канём.

Алекса заплаціў паложаную нарубежную мыту і ехаў спакойна — дарога тут была ажыўленай, мноства народу соўгалася туды-назад. Часта праязджала дарожная варта, правярала — ці мае падарожны скураную адзнаку аб уплаце мыты, ці не здарылася якога ліха.

Цёплы дождж абмываў зеляніну — яе сапраўды было тут многа, агароджы ажно ламаліся ад кустоў з гладкімі бліскучымі лістамі, ад маладых цёмназялёных дрэваў, дзе яшчэ віселі — на самай вершаліне — забытыя аранжавыя плады. Усё вакол нібыта толькі чакала трохі цяпла, каб рынуцца насустрач сонцу, расці, налівацца салодкім сокам... Тут Алекса ўпершыню пакаштаваў лімон — сок яго з вадою напалам сцішае ліхаманку, загойвае раны, паеў нейкія салодкія ягады ў костачках з вострым пахам мяты — ніяк не мог ён запомніць, як іх называлі вакол. Дзівіўся, што ягады перажылі зіму, а пасля ўспомніў брусніцы, што ў бочцы з вадой стаяць аж да бярозазолу — сакавіка,— і ўсміхнуўся: дзівосы ёсць усюды, толькі вось на звыклае не звяртаюць асаблівай увагі!

Ён ехаў, і вясна ўсё болей заяўляла аб сабе: тонкая, пушыстая, вылазіла на ўзбочынах трава, жаўцелі першыя нясмелыя кветкі, віліся над імі руплівіцы-пчолы. Ужо стэп ляжаў перад ім, гулкі, як бубен, стэп, што хацеў, як усё жывое, красавацца пад агромністым небам, радавацца святлу і сонцу.

Усё сушэй і сушэй было вакол, і трэба было набіраць вады ў скураны мех, дзе раней плёскалася віно, і, адыходзячы ад дарогі на начлег, класці побач з сабой кінжал. Усё больш звераватымі рабіліся позіркі сустрэчных малайцоў — не то воінаў, не то ваяўнічых качэўнікаў.

Дыханне пустыні, яшчэ далёкай, ужо, аднак, адчувалася ва ўсім — усё радзей сустракаліся селішчы і гарады,

радзелі купы дрэў на гарызонце, жоўтая, гліністая зямля дзе-нідзе, як плешынамі, чарнела пустэльнасцю, трэшчыны разбягаліся па ёй, нібы па глінянай чашы пасля ўдару каменем. А галоўнае — вецер.

Сухі, калючы, ён налятаў спадцішка, вырываў з-пад каня жменю прывялай травы, высока ўскідваў хурджыны, заляпляў вочы пылам, а валасы рабіў жорсткімі, нібы вымачанымі ў гліне.

Алекса ехаў у Бакунэ — яго назвалі так з-за ветру,— у горад, адкуль адпраўляюцца караблі праз Хвалынскае мора.

Там, за морам, пачыналіся гарады, пра якія ўжо тут, у гарах, гаварылі з пашанай — Мерв, Ургенч, Нішапур, Газна. Там ляжала і Бухара, Бухара свяшчэнная, а ў ёй, калі дабраўся жыўцом, жыў купец Абдурахманбек, і сярод многіх яго жонак і наложніц жыла, паланянкаю,— яна... Ужо тут, сярод гэтых стэпаў, не было нідзе відно бярозы. Ці ж зможа яна, ціхая, задуменная прыгажуня, прыжыцца там, у гарачай і няласкавай чужой зямлі?

Конь — Алекса назваў яго Волатам — таксама нібыта слабеў тут, у нязвыклым сухавеі, што часам дзьмуў і ноччу і днём. Цяпер, праскакаўшы паўдня, ён, змораны, з потнымі льснянымі бакамі, доўга не кранаў ежы, ляжаў, сцярожка гледзячы на гаспадара разумнымі ліловымі вачыма. Вялікі караванны шлях даўно адхіліўся на поўнач, таму харчэўні ля дарогі сустракаліся не часта: у ханстве было неспакойна.

Часцей за ўсё ноч заставала Алексу знянацку, ён ніяк не мог звыкнуцца з тым, што сонца, ледзь зайшоўшы за які далёкі ўзгорак, нібыта правальвалася некуды ў падзямелле, і імгненна на цёмным, як аксамітавым, небе высыпалі буйныя, іскрыстыя зоры. Адразу ж і халаднела.

І, задыхаючыся днём ад пылу і гарачыні, Алекса ноччу шчыльней хутаўся ў аўчыну і туліўся да вогнішча, якое стараўся раскласці ў лагчыне, каб не запрыкмеціла агонь якое ліхое вока.

Аднойчы, калі чорная, гулкая цішыня ночы здалася яму арканам, што зацягнуў горла і не дае ўздыхнуць, ён пачуў крык. Нешта адбывалася на дарозе, адкуль ён нядаўна сышоў. Схапіўшы лук і стрэлы, Алекса неўпрыкметку пакраўся на шум і валтузню, што не сціхалі, а, наадварот, узмацняліся. Крыкі, стогны, глухія ўдары... Паступова, напружваючы зрок, ён разгледзеў — два чалавекі таўклі з усіх сіл трэцяга, які качаўся па зямлі, бездапаможна і

ярасна ўскідваючыся і зноў валячыся назад, бо быў, верагодна, звязаны. Яшчэ адна нерухомая постаць стаяла, панурыўшыся, каля двух коней.

Алекса хацеў нячутна адысціся, але тут зноў пачуўся стогн — не, гэта ўжо быў хрып, перадсмяротны, адчайны. І хлопец не вытрымаў,— хуценька намацаў стралу, паклаў яе ў знаёмы латачок, моцна адкінуўся, выбіраючы ўстойлівае месца.

Страла каратка запяяла, пасля пачуўся ўскрык. Адзін з нападаўшых сагнуўся, зароў, тузаючы стралу з грудзей, пасля цяжка рухнуў на дарогу. Другі спалохана адскочыў, кінуўся да каня.

Другая страла з кароткім свістам вырвалася з лука. Але на гэты раз Алекса прамахнуўся: коннік імкліва пасқакаў прэч і, знянацку ўдарыўшыся аб дарогу, з пранізлівым крыкам пацягнуўся за ім, прывязаны, відаць, тоўстаю вяроўкай, яшчэ адзін палонны. Так і зніклі яны ўначы, невядомы коннік і чалавек, якому не суджана дажыць свой век спакойна і ці суджана ўвогуле дажыць да раніцы. Другі конь спалохана кінуўся па пустэльнай дарозе і таксама хутка растварыўся ў цемры.

Алекса паслухаў трохі, пасля таропка падышоў да чалавека, які ліхаманкава рваў путы на нагах, спрабуючы вызваліцца. Другі, паранены стралой, ляжаў нерухома.

Так Алекса пазнаёміўся з маладым самаркандцам Нігматам, якога разам з другімі разьбярамі і каменшчыкамі наняў для ўпрыгожання Джума-мячэці адзін з шырванскіх ханаў. Два гады працаваў у Бакунэ разьбяр, а калі скончана была мячэць, выпрасіў двух разьбяроў родзіч хана, каб упрыгожылі яны і маўзалей для ягонага бацькі. Але Нігмат уцёк — па дагаворы ён павінен быў вярнуцца паўгода назад.

Пасля першага пабегу яго злавілі і не надта каралі. Але зараз былі ўжо трэція ўцёкі, і раз'ятраны хан адправіў за ім варту з наказам — забіць неслухмянага!

— Жыццё маё хан хацеў забраць сабе і спатоліць нянавісць,— аднойчы, ужо праз многа дзён, неяк прызнаўся Нігмат.— А ты вярнуў яго мне, брат!

Круглатвары, чорнавалосы, рухавы, як сонечны зайчык на вадзе, Нігмат з першага ж дня ўзяў на сябе прыгатаванне ежы і няхітрыя гаспадарчыя клопаты. Яны, дрэнна разумеючы адзін аднаго, усё ж дамовіліся — да Харэзма ісці разам, так больш надзейна і спакойна.

У Бакунэ Алекса ўпершыню ўбачыў мора. Шэра-зялё-

ныя хвалі набягалі і набягалі на камяністы, слізкі ад калматых раслін бераг; доўгі, нескончоны вецер, што саланіў вусны, дзьмуў з неабдымных прастораў, і белыя грабеньчыкі пены скрозь уздымаліся на зменлівай, сліпучай ад сонца паверхні вады.

Цэлых тры тыдні яны чакалі, пакуль які карабель пойдзе ў Чырвоны бераг — адтуль ішла дарога на Харэзм і Бухару. Нігмат хацеў адправіцца ўздоўж мора, на поўнач, бо, як сказаў ён, ніводнай манеты не звініць у яго хурджуне, ды і яго, хурджуна, няма таксама.

— Я не хачу вісець каменем на тваёй шыі, няхай паможа табе Алах вялікі, міласэрны! — сказаў ён, збіраючыся развітацца.

Але Алекса настояў на тым, каб ехалі яны разам. Каня давялося прадаць, і грошай на праезд хапала.

— Маё жыццё — тваё жыццё! — сказаў расчулены Нігмат.— Можа, давядзецца аддзякаваць табе як мае быць!

Ён не ведаў, а можа, забыўся, што слова валодае таямнічай сілай — бывае хвіліна ці імгненне, калі яно, кінутае ў свет, як каменьчык, выклікае абвал — нябачны, нячутны, які доўжыцца гады...

І было мора, і былі дні і тыдні адчаю, калі, здавалася, няма ратунку, калі чорныя валы кідаліся на ладдзю і спрабавалі ўтапіць яе ў страшнай бездані, над якою то ляцела, то заціхала ў бязветраныя дні слабое стварэнне рук чалавечых. І кончыліся прыпасы ежы і пітва, і не засталося ў Алексы ніводнай залатой драбінкі, што даў яму Бібо. І калі, здавалася, трэба было толькі легчы і памерці, убачылі яны доўгачаканы бераг.

Але і на гэтым шлях не канчаўся. Наадварот: самае страшнае ляжала перад імі — Пустыня.

Упершыню Алекса бачыў пустыню. Яна сапраўды ашаламляла нязвычнага чалавека. Агромністая прастора. Пад нагамі — шэрая, расколатая трэшчынамі, бялесая пляцоўка, якая блішчыць пад сонцам, нібы адпаліраваная. І так — намнога вёрст наперад.

— Гэта — такыр,— паказваючы навокал, растлумачыў Нігмат.— А гэта — барханы,— ён яшчэ раз паказаў на вялізныя і трохі меншыя кучы пяску, што былі параскіданы аж да самага краю пустыні, што ляжала перад імі.

— Захавай мяне Пярун, гэта — нібы блін. Што ж тут — ні ўзвышша, ні даліны, толькі вось гэта пад нагамі? — паказаў уніз Алекса.

— Так, колькі будзем ісці — толькі пустыня. Але чым далей, тым страшнейшая яна. Добра, што мы пачалі свой шлях цяпер, ранняй вясной, таму тут няма такой гарачыні. Бачыш, вунь саксаулы — яны нам дадуць паліва для кастра, каб абагрэцца. Чалавек жыве і тут. Ён, чалавек, усюды жыве,— па-філасофску заключыў Нігмат.

За імі заставалася мора — яно было непрыветным, на сініх хвалях пеніліся грабянцы, белыя і зеленаватыя. Глуха шумела навокал, цёрся пясок аб гліняную пляцоўку, і Алекса зразумеў, чаму тутэйшая зямля такая адпалірава-ная. Дзе-нідзе блішчалі круглыя ямінкі — там таксама яшчэ была вада. Мусіць, і яна была такой жа горкай, непрыдатнай для піцця, як і вада гэтага непрыветнага мора — Алексу ўвесь час здавалася, што зараз яно нагоніць іх і з ровам абрушыцца, праглыне навекі. Але яны з Нігматам ішлі і ішлі па пустэльнай зямлі, па якой слізгацелі ногі, а мора заставалася ў берагах, толькі шум яго рабіўся цішэйшым, і ўжо не пагроза чулася ў ім, а нейкая скарга, як у звера, якога заключылі ў вялізную клетку...

Усё з большай цікавасцю Алекса глядзеў навокал.

Незвычайна празрыстым, нейкім нібы светланосным было дзівоснае паветра, і ад гэтага ўсё нібыта ціха свяцілася — зямля, расліны. Вось збоку паказаўся будынак — чатыры калоны адзінока абкружалі правалены купал. На сцяне асляпляльна заблішчалі каляровыя пліткі. Калі падышлі бліжэй, Алекса ўбачыў — гэта ўзоры. Прыхаматлівыя, яны нібы лунаді ў паветры. Было асабліва журботна, што гэтая прыгажосць жыве толькі для яшчарак і змей, якія з шолахам папаўзлі прэч, калі хлопцы зайшлі ў развалiны, каб трохі адпачыць.

— Гэта мазар — могілкі, тут некалі быў пахаваны знатны чалавек, магчыма, нават хан,— растлумачыў Нігмат.— Хан — гэта як ваш каган, ваш князь.

— А што з ім здарылася? — пацікавіўся Алекса, цяжка здымаючы палатняны мех з сушанымі фруктамі і ляпёшкамі, якія яны зарабілі, тры дні месячы гліну і навоз для цаглін у адным з рэдкіх селішчаў.

— Хто ж ведае? Тут многае было,— задумліва адказаў Нігмат, збіраючы тонкія былінкі для вогнішча і крэсівам высякаючы агонь.— Вось пап'ём чаю, пойдзем далей.

Сцяна адкідала на пясок касы трохкутнік ценю, і яны селі пад ёю. Высока-высока, у празрыстым небе, праплылі касякі жураўоў.

— Першыя птушкі. Хутка ажыве пустыня, пабачыш

тады, як тут усё расцвіце,— сказаў Нігмат, клапатліва кідаючы ў чорны, закопчаны кумган шчопаць чорнага чаю.

Алекса доўга праводзіў паглядам жураvoў. Дык вось дзе кружаць яны, перш чым прыляцяць на Дзвіну, на Полаччыну. Вось што ляжыць пад іх крыламі — бясконцы блін пустыні, старыя, закінутыя крэпасці і магілкі былых уладароў! Папіўшы чаю, ён не вытрымаў, пайшоў унутр, за сцены. Там, апроч маўзалея, узвышаліся астанкі былога палаца — высокая некалі вежа, да яе прымыкалі доўгія калідоры. Байніцы, прыступкі лесвіц, аркі — усё зроблена з сырцовай цэглы, ужо пашчэрбленай часам. У нішы каля высокага разбуранага акна — фігуркі з цэглы. Ён падышоў, пакратаў — жанчына корміць дзіця, твар у яе ледзь намечаны, але формы пукатыя, нібы налітыя сілай. Далей, у змроку галерэі, відны разбітыя сасуды.

У такіх прывозілі віно ў Полацак замежныя купцы. Былі бачны косці жывёл, кучы попелу. Ён пакрочыў наперад.

— Куды ты? Такія месцы любяць злыя духі — джыны! — закрычаў знізу Нігмат. Сапраўды, Алекса, разглядаючы сляды даўняга, нязвыклага жытла, непрыкметна паднімаўся ўвысь. І цяпер ён стаяў між сцен, у якіх не было даху, сцен, ад якіх захаваліся толькі рэшткі.

Сярод чорнага запусцення ззялі нечакана яркімі, жывымі фарбамі роспісы на сценах. Старадаўнія людзі ў незвычайных сукнях, плашчах ехалі на дзіўных звярах, нацягвалі лукі, танцавалі. Твары мужчын і жанчын, моцна пацёртыя вятрамі і сонцам, часам былі надзіва выразнымі, і Алекса прагна глядзеў навокал, як бы хочучы навекі ўвабраць у сябе ўбачанае. Толькі ў царкве бачыў ён дасюль такія малюнкі, але ў царкве былі намаляваны святыя, а людзей з лукамі і стрэламі, танцоўшчыц там не было ніколі. У кутку ляжалі скураныя скруткі — гэта, відаць, былі нейкія запісы, але яны таксама амаль сатлелі. Што спыніла тут жыццё — хвароба, вайна альбо гнеў багоў нечакана абрушыўся на тых, што некалі жылі ў гэтых сценах, елі, спявалі і смяяліся?

Раздаліся крокі. Гэта, трохі палахліва азіраючыся па баках, спяшаўся наверх Нігмат. Ён, можа, сапраўды чакаў, што ўбачыць тут джына, ці аднаго з нячысцікаў-іфрытаў, або мёртвага ўжо спадарожніка, бо твар яго, калі ён убачыў Алексу, асвяціўся радасный усмешкай.

— Чаму ж ты не адгукаешся? — з папрокам сказаў ён.

— Паглядзі,— Алекса замест адказу павёў рукой навокал.

— Вай-вай, вось гэта цуд! — захоплена пацокаў языком Нігмат.— Я чуў, што некалі даўно каля гэтага караваннага шляху быў горад. Можа, гэта частка яго?

Алекса ўбачыў непадалёк вылепленую з нейкага белага матэрыялу галаву танцора: вузкатвары, танканосы чалавек з чорнай кучаравай барадой у шапачцы. А над шапачкай — казліныя вушы. Алексу толькі цяпер стала жудасна — якраз такім малявалі полацкія іканапісцы чорта, які прыходзіць па душу чалавека, што многа грашыў.

Пойдзем адсюль,— ён пацягнуў за сабой Нігмата, і яны хутка выйшлі з палаца. На ўзгорку каля іх пагаслага касцярка ляжала змяя, яна лянiва падняла галаву і неахвотна папаўзла ў недалёкую шчыліну, каля вялікага кавалка бірузовай палівы — відаць, ветрам сюды занесла адну з пліт палаца.

Яны моўчкі праводзілі яе паглядамі і пачалі збірацца. Уласна, зборы былі нядоўгія — запіхнулі ў мяшок астаткі ляпёшкі, беражліва загарнулі ў некалькі столак пляцёнку з чаем, паклалі наверх кумган — і зноў у дарогу.

Уначы Алекса ўскочыў. Нейкі гул пранёсся над пустыняй, гул гэты ўсё ўзмацняўся, ён нёс трывогу, нібыта недзе нараджаўся вялізны смерч. Нідзе нікога не было відно, агромністыя зоры нізка віселі над зямлёю, а цёплы пясок пад імі быў нерухомы, толькі ўдалечыні як бы скрыгацела — злёгку, варушачыся, нібы змяя.

— Гэта бархан спявае,— сонна сказаў Нігмат.

— Што? — не зразумеў Алекса.

— Пясок спявае. Вецер падняўся, і тады, калі паднімаецца вецер, бархан — ёсць тут такі ў Каракумах — спявае. Я чуў ужо яго. Спі.

Нігмат павярнуўся на другі бок і тут жа соладка заснуў. Сапраўды, яны ляглі спаць зусім нядаўна, стаміліся. Уначы ісці было лягчэй, паветра не стала прахалодным, не, яно толькі страціла сваю невыносную пякучую гарачыню, і караванны шлях цвёрда лажыўся пад ногі. Яны збочылі, калі пачулі наперадзе званочкі — гэта значыць, наперадзе ішоў караван. Яны баяліся караванаў, хаця ісці разам было б лягчэй. Але чалавека варта было баяцца болей, чым смяротнай гарачыні ці нячутнай у пяску змяі, якая слізгаціць імкліва і напоена атрутай у сотні разоў большай, чым гадзюкі ў полацкіх лясах — цяпер Алекса ведаў гэта.

Яны ішлі не так доўга, але наваколле змянілася да

непазнавальнасці. У пустыню прыйшла вясна, зацвіло ўсё, у чым хаця трохі цеплілася жыццё: цвілі калючкі, каравыя саксаулы — дрэўцы, скрыўленыя пастаяннай непагаддзю, цвілі акацыі каля юртаў качэўнікаў, куды хлопцы сыходзілі з дарогі.

Нігмат вучыў Алексу мове фарсі — надзіва лёгка даваліся палачаніну словы чужой мовы, і ён вучыў іх ярасна, нібы гэта абяцала нейкае ўратаванне на будучае. А Нігмат быў рады таму і многае гаварыў пра родныя мясціны, пра славутыя гарады Бухару і Самарканд, пра звычкі народаў, якія засялялі старадаўні Согд і Бактрыю. Ён расказваў пра тое, што персы ў яго родных мясцінах некалі пакланяліся Агню і богам іх быў Заратуштр. Але вось ужо некалькі пакаленняў, як захапілі землі персаў качэўнікі — бедуіны, і гэта яны прынеслі лепшага бога — Алаха і яго намесніка на зямлі — Магамета.

Сам Нігмат, як праведны мусульманін, старанна выконваў абрады. Нягледзячы на далёкі шлях, нёс ён у мяшку маленькі, як толькі паставіць калені, дыванок, сплецены з чаратоў, і старанна маліўся па некалькі разоў на дзень. Гэтак жа старанна ён рабіў абрад абмывання, стараючыся адысціся на той час ад Алексы і пабыць аднаму. Аднаго разу гэта ледзь не прывяло да вялікай бяды. Толькі адышоўся Нігмат за невысокі бархан, трымаючы ў руцэ малюсенькі кумганчык, як падзьмуў — спачатку не надта моцна, але з кожным імгненнем усё больш магутна — сухі, рыпучы вецер. Проста на вачах Алексы ўсё навокал завалакло клубамі пылу, пяску, заімглілася, паплыло... Ён кінуўся на зямлю, схапіў з сябе аўчыну, каб неяк схаваць вочы ад пякучай, рэзкай, як град, сумесі, накрыў галаву, упаўшы на калені. Варта было яму хаця на імгненне высунуць галаву, як нос і рот забівала сухім, калючым пылам, і ён туліўся, стараючыся закрыцца ад гэтага нечаканага, нябачанага, смяротнага ветру. Па целе яго з шоргатам, да крыві, праносіўся пясок, але ён закрыў галаву, таму што пакута, якую нёс з сабой вецер, была несцерпнай з-за рота і вачэй, забітых пылам. Час не цягнуўся, не, ён проста спыніўся з-за гэтай пясчанай завірухі, і здавалася — гэта будзе вечна, заўсёды. Заўсёды ён будзе вось так ляжаць, задыхаючыся, заўсёды, аж да Страшнага Суда, будзе вось так не хапаць паветра, і нават сляза не можа прабіцца скрозь гэты страшны шквал... А можа, гэта і ёсць Страшны Суд, можа, за ўсе яго грахі занесла яго на край свету і вось так бязлітасна

малоціць і знішчае? Ён успомніў,— казаў Нігмат, што ў пустыні ёсць смерчы і ў кожным з іх пасяляецца джын. Мабыць, сапраўды гэтыя джыны, гэтыя нячысцікі, абрушыліся на яго, але ён усё яшчэ жывы, усё яшчэ тахкае, шалёна грукаціць сэрца...

Нарэшце навокал нібы пачало аціхаць. Ён сеў, праціраючы кулакамі вочы і пальцамі дастаючы з рота пясок і пыл. Язык распух, цяжка было сказаць хоць слова, але ён, азіраючыся, не бачыў нідзе Нігмата, і страх ахапіў яго, страх застацца аднаму ў гэтай бяскрайняй пустыні, у пясках, дзе бляклае неба ў часы такіх пясчаных завірух нібы зліваецца з зямлёй... І ён паспрабаваў закрычаць:

— Нігмат!

Крык быў амаль бязгучным, ён згубіўся тут жа, ля Алексы. Трохі прачысціўшы горла, закрычаў ізноў. На гэты раз нешта спалохана мільганула прэч. Можа, якая яшчарка таксама хавалася ў час бурану побач? Але ніхто не азваўся. Тады .зноў закрычаў — безнадзейна і доўга. І ніхто не адгукнуўся ў адказ...

Падышла ноч. Ён усё нерухома сядзеў на адным месцы. Баяўся адысціся ад дарогі — тады не зможа вярнуцца на яе. Барханы ўсюды аднолькавыя. Пайсці наперад — значыць, заблудзіцца ў іх і ніколі не выбрацца назад. Да таго ж ён спадзяваўся, што Нігмату лягчэй будзе шукаць. Яму больш звыклыя тутэйшыя мясціны, ён неяк адрознівае нават гэтыя барханы, для Алексы зусім аднолькавыя, па звону бомаў адчувае, які ідзе караван. Добры памочнік яму гэты чарнавокі хлапец, заўсёды вясёлы і ўслужлівы!

Імгненна апусцілася на зямлю ноч, буйныя зоркі высыпалі на небе. Алекса неахвотна распаліў касцярок, зламаўшы для гэтага вузлаватае, амаль распластанае па зямлі дрэўца, што расло непадалёку. Крэмень высякаў іскру за іскрой, але вогнішча не хацела распальвацца, нібыта без Нігмата яно згубіла сілу. Але нарэшце агеньчык разгарэўся. Алекса закіпяціў ваду, чуйна слухаючы ноч і паклаўшы каля сябе кінжал. Агонь быў цяпер ворагам — відны здалёку, і хто ведае, каму ён прыглянецца! Але той жа агонь мог убачыць і Нігмат, і для яго рызыкаваў Алекса, таму што не хацеў верыць, што пустыня паглынула спадарожніка, да якога ён сапраўды прывязаўся, нібыта да роднага.

Ноч ішла, а Алекса ўсё паліў касцярок, і, мабыць, усе сухія быліны вакол былі спаленыя, таму што шукаць больш нёг і тонкія галінкі ўначы рабілася ўсё цяжэй. І толькі калі

трохі пабялела неба на ўсходзе, да Алексы данёсся слабы крык:

— Эй-вай!

Падалося ці сапраўды нехта крычаў? Алекса ўскочыў, загалёкаў што было моцы. Крык праз нейкі час вярнуўся, а пасля наблізіўся. З-за бархана выступіла нейчая постаць, і гэта быў Нігмат, ягоны голас быў радасны і адначасна стомлены.

— Э-гей-а-а!

Алекса, забыўшыся на ўсё, кінуўся насустрач яму:

— Братка, братка ты мой!

Ён абхапіў Нігмата за плечы, трос іх з усяе сілы, і слёзы каціліся па твары, падалі на грудзі, на плечы Нігмата.

— Знайшоўся!

Ён гаварыў па-свойму, але Нігмат разумеў яго, і ён таксама абхапіў Алексу за плечы, а пасля сказаў са сваёй заўсёднай усмешкай:

— Піць дай, а то прапаў зусім Нігмат!

Яны пайшлі да вогнішча, і там Нігмат перш за ўсё загасіў кволенькі агеньчык, памацаў кумган.

— Гарачы!

Ён хлябтаў чай прагнымі, вялікімі глыткамі, пасля спыніўся:

— Калодзеж не хутка, берагчы трэба!

Беражна заткнуў драўлянай пробкай карчагу, дзе яны захоўвалі ваду, падняў на плечы мяшок.

— Айда, пакуль можна! Саратан пачынаецца, саратан! Трэба прайсці да якога селішча, там пажывём да восені.

— Саратан?

Алекса прагна лавіў незнаёмае слова.

— Пайшлі, у дарозе раскажу.

Неба святлела імкліва, і ўжо адчувалася гарачыня, якой напоўніцца дзень. Сапраўды, ісці было ўсё цяжэй, і, відаць, блізка ён быў, гэты саратан, які спальвае расліны і дрэвы, вогненным акіянам абрушваецца на зямлю. Гора чалавеку, які не можа напаіць свой ураджай! Сонца расплавіць усё жывое, што не абараняе вада, таму так дорага каштуе яна ў гэтых мясцінах. Але сонца хітрае, яно выпальвае нават ваду, пакідаючы ў ёй соль, і тады зямля засольваецца, яна робіцца белаю, і жыццё пакідае яе. Каб вярнуць такую зямлю да жыцця, трэба вада — ёю прамываюць засолены ўчастак, ён зноў набірае сілу і можа нараджаць расліны. Тут жа, у пустыні, дзе вады няма, няма

і сапраўднага жыцця. Праўда, калісьці вада тут была, пра гэта сведчаць старадаўнія крэпасці і гарады. Вада прыходзіла да іх па каналах, якія карміла рака. Але рака капрызная, яна мяняе рэчышча, і даводзіцца пракладваць каналы зноў і зноў...

Яшчэ расказваў Нігмат, як, засцігнуты пясчанай бурай, ён страціў напрамак і, спадзеючыся дабегчы да Алексы, пайшоў у другім кірунку, але, зразумеўшы, што заблудзіўся, хутка спыніўся і чакаў, пакуль можна будзе шукаць дарогу.

Яшчэ дзве ночы ішлі яны, а ўдзень шукалі хаця якога ценю і клаліся спаць, разганяючы на месцы начлегу ядавітых скарпіёнаў і змей, капаючы пад чэзлым дрэўцам яміну і зацяняючы яе ўсім, што было ў іх,— дыванком, чатырохкутнікамі мяшкоў, абвешваючыся [redacted] усіх бакоў і сапалкамі замацоўваючы свае няхітрыя пажыткі, каб не сарваў іх нечаканы віхор. Клаліся спаць проста на зямлю, у цёплы яшчэ [redacted] начы пясок, а вакол Нігмат абавязкова сцяліў валасяны аркан, сплецены ім па дарозе з астаткаў вярблюджых і конскіх валасоў, які час ад часу, зачапіўшыся за быльнёг, калыхаўся па ўзбочынах.

— Простую вяроўку змяя ці скарпіён перапаўзе,— тлумачыў ён,— а волас жорсткі, яна пачне паўзці, пакалецца — і назад!

З кожным днём як бы выгарала пустыня, і аднойчы днём, калі яны, захіліўшыся ад сонца, моўчкі сядзелі ў лагчыне, Нігмат паказаў рукою:

— Каракурт!

Алекса глянуў на зямлю, але не ўбачыў нічога.

— Вось жа! Павуцінне!

Сапраўды, у цяністай мышынай норцы ледзь чутна ўздрыгвала пругкае павуцінне. Яркая стракатая муха, пралятаючы міма, зачапіла нітку павуціны. Імгненна з глыбіні норкі выкаціўся чорны аксамітавы шарык. Павук тузануў за павуцінне — муха забілася ў ім, ірванула крыльцамі, але ў гэты момант яе абляпіла кропелька празрыстай, ліпкай вадкасці. Павук, абрываючы адны ніткі і падцягваючы другія, хутка завалок муху ў глыбіню логава.

— Сцеражыся! — паказаў Нігмат.— Укусіць, і твой Пярун не ўратуе цябе ад смерці!

— Можа, твой Магамет уратуе цябе?

Нігмат ускочыў, ноздры яго раздзьмуліся, дыханне стала хуткім і цяжкім.

— Калі скажаш яшчэ слова пра прарока — заражу! Алекса ўскочыў таксама, вочы яго загарэліся гневам.

— Ты першы пачаў!

Яны колькі часу стаялі адзін перад адным, сціскаючы кулакі. Сонца паліла іх галовы.

Нарэшце Нігмат абмяк, апусціўся на зямлю, накрыўся дыванком. Алекса выцер далонню спацелы, узмакрэлы твар. Хацеў глынуць вады, але падумаў: «Нядобра, мала яе»,— і цяжка мучыўся смагай аж да вечара.

Пасля яны памірыліся і пайшлі далей.

Аднойчы пад раніцу, стомлена шукаючы, дзе б усталявацца на адпачынак, яны ўбачылі сцены. Уласна, іх убачыў сваім вострым зрокам Нігмат, ён узрадавана ўскліснуў:

— Людзі! Юрты!

Ім сапраўды трэба было шукаць прыпынку: апошні дзень яны так і не маглі заснуць ад спёкі, а калодзеж, да якога дабрылі, аказаўся салёным, і вакол яго ляжалі два шкілеты, а воддаль, нібы яшчэ спрабуючы дайсці некуды, ляжалі косці вярблюда — палову іх расцягалі ўжо дзікія звяры. Нігмат абышоў шкілеты, шукаючы, ці не знойдзецца ля іх чаго-небудзь карыснага, але не знайшоў і, пакапаўшыся трохі ля калодзежа, паспрабаваўшы ваду і злосна плюнуўшы, закамандаваў ісці далей. Яны ішлі, і абодвух свідравала адна думка — вада ізноў канчалася, і што, калі наступны калодзеж таксама акажацца непрыгодным? Алекса некалі паспрабаваў піць нясцерпна салёную ваду, але і паміраючы ад смагі, яе нельга было нават браць у рот, таму што пасля яшчэ страшней, яшчэ больш пагрозліва хацелася піць. Яны і так зберагалі кожную кроплю вады, і Нігмат цяпер пры малітвах абмываўся пяском, а не вадою. Відаць, хацеў паказаць алаху, што ён па-ранейшаму выконвае ўсе запаветы.

Убачыўшы сцены, яны дадалі хуткасці, але жытло нібы ўвесь час аддалялася, а сонца, паднімаючыся вышэй, неміласэрна паліла іх. Ішлі і ішлі, абліваючыся потам, і з ім, здавалася Алексу, выцякала з іх сіла і жаданне рухацца далей.

Ля дувалаў — гліняных агароджаў селішча — вогненная лавіна скасіла-такі іх. Алекса ўпаў, трацячы прытомнасць. Апошняе, што мільганула ў ім, была думка пра авечак, якія, лежачы каля гліняных хіжын, спалохана бляялі, гледзячы на прышэльцаў, і спадзяванне на тое, што Нігмат, можа, акажацца мацнейшым і дапаўзе да гэтага

селішча, якое дражніла іх паўдня і вось цяпер пагружаецца ў цемру...

Калі ён адкрыў вочы, трохі ачомаўся, то ўбачыў, што ляжыць на скуры і ў рот яму паціху льецца нешта кіслае, церпкае. Не ведаў, што даюць піць, але прагна лавіў белую вадкасць распухлым ротам, аж пакуль смуглявая рука, што трымала гліняную чашу, не адняла яе ад Алексы. Тады ён убачыў маладую жанчыну ў круглай чорнай, вышытай шоўкам, шапачцы, на якой там і сям былі ўмацаваны белыя пёркі. Ніжэй, на тонкай смуглявай шыі, бразгацелі манеты і каралі, але сукенка на ёй была амаль да празрыстасці пацёртая часам і, відаць, не здымалася ўжо шмат месяцаў. У юрце, апрача маладой жанчыны, была старэйшая, з маршчыністым, як бы патрэсканым тварам, у такой жа заскарузлай сукенцы, але з галавой, абкручанай вялікім цурбаном. Яна бразгацела посудам, і смачны пах смажанага мяса плыў знадворку.

Алекса азірнуўся — Нігмата нідзе не было відно. Ён паспрабаваў падняцца, маладая жанчына нешта строга загаварыла, ён зразумеў адно слова — «там», гаварыла, відаць, яна пра Нігмата, паказваючы некуды ўбок. Зноў паказала рукой — кладзіся, але ён не паслухаўся, падняўся, выйшаў з хаціны.

Нігмат наляцеў на яго адразу. Ён схапіў Алексу за руку, закрычаў спалохана:

— Ідзём, ідзём адсюль!

Алекса азірнуўся. Непадалёку ад іх гарэла невялікае вогнішча. Сядзелі ў гуртку мужчыны. Іх было нямнога, але ніхто не варушыўся, яны толькі глядзелі на хлопцаў, седзячы з расстаўленымі каленямі, на кавалку паласатай тканіны, у цяні ад растрэсканай хіжыны. Чым жа так устрывожаны Нігмат? Ён паўтарыў: «Хадзем! Хутчэй!» — і дадаў незразумелае:

— Махау-хана!

Што такое «хана», Алекса ўжо ведаў. «Хана» азначала памяшканне, дом, хаціну. «Мехмонхана» — месца, дзе ядуць. Гэтак гаварылі яшчэ за морам. Але «махау»? Нігмат тузануў яго за руку:

— Глядзі!

У асляпляльным святле Алекса прыжмурыўся, больш пільна паглядзеў туды, куды паказвала рука Нігмата, і жахнуўся — мужчыны амаль усе былі як бы аб'едзены нечым. Барвовыя, у ранах твары, целы, усе ў буграх, у многіх не хапала рук альбо ног.

— Махау! — паўтарыў Нігмат, цягнучы яго прэч. Ён з жахам паказаў на сябе, на Алексу, пасля на мужчын ля хаціны.

Алекса ніколі не бачыў пракажоных, але пасля сустракаў іх нямала на базарах, дарогах. І заўсёды яны выклікалі ў ім такі ж жах, які ахапіў у першы раз. Ён пабег было за Нігматам, але ўспомніў — мяшок застаўся ў хаціне, а там няхітрыя пажыткі, без якіх так цяжка падарожніку. Ён вярнуўся, падаў знак Нігмату, забег у хаціну. Старая жанчына павярнулася да яго, і ён убачыў на яе твары сляды той жа страшнай хваробы. Схапіўшы мяшок, задам, не зводзячы вачэй з жанчын, як бы баючыся, што хто-небудзь дакранецца да яго, выскачыў з хаціны. Сонца вогненным колам стаяла над іх галовамі, калі яны ішлі назад. Але сіл усё ж прыбавілася, і яны крочылі наперад, пакуль не зваліліся ў нейкую яміну і не прыляглі там, як заўсёды, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго.

Праз дзень, убачыўшы зноў здалёку жытло, яны пайшлі да яго і набрылі на невялікі караван-сарай. Ляпёшак у мяшку ўжо не было, не было і вады. Заставалася альбо памерці з голаду, альбо паспрабаваць набраць хаця б вады. Вада ў караван-сараі таксама каштавала грошы, але што было рабіць? Будзе дзень — будзе хлеб.

...Над высокім вузкім уваходам караван-сарая, зробленага з жаўтаватага каменю, высечаны фігуры ільвоў — Алекса ўжо не раз бачыў такіх звяроў на манетах і на фрэсках старых вежаў. Яны ўвайшлі ў двор, чыста вымецены. Барадаты мужчына ў калматай шапцы і халаце, падпяразаным чырвонай хусткай, паспешліва вылецеў насустрач, але, разгледзеўшы іх, запаволіў крок і незадаволена нахмурыўся. Мабыць, ён чакаў багатых гасцей, і гэтыя два маладыя абадранцы навялі яго на думку, што яны прыйшлі прасіць ежы і вады, а тут, у пустыні, і тое і другое каштуе нямала. Але не падаць жабраку хаця б кавалак ляпёшкі — будзеш абняслаўлены на ўсёй караваннай дарозе, і імя тваё стануць успамінаць з насмешкай.

Маленькая працёртая манетка на далоні Нігмата трохі супакоіла гаспадара. Ён узяў яе, падкінуў на далоні, нешта крыкнуў гартанным голасам, і адразу ж у дзвярах з'явіўся худзенькі хлопчык.

— Ён дасць нам піць? — шэптам запытаў Алекса.

Нігмат кіўнуў, і яны следам за хлопчыкам адправіліся ў кут караван-сарая. Там, за агароджай-дувалам, стаялі вярблюды, былі нават два кані, што смачна хрумсталі

аўсом. Хлопчык падвёў іх да вялікай, зробленай з апаленай гліны, яміны, накрытай цяжкай глінянай плітой. У яміну, з другога боку, уваходзіў тонкі жолаб з гліны, які ішоў аднекуль зверху. Хлопчык па прыступках палез у яміну, дастаў адтуль вялікую гліняную біклагу вады, падаў падарожнікам. Пасля ўзяў у іх кумган і сасуды, таксама напоўніў усё гэта вадой. Нігмат і Алекса прагна выпілі вады, пасля Нігмат нешта сказаў хлопчыку, той азірнуўся па баках, спачатку адмоўна пахітаў галавой, а пасля зноў палез у яміну і напоўніў іх пустыя ўжо біклагі.

— Я сказаў, што ў нас болей няма грошай. Але я прадкажу ягоны лёс, калі ён дасць нам трохі вады,— растлумачыў Нігмат.

Амаль у той жа момант з'явіўся гаспадар, ён падазрона паглядзеў на іх і прыдзірліва пачаў пазіраць, як закрывае хлопчык цяжкай крышкай каштоўную ёмкасць. У руках гаспадара былі дзве ляпёшкі. Свежыя, белыя, трохі пакрытыя макам, яны падаліся Алексу нейкім выратаваннем. Яму захацелася выхапіць іх з рук гаспадара, уплішчыцца ў цёплую белую мякаць зубамі і есці, есці... Але ён стрымаўся, асцярожна прыняў ляпёшкі і следам за хлопчыкам пайшоў у маленькі пакойчык — худжар.

Яны добра выспаліся і адпачылі на тонкай высцеганай падсцілцы. Калі Алекса прачнуўся, Нігмата не было. Не было яго і на двары. Алекса падышоў да жалабка, які зацікавіў яго раней, і ўважліва разгледзеў, адкуль жа цячэ вада. Жалабок вёў да вялікай роўнай глінянай пляцоўкі, дзе, відаць, збіралася дажджавая вада ці раса, што пасля сцякала ў ёмкасці ўнізе. «Проста і разумна»,— падумаў ён. Цікава, што чалавечы розум заўсёды прыстасуецца для сваіх патрэб. Зверху, з лесвіцы, ён убачыў нечаканую карціну: на драўляным узвышшы-супе, падкурчыўшы ногі, сядзеў Нігмат, вакол яго стаялі кубкі, кумганы, блюды. Спусціўшыся, ён застаў сябра заклапочаным: Нігмат асцярожна трымаў чашу з тонкай белай гліны з чырвонай палівай, разглядаючы яе.

Аказалася, Нігмат склеіў амаль нябачна для пастаронняга вока любімую чашу гаспадара. Чаша каштавала вялікія грошы і належала яшчэ дзеду, а таму ўдзячны гаспадар прапанаваў Нігмату застацца тут, пакуль спёка затрымлівае падарожных, каб заадно пачыніць увесь посуд, які залежаўся ў кладоўцы за многа гадоў, але не выкідаўся, таму што посуд гэты — каштоўны, з яго пілі толькі багатыя госці. У чашы была адарваная ручка. Нігмат глядзеў на яе.

— І ты гэта зробіш? — са здзіўленнем запытаўся Алекса.— Але як?

— Пры дапамозе Алаха і вось гэтага,— Нігмат паказаў на вузельчык.— Я заўсёды нашу яго на грудзях, як абярог-талісман, бо парашок гэты — сакрэт нашай сям'і. Можа, ім валодаюць майстры Чына, завоблачнай краіны, але ў нашых землях я нідзе не сустракаў чалавека, які мог бы так аднавіць парцэлянавы посуд.

— А калі б хто выкраў гэты парашок?

— Нічога не будзе,— весела рассмяяўся Нігмат.— Трэба яшчэ ведаць сакрэт, як і колькі яго класці. І скажу табе яшчэ, як брату — дастаць гарачае малако вярблюдзіцы, а калі няма вярблюдзіцы, проста гарачае малако. Калі-небудзь я пакажу табе сакрэт, але цяпер будзем зарабляць грошы на дарогу. Я ж твой даўжнік!

— А я нічога не ўмею, акрамя таго, што валодаю мячом, доўбняй альбо нажом. Яшчэ ўмею ўпраўляцца з коньмі, магу, калі трэба, рабіць памочнікам каваля, але толькі памочнікам, бо сакрэтаў ягоных таксама не ведаю...— уздыхнуў Алекса.

— Нічога, брат. Я вось не ўмею трымаць меч, бо я ўсяго толькі рамеснік. Калі б быў купцом, то, пэўна, навучыўся б біцца, бо купцы — людзі рызыкоўныя, ім трэба абараняць сваё дабро. А што мне абараняць? На мае інструменты ніхто не пакваліцца, усім будуць патрэбны мае рукі і мая галава.

— А іх што, не трэба абараняць?

— А нашто тады воіны? Кароткі чалавечы век, усяго не зведаеш. Вучыўся б я гуляць з мячом, не навучыўся б іншаму. А цябе я вазьму як падручнага, будзеш паціху насіць мне ваду ды размешваць парашок альбо проста рабіць выгляд, што памагаеш. Наш гаспадар, ён за так нічога не дае. Дык за работу, брат! Нам яшчэ трэба зарабіць трохі грошай да Бухары. Там мае родзічы, яны дапамогуць. А пасля, калі ты знойдзеш сваю прыгажуню, я вярнуся ў Самарканд!

Скончыўся саратан, і ў іх сапраўды былі грошы, каб купіць месца ў караване і сесці на вярблюдаў. Усё ж ехаць лепей, чым цягнуцца пешшу: прайшлі тыдні — і яны дабраліся да Бухары.

Хлопцы ішлі па горадзе, запоўненым крыкамі гандляроў і воклічамі ваданосаў. Алекса азіраўся па баках і адтаго часта спатыкаўся. Вочы яго прагна упіваліся ў акружаючае, але зрок ад мностваў уражанняў стамляўся.

Мільгацелі гліняныя агароджы з разьбянымі дзвярамі, высокія, на тонкіх драўляных калонах гандлёвыя двары, рынкі, дзе чырванелі, сінелі, стракацелі нябачаныя гароднiна і садавіна.

— Маўзалей Самані,— з гонарам паказаў Нігмат на чатырохкутны будынак, багата ўпрыгожаны блакітнымі пліткамі і залатым узорам роспісаў.

Маўзалей ззяў у промнях ранішняга сонца, як дзівосная цацка. Алекса ажно заплюшчыў вочы.

— Маўзалей — гэта што? — запытаўся ён.

— У гэтым маўзалеі пахаваны хан і яго блізкія,— растлумачыў Нігмат.

— Пахаваны? Тут, у палацы? — здзівіўся Алекса. Спыніўся, паглядзеў яшчэ раз на вялізны будынак, уздыхнуў:

— Цяжка яму тут ляжаць. Каменне нябось на грудзі лягло. У нас валатоўкі, курганы. Там нябожчыку лёгка дыхаецца. А то бывае, у нас паляць мёртвага, але ўжо радзей. Апошнім часам болей хаваюць у зямлі.

— У нас таксама паляць. Тыя, хто пакланяецца Агню, але яны — няверныя, такія, як і ты,— сказаў Нігмат.— Я думаю, ты яшчэ ўбачыш сілу Алаха і зразумееш, што твая вера няправільная. Але ты мой пабрацім, і сілай не буду цябе прымушаць, хаця тут,— паглядзеў па баках,— тут мне гэта было б зрабіць лягчэй, чым там,— ён кіўнуў галавой назад.

— Дык ты што... пагражаеш мне? — Алекса натапырыўся, рука яго сціснулася ў кулак.

— Ты мой госць,— ухіліўся ад адказу Нігмат.— Я ж не Айшма, не злыдзень, які крыўдзіць падарожных. Не бойся.

— Я і не баюся,— Алекса расціснуў кулакі, пайшоў далей.

Неўзабаве яны скіраваліся ў ціхую вулачку, дзе моцна запахла кветкамі, яшчэ нечым, падобным да руты. Яны ішлі да бухарскага ўмельца, што калісьці сяброваў з бацькам Нігмата і разам працаваў з ім.

Зеляніна прабівалася на дрэўцах, што выглядалі з-за дворыка, каля невялічкай глінянай сценкі цвілі ружовыя кветкі. Нігмат пастукаў у дзверы.

Яны расчыніліся не адразу — нехта паглядзеў у шчыліну, пасля доўга шаптаўся, і тады Нігмат гучна ўсклікнуў:

— У імя Алаха, ці ёсць тут гаспадар?

Тады дзверы імгненна адчыніліся, і высокі сівы мужчына ў паласатым цёплым халаце і пляскатай вышытай шапачцы на галаве паказаўся ў праёме.

— Я надумаў, што гэта злы дэман Аждарха ператварыўся ў сына майго сябра і стаіць на парозе. У імя Алаха вялікага, міласэрнага, скажы — гэта ты, Нігмат?

— Клянуся светлым Алахам і прарокам яго Магаметам, паважаны Атаджан, што я не Аждарха і не іншы дэман, і не дух азаткы, што збівае з дарогі падарожных. Вялікая і незвычайная гісторыя здарылася са мной, і яна сапраўды можа служыць прытчай, якую запісваюць для сыноў і ўнукаў! — склаўшы рукі на грудзях, загаварыў Нігмат.— Мы з сябрам ідзём з вялікай і цяжкай дарогі, на якой пакуль дапамагае лёс. Дапамажыце і вы, бацька, іначай самыя апошнія крокі да дому стануць самымі цяжкімі.

Уваходзьце! — сказаў гаспадар, і госці ўвайшлі на маленькі дворык, густа засаджаны кветкамі. Невялікая тэраса была ўся, да апошняга кавалка чырванаватага дрэва, упрыгожана разьбой і роспісамі. Алекса загледзеўся на бліжэйшую калону: прыхаматлівыя кветкі нібы абвівалі яе, а чырвоная фарба ўнутры кветак рабіла іх жывымі.

Гаспадар убачыў яго захапленне, але нічога не сказаў, павёў іх далей, у пакой.

Малады хлопец з тазікам руках і даўгагорлым сасудам з вадой узнік на парозе амаль імгненна.

У пакоі была тая ж адмысловая разьба — на дзвярах, на невысокім століку на шырме, што закрывала ўваход у другое памяшканне.

На сценах віселі яркія вышытыя палотны, і сонца па-асабліваму святочна лашчыла ўзоры і пералівы нітаў. Многа цярпення, многа дзён і начэй каштавала некаму гэтая работа, і Алекса падумаў пра дзяўчат — тоненькіх і палахлівых, чые кволыя рукі тварылі дзівы: нібыта ўбачыў сярод іх тую, за якой пайшоў у гэты далёкі, заліты вогненным пякельным сонцам край. Як ёй тут дыхаецца, як жывецца, ці не скалола яна свае амаль празрыстыя, далікатныя пальцы гэтай работай, вышываючы свайму чорнабародаму ўладару такія ж палотны?

— Чойшаб,— паказаў гаспадар на адно з покрываў, што хавала ўваход, прыўзняў яго. У другім пакоі гарой ляжалі ля сцен падушкі, на доўгім, вялікім дыване таксама стаяў маленькі столік. Алекса засаромеўся: відаць, задумаўся, пазіраючы на адмысловую жаночую работу, праявіў залішнюю цікаўнасць. Нігмат, заўважыўшы яго збянтэжанасць, паляпаў яго па плячы, саступіў месца ля таза. Смуглявы хлапец адразу ж стаў паліваць на рукі.

Алекса міжволі скурчыў далоні: рукі былі парэпаныя, з чорнымі шнарамі. Так, не вельмі пачэснага госця прымаў гаспадар Атаджан! Але нядоўга затрымаюцца яны тут. Ды,— тут жа кальнула думка,— могуць застацца і назаўжды. Небяспечная і няправедная, па меркаваннях людзей гэтай зямлі, ягоная справа! Можа, таму і Нігмат нічога не кажа гаспадару пра іх намеры, можа, Алекса сам, без нікога, зробіць тое, для чаго дабіраўся сюды? Калі нават гэта будзе апошнім у жыцці! Пасля ачомаўся. Нельга рашаць з разгону як хочацца, як прагне сэрца. Не, трэба цярпенне і яшчэ раз цярпенне!

Гаспадар запрасіў іх у суседні пакой, і Алекса зноў здзівіўся — на абрусе, пасланым на нізенькім століку, ляжалі мяккія ляпёшкі, на медных падносах чырванелі ўжо знаёмыя плады, сок якіх, кіславаты і вязкі, спатольвае прагу і прымушае кроў хутчэй бегчы па жылах, а таксама лечыць пры паслабленні ўнутры. Здавалася, што і плады гэтыя, і арэхі, і белыя, няроўныя, нібы кавалкі ссохлай мукі, салодкія прысмакі, і кавалкі мяса ўзніклі тут па волі чараўніка, бо не чуваць было ні крокаў, ні руху — нічога, што выдавала б прысутнасць каго іншага.

Яны селі за стол, і да самага вечара Нігмат расказваў гаспадару і двум яго верным сябрам, за якімі было паслана, пра сваё падарожжа. Тыя пілі салодкае, густое, вязкае віно, са смакам елі і з такім жа смакам слухалі, час ад часу ўздымаючы ўверх рукі і цокаючы ў знак вялікага здзіўлення. Алекса заўважыў — дзверы суседняга пакоя былі прыадчынены, і нешта каляровае, з белымі тонкімі павевамі мільгацела там. Аднаго разу ён нават убачыў чорныя, вясёлыя і трохі здзіўленыя дзявочыя вочы і маршчыністую руку, якая адцягвала вінаватую далей ад чужых мужчынскіх позіркаў. Несумненна, жанчыны, якія жылі ў гэтым доме, таксама слухалі прыгоды Нігмата і Алексы, бо аднаго разу, калі хлопец расказваў, як уцякалі ад пракажоных, адтуль данеслася выразнае: «Вай-вай!» Гаспадар павярнуў галаву ў бок воклічу, твар яго нахмурыўся, і ўсё адразу сціхла.

Слухаць тут любілі — даўно сонца страціла сваю сілу і садзілася за вялізнае дрэва на двары, а прысутныя ўсё сядзелі і пыталіся. А хіба полацкі князь не любіў гаворкі з прыезджымі людзьмі, не цікавіўся, як і што адбываецца ў далёкіх краях, не здзіўляўся незнаёмым звычкам і парадкам?

Алекса слухаў аб сваіх прыгодах, але ўласнае, тое,

дзеля чаго ён прабраўся сюды, рызыкуючы жыццём, надступала да горла, патрабавала неадкладнасці і яснасці. Што з Бярозай, дзе яна? А можа, перавёз яе купец у іншае месца, можа, і ў жывых няма ўжо яе, і, магчыма, самога Абдурахманбека?!

Нігмат не сказаў аднаго — што прывяло сюды Алексу. І ніхто не пытаўся пра тое. Захоча госць — скажа. Не — такое яго жаданне. І так шмат цікавага расказвае малады майстра Нігмат!

Госці разыходзіліся за поўнач, расчырванелыя ад віна і вясёлыя. Хлопцаў жа адвялі ў пакой, і там, на тоўстых коўдрах, разасланых уздоўж сцяны, Алекса заснуў амаль ужо на досвітку, хаця стомленае цела прасіла сну. Ляжаў, гледзячы на акно, дзе паволі рухаліся зоркі, адкуль дзьмуў цёплы вецярок. Можа, гэты вецер калыша і над Бярозай цяжкія, вышытыя шаўковымі і залатымі нітамі палотны, кранаецца яе вуснаў, варушыць мяккія валасы. Ён ледзь стрымліваўся, каб не падняцца, не выйсці на сонныя вуліцы гэтага вялікага незнаёмага горада з блакітным маўзалеем і глінянымі агароджамі, з ружовымі кветкамі ў дворыках і нямоўклымі рэчачкамі ўздоўж дарог, і не пайсці шукаць двор купца — шукаць па біццю сэрца, па той невядомай сіле, якая штурхае і кліча чалавека туды, куды рвецца яго душа. Ён быў упэўнены, што знайшоў бы той дом. Але розум пярэчыў, і Алекса думаў, што сапраўды нельга рызыкаваць сабою і Нігматам зараз, калі так блізка мэта. Можа, і сапраўды лепей ісці аднаму? Але Нігмат не адпускаў яго. Цяпер ён спаў моцна, часам мармытаў у сне. Нешта цёплае паднялося ў душы Алексы — гэты хлопец таксама хацеў дадому, ён жа дыхаў роднай зямлёй, паветрам! І ўсё ж не пайшоў адразу да сям'і, да братоў і маці, а дапамагае Алексу — дапамагае насуперак усяму, да чаго прывык з дзяцінства...

Ён нарэшце заснуў, і Нігмат расштурхаў яго з цяжкасцю.

— Хопіць спаць! — сказаў весела, і чорныя вочы яго смяяліся.— Калі б шах закаханы Меджнун спаў так, як ты, пра яго ніколі б не склалі столькі песень! Магу ўзрадаваць цябе: паважаны Абдурахман тут, у горадзе, і яго любімая жонка Бадзія таксама.

— Бадзія? — няўпэўнена перапытаў Алекса.

— Ну так, яна, твая белавалосая прыгажуня! Пра якую варта было б напісаць цудоўную газель! Але падзішах паэтаў Рудакі даўно памёр, дый мы, нявольнікі Алаха, далёка

стаім ад знакамітых людзей, і не пра нас пішуцца бейты і рубаі!

— Хіба ты бачыў Бярозу? — недаверліва запытаўся Алекса, спадылба глянуўшы на Нігмата.

— О не! Чужая жонка — гэта запаветны сад, куды іншым уваход забаронены! Гэта гурыя, да якой можа прабрацца толькі абраннік!

— Калі мы пойдзем туды? — глуха сказаў Алекса, і Нігмат пасур'ёзнеў, адказаў коратка:

— Заўтра на дасвецці. Бадзія любіць гуляць па садзе рана, калі хатнія яшчэ спяць. Убачыць яе можна толькі там, у садзе. Дом купца добра ахоўваюць, і нездарма: склад у яго тут жа, за домам, і кажуць, што ён перапоўнены таварамі!

Алексу здалося, што Нігмат нешта недагаворвае, але не стаў дапытвацца ні пра што: калі трэба, скажа, калі ж не гаворыць, нашто выцягваць душу?

Пасля абеду — смачнай кашы з белых празрыстых зярнятак, як бы напоеных жоўтым духмяным лоем, гаспадар загаварыў з Алексам.

— У цябе сэрца, чуйнае да прыгажосці,— сказаў ён.— Я зразумеў гэта, калі ты глядзеў на разьбу на сценах, калі агледаў сабаяк і сузанэ. Можа, ты руміец, візантыец, а не мусульманін — што з таго? Калі надумаешся застацца і будзеш шукаць занятак, прыходзь да мяне. Я навучу цябе ажурнай разьбе агароджы — панджара, ты навучышся рабіць разьбу багдадзі, ісліміі і паргоры — кожная з іх мае свой рытм, малюнак і ўласцівасць. Сам я найболей люблю ісліміі — ты бачыш, колькі ў гэтай разьбе кветак і раслін. Але калі табе даспадобы суровасць і строгасць лініі, ты хутка авалодаеш разьбой паргоры.

— Я воін, а не рамеснік! — горача ўсклікнуў Алекса і замоўк — не хацелася пакрыўдзіць гаспадара, а давялося. Але той усміхаўся.

— Хто ведае, якія мы? Што дрэмле там? — ён паказаў на грудзі. Памаўчаў, пасля загаварыў:

— Бывае, што чалавек усё жыццё шукае сябе, а знаходзіць толькі к старасці альбо зусім не знаходзіць. І тады душа яго непрыкаяна бадзяецца па свеце, і ўсюды ёй блага, і ўсюды нешта зганяе яе з месца, альбо, калі належыць яна рабу, то зрушваюцца ў ёй усе аковы, і тады чалавек вар'яцее, злы дух авалодвае ім поўнасцю і зацямняе святло розуму. Ты можаш лічыць сябе кім хочаш, але ў цябе душа чуйная да прыгажосці, і ты — не воін, павер мне, хаця я

ўсяго толькі просты разьбяр, які зарабляе хлеб сваім інструментам і трохі душою.

— Я не воін?! — Алекса ажно ўскочыў.— Ды я забіў столькі ворагаў, колькі вы кветак не выразалі на сваіх слупах і сценах!

Нігмат трывожна тузануў яго за рукаў, шапнуў:

— Маўчы!

Сказаў пачціва і цвёрда, як неразумнаму:

— Лепшага майстра, чым Атаджан, няма ў слаўным горадзе Бухары! Але зайздроснікі ганяць яго работу, таму што Атаджан не так нізка згінае спіну перад моцнымі, як таго хацелася б падліпалам.

— Таму што чалавек — не лісіца, што сцелецца па зямлі, зліваючыся з глінай, абы насычаць свае вантробы,— ціха дадаў Атаджан.

— Даруйце яму, мауляна, можа, ён і праўда толькі воін,— дадаў Нігмат. Ён устрывожыўся, час ад часу тузаў Алексу.

Але той не мог супакоіцца:

— Канешне, я воін, і сам князь хваліў мяне і гаварыў, што сэрца яго радуецца, калі бачыць, як я лячу ў бой, абганяючы сталых воінаў, і якззяе мой меч на сонцы!

— Але не меч прывёў цябе сюды,— ціха сказаў гаспадар, і Алекса ўстрапянуўся, сцярожка глянуў на абодвух.

— Чаму вы так думаеце?

— Таму што я — мастак, многае адчуваю сэрцам, а не розумам. Але ў госця ніколі не пытаюць, што ў яго на душы. Не хочацца казаць, што мучыць і прыгнятае — твая воля. Ды нешта ж гняце вас абодвух.

— О дамула, я скажу, і няхай мая галава паслужыць залогам маёй праўдзівасці! — усклікнуў Нігмат.— Я раскажу, чаму стаў дапамагаць чужаземцу, гяуру — нявернаму! Можа, гэта вялікі грэх перад Алахам, але няўжо я павінен быў паступіць іначай?!

І ён расказаў майстру Атаджану пра тое, што прывяло ў гэтую зямлю чужаземца-палачаніна.

Атаджан доўга маўчаў — так доўга, што ў абодвух хлопцаў пахаладзелі сэрцы і трывожна загрукала ў скроні кроў.

— Каран гаворыць, што жанчына створана дзеля таго, каб аблегчыць суровы шлях мужчыны, і не болей таго.

Алекса маўчаў. Маўчанне пагрозліва навісла ў пакоі.

— Ну што ж, я пайду,— сказаў нарэшце Алекса.— Дзякуй гаспадару за дабрыню. Я пайду.

Ён падняўся і пайшоў да выхаду.

— Пастой! — аклікнуў яго гаспадар.— Сядзь! — загадаў ён хлопцу, і той паслухмяна вярнуўся, сеў.

— Я дапамагу табе, таму што ты — мой госць. А галоўнае — я сам перажыў падобнае. Ды калі маю Зулейху аддалі багацею, яна памерла для мяне. Памерла і маё сэрца. Засталася душа. Душа падказвае мне той ці іншы ўзор, бо яна патрабуе нейкага выйсця.

Але магу я дапамагчы нямнога. Памагу коньмі, каб ты мог разам з жанчынай скакаць у пустыню, дзе згубяцца ўсе сляды. Памагу табе прыпасамі і вадою. Можа, ты не загінеш на зваротным шляху. Разам з ёю. Пустыня не для жанчын.

— З ёю не прападу. Нашы дзяўчаты і жанчыны выдубленыя суровымі паўночнымі вятрамі, пра якія вы не ведаеце, іх кроў гарыць на такім марозе, ад якога перацінае дыханне ў самага моцнага мужчыны! — з гарачнасцю ўсклікнуў Алекса.— Мне б толькі вырваць яе адтуль, яна пойдзе за мной хоць у пекла, і калі суджана загінуць, я загіну разам з ёю!

І зноў гаспадар доўга маўчаў. Пасля падняўся, і ў голасе яго прагучала нейкая бы зайздрасць:

— Шлях, па якім ты хочаш прайсці, нагадвае мне шлях ас-сірат-аль-мустакім, дзе крочыць кожны мусульманін у дзень Страшнага Суда, калі анёл смерці Ісрафіл кліча яго. Шырынёй з лязо мяча той шлях, і ўтрымацца на ім можа толькі праведнік. Але лічы, што палову ты ўжо прайшоў, дабраўшыся сюды. Хай паможа табе Джырджыс.

— А вам і жонцы вашай — святы Дауд і Бібі-фаціма, нашы памагатыя! — пакланіўся яму, склаўшы рукі на грудзях, Нігмат.

Пакланіўся гаспадару і Алекса,— нізка, да зямлі, крануўшыся рукой цёплай глінянай падлогі. І таксама сказаў:

— Хай усім нам дапамогуць багі, што адварочваюць ад людзей няшчасці, як бы тых багоў ні клікалі...

Сонца яшчэ не ўставала, але ўсход быў як апаясаны ружовай стужкай зары, і тонка пахла ў паветры вільготнай травой, якая нагадвала пах чабору.

Яны ўтрох ляжалі ў густых зарасніках пад самай глінянай агароджай, за якой пачынаўся сад купца Абдурахмана. Трэцім быў чарнаскуры нявольнік, якога звалі Юсуф

і які жыў у доме Атаджана. Ён ляжаў спакойна, толькі чатырохвугольныя сківіцы яго ўвесь час варушыліся — ён смактаў насвой, сумесь гашышу і попелу, час ад часу вымаючы яго з табакеркі наскавок, маленькага круглага гарбузіка, афарбаванага чырвонымі колерамі.

Алекса ўжо ведаў, што такое насвой — адна шчопця прымусіла яго пахіснуцца, легчы на цёплую сцяжыну і хвіліну-другую ляжаць, адчуваючы, як адчайна кружыцца галава. Але людзі навокал, відаць, прывыклі да насвою — яго смакталі і клалі пад язык сівыя старцы і нават жанчыны — бачыў ён у доме Атаджана жанчыну, што нагадвала зморшчаны яблык. Ад старасці яна ўжо не насіла на галаве цёмны покрыў і таму хадзіла па доме свабодна, прыбіраючы ў пакоях і трымаючыся з асаблівым гонарам, бо некалі няньчыла бацьку Атаджана, а пасля і самога гаспадара. Яна таксама жавала насвой і прапанавала такі ж наскавок Алексу, але ён спалохана адмовіўся. Цяпер жа, раніцай, лежачы на прахалоднай яшчэ зямлі і адчуваючы, як марозам па скуры прадзірае яго хваляванне, ён думаў, што сягоння ніякі насявой не закружыў бы яму галаву, а можа, трохі супакоіў бы.

Невялікія бойкія птушкі з чорнымі крыльцамі распявалі свае вясёлыя песні, скачучы па агароджы, і хлопец пазайздросціў ім — ускочыць бы, зірнуць, што там, у садзе! Але гліняны дувал быў шчыльным і непадступным, а адзіны выхад быў праз двор, дзе сядзеў нехта з нявольнікаў купца. Прайсці там было немагчыма — на ноч дзверы, падбітыя жалезам, зачыняліся, і па баках гарэла мноства свяцільнікаў. Дый нават калі прабрацца ў пакоі, дзе там шукаць Бярозу? Нігмат, відаць, меў рацыю — толькі тут, у садзе, яна будзе пад наглядам адной-дзвюх служанак, [redacted] з імі, жанчынамі, яны справяцца.

Грукнулі дзверы, і ў садзе пачуліся нягучныя жаночыя галасы. Нігмат, прыгнуўшыся, папоўз да дувала, як кошка, лоўка ўскараскаўся на яго ў тым адзіным месцы, дзе малады, ужо зялёны клён мог захіліць нечаканага госця галінамі. Алекса назіраў за ім са здзіўленнем: гнуткая постаць маладога мусульманіна мільганула ў лістоце і знікла, нібы растварыўшыся ў ёй, галінкі былі здрыганулі-ся, але тут жа ўсё стала такім, як хвіліну назад. Толькі цяпер ён успомніў — на сябру была светла-зялёная кашуля — такая ж, як лісце дуба. Нігмат, відаць, ляжаў на дувале і назіраў. Яшчэ раз пачуўся жаночы смех — і з лістоты высунулася рука Нігмата, павабіла іх, але жэст

быў перасцерагальны, і яны з чарнаскурым нявольнікам наволі папаўзлі да сцяны і гэтак жа лоўка ўскараскаліся па ёй. Два канцы вяроўкі ўжо былі спушчаны ўніз, і Алекса зноў здзівіўся — не бачыў ён ніякай вяроўкі ў Нігмата, нічога, здаецца, не было ў таго, апроч вострага нажа з тонкім лязом, схаванага ў скураны футлярчык, упрыгожаны вышыўкай і роспісам — самаркандзец любоўна насіў яго з сабой,— ды мяча ў похвах на баку. Такі ж меч быў і ў яго, разам куплялі іх у лаўцы каля мячэці.

Ускараскаўшыся на дувал, ён убачыў дзвюх жанчын. Адна з іх, тоўстая, мажная, накрывала невялічкі столік чырвона-карычневым абрусам, другая, у доўгай зялёнай сукенцы і чырвонай аксамітавай безрукаўцы, у шапачцы з белым пукам пер'я, стаяла да іх спіной. Нігмат нешта прашаптаў Юсуфу, той саслізнуў з дувала і пачаў падкрадацца да служанкі — таўсташчокі твар яе з насурмленымі чорнымі брывамі быў заспаным, яна пазяхала, шырока адкрываючы рот. Сам Нігмат гэткім жа нячутным крокам падыходзіў да танклявай жанчыны, і ў Алексы як абарвалася сэрца — няўжо гэта сапраўды Бяроза?

Чарнаскуры нявольнік, відаць, выдатна ведаў, што рабіць: служанка не паспела вохнуць, як рот яе быў шчыльна забіты кляпам. Жанчына ў зялёным таксама не паспела крыкнуць: Нігмат пагражальна шапнуў колькі слоў, і яна застыла на месцы, павярнуўшыся да дувала.

Тое кароткае імгненне, калі Алекса набліжаўся да Бярозы, ён перажыў як у страшным сне: незнаёмы твар з ненатуральнымі чорнымі брывамі, пад чырвонай пляскатай шапачкай, нема глядзеў на яго шырока раскрытымі вачыма, якія таксама падаліся яму чорнымі. Ён ужо стаяў, углядаючыся ў яе, як раптам твар гэты змяніўся, і знаёмыя, пасвятлелыя ўраз ад невыказнага здзіўлення вочы засвяціліся.

— Гэта... ты?!

Крык вырваўся з яе грудзей нечакана, і голас канчаткова вярнуў знаёмае аблічча: чорныя, намаляваныя да пераносіцы бровы, начорненыя вейкі ўжо не перашкаджалі яму. І ён сказаў проста, хаця крык таксама рваўся з яго грудзей:

— Гэта я. За табой.

Яна спачатку як бы не пачула: вочы прагна аббягалі ягоны твар, постаць, упіваліся ў яго вочы, а рукі міжволі цягнуліся наперад, і ён заўважыў, не гледзячы на яе далоні, што яны, як у тутэйшых жанчын, бура-карычняватыя,

фарбаваныя нейкай раслінпай фарбай, ад якой — ён таксама няўцямна заўважыў гэта і пасля аднавіў у памяці больш выразна — парыжэлі і яе бялявыя валасы, заплеценыя ў тонкія коскі, што струменіліся па аксамітавым кабаце.

— Няма часу,— коратка і хрыпла сказаў Нігмат.— Бяжым!

Яна перавяла вочы на Нігмата, пасля зноў на яго, Алёксу, і ён паўтарыў, нібы пераклаў:

— Я за табой. Бяжым. Дадому. Дадому!

Тады яна працяжна перапытала:

— Дадому?

— Ну так, дадому, у Полацак! Да маці! — ён гаварыў і бачыў, што вочы яе нібы цьмянелі, нешта прачыналася ў іх — не то здзіўленне, не то адчай.

Алекса схапіў яе за руку, пацягнуў за сабой, да агароджы, дзе вісела вяроўка, а чарнаскуры нявольнік ужо даўно абвязаў і, як нерухомую ляльку, паставіў да дувала тлустую служанку, вочы якой варочаліся, нібы ў злоўленага звера.

Але тут здранцвенне нібы пакінула Бярозу. Яна спынілася:

— Мансур!

Ён не зразумеў, і тады яна паўтарыла гучна, а Нігмат адразу запытаўся:

— Сын?

Яна кіўнула галавой, і ў кароткае імгненне Алекса чамусьці адзначыў, што яна і Нігмат лепей разумеюць адзін аднаго.

Яна спынілася, вырвала руку, вочы яе пашырыліся, заіскрыліся гневам.

— Не! Мой дом тут!

— Тут? Твой дом? — ашаломлена перапытаў Алекса.— Што ты гаворыш? Тут?!

Ён ■ гарычу матлянуў галавой вакол. Які злы дух зачараваў яе, што яна кажа?! Але жанчына авалодала сабою і, хаця рукі яе дробна дрыжалі, адказала яму гэтак жа гнеўна:

— Ён любіць мяне! І сына!

— Хутчэй! Хутчэй! — ускрыкнуў Нігмат.— Пакінь яе, яна...

Ён не паспеў дагаварыць: проста ў смуглявае, тонкае яго горла ўпілася шырокая чорная страла ■ раздвоеным драўляным канцом. І, павярнуўшыся ў бок садовай дзвер-

цы, Алекса ўбачыў, як па дарожцы бягуць людзі. Яшчэ адна страла прагудзела побач, ён паспеў прыгнуцца і скочыў да Нігмата, краем вока паспеўшы заўважыць, як агромністымі скачкамі набліжаецца да дувала Юсуф.

Алекса схапіў ужо бязвольнае, цяжкае цела сябра, кінуўся таксама да агароджы, але не паспеў дабегчы да яе і зразумеў, што застаецца толькі адно — дастойна прыняць смерць. Нігмат быў ужо мёртвы — кроў заліла яго горла, і Алекса ведаў, што ад такой раны няма ратунку. Ён апусціў цела на зялёную шчотку травы, выхапіў меч. Знаёмы шал авалодаў ім, і ён нічога не бачыў вакол — ні таго, як некалькі слуг падхапілі беспрытомную Бярозу-Бадзію і панеслі яе ў дом, ні рассечанага амаль напалам Юсуфа. Хлопец біўся, спрактыкаваным позіркам воіна заўважаючы блізкае лязо мяча, і паспяваў амаль няўлоўным рухам нагі выбіць з чужых рук тонкі нож, які падбіраўся да ягонага сэрца. Ён ведаў — нядоўгай будзе гэтая бойка, яму не дадуць уцячы, і ўцячы ён не зможа — але хацелася смерці пачэснай, смерці сапраўднага воіна, і ён біўся, акрываўлены і страшны, аж пакуль з глінянага дувала не прасвісцела тонкая валасяная вяроўка і не захліснула горла, адразу абарваўшы і святло, і мёртвы твар Нігмата з шырока адкрытымі, дакорлівымі вачамі, і чырвоны, ужо зніклы аксаміт жаночага кабата...

Ён ачнуўся ў цёмным скляпенні начы, прастагнаў, паспрабаваў павярнуцца і адразу ж страціў прытомнасць.

Другі раз, калі зноў адкрыў вочы, ярка білася ў закратаванае акно сонца, блішчала жалезная спражка на скураным поясе вартаўніка, які сядзеў непадалёку [redacted] другім воем і быў заняты нейкай гульнёй. З намаганнем Алекса ўспомніў, што з ім, толькі не мог зразумець, дзе ён. Ныла і торгалася левае плячо — яно было туга абкручана нечым белым. Белым былі абкручаны і грудзі.

Адзін [redacted] вояў, голы, у каляровых шараварах, у ботах з сырамятнай скуры, павярнуў галаву і ўбачыў, што Алекса ачуняў. Ён коратка цмокнуў. Вартаўнікі ўскочылі, з цікаўнасцю разглядаючы палоннага.

Пасля адзін з іх выбег [redacted] пакоя і амаль адразу ж вярнуўся з чорнабародым мужчынам у парчовым халаце, перавязаным шаўковай хустай. Галава ў мужчыны была гладка паголеная, мясісты падбародак ільсніўся, на кароткіх, чатырохвугольных, цвёрдых пальцах ззялі і пераліваліся пярсцёнкі з чырвонымі, блакітнымі і зялёнымі каменьчыкамі. Мужчына спыніўся перад ляжачым, стаў, шырока

расставіўшы ногі ў ботах з тонкага каляровага саф'яну, і Алекса імгненна, нават не свядомасцю, а толькі памяццю пазнаў яго. І мужчына ўсміхнуўся, адчуўшы, што яго пазналі. Усмешка яго была не падобная да той, якая запомнілася некалі Алексу — яна не была ўгодлівай, яна была спакойнай, жорсткай, і, пакуль ён так стаяў і разглядаў свайго палонніка, на твары Абдурахманбека шырылася яшчэ і задавальненне. Пасля ён дастаў маністы, што былі на Алексу, кінуў пад ногі.

Алекса адчуў ярасць і тузануўся, каб устаць, але плячо пранізаў такі востры, ніколі яшчэ ім не адчуты боль, што ён міжволі застагнаў скрозь сціснутыя зубы. Убачыў, што задавальненне на твары купца стала яшчэ больш заўважным, і адразу сціх. Той нешта скрозь зубы прагаварыў аднаму з нявольнікаў, якія былі у доўгіх сініх кашулях, і адзін з іх прывёў у пакой жанчыну. Твару яе не было відно — на галаве жанчыны пачыналася і амаль да падлогі, закрываючы твар і постаць, цягнулася чорная, падобная на сетку альбо на мяшок тканіна. Тады Алекса, перамагаючы боль, сеў.

— Калі ты замоўчыш хаця адно яго слова, ■ кіну цябе разам ■ сынам у зіндан, — сказаў ёй Абдурахманбек, і Алекса зразумеў: Бярозу прывялі, каб дапрошваць яго. Гаспадар, відаць, купляў талмача недзе блізка ля краіны русаў, і цяпер няма каму дапамагчы яму, апроч жонкі.

— Я... сам адкажу... скажу табе, што трэба,— слаба сказаў ён на фарсі, і вочы купца здзіўлена пашырыліся.

— Ты... ты знаеш нашу мову? — хутчэй сцвярджальна, чым запытальна сказаў ён.— Тады скажы мне, колькі часу ты правёў ■ ёю,— ён паказаў на Бярозу,— сам-насам?

— Мала,— Алекса з цяжкасцю падбіраў словы, з цяжкасцю вымаўляў іх,— зусім мала. Але даволі, каб яна сказала, што любіць цябе і сына і не хоча, не хоча... ехаць са мною...

— Ехаць? У Полацкае княства? — Абдурахманбек перапытаў гэта, звузіўшы вочы. Бровы яго сышліся ў адну шырокую паласу.— Ты хацеў забраць яе? Пасля таго як яна была жонкай другога? Нарадзіла сына?

— Хацеў. Але пра сына я не ведаў.

Купец прайшоў па пакоі, сеў на мяккія, агромністыя падушкі, паслужліва прынесеныя ўслед за ім. Перад ім адразу ж паставілі разьбяны столік, паклалі на яго паднос з лушчаным міндалем і сасуд з пітвом.

— Як ты трапіў у мой сад? — запытаўся ён.

— Яна пра гэта не ведала, не!..— зноў, напружваючы ўсе сілы, прашаптаў Алекса.— Я прасіў яе бегчы са мною, але... Але яна не захацела...

Імгненне яны глядзелі прама ў вочы адзін аднаму — і, затуманены болем, пакутаю, погляд палачаніна быў цвёрдым. Адно заставалася яму — памерці, і ён хацеў памерці дастойна, але і смерцю сваёй выратаваць яе... няхай ужо чужую. Чужую...

Твар Абдурахманбека памякчэў, мужчынская самазадаволенасць адбілася ў ім.

— Яна праўда не захацела цябе? — ён паказаў на захутаную постаць, якая па-ранейшаму моўчкі стаяла ля дзвярэй, не выказваючы ні болю, ні хвалявання.

— Не.

Хаця Алекса хацеў сказаць гэта абыякавым голасам, але нешта ў ім самім здрыганулася, і голас на імгненне нібы пераламаўся, зазвінеў горыччу. І гэта, відаць, сапраўды пераканала Абдурахманбека.

— Што ж, калі яна невінавата, то... Ідзі! — сказаў ён жонцы, і тая гэтак жа моўчкі слізганула ў дзверы і знікла. Купец прышчоўкнуў пальцамі, і адзін са стражнікаў тут жа наліў у тонкую белую чашу карычняватага пітва, якое купец прагна выпіў.

— Хто табе памагаў?

— Гэтага не скажу!

— Скажаш!

— Не, купец, не скажу. І ты гэта знаеш.

— Адсюль... дабірацца ўдваіх да Полацака... Без грошай, без каравана... Ты — вар'ят!

Алекса не зразумеў гэтага па-арабску сказанага слова. Купец паўтарыў яго на мове русаў.

— Вашы Меджнун і Лейла — з гэтага ж племені, з племені вар'ятаў,— з цяжкасцю выгаварыў ён нязвыклыя імёны.

— Не, ты... О, ты нарадзіўся пад зоркай Бахрам! Я бачу, ты многае паспеў за той час, пакуль ехаў сюды за Бадзіёй. Мне шкада цябе. Я загадаў забіць служанку, якая не ўгледзела за маёй жонкай. Цябе ж я пакінуў, каб дазнацца, што было між вамі. Хто дапамог, хто ў гэтым горадзе мае ворагі. Але ты і праўда памрэш, ды не скажаш. Ну што ж. Пакуль — жыві.

Ён выпіў яшчэ кубак і падняўся, нешта ціха сказаў вартаўнікам і выйшаў, а Алекса знясілена паваліўся на жорсткі выцвілы дыванок, на якім ляжаў, і ў вачах яго

паплылі бляклыя плямы, замільгалі шалёна і рэзка — мёртвы твар Нігмата, чырвоная камізэлька і сіняя кашуля таго з вартаўнікоў, хто стаяў да яго бліжэй за ўсіх...

А ўначы яго разбудзілі мяккія, пахкія жаночыя далоні, што прыкрылі яму рот, і голас Бярозы-Бадзіі прашаптаў:

— Уцякай! Зараз жа. Вартаўнікі адураныя пітвом, яны сняць. Заўтра іх паставяць на дыванок крыві, але няхай гэта будзе ахвярай Перуну, які давядзе цябе да айчыны, Алекса! Уцякай, бо заўтра прыедзе брат мужа, і ты станеш еўнухам у ягоным гарэме.

— Еўнухам?

Алекса ведаў, што гэта такое. Нігмат гаварыў яму пра еўнуха, які ёсць і ў доме Абдурахманбека. Менавіта еўнух павінен быў ісці за Бярозай у сад, але ён захварэў. Можа, гэта якраз і выратавала яму жыццё. Але яму... Алексу... Дык вось што падрыхтаваў яму купец, вось на якіх умовах даруе жыццё! Жыццё, што страшней за смерць, таму што памерці трэба адзін раз, а яму давядзецца паміраць шмат разоў, змагаючыся за жыццё подлае, рабскае, зневажаючае!

— Цябе заб'юць,— прашаптаў ён, але не падняў рук, каб кранућь яе. Чужой была ўжо яна, і чужым, хаця і салодка-пахкім, было цела, такое блізкае. Чужая тканіна была на ёй і другім быў круглявы твар з гэтымі наведзенымі чорнымі брывамі. Тая, Бяроза, нібы памерла для яго, а гэтая... нібы яе сястра стаяла перад ім, сваячка, і было ў яго пачуццё прыязнасці і ўдзячнасці, але душа... душа як быццам перагарэла. І не душа, а розум ці гэтае пачуццё ўдзячнасці прымусіла яго сказаць:

— Цябе ж заб'юць. І нашто табе было дапамагаць мне?

— Ціха! — яна закрыла яму рот, але тут жа хуценька адняла рукі.— Вось... Вазьмі.

Яна нешта ўціснула яму ў руку, ён адчуў у пальцах вышыты мяшэчак, ледзь чутна звякнулі манеты.

— Падкупі варту... Ідзі прэч з горада... Ужо шукаюць родзічаў забітых, і кадзі — суддзя — знойдзе іх. А я... Я зараз вярнуся ў лажніцу. Ён спіць...

І вымаўляла словы яна, хаця гаварыла на роднай гаворцы і называла спальню па-свойму — лажніцай, нібы з нейкай чужой гартаннасцю, ужо як бы і мова станавілася цяжкай для яе...

— І гаспадару дала дурману? — ён прыўзнімаўся, але боль перашкаджаў, хвалямі біў у галаву, і хацелася гаварыць дзёрзкасці, хацелася рабіць ёй балюча. Навошта? Ён не змог бы адказаць сабе на гэта, але ў душы была

пустэча, і ніхто ў цэлым свеце цяпер не змог бы зразумець і суцешыць хлопца...

Жанчына дапамагла Алексу падняцца, але ён адштурхнуў яе, хістаючыся, выйшаў з пакоя.

Чарнаскуры нявольнік, амаль такі ж, як Юсуф, трымаў пад плашчом свяцільнік, каб асвятляць прыступкі глінянага дворыка. Хісткія цені скакалі па дворыку, багатым, упрыгожаным бліскучай блакітнай палівай.

Каля маленькай дзверкі яна спынілася.

— Хай зберажэ цябе Велес і Мокаш, хай абароніць ад усяго злога Амбар-она — багіня тутэйшых ачагоў! Пакланіся роднай зямлі і не пакідай маю маці ў бядзе! Калі выжывеш...

Апошні раз у няпэўным святле, што слабым светлячком выглядала з-пад адзення нявольніка, мільгануў бледны твар, чорная валасяная накідка, прымацаваная да лёгкіх бялявых кос залатой спражкай. Накідка празрыстымі цяжкімі складкамі ападала ёй па плечы, лажылася вакол галавы. Цьмяна блішчала багатая вышыўка на цёмна-сіняй доўгай сукенцы з чырвонымі рукавамі. Святло згасла.

— Далей ідзіце самі,— шапнула яна.

Нячутна расчыніліся дзверы, яны выйшлі на шырокі двор з ледзь бачнымі ў цемры калонамі, пайшлі ўздоўж тэрасы.

Вартаўнікі ля ўвахода таксама моцна спалі, паклаўшы галаву адзін на аднаго. Нявольнік асцярожна адкрыў цяжкую металічную засаўку.

Сабака падбег да іх, зарыкаў, але раб, відаць, сунуў яму кавалак мяса, і сабака замалаціў хвастом, прапускаючы іх.

— Трымай мяне! — шапнуў нявольнік, і не паспеў Алекса апамятацца, як той лоўка ўскочыў на агароджу і звесіўся ■ яе ўніз, стараючыся знутры зноў закрыць засаўку. Алекса зразумеў, што ён хоча зрабіць, вялікімі намаганнямі прымусіў сябе ўтрымаць нявольніка за голую тлустую нагу.

Але калі выпусціў яе, адчуў, што нешта цёплае паплыло па ім, і, правёўшы рукой па плячы, зразумеў, што гэта кроў. Нявольнік, саскочыўшы з агароджы, хутка пайшоў па вуліцы, амаль зліваючыся з цемрай, час ад часу вяртаючыся і тузаючы за руку Алексу, які плёўся за ім, як у тумане, стараючыся, каб падыходзячая пад сэрца млоснасць не затуманіла галаву, не прымусіла яго зваліцца вось тут, на гэтай вуліцы, непадалёку ад сядзібы купца.

Спераду пачуліся галасы, нявольнік ледзь паспеў тузануць за рукаў Алексу, і яны паваліліся проста ў зараснікі тутаўніку, які рос ля арыка, што весела струменіўся ўздоўж вуліцы. Гэта ішла гарадская варта, і малады воін у скураным нагрудніку нёс у абедзвюх руках гліняныя свяцільнікі, вялікія, як дубіны. Астатнія ішлі і весела рагаталі, штурхаючы адзін аднаго ў бакі. Похвы, адкуль выглядалі рукаяці мячоў, матляліся на паясах, Алекса зайздросна глядзеў на зброю.

Вартаўнікі прайшлі міма, нявольнік падняўся, спыніўся, спрабуючы разгледзець руку, запэцканую крывёй Алексы. З ягонага акрываўленага пляча лілася кроў, намачыўшы спадарожніку руку. Той хвіліну раздумваў, пасля рашуча падцягнуў хлопца да арыка і стаў у цемнаце абмываць яго. Зняў [redacted] сябе паясную хустку-белбог, туга перавязаў плячо, пасля, трохі павагаўшыся, зняў цёмны плашч, застаўшыся ў кашулі і шараварах. Алекса ціха сказаў «дзякуй», хаця ва ўсіх рухах нявольніка адчувалася не душэўная заклапочанасць, а хутчэй пачуццё абавязку. Здавалася, нявольніку не церпіцца хутчэй як-небудзь адасобіцца ад Алексы, але зрабіць гэта ён мог, відаць, толькі выйшаўшы за межы горада або вывеўшы туды нядаўняга палонніка.

Ля вялікіх варотаў, што былі зачыненыя на тоўстую, у чалавечую руку засаўку, самотна сядзелі два стражнікі [redacted] пікамі наперавес.

Быў той час, калі асабліва хіліць да сну, і з вежы, куды вяла тонкая металічная дзверка, чуўся магутны храп — астатнія стражнікі, відаць, моцна спалі.

Убачыўшы постаці двух мужчын, стражнікі ўсталі, адзін з іх хрыпла прагаварыў:

— Хто і па якой справе?

Чарнаскуры нявольнік шапнуў Алексу:

— Трымайся за мной, каб святло не падала на цябе!

Ён упэўнена пайшоў да варты, дастаючы мяшэчак з манетамі, і, працягваючы горстку фельсаў старэйшаму з вартаўнікоў, ціха прашаптаў:

— Купец Абдурахманбек хоча прадаць гэтага нявольніка ў другі горад, але каб таго не ведала любімая жонка Бадзія, бо гэты юнак вырас на яе радзіме, і яна шкадуе яго. Таму мы робім гэта тайна. Я — раб купца. Вось таўро Абдурахманбека,— ён адхінуў адзенне, каб можна было разгледзець запаяны на яго шыі ашыйнік з метай купца, і вартаўнікі нахіліліся, каб разгледзець таўро.—

А вось гэта вам,— ён усунуў грошы ў руку аднаго і, ціха звякнуўшы манетамі ў мяшэчку, даў такую ж жменю другому.

— Можа, трэба было б сказаць памочніку валі, ён якраз тут,— прамармытаў адзін з мужчын, густа, ледзь не да самых вачэй аброслы барадой,— мы ж, як табе вядома, не маем права нікога выпуска горада да ўсходу сонца.

— Ну што ж, клічце памочніка валі,— спакойна сказаў нявольнік,— але ж тады вам давядзецца дзяліць усе фельсы паміж стражнікамі. Я і так даў вам нямала. А чым меней людзей ведае пра нешта, тым большай будзе пячатка маўчання на вуснах астатніх.

Вартаўнікі задумаліся, нарэшце, апасліва паглядзеўшы ў бок вежы, адкуль па-ранейшаму раздаваўся магутны храп, адзін з іх прагаварыў:

— Ідзіце, толькі няхай і вам замкне Алах вусны на сто замкоў!

Удвух яны паспешліва адсунулі магутную засаўку, і нявольнік, непрыкметна прыкрываючы сабой Алексу, каб не было відаць ран, выслізнуў разам з ім за вароты, у цемру, што пахла маладой травой, цвітучым міндалём і гаркотай начнога вогнішча, якое гарэла і трапятала на гарызонце, як чырвоная хустка.

Больш нічога не было відаць вакол. Цемра прыняла іх і гатова была растварыць у сваіх неаглядных прасторах. А можа, так толькі падалося Алексу? Ноч тут кароткая, а бязлітасны дзень пакажа, што занадта цесныя для ўцекача гэтыя прасторы з іх старанна апрацаванымі і агромністай працай узнятымі палеткамі. І куды, у якія вароты вялікай Бухары яны выйшлі?

Ён адчуў, што кроў зноў намачыла павязкі. Слабасць усё болей авалодвала ім, слабасць і раўнадушша да ўсяго на свеце. Ногі спатыкаліся ў цёплым пыле, аднаго разу ён ледзь не паляцеў, зачапіўшыся аб камень. Ён ужо не ішоў, а валокся за нявольнікам, а той прыспешваў хаду, нібы і сам імкнуўся ўцячы прэч ад горада, яго сцярожкіх вежаў, нібы баяўся, што вось-вось раздасца крык і іх наноў вернуць да гаспадара.

Яны ішлі доўга. Але калі сышлі ўбок, Алекса знямогана апусціўся ля дарогі. Тады нявольнік вярнуўся. Хвіліну пастаяў над Алексам, а потым раптоўным рэзкім рухам сарваў з яго плашч, жорсткія, лоўкія рукі яго абшукалі спадарожніка, знайшлі на ім мяшэчак з грашыма, дадзены Бадзіёй. Нявольнік ірвануў мяшэчак, Алекса адказаў пры-

душаным, звярыным стогнам болю і згубіў прытомнасць. Ён ужо не чуў, як нявольнік дзелавіта зняў з яго боты, падумаў імгненне, пасля піхнуў яго абыякавае да ўсяго цела з абочыны ў прыдарожную канаву і таропка пайшоў па дарозе наперад, раз-пораз з нецярпеннем кратаючы нявольніцкі абруч на шыі і любоўна гладзячы на баку два вышытыя мяшэчкі, дзе ледзь чутна звінелі серабро і медзь. Але яшчэ больш любоўна гладзіў ён скрутак пергаменту ■ адпушчальнай: яна рабіла яго вольным і за яе ён згадзіўся дапамагчы жонцы купца ў небяспечнай справе!

...Ноч кідалася на Алексу гарачай разяўленай пашчай вялікага паласатага звера з магутнай шыяй і шоўкавай поўсцю, якога яны некалі бачылі ў пустыні, ахінала яго полымем вогнішча, якое раздзьмуваў бясконцы мёртвы вецер, што ўжо аднёс у невядомую, чорную бездань твары Нігмата, Бярозы, Юсуфа, дні і ночы, спапялёныя пустыняй, сінюю плынь Дзвіны... Алекса ведаў — вецер, што наслаў на яго морак, хоча, каб ён стаў чорнай жменькай попелу, якую так лёгка рассыпаць над цвёрдай сухой зямлёй... І ён не жахаўся, не рваўся прэч — ён падстаўляў сваё цела злой, гарачай сіле д'ябальскага вогнішча, цьмяна прагнучы забыцця і збавення...

У тое імгненне, калі і сапраўды падхапіла яго і панесла цёмная прорва вялізнага шляху, у самым канцы якога — ён чамусьці ведаў гэта — чакае лёгкасць і свабода, нешта халоднае абрынулася на яго гаючае, зямное. Але ён ірваўся туды, па шляху небыцця, і сіла, якая пацягнула яго назад, была такой пакутлівай і непатрэбнай, што ён застагнаў і забіўся, імкнучыся ўцячы — туды, дзе збавенне! Але нехта тармасіў яго, крычаў на вуха незразумелыя словы — і Алекса расплюшчыў вочы.

Святло асляпіла яго, ударыла, ён паспеў толькі выхапіць зрокам сівабароды твар, незнаёмыя дапытлівыя вочы, слаба забіўся ў бездапаможным плачы:

— Пакіньце мяне, мне было так добра! Што вам трэба? Што каму на гэтай зямлі ад мяне трэба? Я нікому не вінны, нікому, чуеце?

Здавалася — ён крычыць тыя словы на ўвесь свет. А той, хто стаяў над ім, бачыў толькі, як тузаецца бездапаможнае цела і слаба, нібы з-пад зямлі, шэпча незразумелыя словы малады, страшэнна схуднелы, з тварам белым, як рысавая мука, чужаземец, заліты крывёю і запэцканы глінай.

Вопытным вокам стары чалавек бачыў, што жыцця ў

тым схуднелым целе засталося зусім нямнога, але твар чужаземца спадабаўся яму — на ім быў выразны адбітак пакуты і адрачонасці, і нечым нагадваў ён прарока Ісу, якога стары бачыў аднойчы на старадаўняй фрэсцы ў разбураным храме, куды звычайна не заглядала вока мусульманіна, а толькі, відаць, начавалі джыны. Ён шмат змагаўся са смерцю, стары лекар з далёкай горнай мясцовасці, але бадай што ніколі не шкадаваў кагосьці так, як юнака чужаземца, што ляжаў перад ім, упарта спрабуючы перацягнуць вагі жыцця і выйсці з гэтага свету. А што хлопцу не хочацца жыць, лекар адчуў гэтак жа беспамылкова, як і тое, што, калі ён праедзе міма на сваім маленькім осліку, душа чужаземца яшчэ паспее ўбачыць яго з вышыні, імкнучыся да ўсявышняга.

— Паслухай, Сатар,— звярнуўся ён да асла, што мірна шчыпаў калючкі, пакуль гаспадар думаў.— Ты, канешне, нас двух не вытрымаеш. Але ці зможаш ты пераважыць на сваёй спіне кагосьці, апроч мяне? Бачыш, ён нягеглы і непрытомны. Давай, дружа, зробім добрую справу і, хаця гэты хлопец, хутчэй за ўсё, хрысціянін, а мы з табой праверныя мусульмане, дапаможам яму канчаткова перасяліцца назад, у гэты свет. Ён даволі прывабны, ці не так?

І з цяжкасцю, вохкаючы і натужваючыся, падняў непрытомнае цела, перакінуў яго на осліка, уліў у рот незнаёмца некалькі кропель вадкасці.

— Зараз лячыць яго мы не будзем — вось-вось расчыняцца вароты Бухары, і ад людзей нават тут ужо не прадыхнуць. Сонца ж таксама вось-вось узыдзе — і раптам нехта стане шукаць малайца? Ясна ж, што не з радасці ён ляжыць тут, абрабаваны ледзь не да ніткі.

— А што,— спыніўся ён раптам,— што, калі мяне ж і абвінавацяць у ягонай смерці? У рабаванні? Бухарскі суддзя не стане надта слухаць прыезджага. Але ж што рабіць, Сатар?

Асёл роўна пайшоў па дарозе.

— А што, Сатар,— зноў запытаўся ў яго стары,— што, калі мы падабралі з табой злодзея, якога ашукаў другі злодзей? Ты матляеш галавою, гаворыш мне: «Не!» Але з чаго ты ўзяў, што ён не злодзей? Мы пражылі з табою доўгае жыццё і ведаем, што анёльскае аблічча бывае часам у такога нягодніка, чыя душа чарней за калодзеж Бархут, куды трапляюць пасля смерці няверныя. Але душы гэтага чужаземца, як і нам з табой, усё роўна жыць у гэтым калодзежы. Так ці не, Сатар?

Чырвонае, як вогненны цюльпан, узыходзіла сонца, і ўсё часцей траплялiся на шляху то пешыя, то конныя людзі, якія імкнуліся ў Бухару — хто шукаць справядлівасці, хто рвучыся да рамяства, а хто і ўцякаючы ад непасільнай працы на полі, марачы аб лёгкім і сытым кавалку нахлебніка, таму што ў багатай Бухары ўсім знаходзілася месца, абы пашчасціла чалавеку знайсці сабе апекуна, да якога можна прыстаць і жыць, няхай і зносячы яго прыхамаці і капрызы. А калі не пашанцуе — што ж, можна пайсці ў смецяры, альбо баншчыкі, альбо цырульнікі. Шмат ёсць у горадзе заняткаў. Праўда, каб стаць майстрам па разьбе, альбо вышывальшчыкам, альбо ганчаром, або гарбаром, трэба прайсці шматгадовае вучнёўства ў майстроў, якія раўніва сочаць за тым, каб у іх цэхі не надта траплялі старонні. А ёсць заняткі, якія толькі пераходзяць ад бацькі да сына альбо родзіча; абвеяныя яны ганьбаю і нянавісцю. Гэта — ка́ты ды абмывальшчыкі нябожчыкаў.

Нарадзіцца ў такой сям'і — гора, праклянцце, бо з'яўляюцца абмывальшчыкі трупаў толькі тады, калі ў сям'і гора. А пераносячы вакол сябе столькі смерцяў, ці не станеш у рэшце рэшт і сам памагатым смерці, яе страшнай світы?

Да такога доміка і павярнуў аднойчы стары Нармурад, каб схавацца ад назойлівага сонца ды цікаўных вачэй.

Шмат гадоў назад, праходзячы гэтай дарогай, ён пачуў крыкі ды плач. А калі хацеў завярнуць у домік, спынілі яго мясцовыя жыхары і растлумачылі, хто тут жыве. Даведаўся тады яшчэ нестары лекар і пра тое, што здарылася ў доміку — памірае жанчына, маладая маці, пакідае на свет пецярых дзетак. Прыгожая кабета і ціхая, заўсёды пакорлівая і набожная — але ж яна жонка абмывальшчыка, сама прыходзіць на пахаванні і носіць адзенне, што засталося ад мерцвякоў. Хто ж увойдзе ў такі дом? Вось і галосяць дзеці, і муж яе, і стары бацька. Шкада іх, ды толькі і прыезджаму лекару не след ісці ў такі дом, гаварылі людзі, хай смерць сама разбіраецца са сваімі...

Паслухаў ён тады ўсё гэта і сабраўся ісці далей. Але якраз у той момант адна з дзяўчынак выскачыла з хаты і жаласліва заплакала, седзячы на парозе і абхапіўшы галаву рукамі. Дзяўчынка была ў дранай зялёнай кашульцы, яе коскі бездапаможна матляліся па худзенькіх плечыках... І лекар не вытрымаў. Ён увайшоў у дом і тры дні сядзеў ля хворай, поячы яе адварам аеру і бадзахру — проціатрут-

нага сродку. Сам рыхтаваў галіз — духмяную сумесь мускату і амбры, раствараў у цёплай вадзе, сам расціраў ёй рукі і ногі. І хворая ачуняла, устала, а ён пайшоў далей, у Бухару, куды раз у дзесяць — восем годоў рабіў доўгія і знясільваючыя пераходы, каб купіць новых лекаў і трапіць у дом да даўняга сябра маладосці, які перабраўся ў Бухару і лячыў прыдворнага музыканта і спевака, чые песні разносіліся па гарадах і кішлаках, як разносіцца спякотным летам нястрымнае вогнішча, коцячыся па сухой траве...

Але сябра маладосці не хацеў прызнаваць беднага табіба Нармурада, нібы сама яго прысутнасць была небяспечнай, нібы беднасць магла, як зараза, прыліпнуць да адзення і наноў ператварыць яго ў гаротніка, які нацёр сабе хрыбет, падлашчваючыся, дагаджаючы, выкручваючыся з усіх сіл. Не надта моцны ён быў лекар, але змог спадабацца музыканту Ісхаку, калі той быў маладым, нікому не вядомым. Ісхак не забываў таго, хто прыграваў яго калісьці. Вясёлы і дураслівы, ён не здагадваўся, што лекар Ахваз, няўдачнік, калісьці выгледзеў, вылічыў яго талент, яго бескарыслівасць і даверлівасць. Пры двары любілі гэтага музыканта, але той быў хваравіты і капрызлівы, лекару Ахвазу было з ім нялёгка, ды затое ён меў добрыя грошы. Можна было, маючы такога знаёмага, як Ахваз, трапіць у бібліятэку эміра, а там захоўваліся кнігі Арыстоцеля і нават рукапіс «Канона» самога Ібн-Сіны, які памёр зусім нядаўна і пахаваны ў Хамадане, а пасля перавезены ў Ісфахан. Стары лекар Нармурад з далёкага кішлака на самым канцы дзяржавы ніколі не змог бы нават здаля ўбачыць такі каштоўны рукапіс, і таму ён не шкадаваў ні сіл, ні часу, каб збіраць грошы на паездку ў Бухару і верыць, што дзверы Ахваза нарэшце расчыняцца. Ён сцвярджаў, што рэчы маюць дзіўную ўласцівасць — яны як бы ўбіраюць дух, дыханне свайго ўладара і могуць захоўваць яго надоўга. Ён верыў, што калі патрымае ў руках рукапіс Ібн-Сіны, то адчуе прасвятленне. Можа, тады ён адшукае, чым хварэе адзін з яго пацыентаў, чыю хваробу ён ніяк не мог разгадаць. Можа, стане лячыць лепей.

Вяртаючыся на той раз з Бухары, Нармурад зноў праходзіў міма глінянага дамка і ўспомніў пра жанчыну. Калі ж павярнуў свайго осліка на сцяжынку, што вяла да іх, насустрач яму выскачыў малады мужчына. Ён заступіў дарогу аслу і пачціва пакланіўся Нармураду:

— Дамула (настаўнік) ты зрабіў гэтаму дому ласку. Хворая Пацімат вярнулася да сям'і. Нашто табе ізноў ехаць да адрачоных і праклятых Алахам? Лепей заедзь у мой дом, усе мы прымем цябе як родзіча.

Але Нармурад не паслухаўся, абмінуў мужчыну, што ззаду слаў яму праклёны, пагражаючы кулаком, і заехаў у знаёмую хаціну. І з таго часу зрэдзь заязджаў туды і заўсёды сустракаў самую шчырую ласку і гасціну, хаця цяпер абмывальшчыцай стала былая дзяўчынка ў зялёнай кашульцы, а старая ўжо Пацімат нячутна слізгацела па доме, робячы хатнюю работу. Мужчыны ў гэтым доме неяк не прыжываліся,— яны паміралі, жанчыны зноў заставаліся адзінокімі.

...І на гэты раз Нармурад скіраваў да старэнькай гліпянай хаціны ў зарасніках чароту і тутаўніку, везучы параненага Алексу, шчыльна захутанага ў баліншуш — выцвілае пакрывала, што выцягнуў Нармурад [redacted] дарожнай сумкі-хурджына.

Таропка прывітаўшыся і спытаўшы пра здароўе блізкіх і знаёмых, лекар папрасіў:

— Занясіце гэтага чалавека ў самы дальні пакой, каб чужое вока не ўбачыла яго, і папярэдзьце хатніх, каб навесілі на язык замок маўчання! Дарога прынесла мне знаёмца, як падарунак, і [redacted] не хачу, каб яна зноў забрала яго!

Ён даў гаспадыні сярэбраны дырхем, і тая паспешліва паслала некага з хатніх на недалёкі рынак, дзе для адвергнутых — смецяроў, лазеншчыкаў і іншых — быў свой асобны рад. А Алексу ўнеслі ў хату моцная, каржакаватая, як малады дубок, гаспадыня і старая Пацімат.

Сям'я прытрымлівалася знешне мусульманскіх звычаяў, але ў сябе дома жанчыны хадзілі з адкрытымі тварамі і адзіны мужчына наведваў тайныя зборышчы магаў-вогнепаклоннікаў. Гэта таксама было адной з прычын, чаму Нармурад прыязджаў сюды. Параненага паклалі на караткаворсавы дыванок — з павагі да высокага госця, абмылі лоб, твар.

Нармурад, увайшоўшы ў пакой, з непрыемным пачуццём убачыў гэта і адагнаў жанчын:

— Вось калі памрэ, тады і абмыеце. Але рана яму яшчэ паміраць. Можа, дасць рады вялікі Зардушт, злітасцівіцца над ім — і нада мною таксама!

— Мы бачылі многа хворых і памёрлых, і думаецца

мне, што і гэты юнак не дажыве да раніцы,— сказала Пацімат.— Нават ваша ўменне не паможа, паважаны настаўнік.

— Канешне, калі прадвечны калам напісаў яму заўтра ці сёння сустрэчу з Азраілам — анёлам смерці,— [redacted] нічога не зраблю. Нават улюбёнец Алаха Ібн-Сіна не змог развязаць вузла смерці, хаця апроч гэтага не было для яго таямніц на зямлі...

Нармурад, гаворачы ўсё гэта, лоўка пераварочваў Алексу, уважліва разглядаў раны.

— Пульс вялы, падобны земляному чарвяку,— сказаў нарэшце,— трэба было б зашыць вось гэтую разарваную звязку мышцаў, але на гэта ў мяне ўмення ўжо няма. Надта дрыжаць рукі. Затое можна спыніць разлажэнне тканкі, прамыць яе і супакоіць боль опіумам.

Ён дастаў з сумкі скрутачак, падаў яго жанчынам:

— Заліце варам адзін міскаль травы і, астудзіўшы, нясіце хутчэй сюды. Таксама дайце мне дзве піялы і дастаньце вады са студні, не [redacted] арыка. А яшчэ — чыстыя сухія анучкі. Купіце кварту набіда-фінікавага віна. Віно — для мяне...

...Відаць, не хапіла б старому Нармураду сабраных ім яшчэ ў горным кішлаку грошай, каб час ад часу, пакуль сядзеў ён у доміку абмывальшчыцы нябожчыкаў, не прыходзілі да яго жыхары кішлака з просьбай паглядзець хворага. Прыходзіў аднойчы і памочнік мясцовага кадзісуддзі, меўся ўзяць хабар, пагражаючы, што данясе ён каму трэба аб тым, што трымаюць у хаце невядомых людзей. Але Нармурад, які ўпэўніўся, што не шукаюць як быццам бялявага юнака ахоўнікі закону, накрычаў на памочніка кадзі, пагражаючы, што ён звернецца да славутага спевака Бухары — Ісхака, чые песні падабаюцца высакародным, і тады не здабраваць і самому кадзі за тое, што ўмешваецца не ў свае справы. Мабыць, лісліва-злавесны памочнік нядрэнна ведаў людзей, бо болей ніхто не турбаваў Нармурада і сям'ю абмывальшчыкаў, а можа, і сапраўды паверыў, што мае праезджы лекар моцную падтрымку ў Бухары.

Часам, гледзячы на бездапаможнае цела юнака, слухаючы, як трызніць ён, у гарачцы гаворыць і гаворыць нешта на незразумелай мове, дзівіўся з сябе самога стары Нармурад: навошта важдаецца з незнаёмым чалавекам, навошта выхаджвае яго як роднага? Не таму ж, каб займець вучня, як марыў некалі? Так, хацеў ён пакінуць пасля

сябе тое, што набыў і вопытам і дапытлівасцю, шукаў сярод маладых людзей і хлопчыкаў цікаўны позірк і душу, якая б шкадавала людзей. І знаходзіў. Чатырох вучняў вывеў ён у лекары за сваё доўгае жыццё. Аддаваў ім і душу, і свой час, і ўменне. Але трое з іх, авалодаўшы навукай лячэння, атлусцелі і дбалі толькі пра грошы і дабрабыт, выціскаючы з беднякоў апошняе. Чацвёрты ж, бачачы вакол сябе гэтулькі гора і няшчасцяў, не вытрымаў, душа яго сарвалася з прывязі і пачала блукаць між тым і гэтым светам. Так, ён гаварыў, што на яго ўпаў цень казачнай птушкі Хумай, а, як усім вядома, той, на каго ўпаў яе цень, робіцца царом. Яшчэ гаварыў ён, што падчас вандровак душа яго зазірае ў чароўную чашу Джамшыда, у якой адлюстроўваецца ўсё, што робіцца на зямлі. Людзі шкадавалі яго і баяліся, таму што не раз прадказваў ён тое, што збывалася пасля. Жыў ён непадалёк ад Нармурада, але лячыць ужо не мог, толькі прыходзіў да яго і гадзінамі моўчкі сядзеў, гледзячы вакол сябе туманнымі вачыма. Шкадаваў яго лекар, моцна шкадаваў — але на ўсё воля Ахурамазды, толькі яго!

У сёлетніх жа хлопчыках не бачыў стары Нармурад апантанасці і захаплення. З гадамі ён стаў асабліва чуйна адгукацца на спакутаванасць душы. Стараўся сцішыць, як мог, боль, які бачыў і чытаў у вачах чалавека ці жывёлы. Сам ён пражыў доўгае жыццё і ведаў, што там, дзе няма болю за другога, спагады, там няма сапраўднай чалавечнасці. А як тады нахіляцца над гнойнай і смярдзючай ранай ці корпацца ў аслізлых вантробах? Ён шкадаваў тых, каму вяртаў жыццё. Часам нават думаў — ці не лепей бедалагу застацца там, у вечнасці, навошта вяртацца на зямлю, па новыя пакуты? Ох, як многа іх у чалавека — пакут і болю, нібы і сапраўды пасланы сюды чалавек на іспыты — ці вынесе гэтулькі? Ён сам стаміўся і ад жыцця, і ад людскіх нягод, але недзе, як вугельчык, тлела надзея ўсё-ткі знайсці і вырасціць вучня, каб пакінуць пасля сябе на зямлі чалавека, які б пераўзышоў яго ўменнем і ведамі. Пакутліва перажываў ён, што пасля яго не застанецца нікога — ні дзіцяці, ні колькі-небудзь велічнай справы. Воіны пакідаюць пасля сябе зруйнаваныя гарады ці груду чарапоў. Цары запісваюць свае дзеі на каменных слупах і плітах. Бывае, прыходзяць на зямлю людзі, якіх пры нараджэнні адарылі багі ці дэманы веданнем людскіх таямніц і здольнасцю спасцігаць самае патаемнае... А што рабіць простым, зусім простым людзям, тым, чый розум нагадвае цьмяны

свяцільнік у параўнанні з сонечным ззяннем адораных багам? Адзінае — і паміраючы верыць, што недарэмна пражыў сваё, што прыйшоў сюды, каб палепшыць у нечым жыццё і паслужыць хаця б гноем, зямлёй, глінай, на якой узыдзе іншае насенне...

Можа, ад таго, што ў апошні час гэтыя думкі адольвалі яго ўсё болей і болей, і спыніўся ён каля паміраючага Алексы?

Адпалала лета з яго невыносна доўгімі спякотнымі днямі, з саратанам, які высмоктваў з зямлі жыццёвыя сокі, насычаючы яе соллю горычы і бясплоддзя.

Алекса ўжо хадзіў, і сілы вярнуліся да яго настолькі, што ён мог ехаць у далёкае, доўгае падарожжа. Праўда, бок і рука ўсё яшчэ паджывалі, раны яшчэ балелі і левая рука амаль не рухалася — відаць, жылы і мышцы на ёй засталіся перакручанымі. Трохі дапамагаў масаж, які Нармурад рабіў сам, у душы кленучы сябе за тое, што не асмеліўся аперыраваць параненую руку і сшыць як след яе сасуды. Таму ён без стомы масіраваў пругкае маладое цела чужаземца і нават прымяніў адзін са спосабаў, якім вучыў яго некалі самы стары жыхар кішлака, гаворачы, што паказаў людзям той спосаб сам Харут. Нармурад запальваў пучкі горнага палыну, якія заўсёды насіў з сабой, і прыпякаў хвораму кропкі, вядомыя тым, што ўздзеянне на іх ажыўляе жыццёвую сілу чалавека.

Штодзённа ён паіў яго таксама адварам розных траў — цім'яну, сатару, для чаго хадзіў сам збіраць іх, бо ведаў час і стаянне месяца, і замовы, з якімі бяруць траву.

Пакуль Алекса яшчэ ляжаў у забыцці, душа яго, мабыць, усё старалася вярнуцца на Полаччыну, таму што трызніў ён і бачыў перад сабою ў вогненнай чырвані не стэпы, не падзеі нядаўняга часу, а Полацак, княжыча Усяслава, першую сустрэчу з Бярозай у вясновым пушыстым лесе, пад белымі, як снег, бярозамі.

Бачыў ён напоены салодкім ліпнёвым пахам пасад у Запалоцці, магутныя абаронныя валы са светла-жоўтай зямлі, па якой залётнае насенне дрэў ці травы так ахвотна пускала карэнне. З поўначы вал умацоўвалі магутнымі каменнямі — у тутэйшай зямлі так многа магутных валуноў, нібы сапраўды некалі прынеслі іх на гэтую зямлю волаты, якія пасля пераваліся ці загінулі... А вось бацька, Таміла, сядзіць вечарам на калодзе, пляце-выплятае лапцейкі ды баіць:

«Колісь яшчэ свет толькі зачынаўся, дык нічога нідзе не было, адна вада вакол мёртвая. Дый пасяродку гэтай вады камень адно стаяў, валун. Адзін раз пярун разыграўся ды давай пыляць стрэламі ў гэты камень... Ад яго стрэлаў выскачылі тры іскаркі — белая, жоўтая і чырвоная... І ад белай ад іскаркі пайшла расці-шырыцца зямелька, дзе крывічы пасля ўрадзіліся...»

Ляжыць Алекса нерухомы, а душа яго блукае недзе між зямлёю і небам, і сустракае яна першага крывіча — Бая, а з ім сын яго Белаполь — той самы, якому пасля смерці бацькі нічога не дасталося ў спадчыну, таму пусціў ён у свет дзвюх птушак, каб абляцелі яны за дзень зямлю — колькі яму застанецца?

Ходзіць Бай па сцяне —
Ці кране, ці не?

А гэта ўжо маці спявае — ціхенька-ціхенька, тоненька-тоненька, і ад зрэбнай яе кашулі, вышытай чорнымі і чырвонымі нітамі, пахне хлебам і аерам...

І двор княжы бачыцца Алексу, ды так выразна. Сядзяць па пакоях людзі, працуюць — і апоннікі, што ткуць дарагія тканіны і завесы, і ручачнікі, што ткуць ручнікі, якія пасля выбельваюць у ранішніх росах. Мітусяцца розныя ключнікі, слугі — міласнікі... А ім, дружыне, мала клопату пра гэта. Яны з гіканнем ды галёканнем бягуць з дзідамі ды шаблямі па полі, вучацца сячы ворага ды калоць яго... Прыпыніцца на полі селянін, паглядзіць з-пад рукі ды, зноў уздыхнуўшы, возьмецца за работу — некаму ж трэба карміць і апранаць вояў ды княжую дружыну. Пашанцавала, што не ў сям'і смерда нарадзіўся, не ў полі гібець усё жыццё — так думаў некалі Алекса, гледзячы на чыю згорбленую постаць. Ну што ж, і праўда — горай за ўсё селяніну, смерду. Не выплаціць падатак — у рабства. А памрэ, не маючы сына,— уся ягоная маёмасць пераходзіць да князя па «праву мёртвай рукі». Не раз бунтавалі смерды супраць гэтага права, у лясы далёкія ўцякалі. Але ж куды ты ўцячэш ад суровага Брачыслава, з якім нават сам Яраслаў кіеўскі стараўся жыць абыходліва і мірна? І лілася кроў смердаў, лілася на тых жа высокіх пясчаных валах, высокіх,— каб народ, якога збіралі на кару, бачыў і вучыўся быць паслухмяным. Цякла кроў густа, і, можа, не ад гліны, а ад той крыві паверхня валаў чырвоная?!

А яшчэ тырчаць часам пасля дажджоў з вала то абгарэлыя галаўні, то косці нейчыя — не то чалавечыя, не то

жывёлы; а то нож іржавы ці дзіда вылезе. Чужое, былое, невядомае жыццё кіпела некалі тут, а паспрабуй здагадайся — што было? Якія людзі жылі, куды пайшлі?

І кружыць, кружыць чырвоная каламуць, такая ж чырвоная, як кроў смердаў на полацкіх валах, як гліна на дарогах у асенні імжысты час, калі ідуць, месячы яе, воіны...

...А ў Бярозы на галаве вянок з пралесак, вянок беларужовы, і сама яна — як краска. Як многа даюць чалавеку багі — ляцець па крутой горцы, узяўшыся за рукі, гайдацца на арэлях і скакаць вакол кастрышча, налітаму маладой, дзёрзкай сілай! Цела гнуткае, падатлівае, гарачыня б'е ў галаву, тумаціць яе хмелем і надзеяй... Яшчэ трохі — і ўзляціць ён у сінюю вышыню, дастане Дажбога за крысо каптана, раскажа аб радасці — праз тры месяцы вяселле.

Праз тры месяцы — калі пройдуць дажынкі, калі жыта ляжа снапамі ў адрыну, авёс і ячмень запоўняць дубовыя бочкі і скрыні. Калі бацька дакуе ўсе мячы для будучага паходу. Калі... калі...

Чырвоным моракам зацягваецца ўсё навокал...

...Калі ён адкрыў вочы і зноў убачыў старога, ён падумаў, што, мабыць, апынуўся на тым свеце і гэта сам пасланец багіні Мары, што адурманьвае людзей пітвом з макавага зерня і забірае нябожчыкаў. Але чужаземная вопратка і гаворка, якую ён ледзь разумеў, пакой і рэчы — усё ўпэўнівала Алексу ў тым, што ён на гэтым свеце і што ўсё навокал — рэальнае і сапраўднае. Але ён не хацеў гэтай сапраўднасці — душа яго была змятая і скручаная, як старое рыззё. Можа, і ад таго не зацягваліся раны, нягледзячы на клапатлівы догляд?

Але даўжэлі ночы, прахалода раніцай клалася на выпаленую жоўтую траву, буйнелі і як наліваліся сілай зоркі — на доўгія асеннія вечары, каб асвятляць смертным іх заблытаныя і горкія дарогі,— і душа юнака нібы таксама налівалася жыццём і крэпасцю. Перастала прыходзіць у гарачачныя сны Бяроза, пустата і холад замяніліся жывой цікаўнасцю да ўсяго навокал. Асабліва палюбіў ён хадзіць у дальні канец запыленага, запушчанага садзіка, дзе пад кустамі, падобнымі на вербавыя, струменіўся ручаёк, які тут называлі арыкам. Гадзінамі ён сядзеў на цёплым, мяккім узлобку, апусціўшы босыя ногі ў ваду, і бяздумна слухаў, як струменіцца і ціха шапоча аб нечым вада. Падыходзіла Пацімат, ціха звонячы металічнымі бранзалетамі, ставіла побач лалі — паднос з ежай, часцей за ўсё

гэта быў хабіс — любімае тут блюда з фінікаў, мукі і масла — і нячутна адыходзіла прэч. Ён без смаку еў прыгарнае, нялюбае яму варыва, зноў моўчкі сядзеў, ляніва варушачы нагамі ў вадзе. Чужы твар глядзеў на яго з люстра вады. Пасля нехаця клыпаў па зарослай сцяжынцы да тэрасы, у адведзены ім лекарам пакой, падаў на жорсткія, выцвілыя падушкі і засынаў неспакойным, пакутлівым сном.

Але аднойчы — гэта было ўжо на зыходзе лета — Алекса нібы ачуняў. Ён імкліва падняўся, нялоўка захінаючы халат, патупаў у дом. Жанчыны, што сядзелі на тэрасе і дзялілі рэчы — відаць, зноў абмывалі і хавалі нябожчыка,— цікавасцю паглядалі на яго, калі ішоў насустрач — доўгі, худы, ён здаваўся яшчэ болей бялявым і бледным і быў падобны на здань. Хуткай паходкай ён прайшоў міма і ўварваўся ў пакой, дзе Нармурад раскладваў па торбах засушаную траву.

— Скажы мне, бацька,— запытаўся Алекса адразу ад парога,— скажы, навошта я табе? Навошта ты столькі лечыш, корміш мяне і не патрабуеш узамен нічога?

— Сядай, сынок,— Нармурад пасунуўся яму насустрач, уступіў месца на паласе.— Я рад, што ты сапраўды ачуняў і душа вярнулася да цябе.

— Вярнулася, і настолькі, што я гатовы аддзячыць за ўсё, што для мяне зроблена, хаця я і не прасіў цябе ні аб чым, і, можа, было б лепей, каб ты не падбіраў мяне на дарозе. Што ты ад мяне хочаш?

— А што хочаш ты? Ці вярнуцца на сваю далёкую радзіму, ці шукаць шчасця тут, на нашай зямлі? Адно магу сказаць — ты не вытрымаеш падарожжа назад. Сілы вярнуліся да цябе, але іх хопіць ненадоўга. І ведай — калі чалавек няшчасны, калі яго фарр — а ў кожнага ёсць свой фарр, слабы ці моцны,— мае цёмны колер, яму нельга нічога пачынаць. Ты ўсё роўна загінеш.

Алекса нейкі час моўчкі ўзіраўся ў маршчыністы, загарэлы да чарнаты, з моцнымі сківіцамі і нечакана блакітнымі, амаль празрыстымі вачамі твар. Пасля махнуў рукой:

— Так, на радзіме, бадай што, мне няма месца. Я аслухаўся князя. Але шукаць другога князя мне таксама не хочацца. Эх, знайсці такое месца, дзе няма ўладароў!

— Тады едзь са мной,— усміхнуўся Нармурад, і жорсткія зморшчыны каля яго вуснаў нібы разгладзіліся. Вочы глядзелі з нявшчотай.

— Уладары, праўда, ёсць і ў нас, але іх меней чым дзе. Мы жывём у глухім месцы.

— А куды? — Алекса сеў, вохнуў, але выпрастаўся і ўпіўся позіркам у Нармурада.

— Са мной — у кішлак Шырс. Гэта далёка, пад самы Балх, у вярхоўі Джэйхуна.

Я жыву там вось ужо сорак пяць гадоў і ведаю кожнага ў трэцім пакаленні. Я навучу цябе таму, чым валодаю сам. Раскажу пра людзей, раскрыю многа таямніц, і ты зможаш спасцігнуць болей, чым я.

— Лячыць людзей? — усклікнуў Алекса і адмоўна пахітаў галавой.— Я воін! Не, воінам я быў. А цяпер... Я і сам не ведаю, хто я такі. Я хачу спакою і нічога болей. А можа, і спакою не хачу. Мне здаецца, што нехта ўзяў мяне, нехта вялізны і жорсткі, і скамячыў у руцэ, як камечыць маленькую птушку сокал. І мне здаецца, што гэтак жа, як у малой птушкі, ляцела з мяне пер'е, і цяпер я голы перад светам. А як птушцы, нават самай малой, жыць без пер'яў, без надзеі, што яна ўзляціць?

— Можа, я дапамагу табе? — Нармурад задуменна пагладзіў бараду, у якой засталося зусім мала цёмных валасоў.— Ты нездарма падобны да прарока Ісы, дый імя ў цябе — Аль-Іса.

— Аль-Іса? — Алекса засмяяўся.— Хай будзе так.

— А яму, ты гэтага можаш і не ведаць, была дадзена здольнасць нават гліняных птушак ператвараць у жывых. Людзі — тая ж гліна,— сур'ёзна дадаў Нармурад.

Алекса думаў, гледзячы на каляровае сюзанэ, якое злёгку калыхалася ад ветрыку. Так, сіл у яго прыбыло, але ці дастаткова іх для стамляючага, ашаламляльнага падарожжа назад? Такое падарожжа яму зараз не па сілах. І другое...

— Тваё жыццё доўгае, яго хопіць, каб вярнуцца,— перарваў ягоныя думкі Нармурад.— Ты паглядзіш нашу старадаўнюю Бактрыю. Ты яшчэ ўбачыш шмат такога, што не бачылася нават у сне. Павер, ты не пашкадуеш.

Алекса нясмела дакрануўся да рукава лекара:

— Я ўсё чакаў, бацька, што ты загаворыш пра ўдзячнасць альбо пра тое, што дастаткова аднаго твайго кіўка, і мяне схопяць і кінуць у вашы страшныя камяніцы. Але ты нічога такога не кажаш, а просіш і ўгаворваеш мяне, як малога. Я паеду з табою. Паеду і пастараюся, каб ты не надта шкадаваў, што падабраў нябогу і ратаваў яго. І скажы яшчэ адно: навошта табе было спыняцца ў хаціне

абмывальшчыка, самага нізкага і нікчэмнага з усіх навокал? Мне крыўдна, што людзі ганяць цябе за гэта. Можа, з-за мяне? Але я не з нізкага звання, я быў некалі княжым збраяносцам, сам князь не раз даваў мне піць віно з ягоных рук. Хто табе гэтыя людзі? Ты павінен быў бы праходзіць міма іх, як міма кучы смецця.

— Дзіця маё,— ціха сказаў Нармурад,— я хачу прачытаць табе радкі самога Ібн-Сіны — а ягоная мудрасць яшчэ будзе насычаць не адно пакаленне. Паслухай:

Тым, чый розум расцвітае з маладосці буйным кветам,
Я кажу, што ёсць у існага прыкмета,
Неаспрэчная прыкмета, што заўжды сцвярджае гэта —
Роднасць душ усіх з дня утварэння света.

— «Роднасць душ»? Гэтыя скручаныя жабрацтвам жанчыны родныя мне? І што такое гэтая душа, пра якую ты так праніклёна гаворыш?

— У нас будзе многа часу, каб пагаварыць пра ўсё,— Нармурад паклаў руку на плячо юнака, і той нават скрозь тканіну адчуў цяпло і асаблівую сілу, што зыходзіла ад лекара.— Давай думаць пра дарогу.

У той тыдзень яны гадалі на лапатцы барана, якую кладуць у агонь, каб па трэшчынах сказаць, ці халоднымі будуць восень і зіма. Нармурад вырашыў — зіма не перахопіць іх у дарозе.

Праз некалькі дзён яны выязджалі з дому гасцінных гаспадароў. Нармурад, выгаворваючы словы пажаданняў і ўдзячнасці, заўважыў бліскучыя чорныя вочы, што іскрыліся слязьмі. Вочы належалі ўнучцы Пацімат, дзесяцігадовай Аміне. Яна церла ў зерняцёрцы рыс і сачыла за ад'язджаючымі, і на круглым смуглявым яе тварыку з чуйнымі брывамі і вялікаватым ротам была відна такая пакута, што Нармурад не вытрымаў, папрасіў Алексу:

— З ёю развітайся таксама.

Дзяўчына была ў халаце, штоніках з дзіравай тканіны. Яна засаромелася, прыкрылася рукавом, яшчэ больш нясцерпна заблішчалі вочы.

— Хай, воры-воры! — сказала ціха.

Лекар з сумам падумаў, што, мабыць, ніколі не ўбачацца гэтыя дзеці і што жыццё — суцэльныя згубы... «Але і набыцці»,— падумаў ён, зірнуўшы на Алексу, і, павесялелы, першым пайшоў са двара, ведучы за сабою осліка, які весела стукаў капыткамі, радуючыся дарозе і ўсяму новаму. Асёл жа, якога купілі Алексу, тупаў панура і зацята, нібы яму перадаўся настрой і смутак новага гаспа-

дара, які ішоў, звесіўшы галаву і думаючы пра тое, што нешта скончылася назаўсёды, а наперадзе невядомае.

На Алексу цяпер быў паласаты халат, падпаясаны белбогам-хусткай, на брытай галаве ў яго, як і ў Нармурада, тырчаў кулах — высокая вострая шапка з лямцу. Глянуў у арык, што бег ля дарогі,— не пазнаў сябе. Чужы скуласты твар глядзеў адтуль.

— Нягледзячы ні на што, ад мяне чужаземцам пахне за вярсту! — усё-ткі засумняваўся.

— У нас, у гарах, ёсць многа такіх, з блакітнымі вачамі,— запярэчыў Нармурад.— Ты — парс, запомніў? Цябе стануць шукаць як румійца, як хрысціяніна. Купец Абдурахманбек — багаты, ён знойдзе цябе паўсюдна, ведай гэта, Аль-Іса!

Яны ішлі і ехалі па дарогах, уздоўж якіх час ад часу з'яўляліся і знікалі тонкія ручайкі вады, што паілі нябачаныя Алексам расліны з пажоўклымі ўжо каробачкамі, з якіх выглядаў белы пух. На некаторых палетках ужо хадзілі жанчыны ў доўгіх жорсткіх фартухах, куды яны складвалі пух, і здалёку бачны былі агромністыя кучы, падобныя да снегавых горак. Алекса сышоў на адзін з палеткаў, паглядзеў на каробачку, пацягнуў за белую пасму і тут жа войкнуў — укалоў палец.

— Гэта трэба ўмець! — засмяяўся Нармурад і лоўка, аднымі пальцамі, выцягнуў некалькі пасмачак і паказаў іх Алексу.— Твая кашуля з гэтага і халат таксама!

Алекса памацаў мякенькія, падатлівыя ў пальцах пасмачкі. Падумаў, як усё тут нібы спрачаецца паміж сабой: зямля цвёрдая, як мёртвая, з белымі пацёкамі солі, а нараджае плады такія сакавітыя, што з іх духмяная вільгаць аж пырскае. З калючай каробачкі — і такая амаль нячутная для пальцаў прыгажосць! І людзі, падумаў ён, людзі таксама розныя. Вось адзін з іх усміхаецца, але ў вачах яго насцярога і холад. Другі ж, як Нармурад, маўклівы і пануры, а вочы яго добрыя-добрыя. Як жа навучыцца разбірацца ў людзях?

Перад гэтым да іх прыстаў пажылы паломнік, што вяртаўся з Мекі. Ён расказваў дзівосы пра чорны камень Каабы, які быццам бы вісіць між небам і зямлёй і вакол якога сяміжды праходзяць падарожнікі. Доўгімі гадзінамі, пакуль у прыдарожным вогнішчы варылася мяса альбо пякліся ляпёшкі, слухалі Нармурад і Алекса расказы пра ўрачыстае брыццё галавы перад рытуальным бегам між пагоркамі Сафа і Марва, пра лёгкасць і свята душы, што

прыходзіць, калі чалавек зрабіў усё патрэбнае для паломніцтва і прыйшоў на «свята ахвяры», альбо галоўнае свята. І яны елі і спалі [illegible] паломнікам, а пасля ён знік уначы, прыхапіўшы з сабою апошні дзінар з пераметнай сумы Нармурада і панурага осліка Алексы.

— Хустка сумлення ўсё-ткі трохі ахінула яго галаву,— сказаў Нармурад раніцай.— Узяў твайго осліка. Ну а дзінар... Можа, яму і сапраўды надакучыла карміцца сухімі ляпёшкамі і ён хоча хутчэй дайсці да свайго селішча.

— А мы? Мы што, падыхаць з голаду будзем? — пагнеўна запытаўся Алекса, гатовы па следзе бегчы за паломнікам, як паляўнічы за зверам, каб бязлітасна адпомсціць яму.

— Ты малады, значыць, заўсёды зможаш паставіць пастку на зайца або адрабіць за хлеб гаспадару. Я ж валодаю лекарскай справай. Значыць, і сапраўды не прападзём [illegible] голаду. Яму цяжэй дабываць сабе ежу.

— Я ўжо бачыў, што тут заўсёды падаюць міласціну чалавеку, які хадзіў у Меку, і лічаць яго ледзь не святым! Хай бы пабіраўся. Не прапаў бы!

— Нашага дзінара хопіць яму надоўга. А падаваць тут будуць усё бядней. Чым бліжэй да гор, тым меней у нас мусульман. А многія толькі для выгляду ходзяць як мусульмане, на самай жа справе пакланяюцца Зердушта — Заратуштры і ходзяць да храма Азаргушаспа. Яго некалі заснаваў цар Гушасп, а калі гэта было — пакрылася пылам стагоддзяў. Тут спрэс — вогнепаклоннікі.

— Бацька, вы і праўда верыце ў агонь? Агонь жа — гэта толькі агонь. Яго можа распаліць любы, нават я. Ён магутны, калі яго возьме ў рукі чалавек ці бог — ну скажам, у нас Сварожыч, Ілля-Прарок. Але сам агонь?

— Пра важныя рэчы не гавораць вось так, мімаходзь,— Нармурад падсунуў свайму маладому спадарожніку кавалак чэрствай ляпёшкі.— На вось, еш. Але я скажу табе, што агонь — толькі водбліск святла, толькі частка сілы, якая дала свету паняцце аб дабрыні і праведным жыцці. Усе добрыя справы на зямлі — ад святла Агурамазды, усе цёмныя — ад Арымана, што валадарыць над злымі духамі. Няпраўда, зайздрасць і злосць — стварэнні Арымана, яны ідуць супраць усяго існага, і чалавек павінен сваімі справамі падтрымліваць дабро на зямлі. «Добрыя думкі, добрыя словы, добрыя справы» — бачыш, пра што нагамінаюць вось гэтыя тры шнуры на свяшчэнным поясе, якім я заўсёды апаясваюся нябачна для ін-

шых? — і ён расхінуў халат, паказаў свяшчэнны пояс, надзеты прама на голае цела.— І табе я падару такі пояс, але прыняць яго ты зможаш толькі пасля абраду ачышчэння... Ты еш, еш! — супакоіў ён Алексу

— А вы, бацька?

— Я сёння пагаладаю. Гэта ўмацоўвае думкі і ачышчае цела. Павер, я многае раскажу табе, сын мой. Так, сын, таму што ты ўратаваны мною і мною вернуты да святла, і гэта, бадай, тое ж самае, што і кроўнае сваяцтва. І самае першае, што я хацеў бы перадаць табе, гэта — радасць ад таго, што абкружае нас. Паглядзі навокал, сын мой. Калі ў тваім сэрцы варухнецца нешта светлае, ты гадуй гэтае пачуццё, як кволы парастак, і яно вырасце пасля агромністым дрэвам, пад якім ты заўсёды можаш схаваць сваю душу ад занадта пякучага сонца звычайнасці ці ад смяротнага холаду няўдач.— І стары лекар павёў рукою навокал, нібы не давяраў яшчэ зроку і сэрцу Алексы.

Яны сядзелі на схіле гары, адкуль адкрывалася відовішча, якое і сапраўды нешта варухнула ў скамянелым сэрцы Алексы: блакітныя горы наводдаль нібы плылі ў крыштальна-чыстым паветры, таксама блакітным, але з ружовым водбліскам будучай раніцы. Бялелі спакойныя, недасяжныя вяршыні, нібыта цягнучыся ўвысь, і было відно, што на бліжэйшай гары тоненькімі, як на руцэ чалавека, жылкамі збягалі ўніз бурапенныя ручайкі, і ясна, як павялічаная, была відна зеляніна лесу, што суровай зубчастай сцяною нібы апаясвала гару. Алекса зірнуў вакол — відаць, на той гары раслі такія ж каржакаватыя, падобныя да полацкіх соснаў магутныя дрэвы з пушыстымі мяцёлкамі светла-зялёных іголак. Ён нават адчуў смалісты пах гэтых іголак і шэра-мядзяных ствалоў і нібы заламіла ў зубах ад сцюдзёнага холаду вунь тых крынічак, якія, ён ведаў ужо гэта, не награюцца і ўлетку. Урэшце, відаць, лета тут было суровым, таму што ўнізе было горача, наліваліся ліловай мякаццю вінаграднікі і пышна жаўцелі на невялічкіх палетках агромністыя сакаўныя дыні, а тут, у гарах, ужо было холадна, і Алекса па начах некалькі разоў ірачынаўся ад таго, што стары Нармурад беражна накрываў яго ўласным халатам. Пасля Алекса дзівіўся, што ён, малады, вынослівы воін, мерзне, а стары ўжо чалавек спіць на голай зямлі як на печы, хаця не далей як учора бачыў на ўласныя вочы, што тонкая тканіна кашулі на грудзях Нармурада пакрылася далікатным налётам шэрані, а той спаў сабе і нават не кашлянуў раніцай.

Нармурад уважліва сачыў за тварам маладога чалавека.

— Кранула сэрца, але пасля зноў адпусціла? — запытаўся ён, і Алекса толькі кіўнуў галавою: так, праўда, радасць нібы толькі дакранулася да яго і тут жа пакінула, ён задумаўся пра другое, забыўся на прыгажосць вакол.

— Нічога. Галоўнае, што сэрца тваё жывое,— сказаў Нармурад і падняўся.— А я дык колькі жыву на свеце, а ўсё роўна радуюся, што свет такі прыгожы. Што кожнае стварэнне ў ім для нечага прыдумана...

— А гады — змеі і іншая брыдота — таксама для радасці прыдуманыя? А злыя ненавіснікі, а нечысць, што мучае людзей і штурхае іх на згубу?

Нармурад затрос галавой.

— Ты пасля мне гэта перакладзеш, Аль-Іса,— сказаў ён.

Алекса апамятаўся. Ён жа загаварыў на сваёй мове, забыўся! Але — як спатоліў на імгненне душу... Ён перакінуў праз плячо хурджун, пакуль Нармурад з намаганнем садзіўся на свайго осліка. Той пагнаў лапавухага наперад, і толькі калі яны прайшлі па прахалоднай, камяністай сцежачцы колькі часу, адказаў, нібы зразумеў, пра што казаў яго малады памагаты:

— У жыцці многа цёмнага і страшнага. А каму ж, як не чалавеку, змагацца супраць зла? Каб ён мог сябе па-сапраўднаму адчуваць шчаслівым. Пасля ночы сустракаць сонца вунь як радасна, так?

Алекса нічога не сказаў, і яны пайшлі далей. А сонца сапраўды імкліва ўзыходзіла над гэтымі маўклівымі гарамі, над камяністай сцяжынай, якая вяла наперад у вышыню, ад якой трохі пачало захлынацца неакрэплае сэрца Алексы. Сонца выпальвала начны холад і цяснін і зіхотна ззяла на чырванаватым, ружовым і цёмна-карычневым каменні скалаў, ад чаго здавалася, што падарожнікі трапілі ў нейкую зачараваную краіну. Крыкні — і ўсё наўкол адгукнецца, ажыве, заззяе пералівамі!

І хаця Алекса ішоў унурыўшыся, ён і праз многія гады ўспамінаў тую раніцу, калі сэрца яго ўпершыню пасля цяжкай хваробы зноў, хай і на імгненне, затрымцела радасцю быцця і святла. Ён запомніў гэтае сонца і буйныя ліловыя ягады, што абсыпалі вільготны куст, які цудам затрымаўся на краёчку каменнай скалы, дзе, здаецца, нішто жывое не магло б уцалець. Пазней добра паспытаў, што такое горны вецер, які тыднямі шліфуе каменне, і яно, непадатлівае, прымае самыя нечаканыя

формы — такія, якія выдзьмуваюць у ім упартыя, бязлітасныя вятры. Праз многія гады ўспамінаў тую хвіліну таму, што, незаўважна для яго, ён як бы нанова пачынаў свой круг жыцця. Тут, у гарах, нібыта прабіўся скрозь холад першы лісточак бярозы, першы ў халодным, яшчэ, можа, зімовым свеце. І ён сам, Алекса, быў ужо іншым, новым чалавекам, які перажыў многае, але не даў змагчы сябе цёмнай, злоснай сіле, што гатова была сцерці яго на муку, перамалоць і развеяць над гэтымі скаламі, каменнем, над гэтым асляпляльна ружовым мроівам, што залівала свет...

Аблокі цяпер ляжалі блізка да іх, яны былі цяжкія, вільготныя, і ўсё часцей ішлі дажджы, і слізготна было на вузенькіх сцяжынах, якімі яны забіраліся вышэй і вышэй у горы. Зіма даганяла іх, а яны хацелі абхітрыць яе, дабрацца да цёплага жытла раней.

Страшна было глядзець уніз — такімі маленькімі здаваліся рэчкі, што імкліва пеніліся, падаючы з вяршыняў. І ўсюды — каменне. Яно вільготна пералівалася чырвоным, зялёным, але найбольш было шэрага колеру. І Алекса адчуваў, што горы валодаюць нейкай сілай, яны нібы захопліваюць у свой палон, прымушаюць думаць па-свойму.

І то ідучы ўслед за Нармурадам, які ехаў на асле, то, у сваю чаргу, едучы самому, каб даць спачынак стомленым нагам, бо на другога асла грошай у іх ужо не было, хлопец успамінаў мінулае са здзіўленнем. Што ёсць жыццё? Яно круціць чалавека ці чалавек падпарадкоўвае яго сабе? Свая воля, свая ахвота была ў яго ці так наканавалі яму багі? Наканавалі і паклікалі ў дарогу, якую змераць вокам — і то робіцца балюча. Маці казала, што, калі насіла яго, надта ж часта снілася ёй дарога — чамусьці толькі цяпер успомнілася гэта, амаль забытае... Малога яго часта вадзілі ў храм Перуна — быў такі ля возера Валоўяга. Каменныя сцены, каменне таксама вялізнае, нябачанае — і свяшчэннае вогнішча, і барадаты жрэц, і таемныя словы, і духмяны дым, і чаканне цуду... Жрэц часта прадказваў будучае. Многае збывалася, а многае — не, і дзе ж дазнацца праўду? Аднойчы яго равеснік, Няжыла, тайком, каб не ўбачылі, дакрануўся-такі да свяшчэннага змея, які абвіваў драўляны разьбяны слуп. Змей тады быў вялы, як сонны — мусіць, была зіма. Але ён зашыпеў, падняў змяіную галаву з вострымі зубамі, і жрэц гнеўна сказаў, што Няжылу доўга не жыць. У тую ж зіму, катаючыся на санках, схапіў Няжыла агнявіцу, і праз колькі дзён яна яго згрызла, спаліла, як лучыну. А можа, то не змей быў вінны?

Няўжо ж такая была для яго абраза — калі хлапечы палец ткнуўся ў яго, каб пераканацца — а ці жывы той змей, ці гэта толькі морак, бо не бывае на Полаччыне такіх вялікіх гадаў? Можа, было н а к а н а в а н а Няжылу пражыць так мала?

Ведаць бы, калі і на чым закончыцца ягонае жыццё. Ды толькі нікому гэтага ведаць не дадзена.

І пад мернае тупаценне асла набрыдалі словы бацькавых казак:

«Даўней людзі ведалі той час, калі да іх смерць прыйдзе, а цяпер ніхто таго не знае, акрамя багоў. А было гэта тады, калі Ілля-Прарок разам з Перуном ішлі па зямельцы. Ажно глядзяць — чалавек плот саломай гародзіць. Задзівіліся Ілля-Прарок і Пярун, пытаюцца, нашто ён так робіць.

— Дык жа памру хутка,— кажа ім той чалавек.— Нашто ж мне высільвацца?

Падумалі-падумалі багі дый рашылі: «Калі ж гэта кожны пачне абы-як рабіць, што будзе? Нядобра гэтак. Хай робіць чалавек не толькі на свой век, а й на чужы, няхай верыць, што жыць яму — вечна. Так яно і пайшло — кожны верыць, што жыць будзе доўга...»

Кішлак Шырс быў невялічкі, увесь ён як бы прыляпіўся, як і той невядомы Алексу куст з ліловымі ягадамі, на краёчку камяністай выспы і гэтак жа ўрос у яе, асвоіў і абжыў. Спачатку, калі яны нарэшце выехалі з глыбокай, ужо замярцвелай ад холаду цясніны і Нармурад паказаў хлопцу на амаль непрыкметныя дамкі, што рассыпаліся на схіле адной з гор, той адчуў як укол у грудзях — дык вось куды занесла яго, вось дзе пражыве ён наступныя гады, і якімі яны будуць, гэтыя невядомыя для яго гады? Ён глядзеў на хаткі з плоскімі дахамі, з тэрасамі і раптам адчуў, што ногі яго, ужо акрэплыя ад хады і свежага паветра, раптам саслабелі. Няўжо тут край зямлі? Няўжо за гэтымі хаткамі і ёсць тая чорная бездань або сінь-Акіян, пра які расказваюць бывалыя людзі? Чуў не раз Алекса, што зямля пад нагамі — гэта спіна велізарнай кіт-рыбы. Бывае, што стогне і варочаецца той кіт, і тады ляцяць з яго ў бездань ці ў сінь-Акіян цэлыя гарады і паселішчы. Тут, на самым краёчку зямлі, чутно ўжо было аднойчы, як здрыганнуўся кіт. Тады зямля захадзіла пад нагамі, а з гор паляцелі агромністыя каменні — яны з Нармурадам ледзь паспелі схавацца ў пячору. Але Нармурад сказаў, што бы-

ваюць калыханні зямлі яшчэ мацнейшыя, а на словы Алексы, што гэта кіт-рыба варочаецца, здзівіўся і сказаў, што гэта д'ябал Ахрыман хоча вырвацца з векавечнай цемры. Вось і паспрабуй разбярыся, дзе праўда!

І можа, суджана яму назаўсёды застацца тут і калісьці разам з гэтымі дамкамі зляцець у бездань. А можа, суджана нешта іншае, чаго ён не знае і знаць не хоча? Не хоча, нягледзячы на тое, што душа яго паціху як бы аджывала — зусім патроху, і маладосць, відаць, не хацела мірыцца з тым, што наканавана на гэтым свеце толькі бяда...

Зблізку гліняныя з прывычнымі ўжо для Алексы тоўстымі сценамі дамы не здаваліся такімі маленькімі і ненадзейнымі. А хата Нармурада з плоскім дахам, на якім можна было, як аказалася пасля, спаць і ўлетку, з каменнымі калонамі, што падтрымлівалі дах і ўтваралі за домам як бы крытую тэрасу, і ўвогуле здалася Алексу прасторнай — можа, адтаго, што ў пакоях, апроч вялікай скрыні ды нішаў для лыжак і посуду, нічога не было. Не паспелі яны зайсці ў дом, як дворык напоўніўся людзьмі. І па тым, як віталіся немаладыя ўжо людзі з Нармурадам, як пачціва кланяліся яму сталага ўжо веку мужчыны, Алекса зразумеў, што прыход лекара — радасць для жыхароў. У іх адразу ж забралі асла, каб накарміць. У некалькі імгненняў накрылі на падлозе дастархан — чыстую белую тканіну, заставілі гліνянымі блюдамі, на якіх ляжалі арэхі, сухі вінаград, сушаныя — відаць, ужо з сёлетняга ўраджаю — дыні і кавуны, а таксама кіслае малако і яшчэ нябачаныя Алексам белыя шарыкі. Калі ж, памыўшыся з дарогі і прайшоўшы ачышчэнне свяшчэнным агнём, спецыяльна прынесеным некалі з далёкага храма ў вялікай гліνянай місе, напоўненай аліўкавым маслам, яны селі паабапал стала разам са старэйшымі мужчынамі — маладзейшыя да стала дапушчаны не былі — Алекса пасмакаваў шарыкі і адчуў, што яны салёна-кіслыя.

— Еш! — строга сказаў яму Нармурад, заўважыўшы, што Алекса ледзь не выплюнуў назад і спрабуе неўпрыкмет выкінуць шарык.— Еш, гэта ачышчае кроў і асвяжае з далёкай дарогі.

Хлопец мусіў раскусіць шарык і са здзіўленнем адчуў, што смак трохі знаёмы. Ці не такі ж смак быў у кіслага малака, што падносіла яму маці ў высокім, таксама гліняным глечыку, толькі там і глечык быў іншы, і паліў у яго зусім не падобны да таго, што нанесены на тутэйшыя

збаны і чашы? Такія чашы — шырокія, без ручак, якія трымаюць на далонях, Алекса ўжо бачыў, але яшчэ не прывычаіўся да іх. Ці ж параўнаць іх з кружкай, за якую ўчэпішся ўсімі пальцамі і ўтрымаеш; гэтую кружку падае маці — твар яе заклапочаны, але вось, злавіўшы сынаў позірк, яна ўсміхаецца, і вочы яе святлеюць, наліваюцца шчырасцю і адданасцю...

Чужым, адрачоным позіркам паглядзеў на прысутных Алекса. Хацеў ён падняцца і пайсці прэч ад стала, за якім нясцерпна забалела душа ўспамінам пра родны дом, але стрымаўся — нядобра так будзе.

— Можаш ісці, сынок,— усміхнуўся яму Нармурад, і ўсе старыя, з сівымі барадамі і высокімі белымі, накручанымі вакол галоў цурбанамі паглядзелі на яго. У вачах старых была цікаўнасць, але ж Алекса ведаў ужо мясцовы звычай — ніколі не пытацца першаму ў госця, што да чаго. І нічога не пыталіся ў Нармурада — адкуль і чаму прывёў ён сюды, у далёкі горны кішлак, маладога іншаземца. Алекса адчуў удзячнасць — як жа разумее яго лекар, як без асаблівай цяжкасці чытае самае, здавалася б, патаемнае! Можа, і боль па маці адчуў, бо так ласкава ды спагадна ўсміхнуўся. Але ж нічым не памогуць гэтыя спагада ды дабрыня — толькі трохі дадуць спатолі набаленаму сэрцу... І ён застаўся ля стала. Неўзабаве з двара пацягнула спакуслівым пахам свежых ляпёшак — іх, відаць, пяклі на суседнім двары і хутка прынеслі ў пакой, дзе сядзелі госці.

Алекса еў свежае, з незнаёмым пахам вострых зярнятак печыва, глядзеў на агеньчык, што слаба трапятаўся ў глінянай чашы, асвятляючы яе чырвонымі каснічкамі, уцягваў у сябе водар, што наплываў ад духмяных зёлак, якія па сцяблінцы падкідвала ў чашу маленькая, у дранай кашульцы дзяўчынка. У дзяўчынкі былі вялізныя блакітныя вочы, а валасы белыя, як лён, і Алекса нарэшце загледзеўся на яе — каб не мноства танюткіх, па мышыным хвосціку, косак, яна была б амаль да драбніц падобная да полацкіх дзяўчатак. Адкуль тут, сярод смуглявых, чорнавалосых, з абветранай вятрамі скурай людзей гэтае мадзеўчанё? Яно трымалася ўпэўнена, відаць, было, што малой звыкла сядзець у гэтым дамку, хадзіць па глінянай падлозе, шукаць на паліцы зёлкі... Загледзеўшыся на светлы, з бруднаватымі плямамі на ружовых шчоках тварык дзяўчынкі, што так нечакана — у другі раз за сёпняшняе сядзенне! — напомніў радзіму, Алекса не пачуў, як яму

падалі празрысты жбан з нейкім жаўтаватым пітвом. Ён ачомаўся, азірнуўся — усе мужчыны трымалі ў руках сасуды і глядзелі на яго, нібы чакалі нечага.

— Устань, мой сын, і трошкі папырскай на свяшчэнны агонь з сасуда,— ласкава папрасіў яго Нармурад.— Гэтае пітво — з пладоў хаомы, ім робяць ахвяры Агню. Толькі асцярожна, не згасі агню, іначай... ну, не буду цябе палохаць. Зрабі гэта для мяне. Няхай мой дом будзе для цябе светлым!

Алекса ўстаў, падышоў да чорнай паліванай чашы, унутры якой трапятаў агеньчык. Мурзатая дзяўчынка пасунулася, пасля падала яму некалькі галінак — здаецца, такія былі на дрэве, на якім раслі рубінавыя плады з малюсенькімі кіслымі зярняткамі, што знішчалі смагу. Ён узяў пучок галінак, зразумеў — трэба папырскаць іменна гэтым венічкам. Асцярожна памачыў кончыкі галінак, пырснуў на агонь. Той затрапятаў, пасля зноў паспакайнеў, толькі моцным, зноў жа нечаканым, але магутным подыхам стаў разыходзіцца па хаце водар.

— А цяпер — выпі,— пачуў Алекса.

Асцярожна пасмакаваў пітво. Нешта вострае, духмянае, прыемнае. Выпіў. Хмель амаль адразу ж атуманіў галаў, хлопец прысеў, адчуваючы, як паплыло ўсё вакол.

Ён глядзеў, як госці — а засталіся толькі сівыя, барадатыя старцы,— выпіўшы напітку, пасталі перад глінянай чашай і, склаўшы рукі перад сабою, заспявалі песню. Слоў не мог разабраць Алекса, пасля, калі ён шмат разоў чуў маленне Анахіце — вялікай багіні, маці ўсяго існага, ён даведаўся, пра што спявалі. А спявалі старцы старадаўні гімн-заклінанне, прысвечаны багіні жыцця Адвісуры Анахіце:

Яна творыць семя ўсіх мужоў,
Падрыхтоўвае для родаў
Мацярынскае ўлонне ўсіх жанок,
Напаўняе ў пэўны час
Малаком мацярынскія грудзі...

Паступова хаома, відаць, аказвала сваё ўздзеянне. Старцы спявалі ўсё грамчэй і грамчэй:

І вось, о Заратуштра, яна прыйшла да нас,
Адвісура Анахіта.
Ад Мазды, стваральніка свайго.
О, сапраўды прыгожыя яе рукі,—
Белыя, магутнейшыя за клубы коней...
...Думка адна займае яе:

«Хто уславіць мяне,
Хто узвялічыць малаком, напіткам Хаомы,
Ачышчаным, працэджаным Зараострай?»

Алекса адчуў, як няўмольны, несціхальны рытм падпарадкоўвае і яго. Цела стала лёгкім, і хочацца вось гэтак жа кружыцца, выкрыкваць незразумелыя словы...

— Што, таўраскіф, упершыню бачыш гэткае? — прагучаў каля яго голас. Алекса павярнуўся. Тоўсты, з чырвоным загарэлым тварам і маленькімі хітрымі вочкамі чалавек глядзеў на яго, прыязна ўсміхаючыся. Усмешка ў яго была дзіўная — на яе адразу ж хацелася адказаць.

— Я палачанін,— на мове фарсі адказаў Алекса.

— Ну, гэта ўсё роўна. Так вас называюць візантыйцы, я ведаю. Давай лепей вып'ем, палачанін, сапраўднага віна. Дальбог, я заўсёды баюся, калі яны п'юць хаому — як вар'яты робяцца...

Алекса паглядзеў — і яму стала смешна. Праўда, трохі падобна да вар'яцтва.

Таўстун працягнуў Алексу чашу з чырвоным віном. Але адзін са старцаў — і калі толькі заўважыў? — каршуном кінуўся да іх, выхапіў чашу.

— Не апаганьвай светлага малення! — закрычаў ён.— Пракляты Ашавазда!

І ўсе ўзбурыліся, сталі выштурхоўваць таўстуна. Ён засмяяўся, пайшоў прэч, пахістваючыся.

— Мы яшчэ вып'ем з табою, праўда? — сказаў на развітанне Алексу.

Моцная кашчавая рука Нармурада мякка ўзяла за плячо, адвяла ў суседні пакой. Ён яшчэ помніў, як мурзатае дзеўчанё спалохана пасцяліла ля самых ног вузкую тоўсценькую коўдру, як пад галаў яму падсунулі падушку... А пасля забыўся сном — надзіва спакойным і добрым, як быццам нарэшце знайшлося месца, дзе можа ўволю пасмакаваць спатолі і цішыні.

Тады ішоў абан, восьмы месяц па іранскім сонечным календары, па-славянску ён бы называўся кастрычнік. Тут, у гарах, ён быў то ясна-сонечным, калі празрыстым рабілася неба і лёгкія перыстыя аблокі толькі зрэдку праплывалі ў недасяжнай вышыні, то хмурным, як бы злаславым. У гэты месяц наліваліся тлушчам алені, зайцы і дзікабразы, якіх тут ніхто не чапаў, бо вялікім грэхам для кожнага, хто пакланяецца Заратуштры, было б спажыванне мяснога. Непадалёку, за суседняй гарой, жылі ўжо мусульмане, якія, наадварот, лічылі, што мужчына, які

не паесць мяса, годны толькі на тое, каб замест жанчыны займацца прадзівам. Бывала, што іх паляўнічыя, гонячыся за горным казлом ці сернай, дабіраліся да самага кішлака, але людзі з Шырса не чапалі прышэльцаў, бо, як-ніяк, султан Шыхаб ад-даула Маудуд, які валадарыў у краіне, быў уладалюбным, ён не хацеў цярпець старадаўняй, але досыць варожай для мусульманства рэлігіі, і варта было прававерным мусульманам накіраваць скаргу на няверных... Але і самі суседзі-мусульмане добра ведалі, што, хаця султан Маудуд выража маленькі кішлак Шырс гэтак жа проста, як выразаў бы ён сваім славутым кінжалам галінку аргувана з куста, ад іх уласнага кішлака таксама застанецца толькі попел і тло, бо мужчыны з Шырса былі, як на падбор, высокія і статныя, як сапраўдныя воіны, [redacted] жанчыны славіліся нетутэйшай прыгажосцю. Шапталіся мусульмане — ці не ад паходаў Іскандзёра Двухрогага засталіся ў шырсаўцаў не падобныя да акружаючых асаблівасці?

Гэты месяц Алекса таксама запомніў назаўсёды. Запомніў, як назаўтра, калі прачнуўся, выйшаў на тэрасу і, пацягваючыся, паглядзеў навокал, нязвыклае пачуццё сваёй мізэрнасці перад велічнымі гарамі і адначасна радасці ад таго, што ён жыве і бачыць такое хараство, ізноў ахапіла яго. Ліловыя цені ў цяснінах, фіялетавыя і зялёныя плямы расліннасці і траў, вяршаліны магутных платанаў былі афарбаваны ружова-залацістым святлом, яно імкліва прыбывала, як прыбывала вада ў паводку — і раптам сонца ўстала з-за белых шапак гор, заліло гліняны ўтаптаны дворык, сточаныя часам калоны дома, цьмяна-жоўты дувал... Алексу захацелася ўстаць на калені, каб маліцца сонцу і ўсяму наўкол, і нешта падступіла да яго вачэй шчымлівае, пякучае. Халаднавата-духмянае паветра, што запоўніла грудзі, як бы выцясніла ўсе ўспаміны аб тым, што з ім было, настройвала на тое, што яшчэ будзе...

А ў далёкім Полацаку, хутаючыся ў старую адзежыну, пазіраючы на халодны дождж, што, не перастаючы, упярэмешку са снегам сыпаўся і шаргацеў па сценах келлі, выводзіў начыста летапісец, чарнарызец Нікан, слова за словам, перапісваючы шчэ [redacted] лета напісанае з бяросты на пергамент, што захаваецца навечна:

«У се жа лета памрэ Брачыслаў, сын Ізяслаў, унук

Валадзімер, і Усяслаў, сын яго, сядзе на стале яго. Яго ж нарадзі маці ад валхвавання: мацеры бо нарадзішы яго, бысць яму язва на галаве яго. І сказалі валхвы маці яго: «се язвенно навяжы на яго, насіць е да жывата свайго». І носіць яго Усяслаў да сённяшняга дня».

Тое ж пісаў і кіеўскі летапісец Нестар, толькі дадаў у канцы: «Таму нелітасцівы ёсць на кровапраліцце...»

Памерла ўдава Катуніха, таму што не даваў ёй нячысцік, які ўсяліўся ў яе, ніякага продыху. Мучыў і мучыў жаласцю да згінуўшай дачкі, тачыў і тачыў сэрца. А сэрца чалавечае — яно мацнейшым бывае за валун, а і слабейшым за кацяня, якое лёгка прыдушыць пальцам... Раілі добрыя людзі ўдаве пайсці на далёкае капішча Перуна, што завялі выгнаныя [redacted] Полацака валхвы далёка ў лясах, называлі надзейныя людзі тое месца, але не слухала нікога жанчына, глядзела тусклымі вачыма і маўчала. І перасталі людзі да яе хадзіць, таму што калі не можа сама яна пазбавіцца хваробы і нечысці, ці ж можа дапамагаць іншым? Да таго ж закінула ўдава ўсю сваю няхітрую гаспадарку, карова зімою пала з галадухі, а ўраджай жа пшаніцы ў тым годзе моцна выпекла гарачыня. І згасла кабета ў сваёй курнай чорнай хаце, а знайшлі яе праз доўгі час і хутчэй пахавалі — так страшна мучыў бедную жанчыну нячысцік. Доўга яшчэ хадзілі па вуліцы чуткі, што разгулялася нячыстая сіла не на жарт, і ўсё прылятае душа Катунiхі на старое месца, шукае, а хто ж разнёс пасля па бярвенцы яе хатку. Скуголіць па начах каля двароў... Хрысціліся людзі, каяліся, што пакваліліся на тое бярвенца, бо давялося-такі ставіць свечкі ў царкве за ўпакой душы, а свечкі, як вядома, каштуюць грошы. А дзе возьмеш лішняе? Ну [redacted] ўсё-ткі, відаць, адмалілі душу — перастала лётаць па людзях дый па селішчы. Можа, стамілася і на тым свеце...

Ды пра гэта чарнарызец не напісаў. Каму цікава пра чорную чадзь ведаць? Каму патрэбна?

Ішлі тыдні, і кожны з іх адкрываў для Алексы нешта новае. Ён навучыўся караскацца па кручах, якія здаваліся зусім непадступнымі, вісець над халоднай і непрыветнай цяснінай, трымаючыся чэпкімі і гнуткімі пальцамі за выступы скалы, а другой рукой зразаючы галінкі кустоўя, якое прасіў яго прынесці Нармурад. Навучыўся знаходзіць у пячорах горны воск, па колькасці і колеры траў,

што раслі вакол пячоры, вызначаць, якія хваробы лечыць той воск. Ішлі месяцы, спачатку снежны і галаднаваты дэй, калі завеі глуха выюць цэлымі днямі і замятаюць тэрасу да самых вокнаў, падточваюць агромністыя скалы і дапамагаюць злым духам нізрынуць процьму снегу і камення ўніз, ад чаго па гарах доўга ідуць гул і трасяніна. У такія дні Алекса ўспамінаў, як расказваў яму дзед пра Лядашчыка — злога духа, што насылае на людзей хваробу і псуту. Мусіць, злыя духі тут былі свае, тутэйшыя, бо хвароба ні разу не кранула Алексу, наадварот — ён пачуваў сябе як ніколі добра. Ныла часам рука, адклікалася на змену надвор'я плячо, але затое цяпер ён спаў на падлозе, нячуйны да холаду, і цела яго нібы задубянела, бо колькі разоў выходзіў ён за дровамі для ачага басанож у той час, як пякучы мароз прыганяў да двара нават дзікіх жывёлін. Аднойчы да іх на падворак зайшла аленіха. Пярэдняя нага ў яе была скрываўленая, залацiста-рыжая поўсць на спіне звалялася і вісела збітымі пасмамі, як каўтун. Алекса, убачыўшы яе, страпянуўся — у ім ажыў паляўнічы, але Нармурад, коратка зірнуўшы на яго, падышоў да аленіхі, павёў яе ў зацішнае месца, напаіў, пасля ўмела перавязаў нагу доўгай пасмай кары, змочанай горным воскам.

Аленіха прыжылася ў іх і нават вясной, вярнуўшыся ў нейкія адной ёй вядомыя мясціны, прыходзіла колькі разоў, а зімой не з'явілася — можа, усё-ткі падстрэлілі яе дзе-небудзь у гарах ці сама змаглася, уцякаючы ад леапарда або ваўка.

Месяц спандармузд, адпаведны лютаму, запомніўся Алексу тым, што сеялі тут ячмень. Мабед — жрэц храма агню, якога з вялікай пашанай прывезлі старэйшыны, у каляровай кабе-кашулі, абвязаны свяшчэнным поясам, у лямцавым каўпаку, тройчы абышоў поле, трымаючы чашу з агнём. Рот яго быў завязаны — для таго, каб ніхто не апаганіў сваім нячыстым дыханнем бажаства. Жоўтай кашчавай рукой ён узяў з сявенькі жменю зерня, і Алекса задзівіўся — столькі пяшчотнай ласкі было ў гэтай руцэ, нібы хацеў стары перадаць зярнятам сваю надзею, хацеў даць ім сілы вырасці на гэтай камяністай, няласкавай зямлі.

Алекса напярэдадні адмовіўся араць кавалачак поля, што належаў ім.

— Я не смерд, я воін,— сказаў ён Нармураду.— Хочаш, прынясу табе барана ці казла, бо вочы мне яшчэ

добра служаць. Але араць зямлю? Я быў княжы збраяносца!

Нармурад задуменна паглядзеў на яго, ды не стаў пярэчыць. Раніцай, яшчэ да прыезду мабеда, ён устаў на досвітку і пайшоў са двара. Алекса прачнуўся разам з ім і ўсё ж упарта ляжаў, стараючыся не дыхаць. Але пасля нешта стала як тачыць яго.

«Нармурад, разумны, спакойны і добры Нармурад, працуе на мяне, а я, здаровы і дужы, ляжу тут! — думаў ён.— Але ж араць зямлю... Гэта прыстойна толькі чорнай чадзі!»

Ён успомніў, што ўжо даўно не каштаваў мяса, і так нясцерпна захацелася дзічыны, смажанай, гарачай з агню, пахуткай! Як слаўна было, калі сам князь, надобрыўшыся, даваў яму са сваіх рук такі велізарны, чырвоны, з пякучай падсмажанай скарынкай кавал! З толькі што забітага і асвежаванага вепрука! Але тут, хаця дзічыны, непалоханай, рознай, мноства — усё для яго забаронена. Не, прынесці сюды забітага звера — значыць абразіць усіх, хто жыве ў гэтым кішлаку і хто прыняў яго гэтак жа ласкава і добра, як і сам Нармурад. Праўда, неяк праз колькі тыдняў пасля прыезду Алекса нечакана пачуў, вяртаючыся з поля, адкуль нёс мяшок з зернем, размову. Гаварылі старыя, што нерухома сядзелі, падкурчыўшы пад сябе ногі, на адкрытай тэрасе-айване:

— Гэты прыезджы... ён усяго толькі гулям, раб, а наш лекар абыходзіцца з ім, як з сынам.

— Яму відней,— сказаў другі голас.— Ды і рабоў у нас няма, яны толькі пры храме. І раб не зробіць тое, што зробіць сын, хай сабе і названы.

Алекса зразумеў іх, хаця гаварылі яны на старадаўняй мове, на якой усе гаварылі тут. Сам ён часам дзівіўся з гэтай сваёй здольнасці разумець другіх і хутка схопліваць тонкасці чужой гаворкі. Але тады нешта як укалола яго, і ён стаў задумвацца — ці не таму назваў яго Нармурад сваім сынам, што адчуў у ім, Алексу, здольнасць падпарадкавацца толькі дабрыні і ласцы, але не сіле? Быў бы тут рабом — уцёк бы праз тыдзень, але лепей, чым тоўстай вяроўкай, прывязаны ўдзячнасцю і павагай. Дык ці не пастка гэта? Ён пільна прыглядаўся да лекара, і часам яго ахопліваў сорам — нічым і ніколі не даў зразумець Нармурад, што ён тут чужак, наадварот, быў ласкавым з ім і добрым, як з сапраўдным сынам. І Алекса не вытрымаў — устаў і пабег на поле, і ўжо разам з гаспадаром

яны аралі маленькі кавалачак свайго поля, рыхлячы непадатлівую зямлю нарогам і металічнай акоўкай на вастрыі.

І калі жрэц тройчы абышоў зямлю, сыпануў зернем і спыніўся, гледзячы, каму перадаць сявеньку, Алекса выступіў наперад.

— А цяпер — я.

Жрэц запыніў руку, доўга ўглядаўся ў яго запалымі вачыма, вострымі і цікаўнымі, пасля запытаўся:

— Саклаб?

— Мой сын,— сказаў Нармурад, узяў з рук жраца сявеньку, перадаў яе хлопцу і паўтарыў:

— Сын.

Месяц урдзібіхішт, калі ўжо буяе на палетках зеляніна і белым цветам абсыпаны персікавыя дрэвы, таксама запомніўся Алексу. Тады нечакана захварэла дзяўчынка, тая самая, што падтрымлівала агонь у чашы ў дзень прыезду гаспадара. Яны жыла ў лекара пасля смерці маці, прышлай жанчыны, якая не то ўцякла ад гаспадара, не то сам ён адпусціў яе перад смерцю дадому. Жанчына прабіралася на радзіму, у далёкі Іран і, трацячы апошнія сілы, яшчэ прыплялася да парога Нармурада, дзе і памерла. Цела яе двое ўдзячных лекару людзей аднеслі да дахмы, каменнай вежы ў выглядзе высокай пляцоўкі, куды звычайна клалі трупы, каб раздзяўблі іх драпежныя птушкі, бо нельга атручваць мёртвым целам ні зямлі, ні свяшчэннага агню; дзяўчынка ж засталася ў лекара. Маці клікала дачку Гульнарай, але Нармурад стаў зваць яе Апак — бялянач-кай, бо ад самага свайго нараджэння была яна белавалосай і светлай,— такімі бываюць толькі патомкі старадаўніх персаў альбо людзі з чужых, туманных і далёкіх краін, дзе мала сонца, а многа вады. Апак была ціхмянай чатырохгадовай істотай, якая, кавыляючы на кволых яшчэ ножках, старанна рабіла ўсё, аб чым прасіў Нармурад: берагла агонь, мыла чашкі, сцяліла мужчынам падушкі. Калі ж Нармурад ад'язджаў, то за дзяўчынкай прыглядалі суседкі, бралі яе да сябе доўгімі асеннімі начамі, але, падросшы, Апак неахвотна ішла з дому, часцей, захутаўшыся ў дзіравую коўдру, моўчкі сядзела ля ачага і глядзела на цяпельца, на кволыя, а часам магутныя языкі агню. Тут, ля агню, і ўбачыў яе Нармурад, калі разам з Алексам вярнуўся з поля: дзеўчанё ляжала, закаціўшы вочкі, на шчочках яе злавеснымі чырвонымі макамі расцвіла сыпка. лоб пажаўцеў. Яна прыадчыніла засмучаныя вочкі, але не

пазнала нікога, толькі жалобна прамармытала нешта на невядомай мове.

— Маці кліча,— змрочна сказаў стары лекар, і сухія, ужо трохі вялыя вусны яго задрыжалі.

Ён узяў дзяўчынку за руку, стаў слухаць пульс, пасля агледзеў яе, прыціскаючыся вухам да крохкай, як у верабейчыка, грудкі, з выпіраючымі пад скурай костачкамі.

— Там, на паліцы, вазьмі джуляб,— сказаў ён.

Алекса ўзяў гліняны слоік з сіропам, звараным з пялёсткаў руж, падаў лекару, а сам памкнуўся прэч з хаты, каб не перашкаджаць. Дасюль ён толькі збіраў лекі для хворых, якія часта прыходзілі да лекара з суседніх, нават далёкіх кішлакоў. Але Нармурад спыніў яго:

— Не, ты пасядзі побач.

Алексу было шкада дзяўчынкі, якая часта нагадвала яму пра радзіму, хлопец ніколі не крыўдзіў яе, быў ласкавы, але яна дзічылася яго,— саромелася, ці што? — і сам ён першы ніколі не загаворваў з ёю, жыў, пакутуючы ад сваіх думак, як не звяртаў бы без патрэбы асаблівую ўвагу на звераня, якое прыжылося ў доме. Ён падышоў, прысеў на кукішкі перад Нармурадам і Апак, якая, глытнуўшы колькі лыжак сіропу, зноў ляжала ўсё такая ж вялая, абыякавая да навакольнага.

— Патрымай руку, паглядзі, які ў яе пульс,— сказаў Нармурад.— У здаровага чалавека павінны быць пяць удараў на адно тваё дыханне — гэта значыць, пакуль удыхнеш і выдыхнеш паветра.

Алекса ўжо ведаў, што пульс паказвае, чым і як хворы чалавек, неаднойчы ён нават крадком мацаў запясце і лавіў гэтыя таямнічыя стукі, якімі кроў-руда штурхалася ў жылы і аклікалася, ці здаровы гаспадар. Але другога чалавека ён слухаў упершыню, і гэтыя павольныя, бы нехаця, штуршкі, якія ледзь прамацваліся на тонкай, як у маленькага звярка, лапцы, раптам выклікалі ў ім вострае пачуццё шкадавання.

— Што з ёю, бацька? — спытаўся ён.

— Пакуль не ведаю. Падобна да гарачкі, але ад чаго яна?

Дзверы раптоўна расчыніліся, у пакой уляцеў худы, такі худы, нібыта рэбры зараз праткнуць сіняватую скуру, абадраны чалавек, падскочыў да дзяўчынкі, утаропіўся ў яе:

— Гора, гора! Усюды гора, чорная рака затапляе нас! Сцеражыцеся, бяжыце! Няўжо вы не бачыце, як чорная

рака падступае да дома? Яна тут, яна плешчацца ля дзвярэй!

Алекса быў ускочыў ад нечаканасці, але Нармурад супакоіў яго:

— Гэта Спітагд. Ён не пакрыўдзіць нікога. Не бойся.

Алекса ўжо чуў пра бедалагу Спітагда, аднаго з вучняў Нармурада, якога пакінула святло розуму. Ён заўсёды, як вечная журботная птушка Шэбавіз, адчуваў, дзе няшчасце, і прыходзіў у гэты дом плакаць па чалавеку. Ведаў Алекса, што Спітагда спачатку выганялі з дамоў, але цяпер усе яго ведаюць і не чапаюць. Нават да мусульман прыходзіць ён і плача разам з усімі, і ўсе лічаць, што Суруш аберагае няшчаснага вар'ята і ад камняпадаў, і ад няшчасця...

Яны сядзелі, глядзелі на дзяўчынку. Ізноў адчыніліся дзверы — і таўстун Ашавазда бокам праціснуўся ў дзверы:

— Аль-Іса, выпі са мной!

У руках яго быў вузкагорлы металічны гляк, у кішэні абадранага каптана звінелі піялы.

— Тут хворае дзіця, а вы...— з дакорам сказаў Нармурад.

— Ну і што — хворае дзіця! Яшчэ невядома, дзе ёй лепш, тут альбо там,— ён паказаў на неба.— А, і ты тут, воран смерці! — ён павітаўся са Спітагдам.— Усё каркаеш?

— Змеі цябе абвіваюць. Змеі похаці і парокаў! — Спітагд працягнуў руку наперад, уткнуўся кашчавым пальцам у Ашавазду.

— Змеі? Дзе гэта? — Ашавазда дзелавіта абгледзеў сябе, але вочы яго смяяліся. Ён падышоў да вар'ята, працягнуў яму крысо адзення:

— Дык на, абтрасі іх. Ты ж у нас святы, пра гэта сам дастур казаў.

Спітагд баязліва адсунуўся, глядзеў на Ашавазду, які наліў віна ў адну з піял, працягнуў Алексу:

— Выпі, лягчэй будзе!

Алекса разгубіўся, паглядзеў на Нармурада, выпіў некалькі глыткоў.

— Вось і добра! Будзе лягчэй! — узрадаваўся Ашавазда.

І ён пайшоў з пакоя, папяваючы:

> Я п'ю таму, што свет напоўнены журбою,
> Я п'ю, і мне здаецца — мілая са мною...

— Зараз яго «мілая» добра агрэе яго! — саркастычна заўважыў Нармурад.— Усе ягоныя жонкі збягалі ад п'яні-

цы, і ён стаў бедным, як апошні бядняк, таму што плаціў жончынай радні вялікія грошы. Засталася апошняя — але яна такая, што мне хочацца падчас папрасіць у яе атруты, у гэтай змяі!

Погляд яго ўпаў на Апак, і ён зноў нахмурыўся.

Устаў, папрасіў:

— Перанясі яе ў цёмны пакой. Бываюць хваробы, якія не любяць святла. Паглядзім, паназіраем за ёю. А ты мне паможаш. Пара табе ўжо вучыцца большаму. Час. Але баюся, што мы не дапаможам. Я глядзеў, што ёй наканавана. Лёс у яе нядобры, бо нарадзілася яна пад зоркай Дзенеб, а гэта заўсёды абяцае няшчасце...

Алекса бачыў, што стары лекар часта глядзіць на неба. І перад тым як паправіць сцяну, што асела ад моцнага падземнага штуршка, і перад дарогай. Ён бачыў таксама, што на даху іх стаіць вялікая труба на калёсах і гаспадар у асабліва ясныя ночы сядзіць там аж да раніцы. Упершыню ўглядзеўшы, як глядзіць на неба праз тую трубу Нармурад, жахнуўся — ці не чарадзей той? Але ж людзі вакол не здзіўляюцца і не баяцца таго, але самі вечна таўкуцца ў доме, каб спытацца пра лёс блізкіх, пра добры і нядобры час для пачынання спраў. Ды Нармурад, які ахвотна дапамагаў хворым, нехаця гаварыў пра будучае.

— Майго жыцця на гэта не хапіла,— сказаў ён неяк,— я магу нямногае. Я так мала ведаю, што адчай ахінае маю галаву! Але ты... калі ты захочаш, твайго жыцця павінна хапіць на ўсё тое, што не зроблена мною.

Алекса тады няпэўна паціснуў плячыма — ён і хацеў бы даведацца, што там робіць на даху Нармурад, і разам з тым яго не цягнула да сядзення ўначы пад зоркамі. Ён знаходзіў супакаенне толькі тады, калі ішоў далёка ў горы, шукаў карнявішчы і травы, здабываў паліва для іх сціплага ачага. А Нармурад не настойваў, відаць, чакаў свае пары.

Яны лячылі дзяўчынку ўдвух, і ніколі яшчэ не хадзіў па травы Алекса ў такім нецярпенні, ніколі яшчэ не сачыў ён з такім шкадаваннем і надзеяй за самымі малымі зменамі ў чалавечым твары. Кожная жылка на гэтым бледным, худзенькім дзіцячым тварыку напаўняла душу любасцю і спадзяваннем, і ён упершыню зразумеў усю велізарную цану жыцця. Прыходзіла сталасць. Думаў, што мог бы сам мець такую вось дачку... мог бы. А можа, нават і сына паслала б багіня Мокаш, якая дапамагае парадзіхам, ці лепей бы адразу і сына, і дачку? І Алекса глядзеў за

дзяўчынкай, як глядзела б толькі хіба клапатлівая маці. Нават у сне слухаў яе соннае дыханне, на памяць вывучыў слабенькі пульс, які праз колькі тыдняў трывогі стаў напаўняцца жыццёвай сілай. Спачатку быў як тонкая нітка, гатовая вось-вось абарвацца, у апошнія дні нагадваў маленькую, ледзь прыкметную ў густой лясной траве крынічку, якая ціха, але настойліва б'ецца на паверхні зямлі.

Апак па-сапраўднаму ачуняла пазней, не ведаючы, што, каб не яе хвароба, ніколі б не зацікавіўся лекарствам малады воін. Зрэшты, не пакідаў Алекса і сваіх заняткаў па мове. Ён ужо трохі ведаў і арабскую — мову заваёўнікаў. Дапамагаў стары таўстун Ашавазда, які шмат паездзіў па свеце, пабываў і буддыстам, і мусульманінам, а цяпер вось зноў вярнуўся да веры сваіх бацькоў. Ашавазда меў у хаце некалькі рукапісаў. Гэта было вялікае багацце, але ляжалі кнігі ў старым сундуку з пашарпанымі бакамі.

Выпадкова Алекса наткнуўся на іх. Ён здзівіўся, папрасіў вучыць яго чытаць па-арабску. Ашавазда спачатку адмовіўся, а пасля як загарэўся:

— Чытай! Чытай іх, дарагі, напаўняй сваю галаву чужым розумам. Я іх прачытаў неаднойчы, але мая галава — як сіта, усё працякае скрозь. Дый стары я ўжо, нямоглы... А ты... Ты цярплівы і цягавіты, як... як вярблюд!

Алексу не надта спадабалася такое параўнанне. Але ён махнуў рукой. Што крыўдзіцца на веселуна Ашавазду?

А сапраўды, менавіта цярпенне Алексы, відаць, выратавала Апак. Гэта ён прачнуўся, калі дзяўчынцы стала блага і яна ссінела, не могучы дыхаць. Стары Нармурад тады спаў, варушачы ў сне вуснамі, твар яго быў светлым і лёгкім. А ён, Алекса, пачуў хрыпенне, і разам яны варушылі, церлі кволае цела, палілі ля скроняў дзяўчынкі горкі горны палын. Раніцай ёй стала лягчэй, а потым і зусім пайшло на папраўку. І калі ўпершыню Алекса вынес Апак на паветра, стаў з ёю на тэрасе, гледзячы на ўжо звыклыя горы ў іх адзінокай і гордай велічы, а цёплы, напоены кветкамі вецер ласкава абвяваў іх твары,— ён зноў раскрыўся насустрач усяму навокал...

І ўсё гэта патроху вяртала яго да жыцця,— жыцця, якое струменіць гарачай крывёй у жылах і напаўняе нязведаным шчасцем кожную клетачку цела.

А пасля месяцы пайшлі адзін за адным, так што Алекса

ўжо і не памятаў, калі што было, ён жыў, як малады звер, не зазіраючы ў будучае і стараючыся забыцца на мінулае.

У свабодны ад работы час ён хадзіў да Ашавазды, памагаў таму па гаспадарцы. І хаця лекар Нармурад часта бурчаў на яго за гэта, не пераставаў гутарыць з чалавекам, які шмат чаго бачыў на свеце, ведаў на памяць столькі вершаў, што Алекса здзіўляўся — як умяшчаюцца яны ў галаве? Але Ашавазда толькі смяяўся:

— Што я? Вось вялікі Ібн-Сіна мог прачытаць кнігу і адразу вывучыць яе на памяць. А я нейкіх пару тысяч касыд ведаю — што з таго? Мяне яны не зрабілі ні багатым, ні паважаным. Наадварот — нашы старэйшыны касавуірацца, што не адмаўляюся ад адзінай уцехі — піялы з віном. Мусульмане — суфіі, ап'янеўшы, яднаюцца з Алахам. А я проста забываюся на тое, што свет такі паганы, і мне лягчэй жыць... Давай вып'ем!

І ён сапраўды ставіў перад Алексам вялікі фіял з чырвоным, як камень лал, віном. Хлопец адмоўна хітаў галавой, але пасля трохі выпіваў. Аната шыпела, як змяя, кідала падушкамі ў сцяну. Але, пакуль не наступаў яе час, змоўчвала, цярпела. Затое час ад часу як сатанела, і тады Ашавазду даводзілася туга. Пасля ён набіраўся сілы — і адводзіў душу. І доўга пасля таго расцірала пісягі Аната, скардзілася ўсім і кожнаму ў кішлаку...

Алекса браў у кладоўцы чарговы пергаментны скрутак — тым і канчаліся звычайна іх размовы. Але аднойчы Ашавазда з таямнічым выглядам дастаў аднекуль тоўстую, цяжкую, нібы камень, кнігу.

— Там было напісана пра другія краіны, пра вандраванні,— сказаў ён.— А тут сабраная мудрасць, якую я так і не адолеў. Мне ўступіў гэтыя запісы купец, што паміраў ад смагі ў пустыні і апошні застаўся ад каравана... Я даў яму вады, але і яна не магла ўратаваць гэтага чалавека. Ён памёр, блаславўляючы мяне за гэтыя колькі глыткоў, хаця хацеў, відаць, за кнігу атрымаць нямала залатых дзінараў. І яна таго вартая!

— То чаму ж не прадалі іх, калі не думалі выкарыстаць? — наіўна запытаўся Алекса.

— Я не думаў? Думаў! Прачытаю ўсё, казаў сабе, стану разумным, як Рудакі ці Мані, і, хаця не буду так пісаць, як яны, спасцігну, што ж за стварэнне чалавек, што трымае яго на зямлі і куды ён пойдзе пасля смерці. Але... Хацелася жыць, проста жыць. Маладому — дзеля кахання і прыгажунь, стаў старым — захацелася мець зда-

роўе, а дзе ты яго захаваеш, гібеючы над покрывам мудрасці, якое дадзена адкрыць нямногім? Так і пражыў, а прадаваць гэтае...

Ён паказаў на кнігу.

— Не было як. Усё здавалася, што вось пройдзе час, зноў збягу ў белы свет. Там спатрэбіцца. Вось толькі сілы набяру. А яе не прыбаўлялася, а рабілася ўсё меней... Чытай, можа, табе давядзецца стаць абраннікам Алаха, бо нездарма стары Нармурад выбраў цябе ў вучні. І не кажы нічога Анаце. Гэта — адзінае, што я змог зберагчы!

— Я... не магу. Гэта каштуе грошы,— прамармытаў Алекса.

— Глупства! Ты і так мне памагаеш...

І ён амаль выпхнуў Алексу з двара, дзе густа раслі райхон і ружы, якія ён беражліва захутваў на зіму.

Нармурад сустракаў яго пасля гасціны не надта прыхільна.

— Стары п'яніца гатовы прапіць увесь свет! — казаў ён.— Мог бы прыносіць людзям столькі карысці, дапамагаць ім. А што атрымалася? Думае толькі пра асалоду!

— Можа, праўда якраз у гэтым? — запытаўся Алекса.— Ну, каб жыць для сябе і асалоду атрымліваць таксама толькі для сябе?

— Калі так, то табе застанецца недаступнай найвялікшая радасць даваць, аддаваць сябе. Вось ты выратаваў Апак, і хіба гэта не дало табе радасці?

— Можа, не так належыць рабіць сапраўднаму мужчыне? Можа, вялікі Пярун, ці, як тут кажуць, Зардушт, сам хоча распараджацца сваімі дзецьмі? Мая справа — змагацца. А я стаў падобны да слабой жанчыны і дазволіў дэману шкадавання ўвайсці ў сваю душу. Хіба гэта добра?

— Тое, што ты называеш дэманам — добры дух. Але табе многае яшчэ павінна адкрыцца. Я толькі малю, каб заўсёды гарэла над тваёй галавой зорка Муштарп!

Калі ж Алекса прынёс кнігу, якую даў яму Ашавазда, Нармурад упершыню ўзрадаваўся:

— Хай мне даруе вялікі Зардушт, але заўсёды, калі я думаў пра суседа, язык мой рыхтаваўся да брыдкага слова. Цяпер жа я гатовы сказаць, што шчодрасць яго падобная да суседняй гары Тахамтан — гэткая ж магутная. Чытай, мой сын, чытай і думай! Я ўсяго толькі сціплы лекар, мае здольнасці малыя. Але я жыў як мог. Я не рабіў благога, стараўся жыць добрымі думкамі і ўчынкамі. Можа, я траплю зноў на зямлю пасля нараджэння?

Калі не было якой пільнай работы і не трэба было ісці па карэнні і травы альбо даіць казу (пальчыкі Апак былі яшчэ слабыя для такой работы), Алекса садзіўся на невялічкае глінянае ўзвышша — супу і, беражліва разгарнуўшы світак на белым дастархане, як самае каштоўнае з усяго, што меў, асцярожна разбіраў слова за словам, упітваючы ў сябе старадаўнюю мудрасць адышоўшых з зямлі людзей. Многае было ў кнізе яму незразумелым. Тады ён чытаў па многу разоў, пытаючыся пра незнаёмыя словы ў Нармурада, і нават хадзіў некалькі разоў у далёкі кішлак, дзе стары настаўнік перакладаў яму асобныя арабскія словы, але ўсё роўна не мог растлумачыць, што значаць яны, сабраныя ў адным сказе. Даводзілася здагадвацца, доўга ламаць галаву. Гэтую кнігу не вывезці адсюль — такая яна цяжкая. Першы раз, як падумаў пра вываз — злавіў сябе на тым. Значыць, жыве ў ім усё-ткі надзея на вяртанне. Але вярнуцца трэба не воінам — іх многа. Тое, што возьме тут — ведаюць нямногія. Ён вернецца лекарам. Сваім! Не чужаземным. І будзе лячыць усіх. Тады, можа, вылечыць Катуніху. Дапаможа маці і бацьку!

Вельмі хутка Алекса зразумеў, што прачытанае трэба запісваць. Таямнічыя лініі, знойдзеныя даўнімі лекарамі Паднябеснай краіны на чалавечым целе, упраўляючы якімі можна вылечваць хваробы і адганяць злых духаў, патроху рабіліся зразумелымі. Ды зменлівая чалавечая памяць, ці захавае яна праз нейкі час усё гэта? І ён стаў думаць, што і як у Полацаку, пры двары епіскапа і пры манастыры рабілі перапісчыкі. Аднойчы бачыў, зазірнуўшы ўслед за князем, як, схіліўшыся над высокім пастаўцом, рыпеў гусіным пяром стары, з рэдзенькай сівой барадой і выцвілымі вачамі, нямоглы дзядок у высокай шапцы. Вялікая, аблямаваная скурай вокладка кнігі ляжала асобна, пажаўцелыя лісты пергаменту, здаецца, пахлі тлом і пылам. Ён тады здрыгануўся — далоў адсюль, да свежага паветра, да сонца і веснавой травы! Нішто тады не падказала яму, што ён захоча быць некалі на месцы гэтага старога. Што сам будзе пакутліва думаць, з чаго пачынаць. На чым пісаць, чым пісаць? Як зрабіць пяро такім, каб яно магло правесці хаця б нешта падобнае да літары? Ды і забылася тая, даўняя, яшчэ ў кароткі год у школцы пры манастыры засвоеная, а пасля добра забытая навука — выводзіць літары, каб яны былі роўныя, не налазілі адна на адну і нешта гаварылі. Ён ужо спрабаваў пісаць — па-

куль што на пяску, на свежай гліне, але літары выходзілі крывыя, а некаторыя зусім непадобныя да знаёмых, нібы рука, звыклая да мяча, ніяк не хацела прывыкаць да пісьма.

— Так у вас пішуць? — аднойчы, зазірнуўшы праз плячо Алексы на мяккую гліняную таблічку, што ляжала на каленях хлопца, запытаўся Нармурад.

Алекса зірнуў у вочы Нармурада і пачырванеў. Так, ён думае вярнуцца назад, на далёкую сваю зямлю, і значыць, не заменіць Нармураду сына, на якога той так спадзяваўся. Застаўшыся адзін, нейкі час сядзеў у здранцвенні. Пасля шпурнуў таблічку прэч. Яна шмякнулася аб зямлю і сплюшчылася ў вялікі, бясформенны кавалак.

Ноччу, калі недзе над стромай жалобна стагнала птушка Шэбавіз, якая штоночы плача па мінулым дні, ён думаў пра старога лекара. Як яго пакінуць? Няможна пакінуць і дзяўчынку Апак — яна так прывязалася да яго, што хадзіла ўслед, называючы Алексу ата — бацькам — і першаю выбягала насустрач, калі вяртаўся з бярэмам галінак і сукоў, каб было што запаліць у ачагу. Апроч таго, прыносіў ёй дзікія плады, арэхі ці ягады.

Абавязак яго — закрыць вочы Нармураду і самому адвезці яго да каменнай вежы. Так хоча стары лекар — толькі так. Самому ж Алексу было ўсё роўна, дзе будзе ляжаць пасля смерці,— можа, таму, што смерць была так далёка, што і не думалася пра яе. Калі тое будзе! Ён павінен зрабіць так многа — прачытаць вялізны світак, перададзены яму Ашаваздам, запісаць самае важнае, каб пасля, некалі, перадаць, прынесці ў Полацак, навучыць людзей таму, што за многа-многа гадоў да іх нараджэння ўжо ведалі старадаўнія мудрацы. Нямнога іх на зямлі, але і тое, што ведаюць яны, можа згубіцца ў страшным кругавароце часу...

— Чалавек — трэска на вяршыні хвалі, і хваля круціць гэтую трэску так, як захоча,— неяк сказаў яму Ашavазда, калі яны ўдвух сядзелі на прасторнай тэрасе яго дома пасля гарачага, поўнага клопатаў і тлуму дня.

Алекса ўспомніў велізарныя, злавесныя, з шалёнымі белымі кончыкамі ўверсе валы Хвалынскага мора. Іх карабель стагнаў, трашчаў так, што валасы на галаве ўздымаліся і стаялі тырчма, заходзілася сэрца... але ж яны, трэскі, неяк выжылі. Ці самі яны, іх уменне, ратавала, ці мора злітавалася над імі — дзеля таго, каб ён страціўся, згубіўся ў другім, агромністым, чужым свеце, што таксама

падобны да мора! Закрыў вочы далонямі, паклаў галаву на цёплую яшчэ парэнчу тэрасы. І нечакана расказаў пра Бярозу і пра тое, што прывяло яго сюды, у дзікі, пустэльны край гор і снегу, што не растае нават летам.

Пасля яны доўга маўчалі. Ашавазда ўстаў, прынёс вузкагорлы збан, дзве піялы. Наліў віна, і адразу запахла ружовымі пялёсткамі, шафранам. Працягнуў адну піялу госцю.

Было ўжо зусім цёмна, неба, як заўсёды, засвяцілася безліччу светлых плямак, шурпата лягло над самымі іх галовамі радно Млечнага Шляху. Адзінокая зеленаватая зорка самотна ўстала на гарызонце.

— Зухра,— паказаў на яе Ашавазда.— Некалі з-за гэтай прыгажуні два анёлы, Харут і Марут, саграшылі і панеслі страшную кару. Кінутыя ў бяздонны калодзеж у Вавілоне, яны стогнуць вось ужо колькі вякоў. Яе ж багі ўзялі на неба, каб ахоўвала на зямлі прыгажосць і музыку.

— Чаму ж яна, яна... што спакусіла нават анёлаў, не панесла за гэта кары? — Алекса падняў ацяжэлую галаву.

— А ў чым яе віна? — пацiснуў плячыма Ашавазда.— Чараваць прыгажосцю не грэх. Грэх павялічваць зло на зямлі. Але Зухра была не вінаватая. Гэта яны, анёлы, смяяліся над людзьмі і патрабавалі, каб род чалавечы за грахі быў змецены або знішчаны. За тое і адправілі іх сюды ў чалавечым абліччы. Але выкрываць могуць многія, ды як вынесці цяжар гэтага грэшнага свету? Як пражыць у ім дастойна? Бачыш, гэтага не вытрымалі нават анёлы...

І ён паволі, з асалодай, выпіў яшчэ піялу смачнага, цяжкага віна, што хваляй пракочвалася па целе. Пасля, хістаючыся, пайшоў у дом; Алекса доўга сядзеў адзін, слухаючы, як стракочуць тутэйшыя конікі, і гледзячы на зорку. Уявіў, як недзе, у бяздані, надрыўна і нязмоўчна стогнуць грэшныя анёлы, што не змаглі супрацьстаяць жаночай прыгажосці і навек загубілі сябе. Мабыць, і ён, Алекса, пакараны за гэта ж. Ды ён думаў не толькі пра сябе, але і пра дзяўчыну. А яна... О, каб ведаць раней, чым усё скончыцца! І чаму было дадзена такое каханне, якое павяло на край зямлі, а пасля бязлітасна ашукала, скамячыла, ненавіта яму? Жывуць жа іншыя і жылі як людзі. Ён гатовы быў закрычаць, запытацца ў гэтай маўклівай зямлі, у зоркі, што адзінока трымцела над гарамі: «За што?!» Але навокал толькі стракаталі конікі, вост-

ра пахла ажыўшай ад гарачыні спякотнага дня травой, і тая хваля, можа, тая самая хваля, якая не дабіла яго там, на моры Хвалынскім, цяпер моцна і ўладарна стукала ў грудзі, і ён, як ніколі за апошнія месяцы, адчуваў сябе трэскай... Так, так, маленькая, непрыкметная трэска, але навошта жыццю гэтак мучыць яе? І ён заплакаў, заскрыпеў зубамі, заматаў цяжкай галавой. І добра, што ніхто не бачыў яго, не чуў, не спачуваў...

Успомніўся Брачыславаў суд у грыдніцы, калі перад братчынай збіраліся на пасад старая чадзь, дваране і людзі меншыя — гараджане, запрошаныя да князя.

У той дзень стаялі перад усімі худы, русавалосы, з шалёнымі блакітнымі вачамі рамеснік і жонка яго — танклявая, пяшчотна-русявая, круглатварая кабета. Стаяла — і не маглі яны, маладыя дружыннікі, адвесці вачэй ад паставы яе, ад белай-белай шыі і вуснаў, што, як вішні, пунсавелі на гэтым спалоханым, але і адчужана-рашучым твары. І казалі муж і жонка рознае:

— А што мне, княжа, твой суд? — страсна гаварыў ён.— Я сам суджу сябе кожны дзень. Не! Кожную ноч. Ці ведаеш ты такія ночы, калі цемра згушчаецца да каменнасці і цела здаецца сасудам зла, выразаным у гэтым каменні, сасудам, які вось-вось зломіцца ад непамернага цяжару, што з усіх бакоў гняце яго? Я суджу сябе за Адамаў грэх, які з мяне зрабіў грэшніка, бо сказана: «Пакінь блізкіх сваіх, ускінь крыж свой і ідзі за мною». А я прыляпіўся душою да яе, доўгавалосай сястры змеевай — і бяссільны перад ёю! Царства духу прамяняў я на зямную ўцеху — але, божа міласэрны, ты бачыш, якія казні егіпецкія я цярплю за яе, блудніцу вавілонскую!

І вочы яе таксама ўспыхнулі і як асвяцілі змрочным святлом жанчыну — танклявую, гнуткую, у скураных лапціках. Здавалася, успыхнулі медныя ўпрыгожанні — колты — на скронях, заіскрыліся ў іх блакітныя каменьчыкі.

— А што мне твой суд, княжа? — сказала і яна.— Я добрая хрысціянка і ў царкву хаджу кожную нядзелю, і ў хаце нашай вісіць абраз старадаўні — цэлы ўраджай лёну аддалі за яго! Але я выплакала сабе вочы, княжа, і каб не баялася загубіць сваю душу і гарэць у пекле, я б атруціла паганым грыбам гэтага чалавека або сама кінулася б у Палату.

Ці я не шкадавала яго? Ці я не гаспадыня ў хаце? Ці палатно маё горшае за чыё ў горадзе?

За што ж блудніцай мяне ганіць? За што рукі мне выкручвае па начах і цела жывога не пакідае? Хай бы ішоў ад мяне і ратаваў сваю душу ў схіме, га? Дзяцей бы сама гадавала і подаць плаціла як за жывога гаспадара. Усё роўна яго няма ў мяне. Усё бегае ў манастыр ды кнігі бажэсцвенныя чытае. Але, відаць, не ратуюць яны ад нячысціка.

Абдыме мяне — а пасля грэх замольвае і іначай, як блудніцай, не заве. За тое блудніца, што цягне яго да мяне і нічога з сабою не зробіць. І вінаваціць, што не даю яму волі, што свет без мяне няміль.

Дык забі нас за гэта, княжа, забі і вызвалі тым.

А іначай — што мне твой суд?

...Доўга думаў князь, а пасля загадаў, каб епіскап, супраць усіх правіл, разлучыў іх перад богам і заключыў мужчыну ў манастыр — навечна.

— Не мучыць муж і жонка павінны адзін аднаго, а разам жыць, і несці суцяшэнне другім, і моцна трымаць крыж свой...

Незадаволены быў епіскап, а людзі полацкія ўхвалілі рашэнне Брачыслава. І аб'явілі жанчыну як бы ўдавой, толькі не дазволілі ёй другі раз выходзіць замуж.

Не адзін уздыхнуў, калі пайшла яна прэч — лёгка, спружыніста, як расамаха.

А мужчына ўпаў ніцма, дзякуючы князю, і раптам захлынуўся смехам-плачам, і слёзы цяклі па яго худых шчоках...

І, успомніўшы пра гэта, Алекса патроху супакоіўся. Вялікая гэта таямніца, непасцігальная — так гаварылася ў Бібліі. Так і ён зараз мучыцца, думае — але адказу няма і не будзе. Значыць, трэба жыць, жыць, нягледзячы ні на што.

...Ён працаваў з асалодай, са стараннем, каб у цяжкай рабоце забыцца на ўсё, што мучыла і не давала спакою. Нанова абмазаў глінай і ўмацаваў каменнем сцены хаты, здалёку прывалок бярэмя ядлоўцавых карэнняў і адшліфаваў тоўстыя каржакаватыя нарасты, каб атрымаліся моцныя парэнчы на тэрасе, пералажыў трысняговы дах, каб халодныя зімовыя вятры не прадзьмувалі жытло, абгарадзіў двор. Камення вакол было дастаткова, а з дрэвам было цяжкавата, суччa даводзілася шукаць у гарах, валачы цяжкія ахапкі. Вельмі дапамагаў асёл — звыклы да крутых сцежак, ён цярпліва тупаў па слізкіх ад халоднага ранішняга туману каменнях, і Алекса толькі здзіўляўся часа-

мі, як можа жывёліна, такая маленькая ў параўнанні з вялізнай ношай, нагружанай на спіну, спакойна ступаць на камень, што, здаецца, вось-вось абрынецца ў бездань і пацягне за сабой? Як адчуваў, ці можна ступіць на той, ці іншы валун?

Ішлі гады. Нармурад, у большасці маўклівы, ажыўляўся, калі казаў Алексу пра тое, што адкрываў сам, што знаходзіў у навакольным. Не пераставаў ён радавацца і здзіўляцца свету. Аднойчы, калі хлопец акучваў ля сцяны вінаградную лазу, стары ўсхвалявана паклікаў яго:

— Ідзі сюды!

І калі той падышоў, далоняй выціраючы пот на лбе, паказаў на зямлю:

— Бачыш?

Алекса не ўбачыў нічога, але, ведаючы, што стары ніколі не стане гаварыць пра дробязь, нахіліўся над тым месцам, куды ўказваў палец. Але нічога, апроч двух мурашоў, што валтузіліся на глінянай дарожцы, не ўбачыў.

— Мурашы?

— Ты думаеш, яны б'юць адзін аднаго? А прыгледзься!

Сапраўды, было падобна, што гэтыя два рыжыя, буйныя мурашы змагаюцца адзін з адным: адзін з іх наваліўся на другога, а той адчайна абараняўся.

— Ён адгрызае яму нагу! — Нармурад паказаў на верхняга, амаль чырвонага мураша.— Вось зараз усё скончыцца.

І сапраўды, праз некалькі імгненняў верхні мураш адваліўся ад ніжняга, які ляжаў, слаба варушачыся; счакаў, а пасля таропка папоўз па мурашынай сцяжынцы, якая вяла ў глыб саду. Другі, без нагі, таксама наважыўся паўзці, але Нармурад лоўка схапіў яго заскарузлымі сухімі пальцамі.

— Прынясі павелічальнае шкло!

Зацікаўлены Алекса мігам пабег у хату, хутка знайшоў шкліну, перадаў старому. Той паглядзеў на мураша, якога трымаў у руцэ, і ўрачыста перадаў круглячок хлопцу.

— Вось табе аперацыя! Нага была паламаная, а цяпер хутка адрасце. Інакш бы валачылася, перашкаджала ісці, і, магчыма, ён хутка загінуў бы.

Адпусціў мураша на дарожку, і той, больш павольна, чым яго лекар, але даволі жвава патрусіў па дарожцы.

— Ідзі, і хай паможа табе Ачышчальны!

А пасля павярнуўся да Алексы:

— Заратуштра сатварыў свет больш разумным, чым мы думаем. Я сам бачыў, як курапатка нанасіла на паламаную лапку гліну, якая, высыхаючы, рабілася цвёрдай, як камень, і трымала паламаную костку мацней, чым нават палка, да якой я прывязваю паламаныя косці людзей. А пасля аднойчы задумаўся, чаму буйвалы часта кладуцца ў канаву там, унізе, пад гарой, і зразумеў гэта толькі тады, калі майго ўласнага буйвала неяк абʼелі сляпні і ён упарта клаўся ў канаву кожны раз, калі я праязджаў па той дарозе, а аднойчы ўначы збег, і толькі праз два дні мне перадалі, што ён ляжыць там жа. Я забраў яго адтуль, і што б ты думаў? — болькі і ранкі зажылі. І тады я паспрабаваў накладваць на такія ж ранкі людзей тую гразь, толькі рабіў гэта ў тайне ад іншых, бо майстэрства табіба не толькі ў яго руках і галаве. Заслоны ягонай мудрасці — гэта ўменне маўчаць, бо невук гатовы ўсё растлумачыць проста, бо бачыць толькі яўнае.

Аднойчы ён доўга сядзеў, гледзячы на ступку, у якой пераціраў зярняты міндаля, пасля, горка ўздыхнуўшы, пажаліўся:

— О, як хацелася б мне узяць у рукі рукапіс вялікага Ібн-Сіны! Калі б не хворыя вочы, я б запісваў усё, чым лячыў і вылечваў людзей, што каму памагала. Трэба запісваць, усё запісваць, бо памяць чалавечая — рака, што пераблісквае на сонцы ўсё новымі і новымі струменямі і ніколі не паўтараецца!

— Чаму ж, настаўнік, вы не пойдзеце зноў у Бухару? Хаця шлях і немалы, але вы не раз гаварылі, што патрымаць у руках «Канон» Ібн-Сіны — найвялікшая мара вашага жыцця? Няўжо не ўступяць жаданню старога чалавека?

Стары памаўчаў, пасля ўздыхнуў яшчэ цяжэй:

— Хто ж так проста пусціць мяне ў кнігасховішча эміра? Мяне, беднага кішлачнага табіба? Я магу ўсё астатняе жыццё праседзець пад сценамі ханскага палаца, але ніхто не перадасць маёй просьбы, а калі і перададуць, то за нахабства могуць яшчэ і кінуць у страшную турму-зіндан. А галоўны захавальнік бібліятэкі — яшчэ болей пыхлівы і важны, чым сам хан — пыхлівы, праўда, толькі з намі, беднымі. Я помню, гадоў дваццаць назад адзін

з маладых табібаў тайком прабраўся ў кнігасховішча. Ён атрымаў сто палак. Мне ўжо не вынесці нават пяцьдзесят.

А Алекса ўсё хадзіў да Ашавазды, і той вучыў яго, чаму мог і што ведаў. А пасля, нягледзячы на перасцярогі Нармурада, ён стаў хадзіць у ніжні мусульманскі кішлак Наргыз, да настаўніка, які маладосць правёў у Атрары, а пасля вярнуўся паміраць у родныя мясціны. Ён насіў туды грошы, якія мог зарабіць, але нічога не казаў на тое стары лекар, і быў Алекса бязмерна ўдзячны яму і за гэта...

Стары Нармурад з кожным годам як бы усыхаў, ён і хадзіў ужо неяк панура, рукі яго амаль бесперастанку калаціліся. Падрастала дзяўчынка Апак, і ў доме рабілася больш утульна — нішы завешваліся чырвона-пурпуровымі сюзанэ, якія дзяўчынка прыносіла ад старой Ніязы, што перадавала ёй свае сакрэты, палюбіўшы лоўкую, імклівую Бяляначку. Спачатку Апак рабіла тыя сюзанэ ў доме Ніязы, але паступова рукі яе налаўчыліся болей, і аднойчы яна ўрачыста аддала Алексу кашулю з тонкага пунсовага шоўку.

— Насіце, ата, гэта я сама пашыла,— сказала яна, пыхнуўшы чарванню шчок, але не апускаючы вачэй.

— Сама? — здзівіўся ён.— Ты ж яшчэ дзіця... і шоўк дзе ўзяла?

— Цётка Ніяза мне аддала. Я пашыла ёй дзесяць коўдраў, і яна прадала іх людзям з ніжняга кішлака.

— Кашулю трэба аддаць бацьку,— памкнуўся да дзвярэй Алекса. Але Апак нечакана схапіла яго за рукаў:

— Не! Ата, насіце вы! Я для вас яе рабіла! А дзеду пашыю яшчэ! Я зараблю!

— Мы і самі заробім,— Алекса пацісnуў плячыма, узяў кашулю. Упершыню ён паглядзеў, што ж надзета на самой Апак, і застыдаўся — доўгая некалі кашуля стала старой, кароткай, худзенькія рукі, як палкі, высоўваліся з пералатаных рукавоў, доўгія валасы былі так-сяк зашчэплены грубымі металічнымі ашчэпкамі, босыя ногі патрэскаліся і пагрубелі. І яшчэ ён заўважыў, што сінія вочы дзяўчынкі глядзелі на яго з адданасцю і любасцю.

Скрыпнулі дзверы. Цяжка дыхаючы, увайшоў Нармурад, прысеў да жароўні, у якой тлелі вугельчыкі, стаў грэць рукі.

— Бацька,— звярнуўся да яго Алекса,— паглядзіце, у чым наша Бяляначка ходзіць. Сорамна нам. Мужыкі мы, не кармільцы.

— І праўда, клопат з ёю. Хутка ўжо трэба глядзець, каго ў жаніхі,— Нармурад глянуў на дзяўчынку, якая хуценька выслізнула за дзверы.— Трэба будзе ехаць уніз, да кішлака Наргыз — там добры купец жыве, купім усё, што трэба. А можа, сам яе возьмеш? Не так многа ў нас грошай, каб ты мог заплаціць калым за добрую жонку, а дрэнную нашто? А яна, відаць, будзе прыгожаю.

— Яна? У жонкі? — Алекса засмяяўся, сеў ля Нармурада.— Гэта ж зусім кураня. Яна ж мяне бацькам кліча.

— Дзявочы век хуткацечны,— задумліва сказаў Нармурад.— Даўно хацеў сказаць — зажыло ў цябе сэрца. Значыць, трэба заводзіць дзяцей, жонку. Сонца юнацтва згасае, і цені ўсё даўжэйшыя... Так заўсёды, калі бліжэй да вечара...

— Мне яшчэ далёка да вечара! — засмяяўся Алекса, але смутак слізгануў па яго твары. Ён задумаўся.

— Падумай,— казаў далей Нармурад.— Аблокі не плачуць і ружы не цвітуць без кахання. Усё жывое пакідае пасля сябе след. Так было і будзе.

— Кахання...— глуха сказаў Алекса.— А я... Маўчыць у мяне душа. Маўчыць!

— Усё яшчэ прыйдзе,— Нармурад закашляўся, сагнуўся. Ён кашляў доўга, пасля падняўся, выпіў настойку з сямі траў, якую гатаваў сам, не давяраючы таго нават Алексу.— Бачыш, я стары. Вось-вось памру, і душа мая адляціць да Армузда. Як будзеш жыць адзін? А праз два-тры гады Апак трэба выдаваць замуж.

Дзверы ў пакой імкліва расчыніліся. Худзенькая постаць узнікла на парозе.

— Я не пайду замуж! Я буду тут заўсёды! А калі вы знойдзеце мне жаніха, я лепей кінуся з вяршыні!

І гэтак жа імкліва Апак знікла. Нармурад моўчкі грэў рукі каля вуголляў, глядзеў, як попел прабягаў па жарынках.

— Чорная зорка Дзенеб над яе галавой,— сказаў нарэшце.— Можа, і праўда не варта табе прыглядаць гэтую дзяўчынку? Я знайду табе іншую, дапамагу сабраць грошы. Ты і сам цяпер можаш зарабляць іх,— ён ласкава паглядзеў на Алексу.— Я радуюся, гледзячы на цябе, мой сын. Ты стаў лекарам, тваім рукам падуладнае дрэва. Ты чытаеш і валодаеш пяром-каламам, і почырк твой такі, што смела мог бы працаваць нават у Бухары.

Алекса міжволі страпянуўся, але тут жа стрымаў сябе. Бухара... Бібліятэка ў палацы... Многае пра яе чуў, і

разбуджаная душа яго хацела — не! — прагла ведаў. Але для таго, каб мець кнігі, трэба шмат грошай. Адкуль яны ў беднага лекара з кішлака? Людзі, якія прыходзілі лячыцца, прыносілі мёд, горны воск, рыс, часам проста бярэмца дроў ці скуру авечкі. А дырхем, нават самы маленькі, трапляў у дом не часта.

І ўсё ж патроху іх набіралася. Ды затое прыйшла пара паклапаціцца аб дзяўчыне. На пачатку месяца мурдад Алекса пусціўся ў дарогу. Апак стаяла на парозе хмурная: стары Нармурад не адпусціў яе, як ні прасілася. Але варта было Алексу ад'ехаць блізка ад фарсангу, як, выпадкова азірнуўшыся назад, ён заўважыў маленькую фігурку ў доўгай чырвонай кашулі. Вострым зрокам былога паляўнічага і воіна ён разгледзеў — гэта была Апак. Заўважыўшы, што ён спыніўся, яна пабегла, смешна матляючы рукамі. Алекса павярнуў ішака назад, сурова сказаў, наблізіўшыся:

— Ідзі дадому!

Яна толькі пахітала галавой, гледзячы на яго адданымі вачамі. Тады ён схапіў яе за плячо, штурхануў назад. Яна адляцела назад, выцялася аб валун, што зарос дробнымі кветкамі, ды не ўскрыкнула, толькі дзіцячыя яе вусны задрыжалі:

— Я хачу з табой. Я хачу глянуць, як жывуць іншыя людзі!

— Туман непаслухмянства зацьміў твае вочы,— сказаў Алекса.— Ты ўсяго толькі дзяўчынка, але калі і станеш жанчынай, ведай: слова мужчыны — закон. Ідзі прэч!

Ён павярнуў ішака і паехаў. Няўклюдная фігурка, камячок, які ледзь не расплюшчыў аб валун... Чамусьці гэты вобраз не выходзіў з галавы. Нават узлаваўся — пра што думае!

Ехаў увесь дзень, спыняючыся, калі стамляўся і бачыў вялікі куст ці пячору, дзе можна было легчы і, расцягнуўшыся на цёплай зямлі, імгненна заснуць — на некалькі хвілін, якія асвяжалі яго, быццам ён праспаў доўга або выпіў шклянку малака з настоем сасновай смалы — помніцца, пры паходах заўсёды везлі з сабой сасновую смалу. Сосны растуць і тут, але пах іх зусім іншы, быццам і не сосны яны, а так, нешта падобнае да тых, полацкіх... Ён адганяў ад сябе думкі-ўспаміны, а яны, як назло, усё лезлі ў галаву.

...Вось ён ідзе ў драўляных чаравіках, якія тут носяць усе жыхары. Але ж дома былі лапцікі з валокнаў ліпы.

Калі пакласці туды дзьмухаўцу, трыпутніку, падбелу, ці, як кажуць, маці-і-мачыхі — ніколі не натрэш ногі! Ліпы тут няма — можа, паспрабаваць з вербалозу? Вунь жа, чым ніжэй спускаешся, тым часцей бачыш кустоўе, нават дрэвы пайшлі — алыча, арэх, яблыні... Можна было б наламаць ядлоўцу — маслам яго дужа добра націраццa ў халодныя ночы, калі спіш у полі ці стозе перад бітвай. Не, не дажыве ён да таго, каб зноў калі-небудзь з гікам памчацца на кані, трымаючы ў руцэ гарачы ад крыві меч... А можа, і дажыве да вяртання, але чамусьці не хочацца забіваць каго-небудзь, няхай сабе і лютага ворага. Ён жа — чалавек, ён дыхае, спадзяецца на нешта ў гэтым жыцці, хоча ўзяць ад яго таксама нейкія свае радасці... Але ж — вораг!

Заўважыў, што дзень згасае толькі тады, калі ўпарты ішак спыніўся на месцы і нізашто не пайшоў наперад, нягледзячы на тое, што ён разы са два моцна ўдарыў яго кулаком. Ішак таксама стаміўся за гэты доўгі, бясконцы дзень, калі трэба прабірацца па вузкай каменістай сцежачцы, пільна гледзячы ўніз, ці насцярожана ісці праз горную рэчку, што шалёна пеніцца ў берагах і імгненна застуджвае ногі, ці чуйна слухаць горы — кожную хвіліну зверху можа скаціцца камень, друз і расплюшчыць усё, што варушыцца, жыве і спадзяецца на жыццё тут, на нітцы горнай сцежкі... Трэба на самым пачатку адчуць усёй скурай не заўважнае да часу рыпенне і ціхі шолах там, высока-высока, каб паспець уцячы далёка наперад, не трапіць пад бязлітасны абвал... Ішак навучыўся гэтаму, бо і сам ён, і продкі яго жылі ў гарах, і не раз даводзілася выручаць старога гаспадара, хаця той і сам як быццам добра ведаў, калі і дзе трэба спыніцца. Гэты ж, малады, нявопытны, гатовы быў ісці далей, ні пра што не думаючы, у той час як недзе зараз, у сваіх лагавішчах, прачынаюцца і гатовяцца да палявання страшныя звяры. Ішак адчуваў гэта ўсёй скурай, вось чаму ён не ішоў далей, а толькі касіў вялікае ліловае вока на маладога гаспадара, і вока гэта глядзела з такім дакорам, што Алекса схамянуўся і падумаў пра тое, што, сапраўды, даўно прыйшоў час шукаць начлег. Агледзеўся. Ішак стаў каля вялікай пячоры, дзе, па ўсім было відно, заўсёды спыняліся падарожныя людзі: каля ўвахода ляжалі шматкі засохлага гною, на вострых выступах скал зачапіліся доўгія пабурэлыя саломіны, а ў глыбіні пячоры апошнія прамені сонца ярка блішчалі на каляровай паліве разбітых кімсьці гліняных піялак.

Ён злез з ішака, пайшоў у пячору. Жывёліна хуценька пацягнулася да чэзлай траўкі, што там-сям прабівалася ля ўвахода, спяшаючыся падсілкавацца і нарэшце адпачыць як след.

Алекса сеў каля ачага — счарнелыя камні яго пакрыліся шызым налётам пылу. Відаць, з тыдзень-два нікога тут не было, адзначыў ён, развязваючы сумку-хурджун і дастаючы адтуль ляпёшку з макам, яблыкі і некалькі кавалкаў сотавага мёду. Наеўшыся, паклікаў ішака і сыпануў таму колькі жменяў аўса. Пасля, не надта ўзбіваючы ложа з засохлай травы, што пасцялілі тут невядомыя яму падарожнікі, кінуў на яе сцёрты амаль да белізны дыванок і з асалодай лёг, варушачы вызваленымі ад цяжкіх драўляных чаравікаў пальцамі ног і каторы раз падзівіўшыся, як хутка тут наступае ноч — у праёме пячоры віднелася засіненае густым аксамітам неба, і ён успомніў радок з верша аднаго з паэтаў: «З кішэні цемры з'явіўся маладзік». Ражок маладзіка сапраўды ледзь угадваўся злева, але ніжэй яскрава свяцілася і пералівалася вялікая калматая зорка. Ён напружыў памяць, успамінаючы... Ці не зорка гэта Кайван, што сімвалізуе сабой час, які нясе смерць і бяду, страту блізкіх, адзіноту? Павеяла густым пахам горнага палыну, нешта невыказна журботнае было ў гэтай хвіліне — цішыня гор, залаціста-святочны ражок маладзіка і адзінокая, абыякавая да людзей, гордая сваёй узнёсласцю над часам і яго клопатамі зорка, што ззяла ў чарнаце бяздоннага неба. Ён заплюшчыў вочы, загадаў сабе не думаць ні аб чым і неўзабаве як праваліўся ў густую, цёплую пярыну сну... здалося яму ці не, што нешта мільганула каля выхаду — не то цень, не то павеў ветру, але ішак мірна соп, выставіўшы галаву з пячоры, і Алекса заснуў, чуйна слухаючы цішыню. Прачнуўся ён адразу, як бы і не спаўшы. Нешта трывожнае з'явілася ўначы, у чырванаватым святле было відно, як спалохана туліцца ля камяністай сцяны стары ішак. Алекса ўскочыў, рука яго намацала кінжал, які заўсёды трымаў пры сабе.

Але нікога і нічога не было заўважна. Цяклі хвіліны, было ціха, і толькі ішак трымцеў усім целам. Кароткі яго стогн прарэзаў быў трывожную цішыню ды тут жа змоўк. Алекса стаміўся чакаць, але ведаў, што недзе там, можа, блізка каля пячоры, цікуе ці ходзіць, падсцерагаючы здабычу, вялікі звер — можа, ірбіс — снежны барс ці пардус — леапард. А можа, гэта тыгр, галодны і няўлоўны, як смерць, падкрадаецца да пячоры, адкуль нясе пахам

жывой істоты, чые косці, як ведае ён, так салодка трашчаць на зубах?

Ён падумаў пра тое, што варта было б усё-ткі запаліць вогнішча. Агню баіцца любы звер, у ім таемная сіла, і можа, нездарма ў селішчах вераць у яго, як у бога, як у самога Зардушта? Правая рука трымала кінжал, левай ён абмацаў зямлю. Недзе тут павінен ляжаць хурджун, Алекса ясна помніў, што клаў яго побач. Але торбы не было, і значыць, не было крэменю, які ляжаў там і з якога можна высячы агонь.

Цёмны цень нячутна з'явіўся ля ўвахода, доўгае гнуткае цела выразна было бачна ў чырванаватым святле начы. Алекса пахаладзеў — гэта быў тыгр. Адчуў ураз спацелай спіной холад каменнай сцяны. Растварыцца б у ёй зараз, зікнуць у каменнай тоўшчы, няхай ашуканы звер грозна раве і драпае магутнымі, вострымі, як кінжал, кіпцюрамі непадатлівы граніт! І разам з тым у самай глыбіні ягонай істоты ўспыхнула чырвонае полымя — тое полымя, якое некалі клікала яго на смяротны бой, якое штурхала яго наперад, у гушчу, у змаганне! Мышцы напружыніліся, ён адчуў, як заныла левая рука і балюча тарганулася плячо. Толькі старая рана можа перашкодзіць. Але калі давядзецца паміраць, памрэ так, як належыць воіну — у баі. Ён цікаваў за зверам, адчуваючы ўсім сваім целам кожны асцярожны, бязлітасны крок, каб падсцерагчы яго і не прамарудзіць ніводнага імгнення.

— Ата!

Тонкі жаласлівы енк разарваў цішыню, і ў тое ж імгненне звер скочыў. Але скочыў не да Алексы. Кінуўся ён туды, дзе раздаўся енк, і ў тую ж неверагодна кароткую хвілю Алекса зразумеў, што звер высочваў Апак, што гэта яна слізганула ў пячору, дачакаўшыся, пакуль засне Алекса, гэта яна забрала хурджун. Але не паспеў дадумаць, ірвануўшыся наперад. Ён перахапіў звера яшчэ ў скачку. Кінжал слізгануў па поўсці, але і звер згубіў разбег і цяжка ўпаў на зямлю, і яны пакаціліся па зямлі, звер і чалавек, вяр'яцеючы і не адчуваючы болей нічога, апроч гэтай шалёнай сутычкі, ад якой залежалі цяпер іх жыцці.

Звер вывернуўся, коратка рыкнуў, але Алекса зноў збіў яго. Тонкая смяротная сталь кінжала ўвайшла ў звера, але ў той жа момант хлопец адчуў, як нібыта распаленым жалезам прыпяклі яму грудзі і смярдзючая пашча ледзь не абрушылася на твар. Але ён перахапіў тыгра за горла, і магутныя яго рукі нейкія страшныя імгненні трымалі

над сабой гэтае цвёрдае, жывое і гарачае горла. Звер захроп, ірвануўся наперад, але Алекса, ужо трацячы прытомнасць ад яшчэ болей невыноснага болю ў руцэ, крутнуў з усяе сілы гэтае, як жалезнае, горла, і яно аглушальна, як здалося яму, хрумснула — разам з рукою, і чырвоныя іскры дажджом абрынуліся на хлопца, згасаючы на ляту і чамусьці адразу робячыся чорнымі...

Ачомаўся ад таго, што кроплі, гарачыя і невыносна цяжкія, падалі яму на грудзі і ад іх рабілася млосна. Расплюшчыў вочы і не адразу ўцяміў, што над ім сядзіць Апак і сінія яе вочы пачырванелі ад слёз.

— Бяроза,— прашаптаў ён,— гэта ты, Бяроза?

— Што ты кажаш? Маўчы, ата! Маўчы!

Ён углядаўся ў дзяўчынку. Паступова погляд яго ясне́ў, і Апак не разумела, чаму яго рука, ліхаманкава сціснуўшы яе слабую ручку, расціснулася, стала вялай і цяжкай. Адразу ўспомніўшы, што адбылося, ён павёў вачамі па баках. Магутны звер ляжаў непадалёку, цёмна-карычневыя палосы на яго баках пацьмянелі, зрабіліся нежывымі, у ранішнім святле было бачна, як цьмяныя згусткі крыві на ягонай мордзе адлівалі чорным. Алекса ведаў — такія згусткі крыві бываюць, калі пройдуць не адна, а хаця б дзве начы, як звер забіты. Калісьці даводзілася яму двое сутак прабірацца да Полацака, везучы забітых дзікоў і мядзведзяў.

— Дай піць,— прашаптаў ён. Але Апак глядзела не разумеючы. Тады ён уцяміў, што гаварыў на той мове, на якой вучыўся гаварыць свае першыя словы... Яны самі ўсплылі, самі сабой, несвядома, у хвіліну, калі забывалася ўсё, чым жыў апошнім часам, а заставалася галоўнае ў ім — памяць продкаў...

— Піць,— папрасіў ужо зразумела для Апак, і яна замітусілася, падала яму тыквянку з вадой — таксама нехта пакінуў яе тут для праезджых людзей, як і крэмень, і сухую траву. Вада была ўжо цёплай, цяплейшай, чым бывае яна адразу пасля горнай рэчкі, і, п'ючы яе, Алекса здагадаўся, што, мусіць, нямала часу праляжаў без памяці. Ён паспрабаваў павярнуцца, але боль пранізаў цела, млосная гарачыня падступіла пад грудзі, паплыла да горла, пакутлівая сутарга скаланула яго — яшчэ і яшчэ...

Рукі, якімі ён абмацваў сябе, былі непаслухмяныя, як распухлыя, яны часам не пазнавалі, дзе цела, а дзе

набрынялыя крывёю і адтаго трохі закарэлыя шматкі тканіны. Абмацваючыся, ён заўважыў тое, чаго не ўбачыў напачатку — Апак сядзела перад ім амаль аголеная, драная кашулька на ёй прыкрывала толькі жывот і грудзі. Худзенькія рукі тырчалі з-пад лахманоў. Алекса яшчэ задзівіўся, як гэта яна са сваёй і так падранай адзежыны знайшла яшчэ нешта на перавязкі, але ўспомніў, што на ім быў яшчэ пояс-хусціна. Рукі яго намацвалі і траву, якой Апак паспела абгарнуць самыя страшныя раны. Тую траву некалі, прынёсшы з гор, паказваў ён дзяўчынцы — паказваў, не надта спадзеючыся, што яна запомніць хаця нешта. А вось жа запомніла! І не дала тут, аднаму, сцячы крывёю. А ён жа хваставў яе за непаслушэнства! Удзячнасць, якую прачытала ў ягоных вачах дзяўчынка, тут жа засвяцілася ў ёй усмешкай, сінія вочы заззялі, наліліся слязьмі, і яна, прыўзняўшы, пацалавала ягоную руку.

— Што ты робіш? — спрабаваў ён зазлавацца.— Я ж не бог табе і нават не жрэц-мабед!

— Ты лепшы за іх,— прашаптала яна.— Яны далёкія... А ты... Ата, не пакідай нас!

— Я? Пакідаць? — ён хацеў засмяяцца, але боль тут жа зноў, помсцячы, абрынуўся на цела, і яно задрыжала, скаланулася, супраціўляючыся — целу хацелася жыць, яно не хацела знікаць з гэтай цёплай, раскошнай, пакутнай зямлі... Алекса пазнаў кліч жыцця, бо ўжо аднойчы перажыў яго, калі ехаў разам з Нармурадам у далёкі, тады зусім невядомы кішлак. Тады ён задзівіўся — душа была мёртвай і не падуладнай нават яму самому. Зараз адчуў — жыць хацелася. Хацелася глядзець на гэтую дзяўчынку з сінімі вачамі, хацелася дыхаць паветрам, якое далёкія ледзяныя вяршыні напаілі холадам і тугою аб бессмяротнасці. Ён сцішыўся, сцяў зубы, паспрабаваў усміхнуцца:

— Будзем жыць. Будзем?

І яна зразумела гэтыя словы як адказ, засвяцілася зноў, зноў паўтарыла:

— Дык не пакінеш? Не? Я ж памру тут без цябе. Чуеш, ата? А са зверам я спраўлюся. Паглядзіш!

...Два тыдні ляжаў ён у пячоры амаль нерухомы, і два тыдні Апак да знямогання, да сінечы на бледным тварыку даглядала яго. Нават спаць яна клалася побач, доўга не засынала і ўздрыгвала ад кожнага шолаху, нібы і сапраўды магла абараніць яго ад небяспекі. Алекса, аднойчы прачнуўшыся раней, угледзеў пад яе худзенькім бокам свой нож — рука дзяўчынкі была, бадай што, не

танчэйшай за дзяржальна. Ён пацягнуў за цёплую чорную, з эбенавага дрэва ручку — Апак ускочыла, няўцямна азіраючыся спалоханымі вачанятамі.

— Дваццаць разоў нават нявопытны воін зарэзаў бы і цябе, маю ахоўніцу, і мяне, нямоглага! — пакпіў Алекса, аддаючы назад нож.— Бяры. Зразай пакуль кустоўе, але не думай, што ты мяне абароніш. Не твая гэта справа. Абараняць — гэта дадзена толькі нам, мужчынам.

— А што ж тады дадзена нам?

Апак узяла нож, пагладзіла яго, схавала пад скуру тыгра, на якой спаў Алекса. Скуру яна здымала сама, яна была парэзаная ў многіх мясцінах.

— Вам? — Алекса падумаў.— Трымаць агонь у ачагу, гадаваць дзяцей.

— Дзяцей? Я люблю дзяцей.— Апак падкурчыла пад сябе ногі, сабрала ў жменю густыя светлыя валасы, пачала іх заплятаць.

— Я хачу радзіць ад цябе хлопчыка. Такога ж, як ты, ата,— нечакана сказала яна.

Алекса нават прыўзняўся, але яна не дала яму адказаць.

— Ведаю, так не павінны гаварыць дзяўчаты, мне гаварыла, якой павінна быць жанчына, старая цётка Гульнара. Але ўва мне цячэ не такая кроў, мая маці не з простага роду. І я першай кажу табе, што хачу быць тваёй жонкай. Стары Нармурад гаварыў не раз, і я гэта чула, што ў цябе мала грошай на пасаг, каб купіць нявесту. А я ведаю, што буду прыгажуняй, калі выраету — Нармурад таксама гаварыў гэта. Дык хіба я табе не пара?

Алекса перамог боль, сеў. Пад усмешлівым яго позіркам дзяўчынка спачатку горда выпрасталася, але тут жа чырвань пачала заліваць яе бледныя шчокі, яна сцялася, абхапіла абдзёртыя каленькі тонкімі, у чырвоных пісягах — ад кустоўя — рукамі, хуценька абцягнула на сабе кавалкі кашулі.

Ён збіраўся сказаць нешта ўсмешлівае, суцяшальнае, але такое, каб ніколі гэтае наіўнае дзіця не цешыла сябе дурнымі выдумкамі. Ды падумаў — ці ж трэба яе крыўдзіць? І падумаў яшчэ: яна расце. А я старэю ў адзіноце. Сумна ўсміхнуўся: «Яна ж дзіця!»

Першы прамень сонца прабіўся скрозь дзірку ў пячоры, крануўся Апак — і яе светлыя валасы нечакана засвяціліся, зазззялі.

Уражаны, Алекса глядзеў на яе. Нешта як заскаміла

сэрца, нейкі далёкі, забыты вобраз... Глядзеў на яе, скрозь яе, і раптам убачылася — яны, дружыннікі, стаяць у царкве, ідзе малебен. Князь наперадзе, а прама перад імі, на вялікім абразе — багародзіца. Вялізныя яе вочы глядзяць на натоўп ■ тугою, і над ёю, вакол яе — залатое, нябеснае ззянне, якое нібы асвятляе твары людзей, што тоўпяцца ўнізе... І ціхія спевы, што ляцяць зверху, і пах ладану, і імгненнае — зусім неўласцівае яму — замілаванне, што раптоўна заскаміла душу... Вось яно, тое пачуццё, вярнулася зараз пры позірку на гэтае дзеўчанё, асветленае сонцам!

А яна чакала ягоных слоў! Усмешка згасла на Алексавым твары. Што гаварыць? І нечакана для сябе адказаў сур'ёзна, так, што яна раптоўна пабялела і глядзела, не адрываючыся, нібыта справа ішла пра жыццё і смерць:

— Ты спачатку падрасці. Пачакай трошкі, чуеш?

Тады яна зусім па-дзіцячы кіўнула галавой, пасля заківала часта-часта.

— Не ашукаеш, не, ата?

— Не ашукаю.

Яна яшчэ крыху паўзіралася ў яго, пасля падскочыла, замітусілася.

— Што ж гэта я? Ты, мусіць, піць хочаш? Я зараз прынясу, ата!

Падскочыўшы, схапіла тыквянку, памчалася па сцяжынцы ўніз. На імгненне спынілася — ён слухаў яе крокі ў ранішняй цішыні гор,— пасля зноў кінулася па ваду.

Алекса адчуў раптоўную стому. Не хацеў — а паабяцаў. Лёс вызначыўся сам сабой. Двойчы тут выратавалі яму жыццё, значыць, гэта знак — заставацца...

У першы ж дзень пасля вяртання яго і Анак да іх у дом зайшоў Ашавазда. Прыйшоў, працягнуў гарляк з віном. Але піць не стаў. Седзячы за дастарханам і абыякава жуючы кішміш, папрасіў Алексу:

— Прыйдзі да мяне. Калі можаш, заўтра ж. Я хачу, каб ты папачаваў у мяне, а можа, нават пажыў колькі дзён.

— А твая жонка Аната?

— Яна набрала столькі яду, што не можа вытрымаць яго, і адтаго памірае,— абыякава адказаў Ашавазда.

— Як — памірае? Што з ёю? — прыўзняўся Нармурад.

— Не мітусіся, лекар. Яна на той бок, гэта відно.

Смерць трымае яе за крысо, не высільвайся дарэмна! Кожны з нас ідзе сваёй дарогай, кожны застаецца сам-насам са смерцю, а ўсе блізкія не могуць памагчы і на макавае зерне. Дык прыйдзеш, Аль-Іса? Сёння я пакажу табе нешта.

— Ты хочаш усё-ткі навучыць яго піць віно? — дакорліва запытаўся Нармурад, ківаючы сівой барадой з пажаўцелымі пасмамі.— Ты, небяспечны вар'ят, прымушаеш людзей паверыць, што, адурманіўшы галаву, знясілеўшы цела, можна ўбачыць бога?

— Я раблю віно толькі для сябе і не прапаную яго нікому, апроч сяброў,— адказаў Ашавазда.— Але калі людзі просяць даць глыток, бо ім пільна хочацца ўбачыць ці адчуць бога, я часам іду на ўступкі. І што ж? Пасля гэтага яны скардзяцца на мяне і гавораць, што ■ прымушаю іх у нешта верыць? Няхай вераць ва ўсё тое, што дапамагае ім жыць. Не мая справа разбірацца, хто гэта павінен быць — ці Зардушт, ці вось ягоны...— падумаў,— ягоны Пярун, ці Аід, як у вялікага Іскандзёра. Ці нават вось ты для яе,— ён кіўнуў на Апак.— Ты гэтай істоце адзіны свет у акне. І як добра, што цябе любяць, няхай нават гэта будзе такое стварэнне, як дзіця!

Апак ускочыла з дзіравага дыванка, на якім сядзела, разбіваючы гладкім каменем вялікія арэхі, каб падаць іх да стала. Але, пачуўшы ў голасе Ашавазды шчырасць, апусцілася зноў на дыванок і з большай, чым дасюль, стараннасцю, пачала біць па арэху, а белыя, як марскія ракавіны, вушы і шчокі яе паружавелі.

— Не хадзі,— сказаў Нармурад.

— Чаму ты не хочаш, каб Аль-Іса хаця трохі развязаў вузел маіх няшчасцяў, дапамог мне? —спытаўсяАшавазда.

— Якія ў цябе няшчасці? — Нармурад яшчэ болей спахмурнеў, але Ашавазда не звяртаў на гэта асаблівай увагі. Ён устаў, з'едліва прагаварыў:

— Хутка і табе зварочваць абрус жыцця. Скажы, за што столькі гадоў стараўся абыходзіць мой дом?

Нармурад таксама падняўся, худыя ногі яго ў шараварах лімоннага колеру дробна дрыжалі, з-пад чалмы рэдка тапырыліся спацелыя пасмы.

— Што ж, калі ты задаеш пытанне — я скажу. Не любіў цябе, бо ты бясконца шукаў выгады, а таму мяняў веру бацькоў. Зараз набліжаецца страшная бяда — нашы ахвярныя агні вось-вось згасяць мусульмане, наш Зардушт уступае дарогу іхняму Алаху і яго прарокам. Нашы про-

стыя ісціны ўжо не завабліваюць маладых, іх прыцягваюць спакусы мусульманства — многа жанчын, вечная гатоўнасць да вайны і жаданне жорстка і хутка знішчаць жывое ў імя сваіх багоў. І мне ўвесь час здаецца: прыйшлі б сюды мусульмане, была б іхняя ўлада — ты б нанова памяняў сваю веру, зноў стаў бы мусульманінам. А калі б прыйшлі воіны з Чына — ты б стаў канфуцыянцам. Ці не так? А я памру тым, кім нарадзіўся, і мае косці стануць здабычай птушак, а свяшчэнны агонь у маім доме будзе гарэць да смерці.

— А для мяне важная толькі гэтая зямля. Хто будзе правіць ёю, які агонь будзе гарэць у маім ачагу — усё роўна. Пераможцы прыходзяць і адыходзяць, а зямля будзе стаяць вечна. Гэтыя горы не зменяць свае абрысы, будуць тут мусульмане ці зараастрыйцы. І зямля ўсё гэтак жа будзе нараджаць хлеб, абнясе яе агнём мабед ці прачытае над ёю нейкія словы мула. Ёсць сонца, неба і зоры. І чалавек. Астатняе — неістотна,— таксама з запалам адказаў Ашавазда.

— Ты маеш рацыю ў тым, што чалавек — сын неба. Але і зямля... А зямля не ўсюды аднолькавая, не тое што неба.— Нармурад гаварыў хвалюючыся, цяпер ужо дрыжалі і ягоныя рукі з доўгімі тонкімі пальцамі.

Алекса бачыў гэтыя рукі, хаця сядзеў, не падымаючы галавы.

Але, ужо стоячы ў парозе, прагаварыў Ашавазда іншае:

— Калі ты за зямлю бацькоў — не трымай яго тут,— паказаў на Алексу.— Няхай дабіраецца да свайго краю. Да сваіх русаў, да халоднай зямлі, якую не саграе сонца, і дзе плады кіслыя, нібыта налітыя воцатам. Усё роўна яму там будзе лепей. Бо, хаця на ім і няма зунара, ён не стане, ніколі не стане нашым. Хіба з дзяцінства абносіў яго свяшчэнны агонь? Не, іншыя багі кармілі яго, іншыя твары будзе ён помніць. Адпусці яго!

Апак схапіла Ашавазду за крысо халата, закрычала:

— Ідзі прэч ад нашага дома, ты, стары воран! Ён застанецца тут і будзе са мною! Я таксама не вашай крыві, але я пайду за ім куды толькі ні панясе яго лёс! А найлепш — застануся тут, нават калі прыйдзецца кожны дзень глядзець на цябе!

Ашавазда глянуў скрозь дзяўчынку, ірвануў з яе рук халат, адштурхнуў так, што яна выцялася аб дзверы. І пайшоў прэч, апаліўшы Нармурада зняважлівым позіркам.

— Што ж ты, абаронца дзедавых звычаяў, не навучыў ім чужаземку? Я добры і не скажу пра гэта старэйшым!

Пасля яго адыходу ў доме нейкі час было вельмі ціха. Алекса сядзеў, тупа гледзячы перад сабою. Нешта хрумснула. Ён убачыў, што гліняная піяла ў руцэ раскалолася напалам. Усхліпвала ля парога Апак. Нармурад паклаў у рот шчопцю насвою, твар яго завастрыўся.

— Сцеражыся яго! — сказаў ён нарэшце.— Ён адзін час займаўся чарадзействам. Я чуў: калі ён жыў у румійцаў, разам з тутэйшым чалавекам ажывіў жалезнага д'ябла. Той хадзіў і нават гаварыў. Калі ж абодвух прысудзілі да кары, уцёк, абярнуўся змеем, а на дыван крыві ўстаў той.

Яшчэ ён спрабаваў лётаць тут, прымацаваўшы сабе агромністыя, як у Ібліса, крылы. Але старэйшыны прыгразілі, што, калі ён не кіне важдацца з д'яблам Арыманам, шаўковая пятля знойдзе яго горла. Ён кінуў чарадзейства, жаніўся. І мо было б ціха, каб не гэтае пітво, пасля якога ён вар'яцее. А п'е — не ў меру. Бач ты — смерць ходзіць пад яго дахам! Ты не пойдзеш да яго, так?

Алекса доўга маўчаў. Пасля сказаў, нібы пераадольваючы плынь горнай рэчкі, падбіраючы словы:

— Я пайду, бацька. Пайду, бо прайшоў скрозь вароты смерці. Назад, туды, дзе быў, я вярнуся не скора. І не дзеля таго я тут, каб палохацца і закрываць твар рукамі, калі нешта невядомае зазірае мне ў вочы.

Запанавала маўчанне.

— Так, ты ўжо не юнак, а сапраўдны мужчына,— прашаптаў лекар.— Ну што ж... Калі што — Апак апране па мне сіняе адзенне жалобы, яна заплаціць тым, хто панясе мяне на вежу смерці. А ты рабі як знаеш.

Ён папрасіў, каб Апак прынесла яму падушкі, знясілена паваліўся на іх.

Неўзабаве дыханне яго стала спакайнейшым — ён заснуў. Алекса выйшаў на ганак.

Вечаровая зара — вечарніца — гарэла над выступамі гор. Алекса ведаў: пройдзе ўсяго некалькі імгненняў, і згаснуць алыя і пунсовыя фарбы, неба пацямнее, буйныя зоркі заззяюць над гарамі, над іх маленькім кішлаком. Можа, ад таго, што там, на радзіме, вечарніцы было вальней, прастарней, ён асабліва любіў лавіць кароткія імгненні заходу, і дзень, які канаў на яго вачах, абуджаў у ім няяснае, але тужлівае шкадаванне. Але сёння праз тугу, якая звыкла сціснула сэрца, прабівалася страснае жаданне

вечара, ночы, якую ён правядзе ў Ашавазды, чаго б гэта ні каштавала пасля. Мільганула думка ўзяць з сабою нож — хто ведае, якая небяспека чакае яго ў доме, што заўсёды здаваўся ўтульным і гасцінным, але Алекса застыдаўся яе. Ён успомніў паданне пра паўшага анёла Харута, якога саслалі на зямлю і які навучыў людзей чарадзейству. Што, калі Ашавазда і праўда зачаруе яго, ператворыць у нешта агіднае, страшнае? Або і сапраўды адбярэ душу? Але ці ёсць яна ўвогуле, гэтая душа? Ці, можа, людзі становяцца вось гэтымі зоркамі, што ззяюць над імі, як нейчыя вочы? Што, калі людзі становяцца толькі глінай, як напісаў пра гэта паэт, і кожны гляк злеплены з таго, што звалася некалі чалавечым целам і было поўна жаданняў і памкненняў?

А зоркі сапраўды ўжо ззялі ўверсе, адну з іх ён пазнаў адразу. Гэта была зорка Утарыд, пад якою нараджаліся гандляры і злодзеі. А побач журботна ззяла Зухра, альбо Чагір, якая, мабыць, ніколі не будзе свяціць для яго...

Ён уздыхнуў, але зараз жа ўспомніў пра Ашавазду, таропка пашыбаваў па сцяжынцы між кустоў тутаўніку, вырашыўшы абысці кішлак і дабрацца да патрэбнага яму дома незаўважаным, каб паглядзець — што там?

Але, зрабіўшы колькі крокаў, пачуў, як хрумснула галінка ззаду.

— Апак,— паклікаў, не абарочваючыся, ведаючы, што гэта яна крадзецца за ім употай і будзе ўсё роўна стаяць пад дзвярыма дома Ашавазды.

Глыбокі ўздых пачуўся ззаду, і пакрыўджаны голас Апак прашаптаў:

— Так старалася ісці нячутна, а ты... Джыны табе дапамагаюць, ці што?

— Я цябе адчуваю і без джынаў,— уздыхнуў Алекса.— Ну што ж, відаць, ад цябе не пазбавішся. Ідзі, але каб цябе і сапраўды не было ні чутно, ні відно.

Уявіў, як у цемры яна ўзрадавана заматала галавой. Ноч была надзіва цёмнай, хмары закрылі нават зоркі — калі толькі паспелі засцяліць неба тыя хмары? Завухкала начная злавесная птушка, недзе над галавой, у галінах платану, хрыпла каркнула варона. Галінка аргувана зачапілася за адзенне, ён асцярожна выблытаў крысо кашулі, тужэй падперазаў пояс.

Ашавазда чакаў яго, седзячы на парозе. Цьмянае чырвонае святло трапятала на ягоным твары.

Убачыўшы Алексу, устаў, цяжка павярнуўся і пайшоў у дом, на імгненне зачапіўшыся халатам за пачарнелую разьбу на тэрасе. Каганец з маслам, дзе гарэла святло, узяў з сабою. Кнот, зроблены з тоўстых шэрых нітаў, матляўся пры кожным кроку гаспадара, полымя як бы кідалася ў бакі.

З дальняга пакоя пачуліся стогны. Відаць, там ляжала Аната. Ашавазда паставіў каганец на невысокі столік хан-тахту, сеў побач, выставіўшы ў бакі каленькі. Алекса таксама прымасціўся збоку. Колькі часу пражыў тут, але ніяк не можа сесці па-тутэйшаму: ногі нямеюць, робяцца цяжкімі і непаслухмянымі.

Памаўчалі. Маўчанне было нейкім гулкім, шматзначным, нібыта пашырыліся сцены пакойчыка, і яны выйшлі на вуліцу, пад хмары, што курыліся — Алекса адчуваў гэта — непадалёк, над прорвай, што пачыналася амаль за домам Ашавазды.

— Чакаеш, што я дам табе на гэты раз? — парушыў маўчанне гаспадар.— У мяне болей няма нічога.

— Я нічога не чакаў,— глуха адказаў Алекса.

— Праўда?

— Праўда. Калі дазволіш, проста пагляджу Анату.

— Не трэба! Я сказаў — яна ўсё роўна памрэ!

Зноў запанавала маўчанне. Нарэшце Ашавазда загаварыў, падкурчыўшы пад сябе пляскатыя ногі. Вочы яго зрабіліся вострымі, колкімі.

— Калісьці на маіх вачах паміраў бедуін. Ён не мог ужо нават паварушыць рукой, калі брат прывёў аднекуль з самага сэрца пустыні чалавека. Чалавек той быў у лахманах, але трымаўся, як цар-падзішах. Ён доўга глядзеў на хворага, а мы стаялі вакол і дзівіліся — няўжо спадзяецца што-небудзь зрабіць для бедака? Але вось лекар паклаў хвораму рукі на галаву і застыў. Твар пабялеў, кроплі поту выступілі на шчоках, а хворы раптам адкрыў вочы і паглядзеў на нас. Вочы былі здзіўленыя, ён нібыта вяртаўся з таго свету, дзе чакалі яго дзевы-гурыі і звінела Каўсар — адна з райскіх крыніц. А пасля хворы ўстаў і пайшоў, і дайшоў да кумгана з вадой, і прагна піў. Я не мог доўга затрымлівацца там — мой караван спяшаўся. Але назаўтра, ад'язджаючы, я бачыў, як той чалавек сядзеў за дастарханам і спакойна еў ляпёшку. Калісьці, калі ты падаў мне, хвораму, ваду, я раптам адчуў сябе лепей. Ты, можа, заўважыў, што я любіў сядзець з табою і прымаць ежу з тваіх рук? Гаварылі ў

вандроўках, што ёсць людзі, ад чыіх рук сыходзіць таямнічая сіла, яна лечыць і саграе. Я заўсёды адчуваў тваё цяпло, Аль-Іса. Ці ведаеш ты аб гэтым?

— Не, не ведаю.

— Нармурад нездарма ўзяў цябе з сабою. Ён бы, пэўна, даўно памёр — твар ягоны ўсё жаўцее, а рукі дрыжаць. Можаш паверыць, ты падарыў яму некалькі гадоў жыцця.

Алекса разгубіўся. Ці не пакідае Ашавазду розум, ці не ўссеўся на яго Лядашчык, што дашчэнту высмоктвае чалавека?

— Працягні рукі да агню, вось так,— Ашавазда падпоўз бліжэй. Цьмяны агеньчык затрапятаў болей, цені па кутках пакоя закалыхаліся.

Алекса здрыгануўся.

— Не бойся, Аль-Іса. Нічога з табой не стане. Прашу! Можа, гэта мая апошняя надзея праверыць пачутае!

Ён паставіў каганец перад Алексам.

— Атулі агонь рукамі і падумай, што ён зараз разгарыцца, успыхне,— настойліва прашаптаў Ашавазда.

— Ён жа апаліць.

— О, хашвіт,— прашыпеў Ашавазда.— Нашто чапаць агонь? Атулі яго на адлегласці, каб не было горача. Ну!

Алекса падняў рукі над каганцом, паціснуў плячыма.

— Калі ты зараз падумаеш, што агонь павінен павялічыцца, і моцна захочаш — ну, убачыць яго, агонь! — то так і будзе. Павер мне, Аль-Іса!

Алекса хацеў усміхнуцца, але нешта ўстрапянулася ў ягонай душы. Здавалася, Ашавазда хоча ўкласці ў яго ўсе свае сілы, сваё жаданне.

— Думай! Глядзі!

Ён паглядзеў на каганец. Кнот тлеў, ад яго ішоў ледзь улоўны пах масла, і сіняваты агеньчык гатовы быў вось-вось згаснуць. Алекса раптам і сапраўды ўбачыў — вось зараз агеньчык павялічыцца, кнот мацней пацягне масла з жалезнага сподка, полымя апячэ ягоныя рукі...

— А-а-а!

Загрымеў, пакаціўся каганец, Алекса ўскочыў, кінуўся да дзвярэй, трасучы апечанымі рукамі. Ён вылецеў на цёмную тэрасу, цяжка затупацеў па мяккім пяску, абдзіраючыся аб калючае вецце. Ззаду трашчалі кусты, і калі нечакана спыніўся, цяжка хакаючы, на яго з ходу налящела Апак, выцялася, вохнула радасна:

— Ты жывы!

— Мёртвы не пабег бы,— перавёў ён дыханне.

— Ой, я ледзь не памерла, калі палыхнула! — радасна сказала яна.— Ён злы дэман. Калі ён глядзеў на цябе, я сама бачыла, як ■ рота ў яго выглядалі клыкі!

— Ніякіх клыкоў не было! — засмяяўся Алекса.— Лепей ідзём дадому. Не хачу болей ніякіх дзівосаў. Усё гэта ад нячысціка.

Падняў галаву і са здзіўленнем убачыў, што неба над імі зорнае. Відаць, гэта вецер, што раптоўна падняўся, разагнаў хмары. І добра, што разагнаў...

Разбудзіў іх голас Спітагда:

— Бяда падступае да нас, бяда! Чорная вада пад вашым домам, паглядзіце — яна ўжо пад парогам!

Алекса ўскочыў спалохана. Спаў неспакойна. Прачынаўся трызнячы. А сагнуты, як скарчанелы, вар'ят уваходзіў у дом, галосячы сваё, як заўжды.

Аказалася — памерла жонка Ашавазды Аната.

Прыйшлі старая абмывальшчыца і двое яе сыноў, што жылі наводдаль. Яны і панеслі жанчыну на пляцоўку вежы, а ззаду панура пляліся старэнькія жанчыны, спявалі хвалу вялікаму богу Ахурамазду, які забярэ да сябе чалавечую душу. Ашавазда ішоў за насілкамі п'яны і, да злосці шаноўных старэйшых, што позіркамі праводзілі працэсію, вясёлы. Праходзячы міма Алексы, падміргнуў яму, а стары Нармурад толькі плюнуў і пайшоў сабе ў дом.

І ўсё ж Алекса надзеў сінюю кабу, нібы і сапраўды памерла родзічка, і цэлы дзень бачыў, як паволі, па адным, збіралася над каменнай вежай груганнё і паволі прыплывалі вялізныя грыфы. Значыць, дэман Насуш увайшоў ужо ў цела нябожчыцы, яно было нячыстым і збірала іншых дэманаў. Алекса думаў пра цуда з агнём. Думкі плылі няўпэўнена. Можа, падалося ўчарашняе? Можа, увайшлі ў яго чары? Страшна!

Але ўначы, калі заснулі Апак і Нармурад, ён шчыльна завесіў тканым дыванком дзверы мехмонханы, запаліў каганец, атуліў яго рукамі так, каб было цёпла далоням. Зноў, як учора, уявіў сабе, як разгараецца кволы агеньчык, як успыхвае ў пакоі святло... Уяўляў да напружання, да поту на лбе. Але нічога не здаралася: усё гэтак жа спакойна цягнуўся ўверх жоўты язычок агню, ледзь патрэскваў кнот.

Ён апусціў рукі. Значыць, усё прыдумка. Ашавазда пасмяяўся ■ яго. Можа, ён і сапраўды не чалавек? Можа, сам Ангра-Майн'ю глядзеў учора на Алексу і пасміхаўся,

а пасля дзьмухнуў на каганец, і полымя апаліла далоні?!

І раптам адчуў, што агеньчык уздрыгнуў, пацягнуўся наверх, барзджэй затрашчаў кнот, і на імгненне полымя сапраўды ярка асвяціла пакой і згасла зноў.

Імгненне было доўгім. Усё праўда. Ёсць у яго ных руках нейкая таямнічая сіла. І значыць, трэба навучыцца ёю валодаць. Каб дапамагчы. Усім — Нармураду, Апак і тым, каму яшчэ можна памагчы...

Прайшло колькі часу, і далёка пабегла яго ная слава як лекара па горных кішлаках. Не было цяпер дня, каб ля дзвярэй іх дома нехта не стукаўся, не прасіў дапамагчы. І не да Нармурада ішлі людзі, а да маладога Аль-Ісы, яго імкнуліся пабачыць і ад яго атрымаць палёгку. Патроху ў доме з'явіўся дастатак.

Стары Нармурад адносіўся да ўсяго гэтага памкліва. Ні зайздрасць, ні нядобрае пачуццё не азмрочвалі яго твару. Ён неяк незаўважна ператварыўся ў памочніка Алексы, рабіў лекі, паіў хворых. Сам жа Алекса цяпер часцей за ўсё «адкрываў» хваробу, называў яе. «Хвароба бывае рознаю,— казаў некалі яму Нармурад.— Адну віdаць па пульсу, па дыханні хворага. Але ёсць хваробы, якія, нібы тонкія іголкі, запаўзаюць унутр, і паспрабуй знайдзі гэтую іголку!»

Алекса шукаў такія вось «іголкі». Жаўтлява-бледны твар, спацелыя рукі і хрыплы кашаль маглі яму гаварыць многае. Але калі чалавека прыносяць на насілках і ён не можа паварухнуць нагой ці рукой, а вочы ў яго ясныя і светлыя — што тады? Як вызначыць таямнічае, што прымушае руку ці нагу варушыцца, дзейнічаць? Як выганяць злога дэмана, што ўсяляецца ў хворага і робіць яго погляд вар'яцкім?

І ўсё ж ён намацваў, вучыўся лавіць той настрой, той стан, пры якім можна было як бы пераўвасабляцца ў чалавека, што ляжаў ці стагнаў перад ім. Тады, робячыся тым чалавекам, амаль беспамылкова адчуваў, дзе ўпілася і не дае жыць тая таямнічая «іголка», дзе пасяліўся злы дэман, што так мучыць жывое, прымушае яго пакутаваць і праклінаць свет. Мабед расказваў у храме:

— Калі чалавек праклінае жыццё, ён тым самым нібы адварочваецца ад светлых сіл, ад Агура-Мазды, і аддае сябе цёмнай, злой сіле. І тады радуюцца Ангра-Майн'ю і яго шэсць вялікіх дэманаў зла: Андры, Эшма і іншыя.

— Вось таму,— вучыў некалі Нармурад,— калі мы дапамагаем выбавіцца ад злога духа, мы вяртаем чалавека светлым агурам — духам дабрыні і святла. Вось чаму лекар стаіць на пачэсным месцы пасля жраца-мабеда.

Адолець духаў зла і вылечыць хворага ўдавалася Алексу не заўсёды. Часта ён бачыў на тварах людзей пячатку смерці ды мог толькі палегчыць ім апошнія хвіліны на зямлі. Але і гэтага было дастаткова, каб людзі ўсё часцей успрымалі яго, як аднаго са светлых духаў — ізедаў, што сышлі на зямлю, каб дапамагаць смяротным. Нават Нармурад часам глядзеў на яго са страхам і замілаваннем.

— За што Агура-Мазда выбраў мяне, каб я выратаваў цябе ад смерці? — аднойчы сказаў ён.— Думаецца мне, што я памру лёгка. Чым болей чалавека абцяжарваюць грахі і цёмныя справы, тым цяжэй яму паміраць. А ты мяне выкупіў... Так, выкупіў! — з сілай паўтарыў ён, але пасля закашляўся, доўга не мог супакоіцца.

— Сын мой,— закончыў нарэшце,— я памру шчасліва толькі пасля таго, як аддам табе Апак.

— Яна яшчэ дзіця,— Алекса сказаў гэта няўпэўнена. Сам ён бачыў, што дзяўчынка расцвітала з кожным днём. Так красуецца і нібы спяшаецца расквітнець горная яблынька, якая зачапілася кволым карэннем за зямлю, што набралася за стагоддзі ў шчылінах гор. Сінія вочы яе, здаецца, яшчэ пабольшалі, шчокі наліліся ружовай маладой сілай, і ўся яна пакруглела, паспакайнела і ўжо не бегала па двары, а ішла лёгкай, пругкай паходкай, высока несучы галоўку з вежай залацістых валасоў.

Алекса ведаў, што Апак стане тут некалі за гаспадыню. Ён звыкаўся з гэтай думкай паступова, але, калі звыкся, амаль перастаў думаць пра вяселле. Нікуды нішто не ўцячэ, няхай падрасце Апак, няхай усё будзе так, як ідзе... Усё, што наперадзе, запісана прадвечным каламам-пяром Усявышняга! І гэта турбавала Нармурада, гэта прымусіла яго ў рэшце рэшт загаварыць настойліва. Ён цяпер часта сядзеў наверсе, глядзеў праз сваю трубу на неба — выбіраў шчаслівы дзень для вяселля.

Вяселле прызначылі на месяц, калі пышным колерам расцвітаюць у гарах дрэвы і маладая трава набірае сакаўную сілу. Здалёку ў кішлак прыбыў жрэц вышэйшага разраду — дастур, па якога спецыяльна ездзілі ў далёкі храм Міфры па той бок гор. Гэта быў вышэйшы гонар,

якога мог дабіцца, на думку жыхароў кішлака, смяротны: дзеля яго прыехаў, нягледзячы на небяспеку, нягледзячы на непрыязнасць мусульман, сам жрэц Ездзягерд! Ездзягерд быў самым вядомым сярод прыхільнікаў Зардушта, шлюб, ім заключаны, павінен быць надзвычай шчаслівым.

Ездзягерд, высокі, велічны стары з маладымі і зоркімі вачыма, спакойна прымаў ахвяры, падарункі шырсаўцаў. Ён сядзеў на тэрасе дома Нармурада, а каля яго ляжаў, пільна пазіраючы за ўсім навокал, вялізны калматы сабака, падобны да ваўкадаваў, што вартуюць статкі ў гарах.

Малады прыслужнік старанна заварочваў у тканіну чашы і дыванкі, сюзанэ і гліняныя гарлачы з дымлёнай палівай, адносіў іх у вазок, распісаны зялёнымі і пунсовымі кветкамі.

На вяселле прыйшоў увесь кішлак — нават старыя, якім даўно пераваліла за сотню і якія толькі чакалі свайго суду каля моста Чынвад*, сядзелі ўздоўж дувала, чакаючы, пакуль пачнецца абрад.

Ездзягерд прывёз з сабою свяшчэнны агонь з храма Мітры, і зараз ён палаў пасярэдзіне двара, а мясцовы мабед у святочным уборы мітусліва падліваў свяшчэннага масла ў чашу.

Алекса выйшаў з дому, апрануты ў шырокую сарочку і, паверх — у доўгі каптан, тройчы апаясаны свяшчэнным поясам. На галаве ў яго быў капялюш, на нагах — чаравікі з жоўтага саф'яну. Апак была побач з ім — бледнасць яе яшчэ болей падкрэсліваў убор — доўгая каляровая тканіна, абгорнутая вакол цела і чырвоныя кветкі, уплеценыя ў бялявыя валасы.

Ездзягерд, звязаўшы маладым рукі тканым поясам з сімваламі Мітры — воранам, дыскамі сонца і месяца,— павёў іх вакол свяшчэннага агню. Нармурад і хлопчыкі, што тоўпіліся тут, абсыпалі іх зярнятамі проса. Зярняты траплялі ў агонь, успыхвалі, і адразу навокал запахла смажаным зернем, вострым пахам напітку хаомы. Сокам гэтага пітва палівалі свяшчэнны агонь жанчыны, у той час як мабед гучна, трымаючы ў левай руцэ стос гранатавых галінак, чытаў літанію з Зендавесты:

О, няхай заўсёды з вамі будзе свяшчэнная трыяда:
Добрыя думкі, добрыя словы, добрыя справы!
І няхай пра гэта заўсёды напамінаюць
Тры шнуркі з вашага свяшчэннага пояса!

Абрад ужо заканчваўся, як здарылася няшчасце: жменя проса, якую кінулі на жаніха і нявесту, пыхнула ў агні і некалькі зярнят вылецела проста на шаўковы ўбор нявесты. Успыхнула і тканіна, Апак з крыкам прыселa, скурчылася, у той час як Алекса, не шкадуючы далоняў, гасіў агеньчыкі, што пабеглі па шоўку колеру апалага лісця.

Натоўп загудзеў, сполах пабег, як вецер. Ездзягерд павёў вачыма — прыслужнік тут жа прынёс новы скрутак шоўку. Дастур узяў за руку спалоханую Апак, далонню падняў яе заліты слязьмі твар:

— Ніхто не ведае волю багоў, дзіця. Адно скажу табе — ты атрымаеш усю долю шчасця, якая табе адпушчана. Усю! І гэта — нямала. Глядзі ў будучае без страху.

Жанчыны тым часам спрытна, падпарадкоўваючыся ціхім знакам прыслужніка, абкруцілі Апак зялёнай тканінай з бліскучымі сярэбранымі ніткамі, абрэзалі і схавалі астаткі. І рытуал працягваўся далей, хаця старыя круцілі галовамі і шапталіся, што ўсё прадвяшчае няшчасце, якое не змог адвесці нават вялікі Ездзягерд... Але ж сапраўды воля багоў вышэйшая за слабыя зямныя помыслы, і, можа, калі Аль-Іса і яго жонка будуць дастаткова старанна служыць Агурамазду, ён і злітуецца над імі...

Адшумела вяселле, згасіў рукавом расшытага золатам халата свяшчэнны агонь з храма Мітры Ездзягерд, адбыў з вялікім гонарам і шанаваннем.

Світала, калі Нармурад павёў маладых у асобны пакой, прыгатаваны старэйшымі жанчынамі. Сціплы пакойчык было не пазнаць: увесь завешаны каляровымі сюзанэ і тканымі дыванамі. На пушыстым дыване, што ляжаў на падлозе, ляжала мноства ватных коўдраў, абцягнутых паласатым курпачытам — покрывам. Коўдра курок-курпа была ўзорыстая, разгалінастыя рогі ўпрыгожвалі яе арнаментам, па якім адразу пазнаюць знаўцы, адкуль прывезлі нявесту.

Перадсвітальнае неба было зеленаватым, адзінокая зорка самотна глядзела ў акно. Яна вісела якраз над узгалоўем, і нетутэйшаю выглядала маленькая постаць Апак, што села на ложа. Яна церабіла тканіну на каленьках, нібыта хацела і саромелася зняць з сябе апалены ўбор, паверх якога цьмяна паблісквау новы.

Алекса чамусьці зноў убачыў маленькую дзяўчынку, якая ў гэтым жа доме ішла насустрач, разгублена ўсміхаю-

чыся і тупаючы кароткімі ножкамі. Цёплае, шчымлівае пачуццё нахлынула на Алексу, яму захацелася ўсцешыць гэтую дзяўчынку, сагрэць яе.

— Ты што, баішся мяне? — запытаўся ён, здымаючы з сябе шапку, расшпільваючы аплік каптана.— Не бойся... маленькая...

— Што? — спачатку не зразумела яна, але па тону адчула, пра што гаворыць муж — зноў на сваёй, чужой для яе мове! — і раптам страсна сціснула кулачкі, затрэсла імі ў паветры:

— О, Аль-Іса! Нават калі заўтра сюды прыйдуць дэвы і забяруць мяне, я ўсё роўна буду шчаслівая, што была з табою! Чуеш! Шчаслівая!

Яна рванулася да яго, упала, абхапіўшы тонкімі рукамі ягоныя калені, валасы таргануліся, рассыпаўшыся з-пад кароткіх шпілек, заказыталі яму ногі. Ён нахіліўся над ёю, і сэрца яго раскрылася для яе, гарачая хваля абдала Алексу, ён абхапіў Апак, падняў, і хваля панесла іх кудысьці далёка-далёка...

На Полаччыне гуляў завеямі люты, вылі ваўкі па лясах, падыходзілі пад хаты, і спалохана мыкалі каровы і рохкалі свінні, чуючы страшную звярыную сілу. Год надарыўся галодны, смерды елі кару, таўклі яе разам з чэзлымі зярнятамі. Замежным купцам затое люба — болей, чым калі, вывезлі ў Готланд, Рыгу і Любек воску, мёду, пушніны. Выграбалі палачане ўсё, што гадамі хавалася на пасаг, збіралася на вяселле ці на спадчыну. У той год адна Рыга вывезла болей за тры тысячы шкляных бранзалетаў, якія так гожа рабілі ў Полацкай зямлі. Затое адтуль ішлі вазы з жытам, і таксама багацелі купцы, утрая даражэй прадаючы хлеб.

У Сялецкім манастыры з'явілася новая ікона Міколы-Цудатворца. Многія госці Полацака прыязджалі глядзець на яе, і было манастыру ад таго шмат прыбытку. Казалі, што знайшлі яе каля манастыра, на дрэве, і першыя хворыя прыкладаліся да палатна; ён слаба яшчэ пахнуў свежай фарбай... Другія ж, злоснікі,— а такіх усюды хапае! — гаварылі, што то была апошняя работа чарнарызніцы Ксеніі — былой Нялюбы, унучкі любімца Брачыслава Ірвідуба. Але, мабыць, памыляліся яны: не магла жанчына сатварыць такое хараство, таму што грэшная яна адвеку і ад таго богам праклятая.

Прыязджаў — і гэта ўжо была чыстая праўда — у Сялецкі манастыр сам стрэмянны Усяслава — Рэдзька, стаяў на каленях перад магілай Ксеніі, і доўгая ў той дзень была паніхіда. Вядома ж — багаты і заплаціць добра, і ад таго багатаму месца ў раі гатовенькае, а беднаму — паспрабуй заслужы яго!

Алекса лячыў людзей, занатоўваў усё на пергамент. Вечарамі чытаў кнігу, падораную Ашаваздам.

Ашавазда прыходзіў часта, і тады кнігу чыталі ўслых, Алекса перакладаў адразу на мову фарсі, Ашавазда дапамагаў у арабскай. Прыходзілі людзі, слухалі. Трашчаў свяцільнік. Скуголілі ў гарах злыя вятры.

Пад самае свята Мітры, у час раўнадзенства, Апак, якая цяпер амаль не адлучалася з дому, бо чакала дзіця, пачула сябе трывожна. Яна кінула прыбіраць дом і пайшла на айван, дзе сядзеў, падкурчыўшы пад сябе ногі, стары Нармурад і, мармычучы, перабіраў травы, узважваючы іх на невялічкіх вагах і адсыпаючы ў гліняныя піялы, пастаўленыя вакол.

— Мне нешта нядобра сёння, бацька,— Апак прысела побач, рукамі ашчаперыла жывот.

— Выпі ружовага джулябу, там засталося крыху,— кіўнуў Нармурад на дзверы.— Або лепш гранатавага соку, ён сцішае жар і дае спакой.

— Хаця б прыехаў хутчэй Аль-Іса. Пры ім мне заўсёды спакойна.

— Раджаць ты будзеш усё роўна адна.

— Аль-Іса казаў мне, што там, у далёкім Полацаку, пры жанчыне заўсёды ёсць нехта, калі яна раджае. І яна робіць гэта ў пакоі, дзе цёпла, а не так, як у нас — на вуліцы, перад парогам дома, і адна!

Нармурад з дакорам паківаў сівой галавой:

— Кожны на гэтай зямлі павінен пачынаць сваё жыццё прыніжаным, і толькі добрыя справы могуць узвысіць яго. Гэта правільна. Няхай Аль-Іса не ўбівае ў цябе звычаі чужой краіны. Там, адкуль ён, мёртвага паляць на агні. А гэта ж самы страшны грэх — апаганьваць агонь, свяшчэнны агонь, які дае жыццё.

— Жыццё ідзе ад кахання,— ціха сказала Апак.

— Неразумная жанчына! — Нармурад перастаў перабіраць травы, твар яго сказіўся гневам.

— Мала гэтага — дакрануцца да нябожчыка там така-

ма не лічыцца грахом! Навошта Аль-Іса расказвае табе ўсё гэта! Ён даўно наш, жыве тут. Я думаў, ён даўно адкінуў дзікія звычаі сваіх краёў.

— Толькі змяя мяняе скуру, чалавеку гэтага не дадзена,— зноў запярэчыла Апак.

Яна чула, як ўпарта ўнутры стукаецца новае жыццё. Яе сын... А можа, і дачка... Дзіця, якое яна так чакае, бо нарадзіцца яно павінна ад пачуцця, перад якім нішто каханне Лайлы і дзікага бедуіна..., як яго завуць, не памятае. Але трывога, што мучыла, была мацнейшай, яна не адпускала душу, і Апак, невядома чаму, хацелася пярэчыць Нармураду, гаварыць нешта злоснае, што прымусіла б і яго ўстрасянуцца, адчуць страх, які чамусьці апаноўваў жанчыну мацней і мацней.

— Можа, ён хоча пайсці адсюль разам з табою? — гнеўна запытаў Нармурад.— Яму не ўдасца гэтага зрабіць. Я скажу старэйшынам... скажу магам, і яны асляпяць яго, прыкуюць ланцугамі...— Плечы яго задрыжалі.

— Вы ўвесь час былі такім добрым да нас,— Апак стала яго шкада, яна падпаўзла бліжэй, пацалавала руку. І раптам адчула, што гаспадар плача. Яна не паверыла сваім вачам — такое было з ім упершыню!

— Не, мы не пойдзем ад вас,— яна яшчэ раз пацалавала руку, якую стары гнеўна вырваў.— Але Аль-Іса сапраўды многа гаварыў мне аб сваёй краіне. Там і праўда... усё іншае. Але хаця там холад амаль увесь год і трэба бясконца ахінаць сябе звярынымі шкурамі, [redacted] пайду з ім, калі мы...

Яна раптоўна запнулася, густа запунсавела.

— Калі я памру, так? — дадаў за яе Нармурад і сумна ўсміўнуўся:

— Не бойся. Гэта здарыцца скора. Я бачыў у сне джынніцу, якая прыходзіць у каменную башню пажыраць нашыя целы. Яна спачатку адвярнулася ад мяне, але пасля літасціва пагладзіла па плячах.

— І... і вам не было страшна?

— Не. Страшна не было. Цела — гэта толькі цела. Памірае яно, а застаецца душа, дух. Мы бессмяротныя, дачка, толькі не многія разумеюць гэта, як не прымаюць таго, што зямное жыццё — толькі пакута і страх. Страх за самага блізкага, за жыццё, за здароўе. Я пражыў усё, і мне нічога не страшна. Але не хацелася б перад смерцю быць аднаму ў доме. Дзе не было Зулейхі. Не было дзяцей. Нічога!

— А я... я баюся смерці,— ціха сказала Апак.— Мне хочацца жыць. Хочацца нарадзіць Аль-Ісу многа-многа дзяцей і захіліць іх ад небяспекі. Хочацца лавіць позірк Аль-Ісы, калі ён прачынаецца, і саграваць яго сваім целам у зімовыя вечары, калі згасае жароўня!

— Тваё цела занадта малое для гэткіх вялікіх спраў! — засмяяўся Нармурад, адыходзячы сэрцам пасля размовы. І сказаў ласкава:

— Ідзі кладзіся спаць. Бачыш, ужо цямнее. Заўтра пабачым Аль-Ісу. Хворы, да якога ён паехаў, паправіцца, я бачу гэта па зернях рысу, на якія ўчора гадаў...

Гулкі тупат перапыніў ягоныя словы. Па вузкай горнай сцяжынцы імчалі коні, і малады, скажоны нянавісцю голас крычаў:

— Брудныя парсы, мы адпомсцім вам за смерць Мураджана!

— Ур-рх! — кліч воінаў паплыў над гарамі, гулка загрымеў у цяснінах. І амаль адразу ж насупраць крайніх дамоў успыхнула полымя, затрашчалі скірды ячменю, што ляжалі ў невялічкай агароджы. Закрычалі, завішчалі на розныя галасы жанчыны і дзеці, пачуўся лязгат мячоў, скрыгатанне конскіх падкоў аб камяністую дарогу.

Нармурад і Апак ведалі — аб гэтым шапталіся людзі, вяртаючыся з паходаў у ніжнія кішлакі,— што новы падзішах ненавідзіць вогнепаклоннікаў-парсаў і пакляўся з коранем вырваць старыя парасткі, якія ўпарта раслі і раслі ў дзяржаве. Даносіліся чуткі, што не так і далёка адсюль у лагчыне Хурабат ужо выразалі цэлае лагавішча парсаў, а галоўнага мага, прывязанага да коней, валаклі па дарозе да таго часу, пакуль ён не ператварыўся ў акрываўлены кавалак мяса. Нібыта там у аднаго з воінаў парсы ўкралі любімага каня. Укралі ці не, але помста была жорсткай — уцалела ўсяго некалькі чалавек. Можа, і праўда, што мусульмане шукаюць прычыны, а калі няма яе — выдумляюць. Не стане ніводзін парс без дай прычыны забіваць чалавека...

Але не было часу думаць ні пра што. Яны абое кінуліся ў дом. А воіны ўжо імчаліся міма. Адзін з іх, прыземісты, з чорнай барадой і раз'ятранымі, амаль белымі вачыма, спыніўся каля дома, з усяе сілы тузануў за металічнае кольца ля дзвярэй, і дзверы адразу ж расчыніліся.

Чорнабародыя воіны, у скураных нагрудніках, каляровых шараварах, бразгаючы мячамі і нібы ахутаныя воблакам разгарачанасці, шаленства і беспакаранасці, уварвалі-

ся ў пакой, ломячы ўсё на шляху, успорваючы падушкі, зрываючы сюзанэ і покрывы.

Яны ні аб чым не пыталіся. Ды і нашто?

Нармурад прыняў смерць моўчкі. Ён толькі паспеў сваім целам закрыць Апак, якая, шалёна крычучы, паспрабавала вырваць меч з рук воіна з белымі вачамі. Першы ўдар прыйшоўся па старым лекару, астатнія — па маладой жанчыне, якая паспела-такі вострымі кіпцюрамі разадраць шчаку воіна і садраць з яго кашулю.

— Дарэмна,— заўважыў нехта з паплечнікаў, гледзячы на распасцёртыя, залітыя крывёй целы,— яе можна было б прадаць, здаецца, яна прыгожая.

— Сапраўды, за яе маглі б даць многа,— са шкадаваннем сказаў і забойца.— Але ж хіба можна нешта разгледзець у такой гарачцы? Затое на ёй дарагія маністы. Прадам іх, і яны акупяць усё, што ў гэтым доме.

— А вось кніга!

— О, гэта добра. Кніга напісана па-арабску? За яе можна атрымаць нават некалькі дынараў!

На шчасліўчыка глядзелі з зайздрасцю. Шукалі. Але знайшлі яшчэ некалькі мяхоў з травамі і пергамент з незразумелымі знакамі. Раз'юшаныя, склалі іх пасярэдзіне дома і, адыходзячы, падпалілі.

І нават у шалёным полымі, у трэску і копаці можна было, калі спыніцца, адчуць тонкі і востры пах горнага палыну...

Але і спыняцца, і дыхаць гэтым водарам не было каму...

Алекса вяртаўся дадому на світанку. Ён і сапраўды выратаваў хворага, які трызніў ужо цэлы тыдзень і жыццё якога было блізка да запаветнага моста цераз бездань, што аддзяляе мёртвых ад жывых.

Але Алексу ўдалося падтрымаць кволы агонь жыцця, што ўпарта не хацеў згасаць у магутным целе ганчара, і той нарэшце ачуняў і папрасіў піць.

Плата была шчодрай. Гаспадара шанавалі і любілі ў доме. Алексу нагрузілі ячменем і мукой, уручылі скрутак кітайскага шоўку і духмяныя палачкі з сандалавага дрэва.

Ён ехаў і думаў, як узрадуецца Апак і якую сукенку зробіць сабе з тонкай, амаль празрыстай тканіны, ад якой слаба пахла водарам далёкіх краін.

Ён вёз і падарунак для Нармурада — трохі гашышу, каб мог стары лекар удосталь курыць кальян і аддавацца нязбытным марам, якія так упрыгожваюць жыццё.

...А знайшоў абгарэлы кішлак, некалькі ўдоў і дзяцей і на месцы свайго дома толькі груду гліны і абгарэлых бэлек.

І пахла, да жаху востра пахла горным палыном.

І раўнадушна свяціла ранняе сонца.

І бегаў па галавешках звар'яцелы Спітагд, галасіў сваё, і скакаў, і плакаў...

Алекса доўга сядзеў каля папялішча, не зважаючы на плач і енкі, што чуліся ля іншых дамоў. Пасля, абдзіраючы рукі, стаў пераварочваць чорныя, патрэсканыя, пабітыя цагліны.

Тры дні ён капаў, забыўшыся на стому, упарта сціснуўшы вусны і час ад часу прыпадаючы перасохлым ротам да карца з вадою.

Тонкія костачкі Апак абярнуў узорыстым, колеру завялай травы шоўкам і пахаваў каля дому, выкапаўшы і пасадзіўшы ля магілы лазу.

Не было каму гневацца і абурацца такім святатацтвам. Не было каму жахацца і глядзець, што сам ён уласнаручна перанёс астанкі Нармурада і Ашавазды да каменнай дахмы, дзе ўжо ляжалі косці блізкіх, адкапаныя роднымі. Целы пачалі смуродзець ад гарачыні. Уцалелыя людзі таксама неслі мёртвых самі, бо гэтак жа, як і іншыя, быў разбіты і спалены дом хавальшчыцы трупаў.

А пасля Алекса вырваў у агародзе некалькі дыняў, паклаў ячмень і муку ў торбу і пайшоў з кішлака.

Людзі праводзілі яго позіркамі, але ніхто не сказаў ні слова. Толькі адна з жанчын неўзабаве дагнала яго і аддала яшчэ адну торбу. Ён зазірнуў у яе. Там ляжалі цвёрдыя сыры, кавалкі мёду і халат. Жанчына глядзела на яго пакорліва і самотна, на шыі ў яе быў відзён шнар — калісьці стары Нармурад рэзаў яе абсідзіянавым нажом, выдаляючы гнайнік, а ён, Алекса, дапамагаў. Шнар быў ружовы, цёмная жыла няроўна пульсавала. Вусны жанчыны былі журботна сцятыя. Слёзы навярнуліся на вочы Алексу. Ён моўчкі ўскінуў торбу на плячо, пайшоў, ужо не азіраючыся, таму што ззаду не было нічога.

Нічога. Толькі спалены кішлак і некалькі прывідаў.

Жыхары ніжняга кішлака глядзелі на яго варожа. А колькі іх прыходзіла лячыцца! Ён бачыў, як адзін з мужчын пацягнуўся да нажа, што вісеў на доўгім скураным поясе, але другі, старэйшы, нешта сказаў — і мужчына, трымаючы нож, скалячы белыя, як часнок, зубы, матляў лязом, шырока ўсміхаўся, гледзячы на Алексу.

Той прайшоў міма, пануры, са страшным тварам, і дзеці, што спачатку беглі за ім, дражнячыся, хутка адсталі і вярнуліся збянтэжанымі.

Першую ноч правёў у памятнай пячоры, дзе калісьці Апак выхадзіла яго. Ляжаў, думаючы пра тое, што, можа, які-небудзь магутны звер зноў упадабаў гэтую пячору для жылля, але, калі прыйдзе, сустрэне тут смерць, бо з іх двух будзе мацнейшым Алекса. Ён адчуваў у сабе сілы памерацца злосцю і гневам з усім светам, але помсціць не было каму — хіба што дабірацца да самога эміра, але і сам эмір быў толькі часцінкай таго сусветнага зла, якое абавязкова ўмешвалася ў справы і лёсы людзей. «Для чаго, дзеля чаго так адбываецца? — пакутліва думаў ён, гледзячы, як у знаёмай дзірцы паказваецца зорка і паступова, непрыкметна для вока знікае, каб уступіць месца новай.— Навошта чалавеку столькі выпрабаванняў, і чаму адны людзі жывуць спакойна, усё ў іх цячэ роўна і гладка, і ўвесь свой век яны жывуць, як сляпыя кацяняты, а другія пакутуюць, губляюць блізкіх, а неба раўнадушна глядзіць на ўсіх, і няма каму скардзіцца...»

Свет вакол яго быў бяздонным і пустым. Вакол звінела цішыня, здавалася, толькі ён застаўся тут, пад зоркамі, каб мучыцца і шукаць адказу, якога ўсё роўна няма.

У гэтым свеце, дзе ён доўга і пакутліва прагнуў цяпла, яно і было яму дадзена — але толькі дзеля таго, каб зноў страціць і яшчэ больш балюча, больш пякельна, чым калісьці, адчуць, што ўсё навокал — страта, што няма чаго прыляпляцца душою да некага, таму што чым болей прывыкаеш, тым больш верагодна, што гэта якраз і адбяруць у цябе... «Цёмная зорка над ёю»,— успомніў ён словы Нармурада, сказаныя пра Апак. Але сам Нармурад не ўбачыў чорную зорку над сваім лёсам. Хаця, магчыма, лёс усё ж быў да яго літасцівы — Нармурад пражыў вялікае жыццё, а яна, Апак, яна... Ён захлынуўся камяком, што падступіў пад горла, хутка ўскочыў, выйшаў з пячоры.

Пустэльна было навокал. Займалася зара,— яна была такою ж спакойнай, такою ж прыгожай і пяшчотна-недатыкальнай, як заўсёды... І такія ж ружовыя, з цёмнымі праваламі лагчын і сіняй смугой над вяршалінамі былі горы. Ён падышоў да сцяжынкі — справа ад яе была бездань, зазірнуў уніз, угледзеўся ў далёкі шнурок сцяжыны, відаць, пракладзенай унізе дзікімі звярамі. Адтуль дыхала сырасцю, цесныя сцены амаль змыкаліся, адліваючы крывавым і зялёным адначасна. Падумаў спакойна,

што, варта толькі зрабіць крок наперад, і ён, пакідаючы на гэтых камянях шматкі свайго цела, скаціцца ўніз, на белы шнур сцяжынкі. Тады скончацца ўсе яго пакуты і пякельныя думкі. Ён успомніў, як казаў Ашавазда: «Калі цыноўка лёсу выткана чорнаю, яе не адмыеш і святою вадой». Зрабіць гэты крок?

І адразу ж знікне Апак — таму што пакуль, і мёртвая, яна жыве, у ім жыве — са сваёй шырокай усмешкай, гнуткім целам і залацістымі валасамі, уся хуткая, жывая, вясёлая — цудоўны агеньчык жыцця, запалены немаведама кім.

Знікне Нармурад — скрыўленыя хваробай старыя яго пальцы, задушлівы кашаль, ясныя разумныя вочы. Знікне таўстун Ашавазда, што разбудзіў у ім сілы, пра якія ніколі б не даведаўся Алекса.

Упарта не хацеў бачыць іх мёртвымі, думаць пра тыя апошнія хвіліны, калі яны, магчыма, клікалі яго, гарэлі без яго.

Адзінокі куст прыляпіўся да каменю, цёмныя яго ягады блішчэлі, як налакіраваныя. Вецер слаба варушыў лісты, і Алекса ўспомніў, што, як казаў Ашавазда, світальны вецер — пасланец закаханых. Камусьці зараз цёпла ў хаце, утульна і добра. А яго, які прыляпіўся, як вось гэты куст, да маленькага кавалка зямлі ў гарах і думаў, што ён знайшоў там спакой, шалёны вецер адарваў і шпурнуў кудысьці ў свет... Куды?

Дадому, на далёкую радзіму, хаця б паўзком, хаця б па адным фарсангу ў дзень! Можа, калі-небудзь ён і дойдзе — нягледзячы на ўсё... Можа, калі-небудзь нанова напіша пра тое, што перажыў і ўбачыў за гэты час. Нанова — таму што ўсё, напісанае ім, згарэла ў полымі, запаленым раз'ятранымі воінамі, якія, мусіць, і не задумаліся над тым, што яны робяць, калі падносілі факел да драўляных парэнчаў ягонага дома. Нібы ўвачавідкі бачыў, як гарэлі хаты, гарэлі старонкі, якія ён пісаў доўгімі зімовымі начамі, калі шалёна выла завіруха і кідала ў дзверы белыя прыгаршчы снегу, а ў гарах час ад часу гулка падалі ў бездань лавіны снегу і доўга пасля гэтага гудзела навокал! Пісаў, калі Апак нячутна прала беласнежную поўсць авечак, каб пасля занесці яе ў дом да жанчын, што збіраліся разам і вучылі свайму адвечнаму рамяству маладых. Пісаў, калі Нармурад у суседнім пакоі раскладваў высушаныя летам зёлкі ў мяшэчкі, узважваў іх на міскалі і запісваў на тоненькіх таблічках назвы, а па ўсім доме ішоў

моцны, настоены на летнім пякучым сонцы пах сакавітых лугоў і напаленай зямлі...

Што засталося з усяго гэтага?

І раптам падумаў — а можа, і не было нічога — ні кніг, ні паху зёлак, ні самога Нармурада?

Ён спалохаўся, памацаў лоб. Лоб быў сапраўды гарачы. Але няма дзе яму спыняцца, няма дзе чакаць здароўя.

Трэба было змагацца.

Ён успомніў словы Авесты, якія часта перад сном паўтараў Нармурад, кланяючыся багіні Анахіце:

«Адно дрэва, якое вырасцілі ў пустыні, каштуе больш чым шматгадовае падзвіжніцтва і катаванне сябе і сваёй плоці ў той жа пустыні».

Трэба было жыць...

Ён клыпаў па дарозе, і цела яго нібыта высыхала на сонцы, рабілася смуглявым і жылістым. Паласатая павязка на галаве, халат, шаравары — усё, што было на ім, не выклікала ў праезджых цікаўнасці. Ён схаваў пояс, па якім маглі б прызнаць, што ён некалі належаў да племені магаў, і цяпер нічым не адрозніваўся ад усіх, хто таптаў камяністую дарогу, выбіраючыся па ёй з пустэльных горных сцяжынак ці, наадварот, узбіраючыся на іх, каб нешта шукаць у паднябеснай краіне, дзе, чым вышэй, тым болей сціскае чалавеку горла вышыня. Дні за днямі ішоў ён, і прахалода гор усё болей саступала месца сонцу, а самі горы заставаліся ззаду і нібы меншалі на вачах. Усё часцей траплялася палі, на якіх, сагнуўшыся і не азіраючыся на прахожых, працавалі людзі. Цягнула цвіллю ад залітых вадою роўных палос, дзе вырошчвалі рыс. Усё болей каля гліняных, злепленых з сырцовай цэглы дамоў зелянелі дрэвы. Якраз быў час, калі наліваліся сокам персікі і пачыналі ружавець гранаты, востра вытыркаючыся з-за цёмна-зялёнага покрыва зеляніны. Каля пастаялых двароў часта стаялі мужчыны, расклаўшы на каляровым покрыве цяжкія, смуглявыя гронкі вінаграду, басму і хну для далоняў, каб не пацелі яны ад гарачыні, соты з мёдам альбо першыя, такія ўжо салодкія дыні.

Ён падыходзіў, моўчкі клаў манету, браў што трэба. Еў, седзячы пад цяністым платанам, слухаючы, як гавораць аб сваім старыя, што збіраліся ля чайханы, важна ківаючы галовамі. Некаторыя былі ў белых цурбанах, і ён ведаў — устаючы, каб пайсці далей, гэтым людзям трэба пакланіцца асабліва нізка.

Часта і заседжваўся, слухаючы дзіўныя гісторыі, якія расказваліся вось у такія часы, калі сонца не давала выйсці з-пад жыватворнага ценю і калі асабліва мякка цурчыць вада ў арыку, што абавязкова струменіцца побач.

Аднойчы ён пачуў расказ пра суфійскага паэта, Джафара аль-Хульдзі, які пасля крушэння карабля апынуўся на пустэльным востраве разам са сваімі спадарожнікамі. Яны ўжо рыхтаваліся да смерці і таму давалі зарокі і абяцанні алаху.

«Адзін з іх сказаў, што, калі Алах уратуе яго, ён ніколі не парушыць посту. Другі — што будзе маліцца, робячы колькі там паклонаў. Трэці — што перастане лгаць.

Калі ж дайшла чарга да Джафара аль-Хульдзі, ён сказаў нечакана для ўсіх, што дае зарок — ніколі не есці мяса слана. Усе здзівіліся, пачуўшы гэта: «Ды дзе ж ты знойдзеш тут слана і чаму іменна яго?» Але ён не хацеў слухаць угаворы і папрокі ў блюзнерстве і гаварыў сваё. Пазней, успамінаў сам Джафар, ён прызнаўся, што не ведае, чаму яму прыйшла ў галаву такая думка. Але раз прыйшла — ён даў такі зарок, нягледзячы ні на што. І вось, што вы думаеце?..»

Расказчык перапыніўся, абвёў вачыма слухачоў. Алекса бачыў, што нават ганарлівыя старцы слухаюць не дыхаючы і нешта дзіцячае з'явілася ў іх тварах.

— Дык вось,— працягваў расказчык,— на чацвёрты дзень яны, шукаючы што пад'есці, убачылі тоўстае сланяня. Спадарожнікі паэта забілі яго, насмажылі многа мяса і піравалі цэлы вечар. Але як ні клікалі Джафара, ён не падышоў да іх, хаця сам паміраў з голаду.

— Ну? — не вытрымаў малады мужчына ў жоўтай кашулі. Астатнія неадабральна пакасіліся на яго.

«А на другі дзень, калі яны сядзелі, ратуючыся ад гарачыні, з лесу выйшла сланіха. Яна раўла, напаўняючы пустыню крыкамі, і ўсе спадарожнікі Джафара скамянелі ад страху і паваліліся на зямлю, стогнучы і закрываючы сабе вочы.

Сланіха ж, падышоўшы да іх, стала абнюхваць кожнага з галавы да ног, і, прайшоўшыся хобатам па ўсім целе, паднімала нагу і апускала яе на чалавека так, каб раздушыць яго. А пасля ішла да наступнага і таксама забівала яго.

Джафар таксама скамянеў ад страху і ляжаў, клічучы алаха і развітваючыся з жыццём. Але сланіха, падышоўшы, абнюхала яго два ці тры разы, як бы не верачы сабе, а пасля схапіла хобатам і падняла ў паветра».

— Няўжо і яго забіла? — зноў не вытрымаў той жа мужчына, і старэйшыны з дакорам заківалі цурбанамі, азіраючыся на дзёрзкага.

«Не, Джафара яна не забіла, наадварот — паклаўшы яго сабе на спіну, пабегла некуды. Ішлі гадзіны, а яна ўсё то бегла, то ішла. А калі развіднела, асцярожна апусціла Джафара са спіны і знікла. А ён, апамятаўшыся, убачыў сябе на вялікай дарозе і, прайшоўшы трохі, увайшоў у горад. Жыхары дзівіліся, убачыўшы яго там — а ён і сам не разумеў, як трапіў да іх. Пасля дазнаўся, што сланіха зрабіла за ноч вялікі шлях і, уласна кажучы, уратавала яго...»

Ідучы па дарозе, Алекса думаў аб зароку невядомага яму Джафара аль-Хульдзі. Чаму раптам той даў яго? Што і хто падказваў, што тым зарокам ўберажэ ён сваё жыццё? Богі? Хто з іх — Алах, вялікі Зардушт ці далёкі адсюль Пярун? І колькі іх, багоў, на свеце? Два, тры? Тысяча? А можа, няма ніводнага, а ёсць толькі вялікая бясконцасць, што акружае іх, і яна мае свае таямніцы і законы? І каму будзе дадзена — з усіх тысяч і тысяч на зямлі — адгадаць іх?

Старой была гэтая караванная дарога з горных раёнаў да Бухары, але ўсё ж убачыў Алекса, што тое-сёе мяняецца. Меней стала паабапал мёртвай зямлі, болей зеляніны, садоў. Новы ўладар ціснуў на дэхкан дадатковымі подацямі, усё болей прымацоўваў да зямлі качэўнікаў, што спрадвеку пасвілі тут свае статкі. Эміру трэба было шмат грошай — на новыя мячэці, што ўслаўлялі яго магутнасці, на войны і на раскошу, якою славіўся двор пры Бухары.

Мала было на дарозе і дэрвішаў — гэтых бадзяжнікаў, якія заўсёды ажыўлялі дарогі сваімі песнямі і чырвонымі плашчамі. Іх таксама прымусілі асесці, заняцца рамёствамі.

Але гліняны домік у засені тутаўніку непадалёк ад гарадка Каравулбазар застаўся такім жа, як і многа гадоў назад, і тая ж, здаецца, смуглявая дзяўчынка ў чырвонай кашулі сядзела перад домам, размаўляючы з калматым сабакам, які ляніва глядзеў на падарожнага і пагрозліва бурчаў.

— Салам! — сказаў ёй Алекса, і дзяўчынка, шырока раскрыўшы свае чорныя вачаняты, таропка прыкрылася рукавом.— Прымай госця!

Яна была зусім не падобная да Аміны, але нешта

падышло пад грудзі Алексу, калі ён глядзеў, як дзяўчынка кінулася ў дом, як адтуль выйшла тапклявая ў стане, шырокая ў клубах жанчына, пакрытая халатам, як напружана глядзелі на яго яны абедзве, не ведаючы, што нясе з сабою запылены, загарэлы да чарнаты незнаёмец з празрыстымі вачамі. Але ні адна, ні другая не сказалі нічога — чакалі, пакуль загаворыць ён.

— Не, я не запрашаю вас абмываць нябожчыка,— сказаў ён, усміхаючыся.— Я госць твой, Аміна! Хіба не пазнаеш?

Ружовасць наплыла на бледныя шчокі жанчыны, малада ўспыхнулі вочы, яна імгненна пахарашэла, нібыта сама Зухра дакранулася да яе.

— Аль-Іса? Вы?

Ён ступіў у гэты дом, чакаючы, хто выйдзе насустрач, але толькі кошка, бліскаючы зеленаватымі вачамі, пырснула ў дзверы ды калматы сабака цікаўна брахаў ля парога, хаваючыся за пракопчаным тандырам.

Трысняговая цыноўка прыемна халадзіла ногі, ляпёшка, што падала на стол пляменніца Аміны, прапахла смакам рачной травой — відаць, у доме не хапала мукі.

Жанчына, гладзячы кашчавай рукой дзяўчынку, расказвала, што нядаўна хвароба, якую занёс у кішлак праезджы бедуін, амаль спустошыла навакольныя дамы. А іх сям'ю — у першую чаргу, бо яны ж абмывальшчыкі трупаў.

«Анёл смерці Азраіл не стамляўся заходзіць у наш дом,— блякла казала Аміна.— Бацька памёр першым, за ім мая старэйшая сястра. Засталіся мы двое — я і вось яна, пляменніца. Так і жывём удваіх...»

— А замужжа, Аміна? — спытаўся ён усхвалявана, таму што страты яе напомнілі ўласнае гора, і вусны яго сціснуліся моцна, як бы трымаючы словы скаргаў.

— Я была замужам,— гэтак жа абыякава сказала Аміна, а дзяўчынка, абвіўшы яе стан, спачувальна пагладзіла жанчыну па шчацэ.— Але Анахіта і Амбар-она адвярнуліся ад мяне, я не змагла нарадзіць дзіця, і муж развёўся са мною, пракляўшы мяне як бясплодную. І цяпер мой дом абыходзяць нават старыя калекі з дрыжачымі рукамі і гнойнымі вачамі, таму што жанчына, лона якой пустое, праклятая Алахам і людзьмі! Можа, і табе не трэба было б пераходзіць парог гэтага дома, Аль-Іса, але ж я ссохла тут без добрага слова, ссохла, як вінаградная лаза, якой не даюць вады! А ты... што прывяло цябе сюды?

Яна падала піялу чаю, але рукі яе дрыжалі, і ён зразумеў, што абыякавы голас хаваў у сабе муку, якая бадай што не меншая за ягонае гора. Але ён адмоўна паківаў галавой:

— Нашто сваімі бедамі перапаўняць чашу тваіх пакут? Раскажу як-небудзь пасля, бо ты дазволіш мне пабыць у тваім доме хаця трошкі?

Яму патрэбны быў дом, дзе можна было б адпачыць, пабыць сярод людзей, чые вочы былі б прыязныя, а словы шчырыя. За час свайго падарожжа ён прывык да свайго гора, прыжыўся з ім і адначасна зразумеў, што гора аддзяляе чалавека ад іншых, што няшчасце мае свой пах і людзі несвядома староняцца такога чалавека, як зачумленага.

Яна ўзрадавалася, і вочы яе сталі зусім маладыя, а ён са шкадаваннем падумаў, як састарыў Аміну час, літасцівы да яго. У валасах яго сівізны куды меней, і больш гнуткая яго постаць, і больш хуткія рукі. А яна ж маладзейшая за яго... маладзейшая... і калі б некалі ён затрымаўся ля гэтага дома... адмовіўся ехаць з Нармурадам, то мог бы быць тут гаспадаром. Хутчэй за ўсё, наўрад ці,— тут жа горка ўсміхнуўся ўспаміну,— мужчыны тут доўга не жывуць — так казала яму некалі старая Пацімат.

Уначы ён доўга не мог заснуць. Як быццам павольна распрамлялася вялізная цеціва, якая штурханула некалі яго, нібы стралу, у далёкі горны кішлак. А цяпер страла вяртала на месца сваё... Што будзе з ім? Што чакае яго далей?

Ён заснуў адразу, а прачнуўся ад таго, што маленькая жорсткая рука пяшчотна гладзіла яго голыя грудзі. Ён схапіў гэтую руку, адразу здагадаўшыся, хто гэта, хаця цемра затапіла, здавалася, усё навокал.

Ад Аміны пахла мускусам — адкуль узяўся ён тут, у беднай хаце? Валасы, днём сабраныя ў вялікі тугі пучок, цяпер былі распушчаныя па плячах, яны казыталі Алексу, і ад іх таксама пахла ружавай вадой. Яна, стоячы на каленях, схілілася яму на грудзі і зашаптала:

— Не адвяргай мяне, Аль-Іса! Падары мне забыццё, пашкадуй!

Ён маўчаў, і яна пачала пацалункамі пакрываць яго рукі, шыю, гладзіць яго ногі. Рукі яе былі гарачыя, яна гладзіла яго і шаптала...

Ён падняўся, адвёў яе рукі:

— Даруй, Аміна... Даруй!

Яна зразумела: імгненне пастаяла, пасля лёгка слізганула прэч. Раздаўся не то стогн, не то плач — і ўсё адразу сціхла, як і не было, як прыснілася ўсё гэта Алексу.

Назаўтра раніцай есці яму прынесла дзяўчынка, пляменніца Аміны. Алекса адчуў сябе ніякавата, моўчкі еў, не паднімаючы вачэй. Каля абеду прыйшла Аміна, рабіла па гаспадарцы, закрыўшыся халатам, не паднімаючы вачэй. І ён вырашыў — заўтра зноў кранецца ў дарогу, не стане мучыць жанчыну сорамам і раскайваннем.

Але назаўтра раніцай за ім прыйшлі. Хлапчук папрасіў, каб дапамог прыезджы лекар — у ягонай гаспадыні баліць галава, другі дзень яна ляжыць нерухома.

Аміна, пабачыўшы хлопчыка, перамянілася ў твары: падышла да Алексы, кранула яго за рукаў:

— Не хадзі, Аль-Іса! Яна — дрэнная жанчына!

Ён здзівіўся, запярэчыў:

— Трэба ёй памагчы, а якая яна — ці важна?

Аміна яшчэ нешта хацела сказаць, але ён не слухаў. Сабраўся, пайшоў за хлопчыкам.

У пакоі, закрытым па сценах каляровымі сюзанэ і тканінамі, на хан-тахце, прыкрытая атласнай коўдрай, ляжала жанчына. Калі зайшлі хлопчык і лекар, яна прыўзнялася, апякла Алексу позіркам вялізных, падведзеных сурмою вачэй, лягла зноў.

Нешта было ў ёй кашэчае — у вачах, нерухомых, з вялізнымі зрэнкамі, але адначасна пільных і драпежных, у выгібе шыі, у насцярожанасці. Але пра гэта падумаў Алекса пасля, а напачатку ён пачаў аглядаць жанчыну, узяў яе за руку. І — адразу абдало гарачынёй. Слухаў пульс, а ўласная кроў пабегла шпарчэй, чырвань ударыла ў шчокі. Адняў руку — яна не дала. Утрымала яго, села, расхінуўшы коўдру.

— Так я вас не вылечу,— сказаў Алекса.

— Ты пакрыўдзіў багіню Іштар і багіню Анахіту: адверг жанчыну.

— Адкуль ты ведаеш?

Яна загадкава ўсміхнулася:

— Пабудзь у мяне госцем, я, магчыма, здыму з цябе гэты грэх.

Ён адчуў, як гарачая хваля ахапіла яго ўсяго, супраць волі, затуманіла галаву. Гэта яна, Апак, схапіла яго рукі, абвіла імі яго стан! І ён адчуў круты выгіб бёдраў, усё яе гнуткае, поўнае нецярплівай, звярынай прагі цела, і сам адчуў у сабе звярынае, і, ужо не разважаючы ні аб чым,

схапіў яе і, здаецца, адным махам уціснуў у дымную, прапітаную чужым жыццём і пахамі коўдру...

Так ён трапіў у дом блудніцы Віспры.

Пацягнуліся дні — доўгія, поўныя гарачай млявасці, таропкіх сарамлівых думак, якія ён адганяў. Затое ночы былі кароткія, імгненныя, яны былі напоўнены вар'яцкім задушлівым забыццём, маланкавымі ўспышкамі страсці і хцівасці да гэтага нястомнага шалёнага цела.

Віспра амаль не паказвалася яму на вочы днём. Хлопчык-служка прыносіў то блюда з мясам, палітым кіслым вінным воцатам, пасыпаным зелянінай, то лагманную чашу з кіпенем і белымі трубкамі, з крывавымі лустамі гранатаў, то залаціста-жоўтую кавірму-плоў. Ставіў падносы на столік і моўчкі ішоў назад, хітравата бліснуўшы чорнымі вачанятамі. Алекса еў, пасля адпачываў у салодкай дрымоце, затым выходзіў на парог і сядзеў, гледзячы па імклівую ваду. Ён як бы страціў адчуванне часу, толькі з нецярпеннем чакаў ночы, гонячы ад сябе ўсялякія думкі, бо ад думак было балюча і сорамна. У дом Аміны ён не вяртаўся. І дарэмна шаптала яму Віспра аб тым, што ў кожным целе заключана бажэсцвеннае святло, што патаемна расказваюць суфіі — вандроўныя старцы — аб тым, як важна, каб гэтае святло зліваласяз другім, бо ад яго нараджаецца новае азарэнне... Ён са страхам усведамляў, што не ведаў дасюль самога сябе, не ведаў пра звера, які жыве ў ім і які магутна — так магутна, што і не справіцца — падняў цяпер галаву. Гэтая жанчына валодала нейкімі путамі, яна разнуздвала горшае ў ім, яна ўмела імгненна скідаць аброць розуму і стрыманасці... І ён паступова пачынаў ненавідзець яе, ненавідзець і жадаць яшчэ болей... Мучыўся гэтым, пакутаваў, але нічога не мог з сабою зрабіць. Не мог прымусіць сябе ўзяцца за нейкую працу, а дом быў добра разбалены, як быццам тут па начах бывалі джыніі. У дом прыходзілі мужчыны, але служка нешта казаў ім — мусіць, што гаспадыня хворая, і яны знікалі. Бывала, што перад гэтым шпурлялі ў акно камені.

Ён аддаў ёй усё, што было ў яго. Карміліся на яго грошы. Рынак быў далёка адсюль, у кішлаку па другі бок даліны.

Адтуль прыносілі бараніну, арэхі, міндаль. І Віспра вечарамі прыходзіла да яго ў новай сукенцы — ізары. Ізары ў яе былі крывавага, рубінавага колеру, і ён, варта было яму ўбачыць яе тонкую постаць, адчуваў нястрымную прагу ўдыхаць яе пах, лашчыць жанчыну, падатлі-

вую і нязменна цвёрдую, як дрэва, з якога робяць чарнаскурыя зінджы свае статуэткі.

...У шалёным забыцці праляцела некалькі тыдняў, і ў доме скончыліся грошы.

У той дзень, калі Віспра сказала яму аб гэтым холадна і ўладна, а ён няўцямна глядзеў на яе і балючы сорам ахопліваў яго ўсё мацней, у дзверы пастукаліся. Стары, згорблены мусульманін у паласатай цюбецейцы, з пачарнелымі каранькамі зубоў, з рукамі, што калаціліся нястрымна, як быццам трасучка не давала яму ні хвіліны роздыху, схапіў Алексу за рукаў і прыпаў да яго рукі, цалуючы яе:

— Уратуй майго сына, хабіб! Чорны дух усяліўся ў яго, і кажуць, што ты ўмееш спраўляцца з ім. Хто ні лячыў, не памагае!

— Але я даўно не лячу. Даўно! — разгубіўся Алекса. Сапраўды, за ўсе гэтыя тыдні ён зачыніў свае дзверы ад усіх. Быў толькі з Віспраю, а ўсё, што тварылася навокал, не цікавіла і не хвалявала.

— Ну а зараз можна пачынаць,— уладна сказала жанчына.— У доме няма нават дырхема! — Яна пагардліва тузанула плячом і пайшла ў суседні пакой, звонячы бранзалетамі, а пурпуровы яе ізары пераліваўся, як змяіная скура, і такімі ж чорнымі, жорсткімі (звярынымі — падумаў Алекса) былі яе валасы.

— Адзіны сын! — стары кусаў вусны, глядзеў з мальбою.

І Алекса паехаў на кані, якога прывёў з сабою чалавек, у няблізкі шлях, у асенні, прапахлы вільготнаю глінаю і прэлым лісцем вечар. Азірнуўся з адчаем на дом — там, у адным з вокнаў, утульна гарэла свяцільня, здавалася, адтуль патыхала мускусам і ружовым маслам, якое шчодра расходавала гаспадыня.

У доме не знайшлося нават ляпёшкі, і ў дарозе стары карміў Алексу прыпасамі, узятымі ў дарогу — каўбасою з конскага мяса, сушанымі дынямі, паіў чаем.

Якімі цяжкімі здаваліся Алексу фарсангі, што аддалялі яго ад Віспры! Уначы, калі засыналі коні і, захутаўшыся ў аўчыну, спаў стары Юсуф, Алекса доўга варочаўся на жорсткай кашме, і яму здаваўся агідным пах мокрай поўсці, які ішоў ад кашмы, а напружаны слых, здаецца, адчуваў і шархаценне змяі пад кустом, і доўгае воўчае выццё недзе далёка за пясчанымі ўзгоркамі, і рыканне тыграў у прыбярэжным трыснягу... Жанчына стаяла перад ягонымі

вачыма, ён прымерваў на яе шыі нітку празрыстых караляў з чорнымі і залацістымі іголкамі ўнутры — такія нітачкі называюць валаскамі з барады Прарока, і кажуць, што камяні тыя прыносяць шчасце. Толькі адзін такі каменьчык быў у Віспры — некалі пры пахаванні зняла бабка яе той камень з памёршай жонкі бая. Часта даставала Віспра каменьчык, і любавалася ім, і прасіла, каб купіў ёй некалі такія ж каралі, бо насіць яго баялася: адбяруць родзічы бая. А можа, лепей падышлі б жанчыне камяні аль-мазінадж — яны бываюць і агніста-чырвонымі, і ружовымі, і зялёнымі, як аліўкі, і ад іх святла чорныя, бяздонныя вочы яе заззялі б новым святлом, які зачароўвае яго, Алексу. Але і так цягнецца да яе, як цягнецца жалеза да таямнічага каменя, якім валодаюць старадаўнія халдзеі...

Праз тры дні яны былі ў маленькім кішлаку, што як прыляпіўся да вялікай пустыні. Там, пад Бухарой, ужо ішлі дажджы і апошнія пасмы белага лёну выцягвалі з калючых каробачак жанчыны, а тут яшчэ цёпла і прыветна гайдаліся сярод зеляніны цяжкія плады граната, тандыры пасярод двароў курыліся салодкім і духмяным пахам хлеба, а на патрэсканых дувалах ляжалі і млява даспявалі вінаградныя гронкі.

Сонца амаль схавалася, апошнія промні яго блішчалі на купале мячэці. Дом, у які накіраваліся Алекса і ягоны гаспадар, сустрэў іх плачам і крыкамі.

— Памёр! Памёр Абу-ль-Хасан! — ірвучы на сабе валасы, галасіла схуднелая, выпетраная на трэску, сівая кабета, і з-пад чорнага покрыва на яе твары былі відаць чырвоныя палосы ад кіпцюроў.

«Галоўная плакальшчыца!» — здагадаўся Алекса. Кашчавы чалавек з тонкімі вуснамі і поглядам спадылба варожа адсунуў Алексу, паклаў руку на плячо Юсуфу.

— Алах забраў твайго сына да сябе. Радуйся!

Юсуф пабялеў, рукі яго бяссільна апусціліся, і сляза пакацілася па шчацэ.

— Спазніліся...— прашаптаў ён.— Але што ж... Будзеш, лекар, усё роўна маім госцем...

Мёртвы сын яго ляжаў на стале, абмыты і апрануты ў сіняе. Твар яго быў жаўтлявым і пакутніцкім, нібыта і сапраўды забраў яго душу не анёл смерці Азраіл, а страшныя чорныя джыніі. Алекса пастаяў каля яго, цьмяна гледзячы на спакойны, раўнадушны да ўсяго твар, і ўжо збіраўся падацца ў пакоі для гасцей, але ці то падалося яму, ці то было сапраўды — вейкі як быццам слаба страпянуліся.

Алекса хутка нахіліўся, прыпаў вухам да грудзей. Глухая, ледзяная цішыня... Але што гэта — нібы аднекуль здалёку, так, што падалося — гэта недзе ўнізе варухнуліся ў падзямеллі чорныя духі — гарцукі — уздрыгнула, тахнула нешта. Алекса хутка абмацаў рукі пакойнага. Яны былі халодныя, але, здаецца, усё-ткі ў іх не было той ледзяной, страшнай, абсалютнай халадэчы, якую нясе з сабою смерць.

— Не чапай майго сына, не чапай! Ён ужо стаіць на мосце Аль-сірат і чакае Страшнага Суда! — закрычала жанчына ў чорным, учапілася за рукі Алексы. Выццё ў пакоі ўзрасло, нібыта загудзеў магутны пчаліны рой. Жанчыны абступілі Алексу, варожа бліскалі іх вочы.

— Ён жывы! — прагаварыў Алекса, але жанчыны не слухалі яго, галасілі. Лекар выйшаў з пакоя, амаль крыкнуў Юсуфу:

— Здыміце яго са стала! Я разатру яго, дайце толькі болей віна і масла!

Стары Юсуф кінуўся перад ім на калені:

— Сынок! Уратуй яго! Адзіная мая надзея і апора! Шэсць сыноў забралі ў войска, двое памерлі самі. Дзе яны, мае дзеці, дзе мая кроў! А цяпер і гэты... Уратуй!

Але зноў набеглі жанчыны, і злосны голас кашчавага чалавека ў высокай белай чалме перакрыў усе галасы:

— Я, мула Ахмад, кажу табе, неразумны — твой сын памёр! Калі б ты прыехаў да заходу сонца, ён быў бы ўжо ў зямлі!*

Цішыня запанавала вакол. Алекса падняў вочы — перад імі ўжо стаяла некалькі мужчын, нядобра зіркалі на госця.

Юсуф падняўся з каленяў, замармытаў з плачам:

— О гаспадзін, гэты чалавек падаў мне надзею, якая акрыліла мяне, і я згубіў галаву ад радасці!

— Ты сапраўды яе згубіў, калі паехаў шукаць лекара, якога не ведае ніхто — ні з якога ён роду, ні якія ў яго лекі. Тым болей саграшыў ты, што прывёз яго з пасёлка нячыстых абмывальшчыкаў трупаў. Ці пускаць цябе ў мячэць пасля гэтага? І ці чытаць над тваім памёршым сынам малітвы? Што, калі гэта не пажадана Алаху?

Юсуф зноў кінуўся на калені, цяпер ужо — перад мулою. А той, варожа гледзячы на Алексу, загадаў яму:

— Ідзі прэч адсюль, нячысты парс!

— Парс! — зашапталіся ўсе наўкол. — Вогнепаклоннік!

І стала пуста вакол Алексы, як быццам ён быў зачумленым.

— Добра,— сказаў ён глуха.— Я пайду. Але па ўсім шляху, дзе пайду, я раскажу людзям пра кішлак, дзе запрошанага ў дом госця выганяюць, не даўшы яму нават разламаць ляпёшку!

І накіраваўся да дзвярэй.

— Пастой! — кашчавы чалавек раздумваў.— Я сказаў табе ісці прэч, але не сказаў — калі. Сапраўды, ты ў нас госць. Але ж ты бачыш — чалавек памёр, яго пазваў анёл смерці Азраіл.

Ён падумаў яшчэ.

— Юсуф, ты накорміш гэтага чалавека, але заўтра на світанні хай пакіне дом. І хаця ён не вылечыў твайго сына, ты ўсё роўна дасі яму за тое, што прыехаў, чатыры дзінары.

— Чатыры дзінары! — залямантаваў Юсуф.— Але дзе мне ўзяць іх?

— Тады аддай яму коней альбо нешта са свайго дома, каб ніхто не мог сказаць, што мы — няўдзячныя. Ідзі адпачывай, парс, але адпачывай у самым далёкім пакоі. А я ачышчу яго пасля ад твайго дыхання!

Алекса еў халодны рыс, гнеў душыў яго. Гнеў і сум па Віспры.

Толькі праз тры дні і тры ночы ён убачыць яе — доўгія, да пят распушчаныя валасы, цвёрдыя грудзі, агромністыя вочы...

Але калі ён лёг спаць, прыйшлі другія думкі. Ён мог бы пакляcціся, што чалавек, які ляжаў на стале нябожчыкаў, яшчэ жывы. Ды што магло б ажывіць яго? Так, магчыма, віно і масла. Магчыма... Памяць падказвала нешта, але што — ён ніяк не мог успомніць. З тым і заснуў, спадзеючыся, што заўтра раненька сыдзе з гэтага дома, забудзе крыўду, што пякла яго, як пячэ язык горкі чырвоны перац.

Але сярод ночы прачнуўся. Галава яго была яснаю, як ніколі, і старонкі, якія перапісваў доўгімі зімовымі начамі ў кішлаку, нібы ажылі і паўсталі перад яго позіркам... Ён устаў.

Ноч была месячная, ціхая. Ледзь чутна шалясцела над домам магутная чынара. Спалі птушкі. Цёплым пахам жытла і дымам цягнула са двара — там таксама спалі людзі.

Асцярожна пераступаючы босымі нагамі, ён пайшоў да

пакоя, дзе ляжаў сын гаспадара, баючыся, каб не засталося там плакальшчыц. Але Юсуф, відаць, жыў не надта багата — плакальшчыцы сышлі, каб зноў прыйсці раніцою, бо ноч не была аплочаная.

Ля стала Алекса яшчэ пастаяў крыху, вагаючыся — ці варта ўвязвацца ва ўсё гэта? Але — ці можна сысці са двара, калі не ўваскрасіць агеньчык, што дадзены кожнай жывой істоце, каб радавалася яна свету і ўсяму, што ёсць прыгожага вакол?!

«Але навошта, навошта мне гэтыя людзі? — крычала ў ім нешта.— Яны няўдзячныя і глухія да неба над іхнімі галовамі, але затое, нібы свінні, думаюць пра карыта, якое іх накорміць і напоіць. А калі ён не ажыве?!»

Нешта зашапацела ў куце, цёмны цень пасунуўся па пакоі. Алекса адступіў на крок.

— Гэта я, сынок,— зашаптаў Юсуф.— Не спіцца мне. Адзіны сын, апошняе семя, апошняя надзея! Але мула... Яго праклянцце — і нам тут не жыць... Што ж мне рабіць, сынок, што?!

— Жывы сабака лепей за мёртвага льва*,— успомніў Алекса ўсходнюю прымаўку.— Ці не так? Хочаце, каб сын ажыў?

— А ты... ты і праўда мусульманін? Мула казаў, што ты парс?

— Ужо баішся... Ну і што з таго, хто я? Ты ж хочаш, каб сын быў жывы?

Юсуф агледзеўся. Месячнае святло падала на яго серабрыстую бараду, на вочы, у якіх чыталася цяжкая мука... Але вось ён рашуча сказаў:

— Паспрабуй, сынок, у імя Алаха! Я заўсёды быў праверным мусульманінам, я і зараз буду стаяць каля цябе з сурай, якую напісаў Алах! Калі ты — з магаў або джынаў, ты пачарнееш і рассыплешся перад імем Алаха, ці не так?

— Так,— весела згадзіўся Алекса, і, калі гаспадар пайшоў з пакоя, відаць, рыхтуючыся прынесці свяшчэнную суру, ён шэптам запытаўся:

— А бізун ёсць у цябе?

— Што? Бізун? Навошта? — здзівіўся Юсуф.

— Прынясіце. Калі ён не ажыве, гэты бізун заходзіць па маіх плячах,— прашаптаў яму Алекса.

Калі ж цяжкі, вялікі бізун быў прынесены і Юсуф, працягнуўшы суру над галавою сына, стаў над ім, Алекса скамандаваў:

— А цяпер... цяпер дапамажыце зняць яго са стала, і што б вы зараз ні ўбачылі, маўчыце. Зразумела?

Твар Юсуфа стаў змрочным:

— Дык, можа, ты і сапраўды ашукваеш мяне?

— Паслухайце, бацька! Не перашкаджайце. Суру, калі хочаце, пакладзіце сыну ў халат. Няхай сапраўды асцеражэ яго, а мяне ператворыць у попел. Але... зачыніце дзверы — і маўчыце. Маўчыце, бо пагубіце сына!

...У кнізе пра лекараў-бедуінаў было сказана, што пульс пачне прамацвацца пасля дзесяці ўдараў. Але цела не варушылася, і біцця крыві не было чутно. Тады Алекса, сцяўшы зубы і сабраўшы ўсе сілы, яшчэ дзесяць разоў моцна перацяў нерухомае цела бізуном. Пасля — яшчэ*.

Стары Юсуф сядзеў як каменны. Толькі калі пад дзвярыма заварушыліся і жаночы голас запытаўся, што тут адбываецца, ён адгукнуўся:

— Маўчы, старая!

І — зноў дзесяць удараў выцертым, але моцным скураным бізуном па голым целе.

І — як цуда: нябожчык застагнаў, паварушыўся. Юсуф кінуўся да яго, затармасіў:

— Сын мой! Ачніся, вярніся да нас! Агню! — закрычаў ён яшчэ мацней.

Але людзі, што сабраліся ля дзвярэй, стаялі моўчкі, моўчкі глядзелі на Юсуфа і яго сына, які, хістаючыся, сеў, пасля жалобна заплакаў, як дзіця абмацваючы сябе:

— Я жывы! Жывы, а вы мяне пахавалі!

Алекса пайшоў, знайшоў ля ачага смаляк, запаліў свяцільнік. Людзі расступаліся перад ім, страх панаваў вакол, ахутваў яго і як быццам раздзяляў з тутэйшымі.

— Наш мула — сваяк галоўнага лекара,— ціха сказаў Юсуф, які пасля радаснага ўзбуджэння зноў сеў, павесіўшы галаву.— І ён не даруе табе, сынок, што ты пасарамаціў ягонага сваяка. Таму — збірайся, я дам табе каня і тое, што змагу сабраць з грошай. Сам бачыш — я небагаты. Але сын... Сын адробіць усё, што я патрачу на яго. Ён малады і дужы...

Алекса выехаў з кішлака перад світаннем. Але, відаць, мула даведаўся аб усім, што адбылося, адразу ж. Не ад'ехаў Алекса і трох фарсангаў, як у першай жа прыдарожнай чайхане яго схапілі стражнікі.

А вечарам, апаломлены, ён ужо сядзеў у зіндане — глыбокай чорнай яме, адкуль ледзьве бачна было сіняе неба. Ныла цела — пасля таго як кадзі прачытаў пры-

гавор — «за здзекі з нябожчыка і ўмяшальніцтва ў справы алаха», лекара добра-такі ссеклі бізунамі. Алекса ведаў — каб галоўны лекар, якога прывёў мула, падняў нябожчыка, гэта было б аб'яўлена цудам. А так — бядняк, не вядомы нікому! З такім можна рабіць усё, што хочаш — выкінуць на дарогу, збіць бізунамі, зняславіць! І нікому, нікому ён тут не патрэбны! Навошта згадзіўся ехаць, нашто пакінуў Віспру! Але душа яго маўчала, пакуль уяўленне малявала яе — зноў і зноў... Балела цела, знямога ўсё мацней апаноўвала яго, млявасць засцілала вочы. Побач стагналі, варушыліся, скрыгаталі і спявалі нешта дзікімі галасамі яго таварышы па зняволенні — відаць, некага з іх пакінуў розум... І гэта страшнае месіва з чалавечых целаў, пах нямытых анучаў, гнойных ран і яшчэ асобна — пах чалавечага няшчасця і бяды — паступова стаў даходзіць да ягонай свядомасці. Ён напружыў зрок, прыгледзеўся — у змроку праступілі людзі. Побач з ім сядзеў, скурчыўшыся, немалады дэхканін з адрачоным, абыякавым да ўсяго тварам. Голыя яго плечы тырчалі з лахманоў, дзівячы нават звыклае вока страшнай худзізнай.

— Паслухай, ці можна тут знайсці які глыток вады? — звярнуўся да яго Алекса.

Дэхканін павярнуўся, вочы яго бліснулі звярынымі агеньчыкамі.

— Замаўчы, паршывы парс! Ад вас, ад якіх адвярнуўся нават Алах, усе нашы беды!

Алекса адсунуўся ад яго, азірнуўся. Але людзі вакол сядзелі з абыякавымі тварамі, ніхто не паварушыўся, не сказаў ані слова. Яму стала страшна і горка. Нават тут, на краі смерці, людзі не могуць адчуць сваю еднасць! Нават тут яны не могуць набрацца спакою і альбо змагацца за жыццё з апошніх сіл, альбо мудра і дастойна сустракаць смерць! Аднолькавыя яны, людзі, аднолькавая ў іх і радасць,— а лютуюць, грызуцца між сабою, як звяры!

Ды сам ён хацеў жыць. Жыць, каб узяць тое, што можа засвоіць і зразумець, і з гэтым вярнуцца на радзіму. Хаця б апраўдаць сваё жыццё! І таму ён вырвецца адсюль, не дасць згнаіць сябе ў зіндане! Не, цяпер ён цвёрда верыў — смерць яго не тут, не ў бязводнай пустыні, не на дарозе, чый цяжкі і горкі пыл асядае пад нагамі, як быццам і сапраўды напоўнены дашчэнту тленам прайшоўшых па гэтай зямлі людзей! Ён памрэ — т а м...

Там, дзе звіняць заінелыя бомы на грывах ільсняных коней...

Дзе над палазамі ў марозны дзень выблісквае сонца і рассыпаецца тысячамі іскраў па заснежанай раўніне...

Дзе дзяўчаты з шэрымі і сінімі, як кветкі лёну, вачамі палошчуць ў Дзвіне бялізну, і грукат пранікаў громам аддаецца далёка ў сцішэлых увечары нізінах...

Дзе чорная скібіна зямлі цяжка паварочваецца пад жалезным лязом, каб пасля вырасціць у сваім лоне і аддаць грузныя, прапахлыя хлебам каласы...

Дзе чалавеку жывецца цяжэй — але і лягчэй, таму што жыццё там, у суровых прасторах, сярод звяроў і балот, даражэйшае, яго цэняць болей, чымся тут. Там чалавек не адвык яшчэ ад думкі, што ён і зямля — адно, што ніхто яшчэ не араў тваё ляда і што, адабраная ў лесу ці балота, зямля належыць табе... Зямля выбірае сілы. Людзей не хапае на яе ўсю...

Чаму там, у Полаччыне, здаецца, што яна бясконцая, што няма ёй ні канца ні краю?

Чаму тут, дзе пустыня з усіх бакоў падступае да аазісаў і спрабуе захапіць усё, што доўга і цяжка адбіралася ў яе,— чаму тут зямля здаецца маленькай, кожны яе лапік — цудам?

...Ён забыўся на ўсё, разважаючы над гэтым, і, можа, тут, у цёмным зіндане, упершыню адкрылася яму ісціна: усё патрэбнае чалавеку — у ім самім, ён можа змясціць у сабе ўвесь свет, які ніхто не адбярэ... «Царства божае — унутры нас» — чамусьці ўспомніліся яму словы, якія мільганулі ў свой час міма, здавалася, што ён іх і не запомніў, а вось усплылі тут, у цёмным задухлівым зіндане, сярод няшчасных, нібы і сапраўды ўжо з пераламанымі хрыбтамі людзей.

Нечакана для сябе заснуў, а прачнуўся ад таго, што вакол паднялося выццё, шалёны клубок людзей вішчаў, іраваў адзін у аднаго нешта вельмі ж смярдзючае, слізкае — відаць, стражнікі скінулі кавалкі нейкай тушы, што паспела пратухнуць. Алекса міжволі здрыгануўся, калі адзін такі слізкі кавалак упаў яму на галаву і адразу сюды кінуліся людзі, ледзь не затаптаўшы яго ля сцяны, мацаючы рукамі ў гадкай, пахкай жыжы вакол.

Яго званітавала, закружылася галава. Адпоўз убок, сочачы за тым, як ляцелі зверху кавалкі гавяды, каб не дакрануўся каторы да яго. Успомніў, што ў поясе ёсць дробныя манеты. Дачакаўся, пакуль сціхне енк, прагнае чаўканне навокал і стогны. Крыкнуў наверх:

— Прадайце ляпёшку! Толькі адну ляпёшку і глыток вады!

Вартаўнік наверсе нарэшце схіліўся над ямай:

— Паршывы пёс, мы яшчэ не ўсё ў цябе забралі?

— У імя Алаха, вялікага і міласэрнага, толькі адну ляпёшку! — крыкнуў Алекса.

Наверсе параіліся, пасля скінулі лесвіцу. Алекса палез наверх, і адразу ж у лесвіцу ўчапіліся людзі, адпіхваючы яго, таксама папаўзлі да святла.

— Вы, адроддзе Ібліса, прэч! — зараўлі зверху.

Але людзі лезлі ўпарта, з белымі, няўцямнымі вачыма — туды, наверх, да сонца, да святла!

Тады лесвіцу моцна страсянулі — раз, другі... Людзі адляцелі прэч, з імі Алекса.

— Першаму, хто тут паявіцца, праламлю галаву! — раз'юшана зароў адзін з варты, скамандаваў Алексу:

— А ты — лезь. Але калі не будзе манеты, можаш развітацца з тваім паршывым жыццём!

Алекса лез, стараючыся, каб вочы яго прывыклі да святла, пакуль не з'явіцца перад стражнікамі. Ён павінен паспець — інакш усяго вывернуць, прамацаюць кожную складку на адзенні і зноў выкінуць уніз, у смярдзючую яміну, адкуль дарогі да жыцця няма. Ён павінен глядзець ім у вочы, павінен гаварыць з імі. Нездарма ж столькі гадоў раздумваў над тым, што такое чалавек, у чым яго сіла і слабасць... Нездарма ж шукаў і спрабаваў сабраць у адно таямнічую сілу, якою надзелены, як гавораць свяшчэнныя кнігі Авесты, кожны з людзей, але не кожны пра гэта ведае і здагадваецца...

Ён працягнуў манету галоўнаму са стражнікаў, які, здзекліва рагочучы і прадчуваючы вясёлую хвіліну, падміргваў сваім хаўруснікам. Працягнуў і ўпіўся ў яго позіркам.

— Ты, Аль-Джасас, не ашукаеш мяне, хаця і лічыш паршывым парсам, магам! Ты дасі мне ляпёшку — толькі адну ляпёшку,— каб я змог есці не здыхляціну, а святы хлеб, які гэтак жа дарагі мне, як і табе, мусульманіну, унуку бедуіна!

Здзеклівая ўсмешка спаўзла з твару Аль-Джасаса. Ён машынальна ўзяў манету ў адзін фельс, стаяў, не адрываючы вачэй ад дзівоснага палонніка. І Алекса глядзеў не міргаючы.

— Дай хутчэй мне ляпёшку, і я палезу назад у зіндан!

— Дайце яму! — Аль-Джасас махнуў рукой, і вартаў-

нік хуценька расхінуў белую тканіну, падаў Алексу вялікую ляпёшку, пасыпаную кунжутам.

— Дзякуй, бацька,— пакланіўся Алекса пажыламу стражніку. — Дзякуй і прымі параду: еш смажаную саранчу з-пад возера Кацірані! Тады ты, магчыма, пражывеш болей чым год, інačай вадзянка цябе даканае!

Рука стражніка здрыганулася, цёмныя, апухлыя векі затрапяталі, ён міжволі выпрастаўся.

— Наш лекар адмовіўся ад мяне, а ты, бадзяга, ведаеш, што ў мяне вадзянка? Адкуль?

— Не трэба дзесяць пар вачэй, каб убачыць твой апухлы жывот і чорныя цені пад вачамі! Яшчэ раз кажу табе — не праводзь ночы над чашай з віном, а еш смажаную саранчу, і толькі з возера Кацірані!

І ён узяўся за драбіны.

— Эй, ты, паслухай!..— нерашуча аклікнуў яго старэйшы стражнік. Алекса абярнуўся, глядзеў моўчкі.

— Ты адкуль ведаеш, што мяне клічуць Аль-Джасасам і што я ўнук бедуіна?

— Мне падказалі зоркі,— спакойна адказаў Алекса і паглядзеў прама ў вочы Аль-Джасасу.— Яны, праўда, амаль што тут не бачныя, але ўсё-такі нешта можна зразумець, асабліва калі не спаць усю ноч у вашым смярдзючым зіндане.

— Калі ты ведаеш, аб чым гавораць зоркі, чаму ж не выберашся з цямніцы? — усё яшчэ здзекліва, але з пэўным адценнем павагі запытаўся пажылы стражнік.— Мы, якія не ўмеем гэтага, трымаем цябе пад аховай, ты ў нашай уладзе.

— Мухамед таксама бег ад ворагаў, хаваўся ад тых, хто хацеў яго забіць, хаця ён ведаў, што не памрэ. Я паступаю гэтак жа, хаця я бедны лекар, які вылечыў хворага мусульманіна і за гэта атрымаў вось такую падзяку.

Стражнікі пашапталіся, пасля адзін з іх выступіў наперад:

— Калі ты ведаеш, чым можна дапамагчы хвораму, падкажы мне, чаму ў мяне хістаюцца зубы, як гнілыя падпоркі, і што можна зрабіць, каб яны зноў сталі моцнымі?

— Я змог бы даць табе лекі, але для гэтага мне трэба мець міскаль ружавай вады, пчалінага воску і горнай смалы. І магчымасць добра ўсё вымераць так, каб лекі памаглі, а не пашкодзілі. А для таго патрэбна, каб душа была спакойнай і не абцяжаранай клопатамі і мукамі. Тут жа нічога гэтага няма.

І ён зноў накіраваўся да лесвіцы. Стражнікі стаялі, аслупянела глядзелі, як ён спакойна спускаўся ўніз.

Але не прайшло і гадзіны, як яго зноў выклікалі наверх. Аль-Джасас адвёў яго ў цесны, без вокнаў, закуток, дзе стаяла лава-супа. Калісьці тут, відаць, быў пакойчык для допытаў і катаванняў: у сцяне віднеўся тоўсты металічны круг, побач — іржавы ланцуг. У кутку стаяла жароўня з вуголлем, пакрытым даўнім пылам.

— Будзеш тут жыць...— сказаў яму Аль-Джасас.— Будзеш тут жыць і — рабіць лекі. За гэта мы будзем карміць цябе і нават час ад часу частаваць віном, а магчыма, і прыводзіць жанчыну. Але ніводная душа не павінна ведаць пра цябе, бо для іншых ты даўно памёр. Калі ты будзеш паслухмяным, праз нейкі час мы выпусцім цябе, у імя Алаха вялікага і міласэрнага. А цяпер — вось табе воск, смала, вада з ружаў і памеранца. Рабі лекі для Ізмаіла, а там пабачым!

Алекса зразумеў — яны вырашылі зрабіць з яго ўласнага нявольніка, каб разам карыстацца вынікамі яго работы. Ён агледзеўся. Тут таксама турма, але яна хаця б не ўнізе, адкуль вылезці немагчыма. Воля тут бліжэй — яна вось за гэтымі зачыненымі дзвярамі. Можа, дапаможа яму Велес, і некалі адчыняцца дзверы, выведуць яго адсюль!

Пацягнуліся дні, доўгія, але занятыя работай. Стражнікі час ад часу прыводзілі ў памяшканне людзей з бліжэйшых кішлакоў. Аль-Джасас аглядаў іх, выпытваў прызнакі хваробы. Алекса, прыкуты тоўстым ланцугом, сядзеў за адчыненымі дзвярамі, глядзеў у шчыліну, слухаў. Пасля дзверы зачыняліся, яму прыносілі ўсё патрэбнае для прыгатавання лекаў, і ён расціраў у белай ступцы міндаль, воск, арэхі, настойваў ваду на кветках, гатаваў адвары. Цэлымі днямі, прыкуты ланцугом за нагу так, што ледзь дастаcomponent да парога, ён сядзеў над сталом, раздумваў, парыў травы. Пакойчык ягоны змяніўся, у ім запахла жылым, пыл быў старанна вымецены стражнікамі, якія, паступова атрымліваючы ўсё большыя даходы, берaглі Алексу, як берaглі б пародзістую жывёліну. Хворых прыходзіла пад зіндан усё болей, Аль-Джасас рабіўся ўсё таўсцейшым... Алекса аднойчы пацікавіўся, чаму сюды ні разу не заглядаў кадзі — суддзя. Што ж ён, не ведае, што зіндан стаў Мекай для навакольных хворых? Але маладзенькі стражнік, які заўсёды захоплена глядзеў на яго,назіраючы за таямнічымі рухамі палонніка, шэптам, касавурачы-

ся на дзверы, расказаў, што суддзя атрымлівае сваю долю з даходаў і таму нічога не заўважае. Бярэ і мула, які аднойчы ў мячэці сказаў, што на стражніка Аль-Джасаса лягло блаславенне Алаха і ён атрымаў ад нябёсаў падарунак — разумець таямніцы хвароб.

Ішлі дні, але аднойчы той жа маладзенькі стражнік сказаў Алексу, што яго шукаў малады мусульманін, якога ён выратаваў ад смерці. Стражнікі груба прагналі хлопца прэч, крычучы, што прыезджы лекар даўно п'е ваду з Каўсара — райскай крыніцы, але ён, Астар, непрыкметна шапнуў яму, што лекар жывы.

— Што яму трэба ад мяне? — раздумліва прагаварыў Алекса.— Можа, хоча спагнаць грошы, якія бацька аддаў мне з гарачкі? Але ў мяне няма анічога, нават фельса, а ежу, якую вы прыносіце мне, можа вытрымаць толькі ішак.

— Не ведаю,— пацісnуў плячыма юнак.— Толькі хлопец гэты вельмі прасіўся да цябе, ака. Ён даваў мне грошы, але я не згадзіўся, сказаў, што і задарма правяду яго, калі ўсе паснуць і ноч будзе цёмнай.

І сапраўды — праз тры ночы ў дзверы нешта зашкраблося, пасля яны амаль нячутна расчыніліся. У праёме дзвярэй устаў той самы хлопец, чые запалыя вочы маглі б ніколі ўжо не раскрыцца для жыцця, каб не Алекса.

Свяцільня патрэсквала, масла ад белай бавоўны было дрэнным — стражнікі эканомілі на ўсім, каб мець болей прыбытку.

— Ака,— хлопец пачціва схіліўся перад Алексам, зашаптаў: — Я прыйшоў, каб памагчы табе. Збірайся! Да раніцы мы ўжо будзем далёка адсюль.

Алекса некалькі імгненняў глядзеў на яго, пасля не вытрымаў:

— Ты што ж, хочаш паехаць са мною?

— Мула аб'явіў, што ты — злы чараўнік і вярнуў мяне з таго свету. І цяпер усе прававерныя мусульмане нашага кішлака староняцца мяне, нібыта я сын д'ябла. Мне не жыць там! Бацька пасівеў з гора і кажа, што яму б лепей бачыць мяне мёртвым.

Дзверы адчыніліся, малады стражнік прыгразіў, каб збіраліся хутчэй, калі хочуць уратавацца. Ён ляжа разам з астатнімі, іначай, калі западозраць яго ў дапамозе бегляку, тут жа паставяць на дыванок крыві, і райскую ваду з Каўсара давядзецца каштаваць раней часу...

— Я глядзеў на тваю работу, ака,— прызнаўся ён,

праводзячы Алексу і ягонага выратавальніка і зачыняючы за імі дзверы,— глядзеў і спадзяваўся, што навучуся ад цябе ўсяму, што ты знаеш. Але няхай ты пойдзеш адсюль, станеш вольным, чым згінеш, набіваючы кішэні прайдзісветам. Я таксама пайду адсюль. Пайду, бо не магу слухаць крыкі людзей. Пайду, хаця бацька мой заплаціў нямала, каб уладкаваць мяне ў стражнікі, бо месца тут даходнае. Але я хачу дапамагаць людзям, а не мучыць іх...

Едучы ў цёмнай начы па камяністай дарозе і пільна слухаючы, ці не раздасца крык і тупат праследавацеляў, думаў Алекса, што людзі заўсёды дзеляцца на добрых і злых, якая б ні была ў іх скура і ў якім кутку зямлі ні жылі яны. Юнак вызваліў яго, хаця выратаванне было такім горкім. Можа, ён стане сябрам? Такім сябрам, а ў рэшце рэшт пабрацімам стаў для яго Нігмат... Не ўбачыць ён ніколі ні яго, ні Апак і Нармурада... Разлука прабудзіла ў ім лепшае, і ён разумеў, як цяжка ўтрымаць душу на вышыні. Як цяжка на ёй асядае каламуць похаці і сласцялюбства!

Коні былі тыя ж, што некалі даў яму Юсуф, бацька Абу-ль-Хасана. Пра гэта ўжо на адпачынку, калі яны на світанку ад'ехалі ўбок і селі ля арыка, сказаў яму хлопец. Сказаў і пра тое, што выкупіў коней у варты, што доўга чакаў, як можна падступіцца да страшнага зіндана, у які ўпяклі Аль-Ісу мула і лекар.

— Бацька мой, ірвучы валасы, праклінаў той дзень і час, калі паехаў да цябе,— расказваў Абу-ль-Хасан.— Але ён і радуецца адначасна. Бо, як ён кажа, лепей мець жывую лісу, чым мёртвага ільва. Я цяпер зышоў ад яго — але ж зоркі паварочваюцца на небе, лёс падступае да чалавека альбо адступаецца ад яго, і тады ўсё мяняецца. Можа, зноў мая цана паднімецца — а ад мёртвага ўжо нічога чакаць нельга. Але я табе скажу — калі б я зноў памёр, не адплаціўшы табе — я крыкнуў бы там, ля моста Аль-Сірат, што лепей служыць Іблісу, чым... чым Алаху, раз так!

Голас яго абарваўся. Расчулены, Алекса паляпаў юнака па плячы.

— Я вяртаюся на радзіму, а яна ў тысячах і тысячах фарсангаў адсюль. Нам нядоўга быць разам.

— Хіба ты не з кішлака Шырс?

— Не, я не парс, не маг. Я просты чалавек, такі ж, як ты. Але я ўвесь час слухаю сябе, сваю душу і не даю ёй заплыць тлушчам. Таму яна стала такой, якой павінна

быць у чалавека — чуйнай да ўсяго, што робіцца вакол — да крыку птушак, пошуму дрэў. Асабліва ж — да людзей. Я гляджу на чалавека, слухаю яго і нібы раблюся ім — з яго́ным тварам, ягонымі клопатамі і, вядома ж, яго болем. Вось тады, калі злаўлю той боль — а ён, Абу-ль-Хасан, ёсць у кожнага, — вось тады я адчуваю, што трэба зрабіць, каб дапамагчы яму. І ў гэтым няма нічога дзіўнага і незвычайнага.

— Быць як другі? Быць у іншым? Не, гэта не па мне! Я ніколі так не змагу.— Я — Абу-ль-Хасан, і болей ніхто!

— Хіба ты толькі Абу-ль-Хасан? Ты проста сёння ім называешся. А ўчора ты, магчыма, быў пылам, па якім крочыла войска Іскандзёра Двухрогага. А можа, ты быў царом Сіявушам, цела якога, высушанае сонцам і разнесенае звярамі, вырасціла цудоўнай красы кветкі? У свеце — адна душа, а мы ўсе, усе тыя, хто жыве на зямлі — толькі часткі гэтай душы. Вось чаму людзі павінны быць добрымі адзін да аднаго. Вось чаму павінны слухаць кожны сваю душу — у ёй водгукі адной музыкі...

— Як прыгожа ты гаворыш! Наш мула — таксама многа расказвае пра свет. Але ён вучыць, што толькі адзін народ мае права на жыццё — гэта тыя, хто верыць у Алаха, астатнія — няверныя, іх трэба забіваць. Ён казаў, што, калі мусульманін заб'е няварнага — яму даруецца адзін грэх.

— А чаму ж ты, мусульманін, ратаваў мяне з зіндана, чаму ты не слухаўся мулы?

Абу-ль-Хасан сумеўся, пасля ўбачыў твар Алексы і сказаў задуменна:

— Вы смяецеся, настаўнік, але бацька гаворыць, што некалі, пры Сіявушу, калі жыў яшчэ багатыр Рустэм і верныя рыцары Ірана і Турана, вернасць слову і гонару цаніліся вышэй, чым усё астатняе. Бацька гаворыць — таемна, калі нас ніхто не чуе — што Алах патрабуе многага, што не стасуецца з чалавечым сэрцам, і што ў нашых жылах цячэ кроў аднаго з далёкіх патомкаў рыцараў, якія ваявалі разам з Рустамам. А мула наш — хітры і вераломны, ён дзеліць даходы з лекарам, збірае даніну нават з вартаўнікоў зіндана, якія абіраюць родзічаў няшчасных вязняў. Вось чаму бацька паехаў шукаць для мяне іншага лекара. Але ўсё-такі мула перахітрыў яго.

— Не, гэта мы разам перахітрылі мулу, а заадно і прагнага лекара, які многага не ведае. А цяпер давай спаць, бо шлях у нас доўгі і небяспечны, і мы яшчэ не вырашылі самага галоўнага — дакуль ты пойдзеш разам са мною,

дзе я магу прыстроіць цябе, браток, бо ты яшчэ патрэбны і свайму бацьку, і сваёй зямлі...

Такія бяседы вялі яны падчас дарогі, а яна, дарога, усё вяла і вяла наперад — міма палёў выспяваючага рысу, міма пажаўцелых за доўгае спякотнае лета кустоў тутаўніку, міма жоўтых, як кветкі шафрану, і аднастайных, як раўніна ў спёку, дувалаў, за якімі хаваліся хаткі рамеснікаў і кустоўе вінаграднікаў. Слізгацелі ад дзвярэй да дзвярэй жаночыя постаці ў каляровых і белых покрывах, з чорнымі сеткамі на галовах, несучы на плячах кошыкі з ягадамі і ляпёшкамі.

— Мусульмане схавалі твар жанчыны,— думаў Алекса,— таму, што зрабілі жанчыну сваёй прыналежнасцю, нібы забыўшыся, што ў яе таксама ёсць душа і яна такая ж несмяротная, як і ў кожнага з іх. Багацце разбэшчвае, каран узаконьвае: мужчына можа мець многа жанчын, і ён карыстаецца гэтым правам. У гарах твар жанчыны адкрыты ветру і сонцу, бо яна бліжэй да прыроды і ўсяго існага, і яе не паспелі пераламаць і зрабіць ніжэйшай за сябе...

Абу-ль-Хасан думаў пра тое, што свет, аказваецца, можа быць прыветным да яго, і што хутка ён убачыць Бухару, якую, магчыма, ніколі б за ўсё сваё жыццё не пабачыў. Што наперадзе? Ён глядзеў на дзіўнага загарэлага чалавека з блакітнымі, як бадахшанскі лазурыт, вачамі, які мог адчуваць чужую душу, як сваю, і сэрца яго поўнілася жаданнем нечага незвычайнага... Яму хацелася то імчаць з крывою шабляй на баку, палохаючы пакорлівых чалавечкаў, што туліліся ўнізе, то думалася пра тое, як нялёгка і немагчыма жыць так, як імкнецца жыць гэты дзіўны парс — не, не парс, а чужаземец з невядомых і неспасцігальных даляў — і што сам ён хоча аднаго: пражыць сваё жыццё цікава і незвычайна...

У Бухары яны спыніліся ў караван-сараі, што стаяў ля самага маўзалея Ісмаіла Самані. Адсюль было недалёка і да крэпасці — Арка, унутры якой месціліся дамы імяністых людзей Бухары і двор самога куш-бегі — галоўнага лоўчага.

— Няўжо ты, ака, убачыш самога Шамс-ал-Мулка? — з глыбокай пашанай і страхам запытаўся Абу-ль-Хасан, калі іх правялі ў невялічкі пакой на другім паверсе і падалі гарачы рассыпчасты плоў.

— Не,— усміхнуўся Алекса.— Такі нікчэмны і просты чалавек, як я, не можа ўбачыць правіцеля Бухары.

— Ты — нікчэмны? — Абу-ль-Хасан паглядзеў на яго з пашанай.— Не, ты дастойны стаць вялікім візірам, мець многа грошай, нявольнікаў.

— А ты хочаш быць багатым?

— Канешне! Хачу есці штодзень тлусты плоў, лепшыя гранаты з Харасана! І каб кожны дзень танцавалі перада мной танцоўшчыцы. Во гэта — сапраўднае жыццё!

Алекса ўспомніў, як марыў быць воінам, стаць лепшым у княжацкай дружыне... Як гэта ўсё цяпер далёка ад яго!

— Працуй, набывай багацце...— ціха сказаў хлопцу.

Але той рассмяяўся непачціва.

— Няўжо, Аль-Іса, не заўважылі вы, што працай багацця не нажывеш?! Багатым становіцца купец, гандляр. Ды ў мяне няма грошай, каб пачаць гандаль. Яшчэ — высакародны. Яшчэ — рабаўнік, але небяспечна — паплацішся галавой. Яшчэ...

Алекса перабіў яго:

— Мне заўтра рана ўставаць. А ты, калі хочаш застацца ў жывых, не вельмі пі і не расказвай, хто мы ды адкуль. Зразумеў?

Хлопец кіўнуў. Паеўшы, яны адправіліся спаць.

— А што мы заўтра будзем рабіць? — запытаўся Абу-ль-Хасан.

Гэты хлапец думае, што Алекса ўсё ведае і ўсё можа. А ён можа мала. Пыхлівы Ахваз, які не хацеў прыняць старога Нармурада, таму што той бедны і невядомы, наўрад ці захоча гаварыць з маладым яго памочнікам! Але іншага шляху не было. Трэба сустрэцца з лекарам Ахвазам, паспрабаваць удачы. Іначай можна гады правесці ў вялікай, свяшчэннай Бухары і ні на крок не наблізіцца да сваёй мары — кнігасховішча, дзе ляжыць славуты «Канон» Ібн-Сіны... Ляжаць іншыя рукапісы. Казалі, што там, у кнігасховішчы, ёсць «Каліла і Дзімна» — зборнік мудрасці. Чалавечая кроў і на ім: складальнік гэтай кнігі і перакладчык яе на родную мову — мову фарсі — быў абвінавачаны ў ерасі і пакараны смерцю.

Калі спадарожнік заснуў, Алекса доўга сядзеў, гледзячы ў вузкае акенца. Прама перад ім стаяў славуты маўзалей — высокі купал, вакол — чатыры меншых, сцены нават цяпер, пры месячным святле, блішчаць нечым блакітным і лёгкім, як ззянне месяца. Лёгкім здаецца і сам маўзалей, дзе пахаваны вялікі чалавек. Можа, і пасля

смерці той дух, што паднімаў гэтага чалавека над паўсядзённасцю, захоўваецца вакол? Заўтра, ледзь развіднее, жыхароў горада пабудзіць высокі і тонкі голас муэдзіна, які пакліча на малітву. А які голас пакліча яго? Адзінота... Як нечаканы вораг, накідваецца яна на чалавека і пачынае душыць тонкай, але такою моцнай пятлёй... Не кожны можа вытрымаць яе, не кожны можа заставацца з сабой сам-насам. Чым вышэй сягае душа, тым больш у яе моцы, але, каб сягнуць у вышыню, сілы таксама патрэбныя. Цікава, тыя, хто дзень за днём гібеў над гэтымі сотнямі тысяч узораў, што аплялі маўзалей, таксама адчувалі узлёт ці, падпарадкоўваючыся сіле, карпелі над каменем толькі дзеля кавалка хлеба?

Спала свяшчэнная Бухара. Спалі рамеснікі і ваданосы, купцы і мянялы, вартаўнікі і прыдворныя... І тут недзе жыве — ці жыве яшчэ? — палачанка, сілай прывезеная і дзецьмі прывязаная да чужой зямлі. Гадуе дзяцей Усходу — а колькі іх тут, славянскіх дзяўчат, хлопцаў — палонных, хто замясіў сваёй крывёю тутэйшую глебу, на якой так шчодра буяе кожнае семя?! Чакаў раніцы, гледзячы на празрыста-тонкія абрысы высакароднага маўзалея і ўглядаючыся ў абрысы горада, што ляжаў перад ім. Як даўно было ўсё гэта — тонкая фігура ў празрыстым аблоку духмянага адзення, чужыя, абведзеныя чорныя вочы і зведзеныя ў адно бровы, і дарагія бранзалеты на нагах, і чырвоныя каралі на тонкай шыі. І голас яе — голас той, ранейшы:

— Не пакідай маю маці...

Дзіця, якое бегала каля іх, магло б быць ягоным дзіцем... І тое дзіця, якое спела пад сэрцам у Апак, таксама магло б жыць і зараз, падбіўшыся пад ягоны бок, дыхаць цеплынёй, родным пахам дзіцячага, кволага... Гэтае дзіця ён узяў бы з сабою, не пакінуў, не забыўся на яго, таму што гэта ягонае будучае...

А ад Віспры не хацеў бы мець дзяцей. Блудніцы не павінны нараджаць, бо разам з крывёю ўспрыме дзіця змяіную, няверную іх сутнасць. Добра, што ён вызваліўся ад блудніцы, стаў сабою, ранейшым...

Яму зусім не хацелася спаць, і ён пайшоў блукаць па Бухары, па вулках, замошчаных гладкім, адпаліраваным часам каменем. Падышоў да медрэсэ, зазірнуў унутр двора, куды выходзілі дзверы келляў-худжраў. У гэтых келлях жывуць самыя дасведчаныя, самыя разумныя людзі Бухары-і-Шэрыф — Бухары свяшчэннай, горада, куды

сцякаюцца не толькі агромністыя багацці з усіх канцоў свету, але і самыя мудрыя кнігі і людзі — упрыгожанне зямлі. Недзе там, глыбей,— бібліятэка. Што там? Магчыма, ён ніколі пра гэта не даведаецца...

Платан у дворыку, абліты залацістым светам поўні, стаяў нерухома. Узорыстыя дзверы пахлі яшчэ жыццём дрэва — мабыць, былі зроблены нядаўна... Заплюшчыў вочы, удыхаючы іх пах. Нібыта сасна... Хаця адкуль тут узяцца сасне?

Грубая рука ўчапілася ў ягонае плячо, балюча сціснула яго.

— Хто такі? Што тут трэба?

За ім стаялі стражнікі — і калі паспелі падысці? Твары іх былі насцярожаныя і зласлівыя — можа, пачувалі спажыву?

— Я прыехаў здаля, каб знайсці лекара Ахваза, які лечыць вялікага музыканта Ісхака, любімага спевака эміра.

Стражнікі пераглянуліся, зарагаталі:

— Ты, відаць, сапраўдны кішлачнік, бо ці не ведаеш, ці прыкідваешся: Ісхак даўно ў няміласці!

— У яго сарваўся голас, і ён стаў непатрэбным правіцелю! Цяпер у яго другі любімы музыкант — Міры-Араб!

— Ну, а лекар Ахваз — ён хаця жывы? У яго голас не сарваўся?

Стражнікі схапіліся за жываты.

— З табой не засумуеш, кішлачнік! Лекары жывуць доўга, і Ахваз, хаця не ў міласці, але жыве! Непадалёку адсюль!

— Гані дзесяць фельсаў, і мы пакажам табе яго дом!

— Я хацеў прыйсці да яго раніцай, каб не турбаваць старога чалавека! — хацеў быў запярэчыць Алекса, але стражнікі, абкружыўшы яго, павялі некуды, працягваючы тармасіць і патрабаваць грошай.

Ён даў ім нарэшце дзесяць фельсаў, і яны прывялі яго на ціхую вуліцу, дзе невялікія гліняныя дамкі хаваліся ў густой, ужо шапаткой асенняй лістоце. Поўня асвятляла нават густыя гірлянды ружаў, што віліся па сценах. Дом, да якога прывялі Алексу, спаў, і весніцы яго былі зачыненыя, і ціха было ў густых кустах, якія абкружалі дом, хаця там, канешне, спалі птушкі, можа, нават і горлінкі, якіх так многа каля ціхіх дамоў Бухары...

— Я пачакаю тут,— сказаў Алекса, і стражнікі нарэш-

це пакінулі яго аднаго, а ён, захутаўшыся ў халат, сеў ля дувала і стаў глядзець, як паволі святлее, наліваецца ружовым неба.

Нечакана за дувалам пачуліся крыкі, грукнулі дзверы, затупалі па каменных плітах дворыка старэчыя крокі. Алекса перасеў далей.

— О каб цябе забраў твой Каік-Баджак! Каб хутчэй разматлялася твая чалма!* — выразна прагучаў у цішы лады жаночы голас.

Расчыніліся весніцы, сухі, рухавы чалавек выйшаў адтуль, спусціўся да арыка, стаў, крэкчучы, плёскаць на сябе ваду.

— Праклятая джыннія! — бурчаў ён.— Загадаю — цябе заўтра разапнуць на варотах горада! — Ён патрос рукой.

— Свяцільнікам кінула! А калі б пажар?

Ён падзьмуў на руку.

— Два міскалі нарджыса з мёдам — і заўтра ўсё зацягнецца,— нягучна прагаварыў ад сцяны Алекса.

Стары спалохана выпрастаўся, але Алекса хутка прагаварыў:

— Не палохайцеся, шаноўны Ахваз, я не рабаўнік. Я толькі хачу прыпасці да вашых ног, каб прасіць аб міласці...

— Які-небудзь мясцовы табіб! — бурчліва сказаў Ахваз, адразу супакоіўшыся.— І будзеш прасіць, каб я закінуў за цябе слова і даў табе цёпленькае мястэчка! Можаш не разлічваць, я не накрыю цябе покрывам сваёй шчодрасці. Бухара перапоўненая прахадзімцамі.

— Што ж, я пайду,— адказаў Алекса,— але тады ты ніколі не дазнаешся, што можна зрабіць, каб да Ісхака вярнуўся голас.

Ахваз, які пайшоў быў назад, у дом, спыніўся, але пасля махнуў рукой:

— Ісхака любілі пры старым двары. Цяпер у нас новы правіцель. Новы гаспадар — новыя песні.

І ён пачаў зачыняць весніцы. Той жа малады жаночы голас прагучаў з дому:

— З кім гэта ты гаворыш, стары Ібліс?

Маладая, статная жанчына, прыкрываючыся рукавом, з цікаўнасцю ўглядаючыся ў Алексу, ішла ад дому.

— З кім, з кім — не твая справа, жанчына! — замармытаў лекар, стараючыся хутчэй закрыць весніцы, але нямоглыя рукі дрэнна слухаліся яго.

— Дай я! — яна перахапіла засаўку, засварылася па-славянску:

— Бадай вас паляруш схапіў, гэтых майстроў!

— Сястра! — паклікаў Алекса.— Зямлячка, ты адкуль?

Яна адпусціла засаўку, стала як укопаная:

— З-пад Кіева я, браток! А ты?

— А я палачанін. З Полацака!

Жанчына адкінула засаўку, вылецела, абхапіла, абняла Алексу:

— Браток ты мой! Землячок! Во радасць якая!

Лекар Ахваз дрыжачымі рукамі расштурхоўваў іх.

— Хопіць... а то паскарджуся кадзі... Павешу цябе, паганая наложніца... Джынніца...— мармытаў ён.

Яна адпусціла Алексу, абхапіла старога лекара, пацерлася шчакой аб ягоны маршчыністы твар:

— О любімы, я сустрэла земляка! Няўжо ты не дазволіш сваёй Дарыі хаця трохі пагаварыць з ім? Адарка я была! — хутка растлумачыла Алексу.— А ты што хацеў ад яго?

— Невялікая просьба мая — пра кнігі. Я прыёмны сын былога сябра ягонага, Нармурада з кішлака Шырс.

— Ага! Ну, можа, уломім яго!

І яна працягвала лашчыцца да гаспадара, аж пакуль ён не змякчыўся і дазволіў Алексу ўвайсці ў ягоны дом.

— Як толькі вы вытрымліваеце сваіх жанчын?! — зусім мірна і нават ужо насмешліва спытаўся ён у Алексы.— Прыгожыя жанчыны русаў, але пакуль абломіш іх... І то праўда: яны як кручкі для рыбы — чым мацней ірвешся, тым болей чапляе цябе кручок...

Пры святле было бачна, што лекар Ахваз быў шэры, як стэпавы цвыркун-багамол, вочы ў яго трохі пачырванелі і ўвесь час слязіліся: ён бесперапынна выціраў іх рагом вялікай хусткі, што ляжала побач.

— Дык мой сябра Нармурад памёр? — каторы раз перапытваў ён. Пасля памаўчаў.

— А быў маладзейшы на дзесяць гадоў,— сказаў нарэшце.— На цэлых дзесяць гадоў!

— Нармурад-ака пражыў, мне здаецца, добрае, высакароднае жыццё. Я б хацеў такое,— сухавата заўважыў Алекса, трохі абражаны нейкай як бы радасцю, што прагучала ў голасе Ахваза.

— Ну вядома, вядома! — заспяшаўся той.— І памёр ён смерцю праведніка. Хаця... Калі б ён прыняў мусульманст-

ва, жыў бы і дагэтуль. Я вось прыняў, жыву нядрэнна і лічу сябе шчырым мусульманінам.

— А бацька гаварыў мне, што самыя лепшыя звычкі — звычкі бацькоў, і сам чалавек не вырашае, з кім яму быць. Гэта — ад нараджэння дадзена кожнаму.

— Але ж цябе, мой сын, ён усё-такі зрабіў парсам.

— Парсы далі мне веру, што нават калі ўсё навокал загіне ад Цемры і Няпраўды, застанецца хаця б астравок праведнікаў, якія адродзяць праўду.

Хадзіла па пакоі Адарка, прыносіла ежу. Пазіралa на яго з-пад паранджы. Разгараўся ранак. Заспявалі птушкі, пырснула праменнямі сонца.

— Дык што ты хочаш? — запытаўся нарэшце Ахваз.

— Хаця адным вокам зірнуць на славутую бібліятэку, што пры двары Шамс-ал-Мулька. Гатовы дзеля гэтага быць вашым рабом.

Ахваз доўга глядзеў на яго, міргаючы слабымі, зморшчанымі павекамі, твар яго туманіўся.

— Ты хочаш занесці Веды ў сваю далёкую, суровую краіну? — запытаўся ён нарэшце, і святло бліснула ў яго непацяжэлым позірку.— Але русы — народ ваяўнічы. Недарма іх мячы і кальчугі — лепшыя ў свеце. Навошта ім веды?

— Не бойцеся, шаноўны, нашы ніколі не прыйдуць сюды, на гэтую зямлю. Яны не гоняцца за лёгкай здабычай, яны выпальваюць свае ляды, робяць зямлю прыдатнай для жыта. А палююць на звяроў ці ворагаў, калі тыя нападаюць.

— Некалі ты, мабыць, быў воінам.

— Быў.

— Але ўжо ніколі ім не станеш. Ты стаў задумвацца над тым, што такое свет, і цяпер хочаш... чаго ты хочаш?

— Я сказаў пра адно, а іншае — не ведаю. Адкуль чалавеку ведаць свой лёс?

Ахваз яшчэ доўга маўчаў.

— Можа, я і дапамагу табе. У кітайца-садоўніка пры эміравым садзе няма памочніка. Калі ты пабудзеш там сярод слуг, да цябе прывыкнуць, і задуманае зрабіць будзе лягчэй. Хавальнік бібліятэкі — родзіч галоўнага садоўніка. Але ты павінен ва ўсім слухацца вышэйшых і да часу не гаварыць пра сваё жаданне нікому! Помні — за кожны твой промах адкажу я, твой паручыцель!

Пасля дадаў строга:

— І — каб болей ні нагою ў мой дом. Чуеш?!

Некалькі месяцаў рабіў Алекса памочнікам прыдворнага садоўніка, вельмі рэдка выходзячы ў горад, дзе ў квартале багатых купцоў ваданосам стаў працаваць яго спадарожнік. Каб яго прынялі ў ваданосы, аддаў Алекса старэйшыну сярэбраны дырхем. Не ўзялі б хлопца, але даведаліся, што ёсць у Алексы высокі ахоўца — з прыдворных.

У доміку старэйшыны, дзе зняў пакой Абу-ль-Хасан, Алексу сустракалі з пашанай. Ён усміхаўся, гледзячы, як мітусіцца сам старэйшына, рыхтуючы для госця плоў. Абу-ль-Хасану, вядома, жылося б намнога цяжэй, каб не Алекса, і, можа, гэта ён, нягледзячы на ўсе клятвы, не ўцярпеў і расказаў, што памочнік садоўніка колькі гадоў лячыў людзей. Прынамсі, аднойчы, калі Алекса гасцяваў у хлопца, старэйшына пачаў скардзіцца, што лекар, якому перададзена столькі грошай, так і не вылечыць гнойную больку на назе.

— Можа, вы што параіце, ака? — прыніжана гаварыў ён, стараючыся ўхапіць позірк Алексы, які той упарта адводзіў.

Не хапала яшчэ зноў трапіць у рукі хціўцаў альбо зайздроснікаў! Дый тут не горны кішлак, тут права быць лекарам трэба абараняць у прысутнасці старэйшын і прызнаных у медыцыне людзей. А інакш — будзеш бітым палкамі і выгнаны з Бухары, як самазванец. Не, Алекса не быў упэўнены ў тым, што змог бы вытрымаць такі важны экзамен. У яго няма ведаў моцных і трывалых, ён вучыўся назіркам, браў усё ад прыроды ці ад старога лекара Нармурада,— а той і сам наўрад ці рызыкнуў бы займацца сваім рамяством тут, у гэтым важнецкім горадзе! Старэйшына не адставаў, і Алекса як не спапяліў позіркам Абу-ль-Хасана, а той адводзіў позірк убок.

— Я спытаюся ў лекара Ахваза, ён мне не адмовіць, бадай што,— нарэшце неахвотна сказаў Алекса, і старэйшына схіліўся перад ім яшчэ ў ніжэйшым паклоне:

— О, няхай вароты тваёй мудрасці будуць заўсёды адчыненыя! — І дадаў прыніжана: — Няхай Алах дасць табе вялікае патомства!

Ліслівы гэты чалавек нават не здагадаўся, як ударылі яго словы па сэрцы. Вялікае патомства... Няма ў яго нікога і ці будзе наогул? Ужо падступае над сэрца стомленасць, ужо першыя сівыя ніты ўпляліся ў валасы...

Ён не прыходзіў да Абу-ль-Хасана болей за месяц. Але за гэты час ва ўласным жыцці яго адбыліся змены, адбыліся неспадзявана для яго самога.

У свабодны час — а яго было зусім нямнога — Алекса ўпарта працягваў вучыцца арабскай грамаце. Звыклая яго памяць схоплівала патрэбнае імгненна, і ён, часцей за ўсё на памяць завучыўшы той ці іншы выраз з «Карана», запісваў яго. Паперы не было, і ён запісваў на ўсім, на чым можна, але найчасцей на пяску, якім кожны дзень прысыпалі дарожкі ў садзе. Рабіў гэта Алекса да ўсходу сонца, да першай малітвы муэдзіна, таму што правіцель часцяком любіў выходзіць у сад.

Пасыпаўшы дарожкі, Алекса ішоў у дом садоўніка ці ў самыя аддаленыя куткі саду, дзераслі лекавыя травы і куды світа эміра не заходзіла ніколі. Там падстрыгаў кусты і ружы, вучыўся рабіць прывіўку на дрэвах, якія ў добрым настроі паказваў яму садоўнік — паважны, ганарлівы стары кітаец. Добры настрой у яго бываў рэдка, ён сумаваў па сваёй радзіме — далёкім Чыну, паднябеснай, або серадзіннай імперыі, як тут называлі Кітай, і ўсё навокал здавалася яму дзікім і грубым — і пакоі палаца, і прыдворныя з іх прагавітасцю на баляваннях і тоўстымі жыватамі, якімі яны напіралі часам на Лі-сына, бегаючы па даручэнні валадара за кветкамі ці за гваздзікамі, каб пакласці іх у рот перад вялікім прыёмам. Лі-сын аднойчы сказаў пры Алексу, што гэта ён увёў у звычай класці ў рот пахучы плод ці кветку, каб не апаганьваць сваім дыханнем уладара, і што за гэта не любяць яго прыдворныя. «Не любяць, але баяцца!» — дадаў ён паважліва, і твар расплыўся ва ўсмешцы.

Дзякуючы Лі-сыну, які развёў у садзе расліны сваёй радзімы, пазнаёміўся Алекса з гваздзічным дрэвам — яно ніколі не скідвае лістоў, і кветкі яго пурпуровыя, з белымі і ружовымі пялёсткамі: з шафранам, што цвіце светлафіялетавым колерам, а тканіну фарбуе ў жоўтае; з травой анісам, што памагае зубам ад каменю і вылечвае кашаль, яшчэ са мноствам розных дзівосаў, якія таксама нецярпліва і прагна схоплівала Алексава памяць, каб пасля запісаць усё гэта ў сваю Кнігу.

У той дзень ён справіўся са сваёй работай рана, і таму, разгладзіўшы роўную паверхню дарожкі, напісаў на ёй першы радок паэмы, якую так любілі ў тыя гады ў Бухары. Напісаў яе некалі славуты паэт — Імруулькайс, напісаў пра каханую, якую згубіў, і Алекса, думаючы пра Бадзюю Бярозу, вывеў на пяску:

«Пастойце, паплачам, успомніўшы пра каханую і яе жытло!»

Пастаяў, палюбаваўся надпісам, і толькі хацеў сцерці яго, як ззаду раздаўся крык Лі-сына:

— Зараз жа... зараз жа сарві кветак граната і перадай еўнуху! Захварэла ўнучка візіра, а ты, абібок, сядзіш і глядзіш тут на сонца!

Алекса пабег услед за еўнухам, забыўшыся і на надпіс, і на сябе самога. Унучка візіра хварэла часта і была надзвычай злоснай і капрызлівай. Папярэдніка Алексы выгналі, збіўшы яго палкамі, за тое, што ружы, якія падаў капрызніцы праз еўнуха, моцна ўкалолі яе, а яна паскардзілася самому дзеду, які ацаніў гэта як знявагу.

А праз гадзіну перапалоханы Лі-сын прыбег, абліваючыся потам, да градаў шафрану, дзе корпаўся яго памочнік, і дрыжачым голасам загадаў бегчы за ім. Ён скуголіў усю дарогу, што правіцель, сам светлы правіцель, убачыў, што напісаў дзёрзкі бядняк, і хоча даведацца, для каго гэты надпіс?

— Спадзяюся, што ты, сын Лісіцы, не завёў хітрыкі з якой-небудзь гарэмнай красуняй. Калі так, то лепей давай зойдзем да мяне і абодва вып'ем атруты, бо смерць наша можа быць страшнай, як толькі ўмеюць забіваць у гэтым краі дзікуноў! — хутка гаварыў ён, час ад часу збіваючыся на незразумелыя словы — відаць, на сваёй роднай гаворцы.— Каму ты пісаў?

— Супакойцеся, паважаны, я ні разу не бачыў ніводнай жанчыны бліжэй чым за сотню крокаў. Ці ж да гарэмных красунь мне, у якога няма нават уласнага жытла!

Яшчэ здалёку на дарожцы Алекса ўбачыў мноства людзей у парчовых, аксамітавых халатах, у шапках з залацістай лісы. Кітаец упаў на калені і, мармычучы нейкія малітвы, папоўз наперад, Алекса за ім.

Ён адчуў, як мноства позіркаў — цікаўных, грэблівых, зласлівых — упілося ў яго.

— Дык гэта ты, нікчэмны чарвяк, асмеліўся пісаць вершы Імруулькайса? Для каго яны? Кажы, калі не хочаш, каб твая галава сёння ж тырчала на дзідах маіх воінаў! — раздаўся над ім голас.

Алекса падняў галаву. Не, гэты таўстун з чырвоным тварам і адвіслымі шчокамі — не эмір. Гэта, відаць, начальнік стражы пры палацы. Эмір — той, з бледным, бяскроўным ілбом і сіняватымі ценямі пад чорнымі тусклымі вачыма, у халаце, падбітым собалем. І ён адказаў, схіляючы галаву перад ім:

— О, уладар Сусвету, сонца Бухары! Я не ведаю, ці жыве яшчэ тая, пра каго я думаў, пішучы радкі паэта, чыё сэрца кахала так моцна. Я люблю гэтую паэму, бо ў ёй плач і словы аб каханні не аднаго, а тысяч і тысяч, якія жылі і якія будуць жыць пасля нас!

— У тваіх вачах святло розуму, і ты не падобны да таго, за каго выдаеш сябе! — сказаў на гэты раз другі голас, і Алекса пазнаў — гэта гаварыў візір.— Хто ты, што назваўся памочнікам садоўніка?

Алекса адчуў, што яго ахапіў сполах.

У плечы яго балюча ўпіўся кінжал.

— Гавары, пёс! — прахрыпеў над вухам начальнік варты.

— Я з краіны русаў, той краіны, якая дае вам кальчугі і прыгожых жанчын, воск і звяроў, якімі абшыты твой халат, о уладар! Я прыйшоў сюды спярша за каханнем. Цяпер я застаюся тут з-за ведаў.

— Расказвай! — зноў штурханулі яго ў плечы.

— Ён раскажа сваю гісторыю сёння ўвечары! — разамкнуў вусны эмір.— Я так хачу!

Ён зрабіў знак, світа, што ззяла парчой, золатам і каштоўнымі каменнямі пасунулася далей, Алекса і кітаец засталіся адны на каленях.

Першым устаў садоўнік, абтрос жоўты, сухі пясок, трасянуў галавой.

— Ну, цябе яўна ўпадабаў нехта з Небажыцеляў! — сказаў ён зайздросліва.— Маглі кінуць у зіндан, а замест гэтага будзеш на піры ў эміра. Я вось ніколі нават не заходзіў у ягоныя пакоі.

— Дый я не надта туды імкнуся,— сказаў Алекса.— У нас гаварылі — «дзякуй за полудзень, я й так не галадзен».

— А я дык галодны,— сказаў садоўнік.— Не пагрэбуй маім сціплым пачастункам, зайдзі! Вечар яшчэ не скора, а ў мяне ёсць чайнік ружовага віна з сапраўднымі кітайскімі прысмакамі. Смаката — як у феі Ванму! У садах гэтай феі цвіце раз у тры тысячы гадоў персік, што дае бяссмерце. Ідзём, шчаслівец!

Амаль да самага заходу сонца праседзеў Алекса ў пакоях Лі-сына. І дзіўна — здаецца, піў шмат віна — сапраўды пахкага, хмельнага — а галава ясная, кроў бяжыць па жылах бурліва і моцна, так што хочацца ўзляцець... Многа расказваў яму кітаец — і пра нейкую Блажэнную Краіну Яшмавых Званоў, куды выпадкова забрыў

старадаўні паэт і дзе знайшоў не бачаныя на Зямлі кнігі, адкрыў таямніцу сямі ззяючых шарыкаў бяссмерця і даведаўся пра Залатую Ісціну; і пра тое, што на Месяцы, аказваецца, жыве нейкі Заяц, у якога ў лапах Таўкач, а таўчэ ён парашок бяссмерця; і пра лісіц, што ператварыліся ў прыгажунь і зачароўвалі смяротных людзей... І пра многае іншае расказаў бы Алексу Лі-сын, які, аказваецца, ведаў так многа, але прыслалі з палаца за памочнікам садоўніка. Кітаец прынёс ахвяры сваім багам — спаліў шмат папяровых грошай, каб закінуў хлопец слова і за яго. Алексу пераапранулі, на галаву яму далі шытую прыхаматлівымі ўзорамі цюбецейку, прымусілі абцерціся пахкай вадой.

Цэлы вечар, седзячы непадалёку ад эміра, за асобным столікам, у той час калі прыдворныя паціху пілі чай, елі розныя прысмакі і ласункі, расказваў Алекса пра сваё жыццё. Тоўстыя, раўнадушныя людзі цокалі языкамі, ківалі галовамі, але ўсе яны лісліва і насцярожана сачылі за тварам эміра, а ён быў непрыступны, замкнёны. Толькі калі Алекса расказваў пра мусульманскі набег на кішлак, эмір працадзіў скрозь зубы:

— Даўно трэба было гэтых паганых вогнепаклоннікаў...

І ўсе тут жа заківалі галовамі, згаджаючыся і славячы мудрасць уладыкі. Толькі адзін — невысокі, чарнявы чалавечак — паглядзеў на расказчыка спачувальна і выцер вочы рукавом.

Алексу быў ахапіў гнеў, але ён стрымаў сябе. Занадта добра вядома, што будзе, калі не спадабаецца эміру расказ, і смерць на дыванку крыві яшчэ будзе самаю лёгкаю з таго, што можа напаткаць. Ён расказаў, як вылечыў маладога Абу-ль-Хасана — і толькі тут эмір першы раз усміхнуўся, а за ім — адразу ж — усе прыдворныя...

— Ці можа так быць? — запытаўся эмір у аднаго з таўстуноў, і той, пацалаваўшы зямлю перад ім, сказаў, што, сапраўды, ёсць такі спосаб у бедуінаў, але ці дапамагае ён — даведацца цяжка, таму што небяспечна рабіць такое з мёртвым целам.

Калі Алекса нарэшце закончыў, укленчыўшы перад эмірам, па крузе пачалі разносіць чашы з віном — Алекса па паху пазнаў яго. Гэта было шыраві, егіпецкае віно, якім добра вылечваць прастуду і якое так любіў Ашавазда. Вакол чуліся прыцмокванні, галасы, а ён усё ляжаў ніцма, не адважваючыся падняць галавы.

— Можа, хай вандроўнік трымае экзамен? — спытаўся нехта над ім.

— Новы лекар? Ён — у палацы? — сказаў вялы голас эміра.— Мы ведаем, што рабы з русаў упартыя, яны часта нават не даражаць жыццём. І гэты ўпарты. Я ведаю! — ён тупнуў нагой.

— Але,— дадаў эмір крыху пазней,— у цябе імя прарока. Дзеля яго я пашкадую цябе. Няхай усе вакол ведаюць, што літасць наша — сапраўды бязмерная.— Таму — няхай тры гадзіны ў дзень ён праводзіць у сховішчы. Астатняе — працуе на тым жа месцы. Хай адрабляе свой хлеб!

— Ты не спадабаўся правіцелю,— дакорліва сказаў яму кітаец Лі-сын.— У тых, хто падабаецца яму, жыццё становіцца лёгкім, як пылінка ў сонечным промні.

— Што вы, шаноўны Лі! — адказаў Алекса.— Тры гадзіны ў дзень! Гэта процьма часу! І — гэты халат застаўся на мне, і пантофлі, і цюбецейка. О не, я шчаслівы!

— Я дык думаў, што ён прыблізіць цябе, крануты тваімі нягодамі. А там бы ты закінуў слоўца і за мяне. Я столькі адрабіў, я выкупіў бы сябе, калі б мне тут плацілі. Але ж [redacted] — раб, мяне білі палкамі па нагах і прадалі ў рабства багацею Юань Шэ, а ён паехаў гандляваць у Багдад і, абяднеўшы, таму што любіў віно, прадаў мяне мусульманам. О горкае маё жыццё! Нешчаслівы лёс! Я ніколі не ўбачу болей Вялікую Жоўтую раку, не буду мець жонку [redacted] маленькімі лотасавымі ножкамі, а Уладар мёртвых, Янло, яшчэ адмовіцца ад мяне і адправіць да гэтых дзікуноў!

Гаворачы гэта, Лі-сын спачатку раскачваўся ўзад-уперад, а пасля нечакана ўпаў на калені і стаў біць сябе па галаве сухімі, але, відаць, моцнымі кулакамі. Слёзы ліліся па яго маршчыністым твары, і не высокага, ганарлівага старога, а забітага горам і пакутаю чалавека нечакана для сябе ўбачыў Алекса і — усё перавярнулася ў ім.

З таго часу жыццё для яго стала лягчэйшым. Ён працаваў многа, але першыя, самыя раннія гадзіны праводзіў цяпер у агромністым, застаўленым скруткамі і спісамі, сховішчы кніг. Хавальнік адносіўся да яго з насцярогай, не адмаўляў, але і не надта дапамагаў. Пра славуты «Канон» Ібн-Сіны, пра які ў першы ж дзень з заміраннем сэрца запытаўся Алекса, адказаў сурова, што гэтая кніга ў галоўнага лекара эміра і браць яе каму другому нельга. Алекса і не думаў звяртацца да галоўнага лекара, ён

верыў, што шчасце, якое прывяло яго сюды, у даступную толькі марам бібліятэку, самую багатую ў Бухары — гэтае шчасце дапаможа яму. Калі і як — гэтага не ведаў, але прадчуванне жыло ў сэрцы, яно саграваля і давала сілы жыць надзеяй.

Лі-сын таксама перамяніўся да свайго падручнага. Ён перастаў таіцца ад яго. Многа вечароў сядзелі яны разам, і мудры кітаец, нібы згаладаўшыся, усё расказваў і расказваў памочніку пра сваю незвычайную краіну.

— Усё тут не так,— скардзіўся ён, выпіўшы чайнік цёплага пахучага віна.— Люблю ірысы — а іх баяцца, бо кажуць, што за імі ідзе ў дом смерць. Тут заведзена: не спадабалася жонка — тры разы прачытай разводную малітву — і хай яна ідзе куды хоча. А можаш і прадаць яе другому. Ды ў нас за такое абярнулі б мужчыне галаву зялёным ручніком і аславілі, як прастытута — мужа прастытуткі. Ці другое: нарадзіўся селянінам — век будзеш ім і будзеш цягнуць ярмо. У нас усе маюць права трымаць экзамен на пасаду. Лепшым будзе тваё сачыненне — большую атрымаеш пасаду. Тады ты ўжо не селянін, і цябе выкрэсліваюць са спісаў і заносяць у іншыя — чыноўныя!

Паступова Алекса даведаўся, што Лі-сын быў студэнтам, але за тое, што спакусіў жонку павятовага начальніка,быў біты і прададзены ў рабства, хаця мог бы быць пакараны смерцю. Такую літасць Лі-сын атрымаў таму, што адкрыў суддзі сакрэт блакітнай ружы, што вывеў яго-ны бацька, які быў выдатным знаўцам кветак.

— Я не любіў кветак спачатку, але пасля стаў думаць пра іх як пра жанчын і палюбіў,— прызнаўся ён Алексу.— І паступова пачаў займацца кветкамі. О, з імі лягчэй, чым з людзьмі, ад іх адыходзіш душою...

Асабліва любіў Лі-сын пышныя, белыя кветкі, якія называў хрызантэмамі. Пра іх ён расказваў цэлыя паданні, і ўсё лепшае, што ён гаварыў пра далёкую радзіму, было звязана з гэтай кветкай, якая ўпарта не хацела расці такою, як на роднай зямлі, хаця Алексу яна здавалася прыўкраснаю.

Аднойчы Лі-сын і Алекса сядзелі надта позна. Наложніца кітайца, тоўстая, нізенькая Заміра, падавала ім ужо чацвёрты чайнік віна, сярдзіта стукаючы дзвярыма, а Лі-сын усё не клаўся.

— Сёння ў нас — «двайная дзевятка»,— сказаў ён і растлумачыў: — Гэта дзевяты дзень дзевятага маладзіка і

свята хрызантэмы. У такі дзень усе, хто можа, выязджаюць у горы, любуюцца кветкамі і месяцам. І чытаюць вершы. Адзінае, што нагадвае мне тут радзіму, гэта любоў да вершаў. У нас іх пасылаюць нават як прывітанне назаўтра каханай, з якой правёў ноч і расстаўся пад раніцу: начэпяць на галінку цвітучай вішні і пасылаюць. І ён прачытаў, пераклаўшы пасля, як мог, славутыя на сваёй радзіме радкі:

Ірву хрызантэму там, у агароджы, к усходу:
У цемрадзі цёмнай бачу Паўднёвыя горы.

— І я... бачу... Паўднёвыя горы...— ён упаў галавой на скрыжаваныя рукі, замоўк, матляючы космамі, спацелымі на патыліцы. Увайшла Заміра, закрыўшыся рукавом, махнула Алексу, паказваючы, каб ішоў спаць. Не раз гэта ўжо бывала у яе гаспадзінам, і яна, пераадольваючы агіду, глядзела за гэтым чужым і незразумелым ёй чалавекам, раджала ад яго дзяцей, гаспадарыла ў доме, з якога маглі выгнаць у любую хвіліну.

— Можа, і сапраўды чалавек — толькі госць на зямлі, госць часовы, які сам не ведае, для чаго ён тут? — спытаўся Алекса ў кітайца.— Каму трэба, каб вы пакутавалі без сваёй радзімы, без хаты з папяровымі сценамі і тоўстымі бажкамі, перад якімі кураць травы продкі?

— Мне цяжка! — сказаў Лі-сын.— Але, відаць, такая Воля Неба.

— А можа, і не трэба пакутаваць? Можа, радзіма для чалавека — увесь свет, і дзе добра, там яму і радзіма?

— Не, не! — запярэчыў кітаец. І паўтарыў упарта: — Не!

Галоўны захавальнік кнігасховішча памякчэў да Алексы: кожны дзень той прыносіў яму то гранаты з саду, то яблыкі, то дзівосныя кветкі. А можа, болей за ўсё ўразіла яго, як браўся хлопец за кнігі: беражліва, як за самае каштоўнае і дарагое. Усё часцей стары ішоў дасыпаць у маленькую прыстройку пры сховішчы, таму што прыходзіў памочнік садоўніка звычайна амаль на дасвецці, каб паспець да прыходу прыдворных мудрацоў. Тыя Алексу не любілі — шыпелі ўслед варожа, не раз чуў ён «гяур», «няверны». Мабыць, эмір забыўся на яго, таму што хапала пры двары інтрыг і барацьбы за ўладу, а калі б успомніў, мог адмяніць свой дазвол. Ды Алекса не ведаў, што быў пры двары чалавек, які заўсёды гатовы быў абараніць яго, таму што прыйшліся яму даспадобы дзёрзкасць і

прага да ведаў саклаба-славяніна. А яшчэ думаў прыдворны блазан Саміні, што ўсявышні выпрабоўвае сваіх улюбёнцаў, тых, каму дае болей за ўсіх.

Але Алекса не здагадваўся пра абаронцу і стараўся быць непрыкметным, забытым усімі, як бы і не існавала яго для моцных свету.

І ў тую раніцу ён ціха павітаўся з захавальнікам сховішча, паднёс яму, як звычайна, падарунак — адвар травы ад кашлю, і пайшоў сабе да далёкіх паліц, каб яшчэ раз прагледзець — ці няма там «Канона».

Разгортваючы скруткі, схаваныя ў скураныя, расшытыя і ўпрыгожаныя каменнем футаралы, ён нечакана наткнуўся на парваны там-сям пергамент. Прачытаў — і не паверыў вачам. Гэта былі славутыя філасофскія трактаты Ібн-Сіны «Хайі ібн Якзан»: — «Запрашэнні да Падарожжа», «Птушкі», «Аб лёсе і прадвызначэнні».

Ён ліхаманкава чытаў:

«Ці знаходзішся сярод братоў маіх, ты, які хоча зараз звязацца са мною, каб даведацца пра мае патаемныя думкі? А можа, ты здольны зрабіць мне палёгку, узяўшы на сябе нейкую яе частку?.. Адданая душа не здольная выцягнуць свайго сябра, калі не ўтрымлівае ў сабе нейкі высакародны пласт альбо сяброўства, абсалютна не шкоднае для яго сябра. Як табе памагчы мець адданага сябра, калі ты разглядаеш яго як нейкі прытулак, куды можна прыбегчы пры няшчасці, і адмаўляешся выконваць свой уласны абавязак у адносінах да яго, калі ён табе не патрэбны?»

Ён сеў, скрыжаваўшы ногі, проста ля паліцы, нібы баяўся страціць час, і чытаў далей:

«Самы багаты чалавек той, хто асмельваецца ўбачыць заўтра, і самы нізкі той, хто будзе ашуканы сёння сваім часам».

А пасля ён чытаў трактат аб птушках. «Ляцяць свабодныя птушкі, і адна з палонных птушак, што сядзіць у клетцы, заклінае ўсім, што ёсць святога, зжаліцца над ёю, вызваліць яе з путаў... Птушкі вызвалілі яе шыю і крылы. Але ногі засталіся звязанымі, таму што і ў свабодных птушак на нагах — путы, і яны шукаюць таго, хто б вызваліў іх канчаткова.

І ляцяць, ляцяць птушкі — праз сем далін, сем вяршыняў. Стамляюцца іх крылы ўсё болей і болей, і хочацца адпачыць, застацца ў адной з райскіх далін... Але не, не там ісціна, яна — у вялікага цара, што жыве на восьмай вяршыні.

Нявыказаная прыгажосць і спакой на той вяршыні, але і сам Вялікі Цар не дае вызвалення.

— Толькі той, хто надзеў кайданы, вызваліць.

— Хто?

— Здагадайцеся.

— Анёл Смерці, так?

Маўчыць цар...»

Пра што гэта? Пра якое падарожжа, пра якія сем вяршыняў? А путы — што гэта?

А ноччу прыйшла здагадка — мусіць, гэта пра цела гаварыў Ібн-Сіна. Душа спасцігае ісціну — але вечна звязаная яна з целам, са слабасцю, са спакусамі...

З таго часу ён жыў як бы падвойным жыццём — хадзіў за дрэвамі і кветкамі, сустракаўся з Лі-сынам — а чакаў раніцы, каб зноў чытаць і разважаць над маленькімі трактатамі геніяльнага вучонага, што так нечакана трапілі да яго.

А час ішоў. Аднойчы Лі-сын захварэў. Колькі ні слухаў яго Алекса, колькі ні напружваў памяць, не мог вырашыць, што за хвароба ў чалавека — вочы абведзеныя сінім, пульсу амаль няма, і сэрца б'ецца неахвотна, нібыта вось-вось спыніцца. Лекар з палаца, які даглядаў дробных слуг, таксама паціскаў плячыма.

— Памрэ ён, відаць,— сказаў нарэшце, і Алекса пайшоў рабіць свае бясконцыя справы, а смутак не пакідаў яго, і на сэрцы было так цяжка, што ён і не заўважыў, як да яго падышоў чалавек.

Ён ужо не раз падыходзіў да Алексы, жартаваў з ім, распытваў пра былое. Алекса ахвотна адказваў яму — запомніў спагадлівыя вочы прыдворнага каліграфа Саміні, які, аднак, мала займаўся каліграфіяй, а больш пацяшаў эміра і яго прыдворных. У Саміні быў рэдкі дар імправізацыі і знаходлівасці, пра якія ў Бухары нават складаліся легенды. Адну з іх Алекса ўспомніў, гледзячы на тонкі, адухоўлены твар Саміні, які ўмеў быць бязлітасным і злосным, як аса.

Гады два назад адзін з візіраў, тайна ненавідзячы Саміні, параіў эміру пажартаваць. І той, раздаўшы саноўнікам па курыным яйку, прызваў каліграфа і заявіў яму:

— Прысніўся мне сон, што ўсе мае прыбліжаныя могуць даць нырца ў басейн і дастаць адтуль яйка. Але гэта толькі тыя, у каго высакародная кроў. Вось і хачу паглядзець, хто з вас дастойнага роду, а хто — так сабе, смецце.

І па знаку правіцеля ўсе скіраваліся да басейна, і сапраўды кожны, хто ныраў, прыносіў з сабой яйка. Адзін толькі Саміні вынырнуў [redacted] пустымі рукамі. Але ён не разгубіўся — тут жа прысеў і закукарэкаў.

— Чаго ты кукарэкаеш?

— О уладар! — сказаў Саміні.— Яйкі нясуць толькі курыцы. Яны — вакол цябе. А я — адзіны тут певень. Адкуль жа ў мяне возьмецца яйка?!

Маўчалі візіры, маўчаў і зласлівец, нават сам эмір не знайшоўся што сказаць. Але няўдалы жарт у той жа вечар стаў вядомым у горадзе — адкуль і як? Саміні, адзіны сярод прыдворных, хто выбіўся дзякуючы свайму таленту, [redacted] не знатнасці, быў улюбёнцам бухарцаў, і сам эмір лічыўся з гэтым.

— Што з табой, Аль-Іса? — запытаўся Саміні.

Алекса расказаў пра Лі-сына, і смуглявы, рухавы твар бухарца пацьмянеў.

— А ведаеш што? — сказаў ён нарэшце.— Я сёння гуляю [redacted] Шамс-аль-Мулькам у шахматы. Я ўвесь час прайграю, таму што... Эмір — ён эмір... Ну, што казаць. Але сёння [redacted] выйграю і папрашу сабе кітайца. Я бедны чалавек, я не збіраю грошы і каштоўнае каменне. Мне не адмовяць. Так што... Калі ён яшчэ жывы, суцеш яго, мы адправім яго дадому.

Праз колькі дзён, маючы пры сабе грамату адпушчэння, яшчэ бледна-жоўты, але поўны радасці Лі-сын развітаўся з Алексам і Саміні.

— А хто адпусціць мяне, хто выправіць адсюль? — думаў Алекса, калі караван, да якога прыстаў кітаец, схаваўся за ружова-бэзавай смугой і замоўкла меладычнае дзінькание званочкаў, што віселі на шыі кожнага вярблюда.

Караван адпраўляўся ў краіну шоўку, па Вялікім Шаўковым шляху, і ўзброеныя купцы нагадвалі хутчэй войска, чымся мірных гандляроў. Лі-сын, апрануты ў сіні палатняны каптан, высокую шапку і боты, пакорпаўся ў размаляваным жоўтым і чырвоным сундуку, дастаў і працягнуў Алексу невялікі пакунак.

— Калі направіць гэтае люстэрка ў сёмы дзень першага месяца на чалавека, можна ўбачыць, што ў яго ўнутры,— сказаў ён.— Але чалавек, які бярэцца так рабіць, павінен быць добрым і спагадлівым. Мне не ўдалося гэта зрабіць

ні разу, дый я і баяўся выклікаць духа гэтай рэчы. А люстэрка гэтае старадаўняе, эпохі Тан. Нам яно дасталося ад продкаў, але табе, Аль-Іса, я падару яго. Нават калі ты нічога не зможаш зрабіць і яно не паслужыць табе чароўнай сваёй сілай, то ўсё ж я, нікчэмны Лі-сын, спадзяюся, што сама работа і старадаўнасць рэчы паслужаць табе ўцехай.

І ён доўга кланяўся Алексу, стаўшы перад ім на калені, аж пакуль начальнік каравана не крыкнуў, каб гэты чортаў сын паспяшаўся.

Канчалася зіма, глiністыя палі падсыхалі. Высока ляцелі журавы. Стоячы на пустэльнай дарозе, Алекса адчуваў вялізную, бяздонную, як гэтае выцвілае неба, журбу і самоту.

— Яшчэ адзін чалавек быў у маім жыцці і знік,— думаў ён.— А колькі будзе яшчэ?

У пакоях Лі-сына, якія цяпер аддалі памочніку кітайца, было ціха, крокі Алексы гулка раздаліся на тэрасе, дзе, захутаўшыся ў чорнае, сядзела Заміра. Убачыўшы новага гаспадара, яна ўстала на калені, склаўшы рукі, далонь да далоні, пад падбародак — чакала прысуду.

— Заставайся,— сказаў Алекса, яна радасна ўскрыкнула, схілілася да зямлі, чорныя вочы яе заблішчалі.

Вечарам прыйшоў Саміні. Пасля ён стаў прыходзіць амаль кожны вечар, і Алекса радаваўся яму, як блізкаму чалавеку. Пераказваў прачытанае за дзень.

Але аднойчы і Саміні дастаў з-за пазухі скрутак.

— Гэта вершы Рабіі,— сказаў ён,— першай суфійкі, рабыні, што нарадзілася ў Басры тры з паловай стагоддзі назад. Яна адкрыла ў чалавеку духоўную сілу.

— Навошта мне вершы? — запытаўся Алекса.— Я не разумею іх.

— Я памагу табе,— сказаў Саміні.— У нас, суфіяў, вершы — гэта толькі іншасказанні. Ты думаеш, што ідзе гаворка пра локаны — а гэта свет, ілюзія. Даўжыня кудзераў — бясконцасць форм праяўлення быцця. Кольцы кудзераў — гэта пастка для нявопытнай душы, а твар — гэта і ёсць сапраўднае быццё. Дык як будзе гучаць радок? І ён прачытаў двухрадкоўе:

> У цёмнай начы локапам сябра,
> Правадыром закаханых стаў вясенні вецер?

А пасля засмяяўся.

— Падумай, аб чым радкі? Аб каханні? О не! Аб шляху да мудрасці.

— А вецер — што гэта? — запытаўся Алекса. Ён стаіў дыханне.

— Ведай! Вецер — адкрыццё, спасціжэнне ісціны. Бачыш, як складана?

— Але навошта мне гэта? — здзівіўся Алекса.

— Калі хочаш зразумець Ібн-Сіну, разбярыся, пра што ён пісаў. Ты хочаш ведаць пра сем далін? Гэта шлях да ісціны, праз пошукі, любоў, самазнішчэнне — каб зліцца з Вечным... А Вечнае — гэта Ісціна.

— Для мяне гэта вельмі складана. Я... я не змагу.

— А ўсё адразу не трэба! — засмяяўся Саміні.— Проста я хачу, каб у мяне быў варты мяне субяседнік. А галоўнае — той, каму давяраю. О, як горка бывае сярод гэтых сытых, цёмных душою людзей!

— Для чаго ж ты жывеш пры двары? — абурана спытаўся Алекса.

— Для таго, каб хаця трохі змякчаць сэрца правіцеля, а праз яго — лёс беднага люду. У кожнага — своя справа...

Не адразу прызнаўся Алекса, што ў яго таксама ёсць свая мара: запісаць лепшае з таго, што знайшоў у сваіх вандраваннях, што прачытаў, над чым думаў гэтыя гады.

— Правільна! — загарэўся Саміні.— Помніш, у трактаце «Хай ібн Якзан» ёсць месца, дзе гаворыцца, што на шляху ісціны дапамагаюць духоўныя людзі — як бы зямныя анёлы. Гэта — паэты, філосафы, высакародныя пісьменнікі. Ёсць і іншыя — тыя, хто могуць распрацоўваць тэорыі грамадства ці проста ўдзельнічаць у практыцы Справядлівасці. Слабы бок паэтаў і філосафаў — што яны стаяць у баку ад практыкі Справядлівасці. Затое другія толькі ў практыцы і могуць разгарнуць свае здольнасці. Як жа важна, каб рабілі жыццё на зямлі чыстыя рукі! Калі можаш, ты павінен несці Словам у свет чысціню і сумленне. І пра гэта таксама гаворыць наш вялікі Ібн-Сіна. Табе пашанцавала, што ты знайшоў трактаты. Іх у спісах усяго некалькі. Страшна падумаць, што будзе, калі новы правіцель не зберажэ бібліятэку, не стане цікавіцца кнігамі. Бяры Веданне, чытай! І я дапамагу табе, чым змагу!

...Павольна раскрывалася душа Алексы ў гаворках з Саміні. І ён думаў з радасцю пра тое, што лёс усё ж літасцівы да яго — даў сустрэцца з такімі людзьмі, і яны не шкадуюць для яго часу і сіл. Ці адплоціць ён калі за гэта?

Аднойчы ён паказаў Саміні, як можа павялічваць агонь. Паказваў і баяўся — калі сам не можа растлумачыць, як удаецца такое, то што ж скажа яго сябра? А раптам устане, пакліча варту?!

Саміні доўга сядзеў раздумваючы.

— У цябе ёсць Гэта,— сказаў ён і паказаў на грудзі.— У цябе ёсць сіла духу, недаступная мне. Не, гэта не чараўніцтва, Аль-Іса. Калісьці людзі даведаюцца, што гэта толькі адна з форм праяўлення матэрыі. Ёсць вешчыя сны — ці не таму, што мы нейкім чынам прарываемся ў Будучае, якое існуе вечна, як існуе Мінулае і Сапраўднае? Я думаю, што смерці няма. Смерць — гэта нейкая форма існавання той жа матэрыі.

— Што ты кажаш! — Алекса жахнуўся.— Толькі вар'ят можа не прызнаваць смерці!

— Скажы я пра гэта каму яшчэ — мяне разапнуць на варотах як Азакіра або як зусім нядаўна — Харакані. Але я кажу толькі табе, сябра мой Аль-Іса...

Пасля той размовы Алексу стала лягчэй. Так, ён і сапраўды думаў, што дар, якім ён валодае — ад нейкага злога чараўніка, які раптам запатрабуе ад Алексы нешта страшнае — можа, душу. А раз так, няма чаго баяцца. Саміні проста так не скажа. Алексу далёка да яго...

А аднойчы Саміні прынёс яшчэ адзін тоўсты скрутак. І, раскрываючы яго, таямніча падміргваў Алексу і шчасліва ўсміхаўся.

— Прачытай і перапішы, калі можаш,— сказаў ён.— Мне далі гэта на вельмі кароткі час. Але ж — далі...

Гэта быў рукапіс, «Канон» Ібн-Сіны — Алекса вачам сваім не паверыў, калі прачытаў назву.

— Нягледзячы на забарону Галоўнага Лекара, кніга ў нас! — зноў падміргнуў Саміні.— Вось так, дружа мой Аль-Іса!

— Але як удалося дастаць яе?

Саміні не адказваў. Твар яго раптам стаў змучаным, нібы адразу пастарэлы на два дзесяткі гадоў.

— Лепш не пытайся,— сказаў ён хмурна. А пасля, памаўчаўшы, дадаў таропка:

— Праклятае жыццё!

І больш нічога не сказаў да самага канца вечара.

А дні ішлі сваёй чарадой — ледзь світала, Алекса ўставаў, мыўся з чорнага вузкагорлага сасуда, які трымала перад ім Заміра, снедаў і ішоў у бібліятэку. Часам лілі дажджы, было цёмна і туманна — тады ён запальваў адзін

з папяровых ліхтарыкаў, пакінутых Лі-сынам, і пярэстае, яркае святло падала на старонкі, над якімі ён заміраў на тры такія кароткія і невыказна шчаслівыя гадзіны, а пасля ішоў у сад, займаўся раслінамі, што выводзіў на сваім участку, слухаў загады новага старшага садоўніка і кіраваў сваім памочнікам — хітрым смуглявым Расулам. Саміні аднойчы прывёў у дом маладзенькую наложніцу — Айдзін, яна гаспадарыла ў доме.

Улетку перад палацам часта бывалі публічныя дыспуты. Мудрацы ў высокіх белых чалмах са ссушанымі навукай і няспаннем тварамі спрачаліся аб тым, што ёсць алах, гаварылі пра адзінства свету Адзінага і свету Множнасці. Дыспуты былі шматгадзіннымі, народ не вытрымліваў, разыходзіўся, калі прамоўцы гаварылі доўга і надта незразумела. Многага спачатку не разумеў і Алекса, цяжкімі для яго былі развагі — як дасягнуць адзінства бога і чалавека, неба і зямлі, Адзінага і свету Множнасці, думкі і пачуцця?

Ці варты чалавек стаяць побач з Сусветам, ці роўны ён яму? Што спасцігае розум? А што — Вера? Любоў?

Алекса глядзеў на Айдзін, што корпалася ля ачага, а начамі нячутна слізгала да яго ў ложак, як пакорлівая рабыня, і адчуваў віну перад ёю, таму што сэрца яго было халодным, як у зімовую доўгую ноч згаслая жароўня. Ён быў сталым, моцным мужчынам, скроні яго серабрыліся шэранню, ён мог абдымаць позіркам вялізны свет і зазірнуць у чалавечыя душы — але свая душа нібы выслізвала ад уласнага позірку, расплывалася, цьмянела... Яму хацелася даць хаця трохі цяпла гэтай жанчыне, ён абдымаў яе, і часта шаптаў ласкавыя словы, і гладзіў яе худзенькае цела. А яна аднойчы сказала горка:

— Вы не любіце мяне, таму не хочаце, каб я нараджала вам дзяцей...

Ён спачатку здзівіўся, хацеў запярэчыць, а пасля зразумеў, што гэта так і ёсць, што ён не хоча нічога, што звязвала б яго з гэтай жанчынай. Калісьці ён кахаў, і сэрца рабіла насуперак розуму, але розум узяў сваё, кіраваў пачуццямі і спапяляў любы парастак, што мог яшчэ ўзрасці ў яго душы.

— Тады ідзі ад мяне, я дам табе волю,— сурова сказаў ён Айдзін, ды тая ўпала ў ногі і, абняўшы іх, плакала так, што ён нарэшце паклаў руку на яе галоўку, але адчуў жорсткасць валасоў і тонкія костачкі чэрапа і адно змог прамовіць глуха:

— Заставайся, толькі не лезь у душу...

І яна маўчала, толькі часам абдымала яго, як непрытомная, і ён усур'ёз думаў пра тое, што піяла з чаем, які яна падае яму кожную раніцу, адцясніўшы Заміру і зрабіўшы яе пакорлівай, можа стаць для яго апошняю...

Аднойчы, калі дыспут скончыўся, галоўны кадзі Бухары аб'явіў, што за ерась і супраціўленне законнай уладзе прысуджаны да смяротнага пакарання багаслоў Рашыд з подлага племені Саманідаў, якія ўсё яшчэ лічаць сябе ўладарамі Бухары.

Вяшчальнік яшчэ раз паўтарыў гэта гучным голасам і прачытаў указ. І тут жа на мінарэце, што ўзвышаўся над плошчай насупраць новага, які толькі пачаў будавацца, паказаліся маленькія постаці людзей, што трымалі за рукі чалавека ў белай павязцы на твары. Ён выгінаўся і адчайна адбіваўся ад вартаўнікоў.

Народ на плошчы аслупянеў: хаця пакаранні смерцю былі частыя, Саманідаў не чапалі — занадта свежай была памяць аб эміру Ісмаілу, пры якім Бухара стала багатай і славутай. Цюркі Сельджукіды, якія зусім нядаўна прыйшлі да ўлады, лічыліся з былой славай папярэднікаў, асабліва не чапалі тут і багасловаў, а Рашыд быў адным з самых знатных і вядомых.

— Праклятыя югуры! — прашаптаў нехта побач.— Невукі, якім бы хацелася зрабіць такімі ж і нас, іранцаў!

Злавіўшы погляд Алексы, чалавек у жаху закрыў рот, ціха слізгануў у натоўп.

Алекса хацеў пайсці адсюль, але было позна — народу прыбывала, з навакольных вуліц, пачуўшы вестку, беглі рамеснікі і гандляры. Натоўп ужо хваляваўся, шумеў. Прачытаўшы ўказ, вяшчальнік падняў галаву, і ў той жа момант суддзя махнуў белай хусткай.

Нейкае жудаснае імгненне здавалася, што чалавек завіс у паветры — халат яго шырока раскрыўся, рукі былі растапыраныя... Людзі кінуліся ва ўсе бакі — і амаль у той жа момант пачуўся глухі пляскат, удар і крык, які адразу ж захлынуўся, заглух...

Багаслоў Рашыд упаў ля самых ног Алексы. Чэрап яго трэснуў і разваліўся на кавалкі, густая чырвоная кроў хутка паплыла ад галавы, і бела-ружовае месіва, што пырснула на ногі і на халат Алексы, здалося распаленай рудой, якая прапякае наскрозь, да самых касцей... Закружылася галава. Расхінаючы народ рукамі, ён выбраўся з натоўпу, хутка пайшоў дадому.

Нібыта чымсьці атручаны, ён ванітаваў доўга і пакутліва, пасля да ночы піў зялёны кок-чай, дзівячыся з таго, што ён, воін, які столькі бачыў смерцяў і гора, зніякавеў ад выгляду мерцвяка.

Прыходзіў Саміні, але, трохі пагаварыўшы, пайшоў, ціха зачыніўшы дзверы, таксама замаркочаны.

Увайшла Айдзін, стала запальваць папяровыя ліхтарыкі, закрываць шторамі разьбяныя рашэцістыя аканіцы, каб не зазіралі ў пакой чужыя. Тонкія смуглявыя рукі яе дакладна вымалёўваліся на пабеленай сцяне, круглы тварык быў задуменны і таксама маркотны. Нясмела зіркнула на яго — і апусціла вочы, абведзеныя сурмою.

Ён глядзеў на яе не адрываючыся.

— Хадзі сюды,— паклікаў, і яна лёгка скокнула насустрач, абвіла яго плечы рукамі.

Холад і адзінота ў яго сэрцы адступілі, ён лашчыў цёплае смуглявае цела, адчуваючы нястрымную прагу жыцця, шалёную радасць існавання, а пасля — ціхую ўдзячнасць і стому...

Гэтая ноч, калі павярнула на вясну і скрозь цёплы, вільготны туман прабіліся першыя парасткі, з'яднала іх. Жыць стала трохі цяплей.

Аднойчы Саміні прыйшоў заклапочаны і пахмурны. Пакуль жанчыны мітусіліся, накрываючы дастархан, ён сядзеў, зрэдку ўстаўляючы колькі слоў.

— Прынясі віна! — коратка загадаў Заміры.

— Можа, згуляем у шахматы? — прапанаваў Алекса.

Саміні моўчкі пахітаў галавой.

— Што з табою, паважаны? — не вытрымаў нарэшце Алекса.

— Вай-вай, Аль-Іса, не выйдзе з цябе адзіба,— дакорліва паіранізаваў госць.— Не можаш дачакацца, пакуль сам скажу. А прынёс я табе, як чорны вястун, нядобрае.

Пасля госць разгаварыўся.

— Галоўны еўнух атрымаў вялікі падарунак, каб прасіць у эміра тваё месца для свайго родзіча. І праўда, падумай сам — ты жывеш тут, у палацы, ужо тры гады, а не падліпала і не гнешся ні перад кім. Двойчы я адстойваў цябе, але ж са мною таксама можа ўсякае здарыцца... У палацах няма справядлівасці, я нядаўна прагневаў уладара і ад ката выратаваўся цудам.

Ён прагна выпіў піялу, пасля другую.

— Што ж мне рабіць, куды ісці? А бібліятэка? — напачатку ажно разгубіўся Алекса.

— У прыюце для састарэлых ёсць месца наглядчыка. Праўда, гэтае месца — месца тугі і гора, а тваё сэрца ўсё болей становіцца падобным да воску, але ж затое там далёка ад прыдворных і ад горада няблізка... А галоўнае — там жыве мой далёкі родзіч, чалавек смірны і богабаязны, але ён умее паводзіць сябе з вышэйшымі адпаведна... Пакуль не насціг цябе гнеў эміра — а галоўны еўнух умее выклікаць той гнеў, і дастаткова паламанай кветкі, дажджу, таго, што любімая наложніца чхнула... Аль-Іса, сябра мой, ідзі ў прыют! Я дапамагу табе атрымаць званне табіба-лекара.

— Але... грошы? Я толькі пачаў іх збіраць, а званне табіба каштуе нямала,— разгублена казаў Алекса, ды Саміні перабіў яго:

— Я дам іх табе... А ты пасля, калі разбагацееш, аддасі...

— Што ты надумаў? — ціха запытаў Алекса, гледзячы ва ўпор на сябра. Толькі цяпер ён заўважыў, як пастарэў, азыз Саміні. Ён шмат п'е, у хмелю маўчыць і зацята думае аб нечым.

— Не пытайся.— Саміні востра глянуў у вочы Алексу, махнуў рукою, працытаваў:

З-за сыноў смуткуе той, хто мае сыноў.
Той, хто мае кароў, плача з-за кароў.
Прыхільнасці прыносяць людзям адно гора.
Толькі той не смуткуе, хто ні да чаго не прывязаны.

— Бачыш — царствы рассыпаліся, пяскамі замяло камяні, і словы жывыя, і памруць яны, калі памрэ апошні чалавек,— Саміні расчырванеўся, разгаварыўся. Такім гаваркім быў ён упершыню.

— У мяне няма дзяцей, мае жонкі бясплодныя, як зямля ў пустыні,— паскардзіўся.— Я доўга думаў, за што такая няміласць лёсу. А аднойчы прыйшла думка — можа, таму, што вялікі Алах не хоча, каб чалавек сваёй мудрасцю набліжаўся да яго? Ён уклаў у мяне розум, даў галаву і вочы, якія бачаць многае з таго, што не бачаць іншыя... Людзі захапляюцца мною, але наш уладар стаміўся ад мяне, хоча, каб кожнае слова яго прымалася нібы прароцтва... І я, я сам ужо хачу, каб мае вочы і мой язык былі такімі ж, як у навакольных, што крычаць і славяць ягоную мудрасць. Але яны, мае вочы, відаць, выдаюць мяне, бо колькі разоў, сустрэўшыся са мной позіркам, ён цьмянеў і адварочваўся! Што мне рабіць?!

Тым разам яны заседзеліся да раніцы. А праз нейкі час

Алекса перайшоў у прыют састарэлых, што знаходзіўся за горадам.

Перавёз няхітры скарб, забраў Айдзін і Заміру.

У бібліятэку ён усё ж прыходзіў — Саміні вымаліў гэтую літасць у эміра. Так цягнулася яшчэ два гады.

Але аднойчы, прыйшоўшы як звычайна да дзвярэй кнігасховішча, Алекса ўбачыў у кустах спалоханага Расула, былога свайго памочніка.

— Толькі з-за вашай дабрыні, ака, чакаю вас тут,— сказаў ён.

— Шаноўны Саміні,— тут жа папраівіўся,— пракляты Алахам Саміні сказаў дзёрзкасць вялікаму эміру, і сёння ўначы яго пакаралі смерцю. Загадана вынішчыць усіх родзічаў злачынцы. Сцеражыцеся і вы, ака!

Стукаючы зубамі ад жаху, хлопчык знік. Алекса стаяў нерухома. Пасля, ледзь перасоўваючы цяжкія ногі, пабрыў прэч. Спахапіўся, што не запытаўся ў хлопчыка, дзе цела Саміні, але пасля ўспомніў — пакараных смерцю хавалі ля старой дарогі, адразу за гарадскім мазарам — могілкамі гараджан. Яе перасякала новая, вымашчаная каменнем дарога, што вяла да славутых яблыневых садоў Мульяна, спадчыны Саманідаў. Можа, спачатку паехаць дадому, лацвей будзе закапаць гаршчэчак з сярэбранымі дырхемамі, якія збіраў на дарогу да дому? Але не, Саміні ён абавязаны пахаваць сам, сваімі рукамі: «Можа, ты ўспамінаеш пра сябра толькі тады, калі ён патрэбны табе? Хай беражэ вас бог, браты мае, вас, якіх з'ядноўвае... нейкая боская еднасць... вас, якіх з'ядноўвае голас Праўды...»

Ён ішоў да мазара доўга — ацяжэлыя ногі здаваліся жорнамі, круціўся, мітусіўся ў вачах нейкі надаедны, густы рой машкары, так што даводзілася спыняцца, церці вочы. На кароткі час свет яснеў, пасля пачыналася тое самае. Сонца грэла гарачэй і гарачэй.

Ля мазара ён спыніўся. Блакітныя, пашчэрбленыя часам маўзалеі здаваліся прахалоднымі. Трэба было адпачыць, можа, і прылегчы на якую хвіліну — трашчала, раскалвалася галава. Ён прайшоў за грабніцу, на светлых плітках якой паўтараўся раз за разам паўмесяц — і як праваліўся ў не нагрэтую яшчэ зямлю.

Прачнуўся імгненна і не мог адразу ўцяміць, дзе ён і што з ім. Амаль побач раздавалася аднастайнае, цягучае мармытанне, шархацела гліна, снуўдаліся людзі. Некага хавалі. Відаць, пахаванне было багатае, таму што покрыва,

у якое загарнулі нябожчыка, было прыгожае, густа затканае фіялетавым і жоўтым, насілкі — з сандалавага дрэва, а на мужчынах, што абкружылі магілу, былі раскошныя апраткі.

Алекса ўстаў, абтрос сухую гліну са штаноў, пайшоў быў з мазара, але не ўтрымаўся, запытаўся ў суxенькага, кволага старога — можа, жабрака, можа, абмывальшчыка:

— Каго хаваюць?

— Бадзію, жонку купца Абдурахмана Ахмада ібн Мухамада! — адказаў той, міргаючы слязлівымі вочкамі.

— Каго? — перапытаў Алекса і зноў няўцямна паўтарыў: — Каго?

Стары, дакорліва гледзячы на яго, адказаў зноў, а пасля, павагаўшыся, дадаў:

— Калі ты ведаеш купца Абдурахманбека, то памаліся за яго — ён знік без следу ў далёкай дарозе.

...Гарачы вецер нечакана прамчаўся па могілках, закружыў сухі пыл. Алекса затаіў дыханне — раптам прыўзнімецца покрыва, раптам убачыць ён твар Бадзіі... Не, залататканы покрыў быў цяжкі, вецер не змог нават паварушыць яго...

Пасля кароткага сну галава праяснела, але ў грудзях было задушліва, і Алекса дыхаў коротка, сутаргава, хапаючы ротам паветра. Цяжка пайшоў далей — трэба было спяшацца.

...Памочнік галоўнага ката Бухары і яго падручныя былі на месцы — яны заканчвалі капаць магілу, у якую скінуць асуджаных. Здаровыя, звераватыя хлопцы спачатку сустрэлі Алексу варожа, але некалькі дырхемаў адразу змянілі іх настрой.

— Хочаш развітацца — на што? — сказаў памочнік.— Ты ж не ўваскрасіш Саміні! А так... Відаць, смелы ты чалавек ці абавязаны чым яму, га?

Алекса нічога не адказаў, прысеў каля цела Саміні, закручанага ў грубую рагожку. Галава ляжала тут жа, пад рукой пакаранага, вочы Саміні былі заплюшчаныя, на губах застыла слабая ўсмешка. Смяротная жаўцізна не паспела пакрыць твар, толькі завастрыўся нос ды на шчацэ была крывавая пляма. Алекса ўзняў галаву, пацалаваў Саміні ў схаладнелы лоб. На рукавы халата нечакана лінулася цёмная, амаль чорная кроў нябожчыка.

Памочнік і яго памагатыя тым часам скончылі капаць

яму, пачалі сцягваць трупы, яшчэ раз уважліва аглядаючы іх, каб не прапусціць чаго каштоўнага.

— Я пахаваю яго асобна,— папрасіў Алекса. Яны пераглянуліся, і ён аддаў ім апошнюю манету.

Яны ўправіліся з работай першыя і, сеўшы пад чынару, глядзелі, як ён, цяжка дыхаючы, заканчваў сваю работу. Але насыпаць гурбік зямлі над нябожчыкам не дазволілі.

— Чым хутчэй зарасце гэтае месца травою, тым лягчэй трапіць ён у рай,— сказаў памочнік, працытаваў:

Для гора не шукай сабе прычыны.
Цябе чакаюць горшыя мучэнні.
Усе, каго палюбіць твае сэрца,—
Памруць, павер, усе без выключэння.

Алекса паклаў рыдлёўку, прысеў каля свежай зямлі.
— Правільна,— сказаў ён.— Я ведаю, што

У свеце гэтым зменлівым кветы ўсё роўна звянуць.
І смерць стаўчэ ўсіх — такі адвечны звычай.

Але,— памаўчаўшы, дадаў ён:— Саміні быў абраным, і мне блага без яго.

Памочнік, абмываючы рукі, засмяяўся:

— Малайчына, мусульманін. Шкада, што мы не пагаворым болей пра Рудакі. Але калі табе захочацца самому хаваць сваіх сяброў — прыходзь!

Яны пайшлі, пасмейваючыся, загаварылі пра жанчын, пакінуўшы рыдлёўкі пад навесам.

Алекса да вечара сядзеў пад платанам, глядзеў на зямлю, што паступова падсыхала, рабілася цвёрдаю, як жалеза. Восенню пойдуць дажджы, праб'ецца трава — яна тут гусцейшая, чым дзе, кустоўе расце нібы само сабою... Яблыневым пахам цягнула ад Мульяна, зеляніна на кустах была свежая, магутная, усё буяла і красавалася пад гэтым сінім бяздонным небам... Ён змыў з халата кроў Саміні, яна, разбаўленая вадою, сцякала на зямлю і таксама навечна ўпітвалася ў яе. О, колькі крыві і колькі сыноў сваіх штогод прымае зямля, якая страшная процьма пайшла невядома куды і нашто!

Вечарам, калі нарэшце дабраўся да дому, ён не ўбачыў там ні Айдзін, ні Заміры. Ворагі Саміні пастараліся на славу — забітыя былі яго родзічы, забіты быў бы і Алекса, сябра Саміні, калі б застаўся тут. Што сталася з Айдзін, хто забраў яе — Алекса не стаў шукаць, у каго б запытаць пра гэта.

У дальнім пакоі ён знайшоў толькі люстэрка Лі-сына, схаванае пад посудам. «Усё, да чаго дакраналіся мае рукі, нібыта забіраў і некуды зносіў агромністы, бязлітасны вецер, хаця яно засталося»,— гаротна думаў Алекса.

Ён ведаў, што Саміні сам захацеў смерці і смерць тая прынесла няшчасце многім, але не папракаў сябра — ды і як папракнеш мёртвага?

Разрабаваны дом, забраныя ці разбітыя няхітрыя пажыткі, зніклі жанчыны... Ён падняўся, стаў хадзіць па пакоях, пасля выйшаў у сад. Раздаўся голас Абу-ль-Хасана:

— Ён толькі што быў тут! Я бачыў, як лекар уваходзіў у дом!

Затупацелі боты сарбозаў, яны зноў абягалі дом.

Алекса скачкамі адыходзіў далей, далей. Схаваўся за старую яблыню. Цемень абрынулася на зямлю, было толькі чутно, як б'ецца сэрца. Сарбозы прабеглі міма, трымаючы свяцільні, чырвонае святло скакала па садзе.

— Ты быў яго сябрам! — раздаўся голас аднаго з салдат.

— Вай-дод! Не, ака, [redacted] заўсёды хаваўся ад яго, ён быў чарадзеем, і я ўжо казаў пра гэта! — голас Абу-ль-Хасана жалобна трапятаў уначы, ён кружыўся па садзе, сляпа тыцкаючыся ў дрэвы.

— Збег, пракляты! — зноў сказаў начальнік.— Як цяпер адчытвацца за яго?

— Заб'ём каго падобнага на яго з жабракоў, ды каб не пазналі,— прапанаваў адзін з сарбозаў.

— Паглядзім,— перарваў яго начальнік, і салдаты пайшлі прэч. Сціхла ўсё вакол, зноў стала цёмна.

Алекса пачакаў крыху,— нідзе не чулася ніводнага шолаху. «Б'юць і плакаць не даюць» — чамусьці загучала ў вушах старая полацкая прымаўка.

Ён асцярожна, стараючыся суняць шалёны перастук сэрца, падкраўся да персікавага дрэва, на якім намацаў зарубку-прыкмету.

Пад гэтым дрэвам закапаў ён гліняны гаршчэчак з дырхемамі — навучыла жыццё берагчыся ад навалы, што магла прыйсці ў любы час!

Пад падвалінамі дома, у якім жыў, хаваў скураны сундучок — там ляжала кніга, якую ён пісаў у апошнія два гады. Запісы з Ібн-Сіны, старыя заметы пра лекі і спосабы лячэння, перапісаныя запісы з Платона...

Не дыхаючы, перабраўся ў разбураны дом, забраў

і паклаў у паходны хурджун грошы і кнігу — усё, што набыў за доўгае жыццё.

Пад раніцу, калі заружавела неба, пад густымі кустамі тутаўніку, чуйна слухаючы кожны шолах ветру, ён дастаў невялікі сасуд з настоем ядавітай травы і абмазаў ёю твар і рукі. Запякло скуру, яна зачасалася, а пасля стала ўздувацца ад нясцерпнага болю... Паглядзеўся праз гадзіну ў люстэрка — застаўся задаволеным. Цяпер яму не страшныя стражнікі, не страшныя сарбозы, якія вартуюць каля ўсіх варотаў Бухары.

Ускінуўшы сумку-хурджун на плечы, пайшоў, хаваючы твар пад хусткай, павязанай нізка, па самыя бровы.

Варта ля варот, што ляніва іграла ў косці, убачыла сівога высокага старога, што ў хырцы, босы, ішоў, закінуўшы хурджын за плечы.

— Ты хто такі? — грозна запытаўся вартаўнік, ды ўгледзеўся ў твар — адхіснуўся.

— Пракажоны...— зашалясцела вакол, стражнікі дружна замахалі рукамі, закрычалі:

— Ідзі, ідзі хутчэй адсюль!

Ён пайшоў праз вароты,— цяжкія, акаваныя жалезнымі палосамі, з узорамі, што нагадваюць закручаныя ўверх рогі бараноў.

Апошні раз ён праходзіць праз іх...

Бывай, Бухара-і-Шэрыф!

Бывайце, блакітныя, з нялюдска прыгожымі ўзорамі мячэці, высокія, як трубы ў час Страшнага Суда, мінарэты, ханакі-дамы для падарожнікаў, базары з грудамі пахкіх дыняў, гарбузоў, цыбулі,— усяго, што толькі расце на свеце! Гандлёвыя рады з пахам скуры, лаку, з ядавітымі воблакамі дыму ад астуджаных шабляў, парчовымі халатамі, што ярка блішчаць на сонцы, са скруткамі шоўку і муслíну! Сад, дзе растуць яго дрэвы, яго кветкі...

Бывай, мазар, дзе вечным сном пад пякучым сонцам спяць Бяроза і Саміні...

Дзе даўно прарос травою Нігмат...

Караван ішоў на Ургенч, міма Хівы, пакідаў убаку Чач, кіраваўся да вусця Хвалынскага мора, да былой старадаўняй сталіцы хазараў Атэль.

Наперадзе, на асле, ехаў стараста каравана. Пакаваліся на спінах вярблюдаў караваншчыкі, купцы. Ахова скакала на конях — каб хутчэй дагнаць ліхіх людзей.

Мерна звякалі бомы, ішлі і ішлі, не спыняючыся, пакуль не наступіць прывал, вярблюды.

На адным з іх сядзеў Алекса.

Палову срэбра з глінянага гаршчэчка аддаў ён начальніку каравана за тое, каб праехаць да Атэля. Астатняе траціў на ежу. Еў мала, стараючыся, каб хапіла грошай — ведаў, як цяжка зарабляць іх цяпер, пастарэламу, нямогламу.

Хваробы ўсё болей напаміналі пра сябе. Што ж, час такі, нікому яго не мінуць.

Начамі, засынаючы, успамінаў словы Сакрата: «Што ж, відаць, мы ніколі не зможам дасягнуць таго, да чаго імкнёмся — да ісціны, пакуль у нас будзе цела, пакуль да душы ўвесь час будзе прымешвацца гэтае зло... З-за цела нам ніколі не ўдасца ні аб чым паразважаць... Паколькі мы хочам дазнацца пра нешта ў чыстым выглядзе, нам трэба вызваліцца ад цела і глядзець на рэчы толькі пры дапамозе душы. У процілеглым выпадку ніяк нельга набыць веды.

Ці можна іх набыць толькі пасля смерці...»

Павольна плылі над галавой сузор'і — некаторыя з іх ён спазнаў яшчэ жывучы ў кішлаку Шырс. І труба, праз якую Нармурад глядзеў на неба, і табліцы, якія той купляў у Бухары за вялікія грошы — усё было знішчана заваёўнікамі. Колькі ж разоў чалавецтва будзе паўтараць усё наноў?!

«Зямное жыццё — не сапраўднае жыццё. Гэта школа, у якой пытанні ставіць смерць». Колькі светлых розумаў білася і яшчэ будзе біцца над вечнай загадкай быцця і небыцця?

Часам вымаў люстэрка Лі-сына, задуменна глядзеў на яго. Магчыма, у ім сапраўды ёсць нейкая таямніца. Верыцца, што некалі разгадае і яе. Можа, у люстэрку таксама ёсць нейкая часцінка магутнай сілы Сусвету?

Гарэў касцёр, купцы варылі плоў, клікалі Алексу. Ён уставаў, моўчкі еў, амаль не слухаючы, пра што гавораць навакольныя. Яго празвалі маўчуном, але глядзелі з павагай: на дэрвіша, вечнага вандроўніка, болей за ўсё быў падобны гэты высокі стары з вострым, бліскучым позіркам, ад якога хацелася апусціць вочы! І ён нешта пісаў трысняговым пяром, старанна разводзячы чарнілы ў бронзавай чарніліцы, ачышчаючы пяро кожны раз пасля работы. Пісаў урыўкамі — калі спыняліся на прывал, калі, заязджаючы ў нейкі горад, купцы гандлявалі там, а пасля ішлі далей.

І гэта была я г о н а я Кніга — пра іспыты, якія праходзіць на зямлі кожны чалавек, толькі не кожны ведае пра гэта і жыве бяздумна, як набяжыць... Пра чалавечую еднасць і сяброўства, без якіх жыць няможна ды і не трэба... Пра тое, што ніколі, відаць, ён не адчуў бы, што такое бацькаўшчына, роднае, калі б не закінуў яго лёс ажно за мора Хвалынскае...

Мяняўся час — мянялася і ўсё наўкол. Вялікі водны шлях «з вараг у грэкі» страчваў былое значэнне, гандлёвыя шляхі ў Заходнюю Еўропу скараціліся і цяпер ішлі міма Дняпра. І Кіеў, славуты, магутны Кіеў, уступаў другім краінам і гарадам, і сыны Яраслава Мудрага змагаліся за кіеўскі стол, ваявалі з Полацакам...

Даведаўся Алекса і пра паходы Усяслава, пра тое, што хоча полацкі князь узвысіць сваю дзяржаву і зраўняць яе з Кіевам. Расказвалі, што сядзеў Усяслаў на стале кіеўскім, але, кінуўшы яго, уцёк назад у Полацак, не захацеўшы ні ўлады кіеўскай, ні стала...

Алекса не ведаў, якою будзе сустрэча з Усяславам. Можа, не даруе яму князь, загадае ссячы вінную галаву. Можа, сашле ў далёкі манастыр, каб замольваў грэх. Але ў глыбіні душы спадзяваўся, што прачытае Усяслаў кнігу і ацэніць усё, што спазнаў у далёкіх землях Алекса.

Калі ўяўляў, што кнігу, ахвяраваную князю, можа, пакладуць разам з іншымі кнігамі, сэрца сціскалася. Ён прыдумляў узоры для воклада, узважваў, каму можна аддаць яго для аздобы. Але прыходзілі і сумненні — ці вартае ўвагі тое, што напісаў? Але ж колькі рэцэптаў, колькі лекаў назапашана ў ёй. І колькі жыццяў яна ўратуе!

Жыццё клікала яго, клікала радзіма — наперад, хутчэй, каб хаця паспець!

Калі ў першай славянскай хаце, непадалёку ад стэпаў, падалі яму пасля мыцця вышываны ручнік, на якім убачыў Мокаш, або Жытную Бабу, Маці ўсяго жывога — доўга стаяў, трымаючы ручнік, гледзячы на яго, аж пакуль гаспадар не аклікнуў, не пазваў вячэраць.

І зноў успомніў гімны Анахіце — таксама Маці ўсяго жывога, і падзівіўся таму, што розныя на зямлі людзі, але ўсе яны родныя, блізкія ў самым галоўным — жыцці і смерці.

Ужо набліжаўся да Кіева, каб нарэшце пабачыць яго і пакланіцца Сафіі Кіеўскай, пра якую чуў яшчэ на першым сваім падарожжы.

Калі праз стэпы ішоў перасцярожліва, баючыся торкаў

і полаўцаў, што часцяком трывожылі зямлю рускую, то тут выпрастаўся. Па блізкай жа, хрысціянскай зямлі ішоў!

Але калі спыніўся аднойчы ў сяле і сказаў, што ідзе на Полацак, гаспадар не даў яму пераначаваць,— князь Уладзімір Манамах з войскам паліў Полацкую зямлю, і чакаў адтуль гаспадар багатай здабычы, бо з войскам пайшло двое ягоных сыноў.

Асцерагаўся цяпер гаварыць Алекса, хто ён і адкуль. Казаў — падарожны. І ўсё. Ці мала падарожных ходзіць па зямлі, а хто ведае, куды яны ідуць і адкуль?

Ля Чарнігава сеў у ладдзю, якая ішла да Друцеска. Адтуль — рукой падаць да Полацака, шлях ажыўлены. На валоках людзей многа, працуюць там цэлыя арцелі, валакуць ладдзі па бярвеннях, салам змазаных. Знаёмы да болю шлях, па гэтай дарозе ехаў, працаваў вёсламі — аж занылі плечы, як успомніў.

Ладдзя невялікая, людзей мала. Вязуць у Друцеск пліты мармуровыя для новага сабора. Канешне, цяпер не да будоўлі — часы неспакойныя, вайна. Але ж скончыцца яна некалі, скончацца смуты княжацкія, і зноў загахкаюць сякеры, а з патаемнага месца дастануць майстры пліты гладкія, ружова-шэрыя, каб вымасціць імі рызніцу і царскае месца. Вёз мармур прыказчык, вёз і ўсё скардзіўся, што часы цяжкія, а гаспадар на грошы пакваліўся, сам не паехаў, а яго паслаў, хаця прайшло тры гады, як дамоўлена з друцескімі царкоўнымі ўладамі даставіць мармур... Можа, там нікога з жывых няма? Можа, і не заплоцяць грошы, а павернуць яго з тымі плытамі назад?

Маліўся прыказчык,ставіў свечы-ахвяры Міколу-Цудатворцу, а на дубе Сварожжым, што каля новага селішча Рагачова стаіць, павесіў каляровыя стужкі — як абярог.

І ўсё ж не засцярогся: пад'язджалі да Друцеска — перастрэлі ладдзю разбойнікі. Калі неспакойна ў дзяржаве, людзі ліхія не баяцца кары — нікога, ні бога, ні князя, не баяцца.

Рэчка Друць тут вузкая, берагі парослыя густым лесам, з-за альшэўніку, бярозы і сасны не ўбачыш берага. Дзе, у якой кузні кавалі жалезны наканечнік, што ўпіўся ў Алексу, калі ён стаяў на палубе, а сэрца яго раскрывалася насцеж родным берагам і небу?!

Заспявалі стрэлы, завохкалі грабцы, хто кінуўся пад прыкрыццё, хто за мячом... А Алекса, трымаючы стралу адной рукой, а другой намацваючы борт, пайшоў на свой вышарпаны, выцвілы хурджун — дзе ляжала яго Кніга.

Разбойнікі вяроўкамі, арканамі, як стэпнякі, зачапіўшы ладдзю, цягнулі яе да берага, скакалі ўнутр, хапалі, ірвалі, мацалі...

Галоўны з іх — разгарачаны, звераваты, з бязлітасным тварам, пасечаным і пакрытым блізнамі, скокнуў у ладдзю, аж затрашчалі дошкі, перад Алексам. Схапіў хурджун.

Не вырваў — надта моцна трымалі яго.

— Там толькі кнігі. Толькі кнігі!

Імгненне рабаўнік глядзеў у вочы старога, смуглявага, у паношаным дзіўным халаце чалавека, падпаясанага выцвілай, калісьці каляровай хусткай, які заціскаў худою рукой кроў, што сачылася з-пад абламанай стралы. Другою трымаў сваю суму. На адно імгненне мільганула думка — не чапаць чалавека, бо падобны ён на юродзівага, а ім, як вядома, дапамагаюць вышэйшыя сілы. Але ўстыдаўся таго галавар шайкі — што падумаюць пра яго іншыя?

І ён, коратка ўзмахнуўшы мячом, сакануў па руцэ, што трымала сумку.

Сумка ўпала ўніз разам з адсечанай рукой. Хлынула кроў. Але стары толькі здрыгануўся, нахіліўся, каб схапіць хурджун цэлай рукой. Яго апярэдзілі рабаўнікі. На посцілку, што кінулі сярод ладдзі, паляцелі спісаныя лісты пергаменту і люстэрка. І дзве сярэбраныя манеты. І болей нічога. Ніводнага кавалка парчы, ніводнага браслета альбо колта! Звераваты чалавек, ашалеўшы ад злосці, нагой падкінуў спісаныя скруткі, і яны ўпалі за борт, у раку, што, пачырванелая ад крыві забітых, хвалявалася ў берагах.

І тады стары, нібы падкінуты нейкай сілай, кінуўся ўслед. Ашаломленыя разбойнікі і яшчэ жывы прыказчык колькі імгненняў глядзелі, як ён, махаючы акрываўленым абрубкам, з якога лілася і лілася кроў, схапіў скруткі здаровай рукой, падняў іх над вадою, паплыў.

Зноў свіснула страла — упілася ззаду ў шыю. І ўсё ж яшчэ колькі доўгіх імгненняў плыў гэты дзіўны стары, а пасля, павярнуўшыся тварам да берага, нешта крыкнуў.

І ўсё. І знік. І толькі кругамі пайшла над тым месцам чырвань...

І тонкі раздаўся звон — раскалолася бронзавае люстэрка.

Было гэта на самым парубежжы Полацкай зямлі, пад Друцескам.

— Што ён сказаў? — запытаўся малады, з чырвоным ад брагі тварам малойчык.

— Не трэба было яго чапаць, адрыгнецца нам яго

жытка,— засцярожліва і са страхам сказаў самы стары з іх.

А галоўны крыкнуў:

— Чаго павесілі галовы, хлопцы? Не наш ён, не полацкі! А што шкадаваць чарнігаўскіх ды кіеўскіх? Яны нашых дзяцей і жонак не шкадуюць! Зямлю палюць, б'юць, як чужынцаў!

І тады забілі яны прыказчыка і астатніх грабцоў, што яшчэ былі жывыя і варушыліся, а ўсё, што набралі — упрыгожанні і зліткі серабра і золата, бронзавую аправу люстэрка, выкінуўшы з яго аскабалкі, закапалі ў гаршчок, пазначылі месца, каб забраць пры нагодзе, і пайшлі ніжэй па рацэ — далей у лясы. Ды на другой жа ладдзі здрадзіла ім шчасце — перабілі іх дружыннікі, што плылі з Віцьбеска насустрач войску Манамахаву...

Позняй восенню уздоўж Друці ішлі са спапялёнага, вынішчанага Друцка стары лірнік і хлопчык-павадыр. Прысеў стары — стаміўся.

— Дзеду, хутчэй пойдзем адсюль, тут косці чалавечыя! — зацерабіў яго хлопчык.

— І многа іх?

— Многа... Белыя ўсе, як выбеленыя...

— Дык чаго ж іх палохацца? Ці ж ты касцей не бачыў чалавечых? Бачыў і яшчэ бачыць будзеш... І ён хрыпла запяяў:

Зямелька мая, балючая!
Чыё ж на табе пракляцце?
Сцяною жыта ўзрасло,
А няма каму жаці...

Стары яшчэ пасядзеў крыху, пасля падняўся.

— Пайшлі!

— Дзед, а вунь, ля берага, ладдзя пашчэпленая. Пасечаная, амаль затанула.

— То гэта, відаць, Няжыла са сваімі малайцамі грашыў.

— А чаму ён людзей забіваў? — усё пытаўся бялявы хлопчык.

— Няжыла спачатку быў плотнікам, а пасля бацьку княжы цівун засек, а жонку і дзяцей у палон узялі, калі тры гады назад нас палілі чужынцы. Вось у яго сэрца і акамянела, у камень ператварылася. Страціў ён воблік чалавечы і стаў дзікім разбойнікам. Зло толькі зло і нараджае...

І яны пайшлі, і стары ўсё спяваў надтрэснутым, слабым голасам:

А на зямельцы роднай
Дачушку маці пакліча,
А толькі буйныя ветры,
А толькі сава кугіча...

...Гляджу на сярэбраны дырхем з адкапанага клада, думаю пра тое, колькі сыноў і дачок маёй зямлі не вярнуліся з далёкіх дарог, загінулі, не данеслі, не сказалі тое, што маглі б... А хто і застаўся чужынцам, адрокшыся ад яе, спакусіўшыся чужымі дабротамі і чужым небам.

Захірыддзін Мухамед Бабур, заснавальнік дынастыі Вялікіх Маголаў у Індыі, зрабіўшыся царом, вечна сумаваў па далёкай радзіме і ніколі яе не забываў. Гэта яму належаць радкі:

У сваіх блуканнях
ні на міг
я радасці не знаў!
Сумуе вечна
чалавек
па роднае зямлі.

Нічога не засталося ад палачаніна Алексы, у глеістых нізінах Друці расплыліся літары, што дзень за днём, тыдзень за тыднем выводзіў ён, пішучы сваю кнігу. Але не засталося і полацкага летапісу, што пісаў у манастыры чарнарызец Нікан, не засталося і ікон, якія малявала жанчына па імені Нялюба — зніклі яны ў агні вялікага пажарышча, калі браў Полацак цар Іван IV, а што не дагарэла — пазней, калі брала горад войска Стэфана Баторыя.

А можа, засталіся — але вывезеныя ў чужыя землі, і чужыя, раўнадушныя рукі кранаюць іх, гартаюць старадаўнія запісы?!

Ці адкажа нам калі-небудзь на гэта Час?! Ці раскрые свае таямніцы, каб хаця ўнукі нашы закрылі сваёй працай правалы, што там і сям зеўраюць у абрабаваным, акрываўленым палатне беларускай гісторыі?